

АПОВЕСЦЬ ПРА ЗМАГАННЕ І МУЖНАСЦЬ

ДНІ ПОЛЬСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ

КАМУНАРЫ І СЫНЫ КАМУНАРАЎ

ПАКЛАНІЦЕСЯ ХАТЫНІ

ЗАПРАШАЕ ГОМЕЛЬСКІ ЎНІВЕРСІТЭТ

ЯНКА КУПАЛА Ў «НАШАЙ НІВЕ»

«ДЫНАМА» ЮБІЛЕЙНАЕ

ЦІ МНОГА ВАДЫ ТРЭБА НАМ!

7

ЛІПЕНЬ

МІНСК, 1969

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ**
**І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «З в я з д а»**

Вокладка **У. Лашкевіча.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 3) і **В. Ждановіча** (стар. 91).

---



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● Славамір ХАДАРОНАК ● Алесь СТАВЕР ● Іван АРАБЕЙКА ● Алесь КАЛЕСНІК ● Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ ● Уладзімір МЯЖЭВІЧ ● Еўдакія ЛОСЬ ● Раман САБАЛЕНКА ● Яўген ШАБАН ● Збігнеў ЖАКЕВІЧ

# ПАЭЗІЯ








**Славамір ХАДАРОНАК**


●

Я ў ёй, нібы хлапчук, рухавы
І весялей разы у тры.
Ка мне ў шырокія рукавы
Злятаюцца усе вятры.

Яна прасолена бязбожна
Дзевятым валам, як і я.
Прыслухаешся — ў нітцы кожнай
Ракоча вольны акіян.

Мінуць гады. На развітанне
Сябры мне рукі пададуць.
У свой дарожны чамадан я
Яе перш-наперш пакладу.

А здарыцца: усё агоркне
І справы пойдуць неўпапад
Ці скруха цяжкая агорне,
Нібы снатворны едкі чад,—

Надзену, як калісьці, робу
Па-флоцку борзда, на хаду,
І ўраз адчую сябе рыбай,
Якую кінулі ў ваду...

●●

Чацвёрты тыдзень
хмурая падлодка
Блукае нема
ў акіянскім чэраве.

Стамлёнасць гэткая,
нібы калодкі
Хто пачапіў.
Закончан дзень. Вячэраю.
А за бартом
стаўрыда касякамі.
Падлодку водарасці апнялі.
Высока дзесь
балотнымі жукамі
Гайдаюцца на хвалях караблі.
Чамусьці хату нашу уявіў я:
Цурчыць цераз цадзілку сырадой
(Ты толькі што карову падаіла),
І хітры кот цікуе за табой.
Ну што ж,
а мне пара ужо, напэўна,
Забыцца ў роўным
і салодкім сне.
Уранні зноў узбудзяць
цябе пеўні
Гарластыя ў падпечы,
а мяне
Суровы боцман.
Зноў вядзьмарыць будзем,
Падняўшыся задоўга да святла,
Ты пры пліце
ля саганочка з бульбай,
А я ля атамнага катла...

●●●

З цёмна-сіняга глухога неба,
Як мядузы, зоркі выплываюць.
А марская даль у хвалях, нібы
Хтосьці узараў яе плугамі.

На карме матросік маладзенькі
Расцягнуў гармонік — і адразу
Перанёсся я пад Маладзечна
У вёсачку, дзе баяць байкі вязы.

Ты іграй, іграй, матросік, мне.
Пахне бэз, скрыпяць масніцы ў сенцах.
Твой гармонік, як кавальскі мех,
Раздувае аганёк у сэрцы...

●●●●

Той ночы не забыць мне ні на хвілю.
Яна ляжыць на мне,
як кнехт літы...
Апошнія прасоленыя мілі
Наш карабель наматваў на вінты.
У кубрыках смяяліся, крычалі,
Галіліся,
расклёшвалі штаны,

Круцілі твіст.
                    На золаку прычалім!
Бывайце, распраклятыя штармы!
Я выйшаў на карму.
                    Прысеў на бочку,
Каб накурыцца ўдосталь перад сном,
І ўбачыў, як слязу змахнуў наш боцман,
Падпёршы мачту гонкую плячом.

У грамабойнай акіянскай трасцы
Паўвека сумаваў ён па расе,
І паралелі, што ён перасек,
Палосамі застылі на цяльняшцы.
Ды толькі зараз
                    прадчуванне прысакам
Яго пячэ
          пад склянак перазвон,
Што па салёных акіянскіх пырсках
Больш, чым па росах, засумуе ён.
Мо дома і асядзе, й супакоіцца,
Малых унукаў стане забаўляць,
Ды цесная каюта будзе мроіцца,
І ў сны норд-осты будуць прылятаць...



О, шчодры рай суботняй лазні!
Пад самай столлю на палку
Мужчыны стогнуць, нібы вязні
Ад катаванняў, ад пакут.

Яны змянілі тлум заводскі
Сягоння з важнасцю тузоў
На венікавы шэпт салодкі,
На меладычны гул тазоў.

Хоць спёка палкая і душыць,
Засеўшы ў горле камяком,
Затое мяккая з-пад душа
Вадзіца лашчыцца, як кот.

А разамлеюць — халадаюцца
Прыціхлай вялай грамадой,
Ратамі, як ліні, хапаючы
Сыры вячэрні халадок.

І стома важкая, густая
Выходзіць параю з іх цел...
Не, смаку лазні не спазнае,
Хто цэлы тыдзень не пацеў...

ПРОЗА



● Алесь СТАВЕР

● Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# ДА СВАІХ

АПОВЕСЦЬ

## І




эрвеньскай ноччу 1943 года партызан Пецька Свірык поўз па балоце адзін.

Ён ужо быў за кіламетр ад Сінічына, шырокага балоцістага лугу, дзе каля вербалозу на левым беразе Бярэзіны прытаіліся Пецькавы сябры, група партызан з брыгады «Жалязняк». Скора яны павінны пераправіцца цераз раку і гэтак жа паўзці за ім, строга прытрымліваючыся ягонага следу...

А перад гэтым было вось што.

Можа з месяц Трэці партызанскі атрад брыгады «Жалязняк» разам з іншымі атрадамі адбіваў шалёны націск фашыстаў, павольна адступаючы ад ракі Поні да Бярэзіны.

Нарэшце кальцо блакады замкнулася.

У балотах каля Домжарыц і каля возера Палік сабралася шмат партызанскіх груп і атрадаў, сем'і з Бягомльскага раёна.

Частыя абстрэлы. Бамбардзіроўкі.

Партызанскае камандаванне павяло байцоў на прарыў. І няўдала. Прайшлі толькі адзінкі, астатнія паляглі пад кулямётным і мінамётным агнём. Жалезнякоўцы вырашылі раздзяліцца на групы і вырвацца з акружэння — можа ўдасца праскочыць заслону з меншымі ахвярамі.

Вырывацца з блакады трэба было як мага хутчэй — інакш галодная смерць. Дайшлі чуткі, што фашысты будуць прачэсваць балоты за ракой — тут не вельмі схаваешся, і тады — гэта кожны разумеў — знясіленым, стомленым партызанам давядзецца крута:

можна трапіць у палон (гэтага кожны баяўся горш, чым смерці) ці плюхнуцца ў балота, падкошанаму фашысцкай куляй. Вырывацца, толькі вырывацца з блакады. Хто загіне, а хто і праб'ецца — там воля, там прастор і новыя баявыя дзеянні.

Пяты атрад брыгады «Жалязняк» рушыў уночы на прарыў між вёскамі Кальнік і Улессе. Удалося. Загінула толькі чатыры партызаны. Атрад прарваўся. Памкнуліся іншыя атрады ўпаасобку. Фашысты ўзмацнілі заслоны. У вогненнай завірусе прыйшлося адступіць з вялікімі стратамі.

Тады камандзіры атрадаў пачалі шукаць новае рашэнне. Некаторыя распусцілі атрады і загадалі партызанам прарывацца хто як можа. Нават дазволілі перачакаць блакаду каля сваіх сем'яў у балоце, у каго сем'і ёсць. Назначылі месца збору па той бок заслона.

Трэці атрад, у якім служыў Пецька Свірык, быў таксама распушчаны.

Пецька некалькі дзён блукаў па Домжарыцкіх балотах. Усё мерыўся вырвацца з акружэння. Але ад сустрэчных партызан дазнаваўся, што на гэтым напрамку, куды ён ішоў, вельмі моцны фашысцкі заслон, паварочваў назад. Ішоў у другое месца. Цяжка было. Але духам не падаў. Яго чамусьці не пакідала цвёрдая ўпэўненасць, што хто-хто, а ён выйдзе з блакады. Мясціны навокал былі знаёмыя. І ён упарта ішоў і ішоў па балоце. Еў шчаўе, піў іржавую балотную ваду. Надарылася аднойчы на невялікім астраўку, у густым ельніку, натрапіць на стаянку маргаўчан. Галодныя дзеці. Змардаваныя страхам і бегатнёй па балоце жанчыны. Некалькі мужчын, маўклівых, зарослых. Жанкі зліталіся над Пецькам, далі аржаную, спечаную на балотнай вадзе, перапечку. Перакусіў. Падзякаваў і зноў рушыў далей. Заставацца нельга было. Калі фашысты зловяць яго каля сялян, то ўсім — і жанкам і дзецям — немінучая смерць.

Надумаў падацца да ракі, пераплыць яе ўначы, а потым прапаўзці між фашысцкіх дотаў. Стомлены доўгім блуканнем па балоце, знясілены ад штохвіліннага напружання, ён ледзьве валачыў босыя ногі, боты раз'ехаліся ўжо даўно, іх прыйшлося скінуць. Чуйна прыслухоўваўся да наваколля. Яго насцярожвала ўсё: і магутны гул бамбавозаў, што раз-пораз сігалі над ім, і глухія выбухі бомб недзе, і рэзкі ўсплёск жаб у балотнай вадзе, і нечаканы ўспырх птушкі, што раптам, проста перад ім, вылятала з куста. Ён час ад часу хапаўся за аўтамат. Нават калі ўбачыў сваіх аднавяскоўцаў, таксама схапіўся за зброю. Але пазнаў людзей, суняўся. Добра, што на той стаянцы не было ягоных бацькоў. З меншымі братамі і сёстрамі яны былі таксама ў балоце, але — на радасць Пецьку — знаходзіліся недзе ў другім кагале. Людзі не зналі дзе. І добра — падумаў Пецька. А то нялёгка было б ягонай маці бачыць яго ў такім выглядзе. Пачала б яшчэ затрымліваць, прасіць, каб пабыў каля іх. Гонар не дазваляў сядзець з жанкамі ды дзецьмі. І вось ён зноў адзінока цягнуўся па густой зыбкай твані. Больш трымаўся кусцікаў вербалозу. Хацелася прысесці адпачыць, але не адважваўся: пасля адпачынку будзе горш. Імкнуўся дайсці да Бярэзіны, там прыляжа на беразе — там шмат вербалозу, і будзе назіраць за правым берагам: дзе лепей памкнуцца ўначы на прарыў.

Калі да ракі заставалася ўжо няшмат, нечакана між высокіх травяністых купін Пецька ўбачыў чалавека. Скурчыўшыся, той спаў. На ім быў нямецкі мундзір. Штаны парваныя, залепленыя гразёй, як і ў Пецькі. Босы таксама. Пецька ўзвёў ужо аўтамат і хацеў нагой штурхануць незнаёмага, як раптам заўважыў, што ў яго на нагах па шэсць пальцаў. Пецька пазнаў. Гэта быў Цімка Будзень. Партызан з аднаго

ўзвода, з аднаго аддзялення. Добрага па натуры, памяркоўнага, нязлоснага Цімку Будзеня, ці, як яго за вочы звалі, Шасціпалы, знали ў атрадзе ўсе.

— Уставай, ваяка...— дакрануўся Пецька да Цімкавага пляча.

Той усхапіўся адразу, ірвануў уцякаць, але Пецька падставіў яму нагу, і Цімка плюхнуўся ў гразь. І тады толькі глянуў на Пецьку. Пазнаў.

— Дык чаму ты адразу не сказаў, што гэта ты? — павольна ўзнімаючыся і збіваючы гразь з нямецкага мундзіра, прамовіў з дакорам Цімка.

— Дзе ты ўзяў гэтую скуру? — тыцнуў аўтаматам Пецька на мундзір.— Раней, здаецца, у цябе яго не было.

— Доўга расказваць,— прысеў Цімка. Пецька прымасціўся наўпроць яго, на купіне. Аўтамат трымаў напагатове.— Апусці,— махнуў рукой Цімка.— Я свой. Раскажу пасля ўсё. Давай цяпер разам абмазгуем, як нам быць далей. Добра, што я цябе ўвідзеў. Удваіх спраўней. Ну, дзе ты быў — ясна. Давай далей будзем думаць.

Пецька быў насцярожаны нямецкім мундзірам на плячах Цімкі, але, памеркаваўшы, што нямецкае адзенне ў партызан не навіна, даверыўся.

— Я вот іду да ракі,— сказаў Пецька.— Думаю на беразе дачакацца начы і ўпрыцемку паспрабаваць прайсці між дзотаў.

— А што... А можа і ўдасца...— задумаўся Цімка.— Знаеш што: давай пойдзем удваіх. Уначы пераплывем раку, адолеем Вускрамскае балота і пасунемся з правага боку ад Вускрам'я, праз Мышалоўку. Там у дзотах радзівонаўцы. Між дзотаў можна прапаўзці. Я знаю. Яны не дужа глядзяць. Праўда, сволачы і сярод радзівонаўцаў ёсць. Але ж будзем спадзявацца на лепшае... Калі ўдасца прайсці міма, перасядзім у лесе. Пасля блакады знойдзем сваіх...

— Ты нешта гаворыш незразумелае,— усумніўся Пецька.

— Зразумееш. Усё зразумееш,— адказаў Цімка.— Пойдзем да ракі. Будзем на беразе чакаць ночы, я ўсё раскажу.— І дакрануўся да носа, на якім запяклася свежая рана ад кулі.

— А дзе твая вінтоўка? — занепакоіўся Пецька.

— А-а-а, братка... І гэта доўгая гісторыя,— падняўся Цімка.

— Ты знаеш, што за гэта?..— насцярожана папярэдзіў Пецька.

— Знаю... Ну раз няма, дык што? Што я яе з калена выламлю? Дабуду! — раптам рашуча заявіў Цімка.— Сваімі зубамі горла перагрызу немцу, а вінтоўку дабуду. Ці — калі павязе — аўтамат дабуду! Без аружжыя я ў атрад не вярнуся... Ну, пашлі! — Цімка рушыў першы.

Пецька ішоў ззаду. Супярэчлівыя думкі мучылі яго. Цімка ў нямецкім мундзіры, без вінтоўкі, з адбітым кончыкам носа. Адкуль усё гэта? Што гэта азначае? Адкуль ён знае, што ў Мышалоўцы трымаюць абарону радзівонаўцы? Хто яму даў мундзір? Можа знюхаўся з немцамі і вядзе яго, Пецьку, да іх? І не расказвае нічога... Разануць бы па ім ззаду, і — канец... Але не. За два гады сумеснага партызанства Пецька добра ведаў, што Цімка на подласць не здольны. Але ж у блакаду ўсё можа быць... Папаўся б Цімка зараз іхняму ўзводнаму, Гардзею Дубавецкаму... А ён, Пецька, вот брыдзе ззаду і не знае, што прыдумаць. Эх, на-а-а... Адна ўцеха, што ён верыць Цімку. І зноў ранейшае: а чорт яго знае, што можа ў блакаду быць...

На ўсякі выпадак Пецька нёс аўтамат у руках.

Ішлі моўчкі. Кожны быў заняты самім сабой.

— Збор нашага атрада пасля блакады ў Будзілаўскім лесе? — нарэшце цераз плячо спытаў Цімка.

— А што, ты не знаеш? Забыўся? — запытаннем адказаў Пецька.

— Знаю... — у цяжкай задуме прамовіў Цімка.— Так спытаў. Утачніць захацелася.

І зноў пайшлі моўчкі.

Уперадзе віднелася густая купка бярэзніку і крушынніку. Хлопцы трымалі шлях туды. Ужо наблізіўшыся, убачылі: астравок. Цімка першы ступіў на дзірван і раптам сагнуўся, нібы яго за нагу ўкусіла змяя, адскочыў назад. Пецька ўбачыў: з-пад крушынніку ў траве тырчэлі дулы аўтаматаў і вінтовак. Узвёў курок.

З густых галін вынік яму насустрач Дубавецкі... Пецька ад нечаканасці ледзь не выпусціў зброю. Хвіліна — і забіў бы Гардзея Анціпавіча, свайго ўзводнага, свайго колішняга настаўніка, класнага кіраўніка... Шмат гадоў Дубавецкі вучыў яго. Потым з самага пачатку вайны ўзяў у партызаны і прыглядаў, як за сынам. І гэта пры яго суровасці і крутым нораве. Ва ўзводзе была жалезная дысцыпліна. Праўда, Дубавецкі быў справядлівы, але за ўсялякія памылкі не даравў.

Пецька ледзь не падскочыў з радасці, калі ўбачыў усмешку на суровым скуластым твары Дубавецкага.

— О! Ды гэта ж ты Цімку вёў! — усклікнуў Дубавецкі.— А мы думалі: што за немчыка падчапіў ты. Мы вас адразу ўвідзелі, як вы ўзняліся і пачалі плёхкацца да нас.

Каля Дубавецкага павысоўваліся з кустоў партызаны.

— Гардзей Анціпавіч, вы тут? — выдыхнуў Пецька недарэчнае пытанне, як быццам Дубавецкі павінен быў невядома дзе быць — за Бярэзіну разам жа адступалі. Атакі фашыстаў адбівалі таксама разам. І рассталіся не так даўно. Доўгімі гэтыя дні паказаліся, адвык крыху Пецька ад свайго ўзводнага, быў сам сабой некаторы час, і вось сустрэча...

— А дзе ж я магу быць... — зноў усміхнуўся — ужо з запытання Пецькі — Дубавецкі. І раптам пацямнеў, скулы рэзка выпухліліся: — А ты, галубок, чаго топчашся на месцы? — гэта да Цімкі.— А ну-ка, ідзі-ка сюды! Будзень! Дзе твая вінтоўка? На прагулачку выйшаў? Ці біць немцаў кулакамі сабраўся? Падыдзі бліжэй!

Цімка ступіў да ўзводнага.

— Таварыш камузвода, разрашыце расказаць усё па-парадку.

— Гм...— апусціў вочы Дубавецкі.— Баец майго ўзвода недзе кінуў вінтоўку... Ну, ладна. Залазьце абодва ў кусты. Давай, Будзень, па-парадку! Усё роўна да вечара нам тут сядзець.

Толькі прысеўшы ў кустах, Пецька ўбачыў у бярэзніку і крушынніку шмат партызан. Яны займалі кругавую абарону. Зверху іх закрывала лісце, але каля зямлі голыя ствалы дрэўцаў выдавалі партызан. Большасць былі незнаёмыя — з іншых брыгад і атрадаў. Толькі некаторыя зычліва ўсміхнуліся Пецьку і Цімку, але ў гутарку не ўступілі, з месца не крануліся. Некаторыя партызаны ляжалі ў акопчыках, чорныя тарфяныя брустверы былі замаскіраваны травой і галінкамі, толькі тырчэлі дулы аўтаматаў і вінтовак, пакрытыя жоўтымі плямамі балотнай іржы.

Дубавецкі, унурыўшыся, слухаў Цімкаў расказ.

...Пасля таго, як у лесе каля вёскі Саўскі Бор атрад быў распушчаны і было загадана выбівацца з акружэння хто як зможа, Цімка знайшоў у лесе сваіх бацькоў. Пераначаваў. Назаўтра збіраўся ісці далей, але бацькі адгаварылі, упрасілі пераседзець блакаду з імі, не пакідаць



у балоце адных, старых, слабых. Застаўся. Тым больш, што дазвалялася і так перабыць блакаду. Схаваў вінтоўку ў мох.

Некалькі дзён пражыў так сабе. Адно непрыемна яму было: надакучала Волька Бурдэсіха. Усё каля яго агню сядзела, спрабавала ўсяляк зачапіць яго, нават і недарэчы — смяялася, што ў яго на нагах па шэсць пальцаў. Старая дзеўка ўпадабала яго. (Цімка так і расказваў.) Ды ён не мог яе цярпець. Наогул, не хацеў ні з кім звязвацца, пакуль вайна. А Волька Бурдэсіха сваё — і ўсё дарэмна. Абрыдла Цімку быць там. Але што зробіш. Каб не старыя бацькі, кінуў бы Цімка тое месца і пайшоў бы шукаць выйсця з блакады. Але заставаўся. Хацелася дагледзець старых бацькоў, вывесці іх з балота ў родную вёску пасля блакады.

Аднойчы падвечар на стаянку сялян натрапіла вялікая група не-

знаёмых партызан. Сяляне частавалі іх, чым маглі: заціркай, перапечкамі, спечанымі з мукі і сушанай травы. Партызаны падсілкаваліся.

А потым пачалі прыглядацца, што за сяляне на востраве жывуць.

І да Цімкі: бачаць — малады, здаровы дзяцюк. «А ты, маладзец, чаго каля бабы ляжыш? — Волька Бурдэсіха якраз перад ім сядзела каля агню.— Чаму не ў партызанах?» Толькі ён задумаўся, як лепей адказаць, як раптам усхапілася з месца Волька Бурдэсіха. То пагражала адпомсціць за няўвагу, а тут раптам, дурніца, абараняць пачала. «Што ж вы на яго кажаце — не ў партызанах! Ён ваяваў тожа! Ён парцізан! Усе людзі могуць сказаць гэта!» «А-а-а... Гэта інцярэсна,— падышоў да Цімкі, мусіць, старшы групы, бо ён у ваеннай форме быў.— Парцізан, значыць... Уцёк з атрада. Блакада. Цяжка. Дык ты да бабы. Дзезярцір! А ну, дзе твая вінтоўка?» — і схапіўся за кабуру. «Я не дзезярцір...— паспрабаваў адгаворвацца Цімка.— Наш атрад распусцілі. Сказалі, што можна і каля бацькоў блакаду перажыць. Вось я і прыйшоў да старых сваіх». «Ха! Глядзіце вы на яго! — усклікнуў старшы.— Атрад распусцілі! Хлопцы, чуеце, што ён пляце? Такі грозны час, а ён «распусцілі»... Ілжэш! Хто цяпер будзе атрады распускаць? Што ты мне пушкі заліваеш? Не залівай! Давай вінтоўку, а потым будзем разгавор весці!»

Нічога не заставалася Цімку, як дастаць з-под моху вінтоўку. Схапіў яе старшы групы. «А цяпер пайдзём з намі! Мы табе пакажам, дзе ў блакаду быць нада!»

Доўга кружылі па балоце. Калі сцямнела, выбіліся да Бярэзіны. «Вот што,— звярнуўся да яго старэйшы.— Віджу: ты хлопец, здаецца, свой. Хочацца верыць табе. Толькі глядзі ў мяне! Не хітруй! Мы здалёку ідзём. Не знаем, як тут у вас было. Можа і распусцілі ваш атрад. Разбяромся пасля. А цяпер слухай. У нас маршрут свой. Мы ўжо не адны суткі ідзём. Папалі вот у гэту катавасію. Гэтай ноччу думаем прарывацца. Ты чалавек мясцовы. Край гэты знаеш. Вядзі нас. На табе тваю вінтоўку. Садзіся з намі. А ноччу пойдзем... Толькі глядзі ў мяне!»

Адпачывалі да апоўначы. Многія партызаны як селі — дык і заснулі адразу. Не спаў толькі камандзір. Апоўначы ён разбудзіў байцоў. Пераплылі раку. І па балоце паўзком падаліся да нямецкіх ліній. Цімка ўперадзе. Узяў ён кірунак правей Вускрам'я,— па лагчыне,— добра ведаў гэтыя мясціны: касіў перад вайной там. Непрыкметна дапаўзлі да самай лініі. Прытаіліся. Чулі, як у дзотах немцы гярдычылі. Рушылі далей... Якраз кусцікі такія нізенькія былі. Рэдкія, праўда... Паўзлі, затаіўшы дыханне. Камандзір поўз побач з Цімкам... Наперадзе... Можа б і прапаўзлі незаўважна, калі б не напароўся хтосьці з партызан на драча... Як успырхне той, як залапоча крылямі. Пырснула ў неба ракета — стала відна, як удзень... Камандзір узняўся: «За мной! Вперод!» І асунуўся, перакошаны кулямі. Агляну ўся Цімка, бачыць: пярэднія — некалькі чалавек — каля яго заляглі, у балота ўраслі. Над галовамі — рой трасіруючых куль. Засквірчэлі міны. Балота ўсхадзілася ад выбухаў мін — затрэслася, закалацілася... І адразу перад Цімкам выраслі фашысты — як з-пад зямлі выніклі. Усхапіліся партызаны ўрукапашную... Здаравенны бэйбус павіс над нізенькім, каржакаватым Цімкам. Не паспеў Цімка ўхіліцца — моцны ўдар прыкладам па галаве асадзіў яго ў балота... Ён асунуўся ў цішыню і цемру.

Што было далей, колькі ляжаў у балоце,— ён не помніць. Абудзіўся ад прыцішанай людской гаворкі. Як праз сон, чулася яму: «А этот,

кажется, живой. Нигде нет пулевого знака. Возьмем его, отнесём в лес. Оглушенный он, видимо». «Одыйдэ. Мабуть, він провэдэ до партызан нас...»

Расплюшчыў Цімка вочы, убачыў над сабой чыстае сіняе неба і яркі сонечны дзень. Два чалавекі ў нямецкай форме стаялі каля яго. З лапатамі ў руках. «Жывой...— нахіліўшыся над Цімкам, прашаптаў першы.— Вставай...» «Куды вставаты? — запярэчыў другі.— Нам же загадано похаваты ціх, шо біля окопів. Німцы ўбачаць, шо мертвец підняўся. Даб'юць его». «А что делать?» — задумаўся першы. «Слухай, Роман,— пачаў другі.— Сходы ты ў окіп. Возьмі німецьке обмундзіраванне. Я з убітого німца зняв якось недавно. Прынэсі сюды. Хай цэй хлопец одзягне німэцьку форму. І тоді він з намі ў лес пійдэ. Німцы за свого прымуць. Не остановять. А ты нас не бойся, хлопец. Мы радзівонавцы. З палонных мы. Хочэмо да партізан. Та незнаемо, дэ воны. Проведэш нас».

Радзівонавец Раман хуценька прынёс нямецкую форму. «Только сапог нет, Грыцько»,— сказаў ён.— «Ладно. І так добрэ будэ»,— адказаў Грыцько. І сам надзеў ляжачаму Цімку штаны. Пачаў надзяваць мундзір. Цімка хацеў прыўзняцца, каб лягчэй было. «Ладно. Ты лежы, хлопец,— спыніў яго Грыцько.— Тількі повернісь трохі. І ні ўставаймо. Тут кусцікі. Лежачого німцы не ўбачаць. А ўстанеш — убачаць. Заб'юць. Ну, вот і наделі мундзір. І полежы тут. А мы зараз закончымо сваю работу. Тады до тэбэ прідэмо».

Доўга ляжаў Цімка ў балоце. Ён чуў, як чвякалі недалёка на ўзруб'і лапаткамі Раман і Грыцько: капалі магілу, каб пахаваць партызан, што загінулі перад лініяй. Мусіць, так загадалі ім, каб трупны смурод не поўз. Чуў Цімка, як Раман і Грыцько насілі забітых партызан. Чуў непадалёк ад сябе, у акопах, наськую гаворку, а таксама выкрыкі немцаў... Калі радзівонаўцы бралі забітых партызан, што ляжалі каля Цімкі, Грыцько прысеў, як бы па сваёй патрэбе, і ціха яму сказаў: «Чого вы пэрліся сюды? Тут німцаў богато. Трэба було лісом пробіватыся. Там нашы хлопцы абарону зіймаюць. Німцы боятся ў лісе буваты. Нашы хлопцы, мабуть, пропустылі бы вас. Ну, угору пострэлялі бы трохі. Від рабілі бы. Зато ж прошлы бы. А тут — усі полеглі... Тількі ты одын остався... Ну, лежы, лежы... Тут німцы і нашы. То ж собакі е і сярэд нашых... Ну, нешто прыдумаемо мы з Романом... Лежы і ні кратойся». Узялі апошняга забітага партызана і павалаклі.

І потым доўга не было іх. Цімка занепакоіўся. Ці не пакінулі яго радзівонаўцы?.. А можа што надумалі горшае?.. Але ж нашто ён ім быў?.. Ён жа ў іх не прасіў нічога... Яны, відаць, самі нешта надумаліся... Відаць, у іх гэта задума шчырая. І сапраўды, не так лёгка знайсці партызан за ракой. Асабліва ў час блакады. Ды й не паверыць могуць ім партызаны. А прыйшлі б з Цімкам, ён бы расказаў пра іх, усё расказаў бы. Яны і яму жыццё хочуць выратаваць. Але дзе ж яны? Чаму так доўга не ідуць? Цімка бачыў, што неба пачало мутнець, ясната дня таксама патухла — блізіўся вечар. Цімка пачаў думаць, як бы адтуль выбрацца. Балела галава, здаецца, калолі яе сотні іголак. У вушах не сціхаў аднастайны шум. Праз шум ён чуў варожыя галасы. К вечару — спачатку рэдка, а потым часцей — пачалі грымець вінтовачныя і аўтаматныя стрэлы. Паблізу — з дзотаў, з акопаў. Для перастрахоўкі стралялі. Хутчэй бы сцямнела,— Цімка збіраўся адразу рушыць з месца. Толькі куды? Наперад? Нельга. Варожая лінія. Трэба падацца назад, зноў за раку. Ды чаму ж не ідуць радзівонаўцы? Што здарылася? Ён адчуваў ва ўсім целе слабасць і быў няўпэўнены, ці здо-

лее рухацца. Раман і Грыцько дапамаглі б яму... А можа добра, што іх няма? Чорт іх знае, што яны надумаліся? Неяк вельмі проста яны аб сваёй задуме гаворацъ... Цяжка паверыць ім... А ўрэшце няхай не ідуць... Ён і сам памаленьку ўночы неяк дапаўзе да ракі, а там...

Цімка пачуў раптам чвяканне ботаў па балоце. Павярнуў галаву і ўбачыў над сабой высокага чалавека ў нямецкай форме, з аўтаматам у руках. Здаецца, гэта не з тых двух. Спахапіўся, што трэба было ляжаць нерухома з заплюшчанымі вачыма, але ўжо было позна. «Гэй ты, Грыцько! А чаму ты во яшчэ аднаго бандзіта не забраў? Нашто ён будзе смярдзець тут? — з сілай стукнуў высокі ў бок Цімку. Выразная грымаса скрывіла Цімкаў твар.— О! Дык ён яшчэ жывы! А-ну!» — схапіў высокі за грудзі Цімку і паставіў на ногі. Цімка ледзьве мог трымацца. Ён бачыў, як да яго падыходзіць Грыцько, белы, як снег. «А мы ж думалі, што цэ ўбіты німец,— здзівіўся Грыцько.— Хотелі браты насілкі та ністы ў сіло на похуванне». «Я вам падумаю! — ашчэрыўся высокі.— Немец... Што вы не бачылі — ён босы. А немцы босымі не бываюць. Я разбяруся яшчэ з вамі за гэтага «немца». Ідзі далажы, што я загадаў арыштаваць вас! Быстра! Марш!»

Грыцько пайшоў. Высокі ўважліва агледзеў Цімку зверху ўніз.

— Ці не цябе я ноччу тут аблажыў прыкладам? Не. Мусіць, не цябе. І той бандзіт такі малы быў, толькі не ў нямецкай форме...— Высокі раптам узвёў аўтамат.— А ну, пакажы, як ты па балоце бегаеш! Валяй!»

Цімка павольна агледзеўся. Убачыў, як аддаляецца ад яго Грыцько. Убачыў, што ў акопах стаяць недалёка людзі ў нямецкай форме, глядзяць на яго і на высокага. «Валяй! Валяй!» — штурхнуў яго дулам аўтамата высокі і паказаў у напрамку ракі.

Цімка сарваўся з месца і спачатку павольна, хістаючыся, а потым шпарчэй і шпарчэй пабег... Ён чакаў стрэлу ў спіну... Але высокі чамусьці не страляў... Цімка дабег да партызан, пасечаных мінамі..

Мясцінамі трава была нібы скошана,— такім густым веерам ішлі асколкі мін і састрыглі траву...

Усё гэта Цімка ўбачыў імгненна, на бягу...

І ён раптам спыніўся, як укапаны, асалавела ўтаропіўся ў жудасную карціну... Агледзеў усё падрабязна.

Потым роспачна азірнуўся, убачыў ззаду высокага.

— Што стаў? Увідзеў сваіх! І табе гэта будзе! Бяжы далей! — і ўскінуў аўтамат.

Цімка памкнуўся бегчы, і ў тое ж імгненне ў вачах яго раптам успыхнулі жахлівыя чырвона-чорныя кругі, ногі аслабелі, іх раптам нібы адняло, нібы не чутны яны сталі, нешта здушыла горла, галава пайшла кругам,— павяло ўбок, ён спатыкнуўся і раптам, як падкошаны, упаў на бок... Упаў на якую долю секунды раней, чым прагучала аўтаматная чарга... Кулі не зачапілі яго... Ён толькі пачуў стрэлы і тут жа страціў прытомнасць...

Ачуняў ён пад раніцу і адразу папоўз. Ранішні холад бадзёрыў яго. Поўз безупынку. Зусім развіднела, калі ён дабраўся да ракі. Напіўся вады, зняў нямецкую форму, акрываўленую, брудную, укінуў у ваду. І адразу, знясілены, заснуў. Прачнуўся ў поўдзень ад зыркага сонца. Палез піць ваду, убачыў, што нямецкія штаны сплылі, а мундзір — адмыла яго — затрымаўся між чаратоў. Дастаў. Пераплыў раку. Распрануўся, выкруціў адзенне, разлажыў на траве сушыцца. Падсілкаваўся шчаўем, адпачыў, папіў вады яшчэ — сушыла ў горле. Апрануўся і пайшоў у балота. Падвечар яго раптам абстралялі з невялікага астраўка... Кінуўся наўцёкі, знік у кустах. Куля збіла толькі кон-

чык носа... Цэлую ноч блукаў па балоце, хацеў знайсці партызан — не знайшоў. З пачатку наступнага дня таксама хадзіў. Знямогся. Сеў між купін і заснуў. Тут і разбудзіў яго Пецька Свірык.

Увесь гэты расказ Дубавецкі слухаў з затоенай увагай, час ад часу пазіраючы на Цімку. Калі Цімка скончыў, узводны пачаў гаварыць не адразу. Доўга нешта раздумваў, нарэшце прамовіў, пакутліва моршчачы лоб.

— Та-а-ак, брат... Ты гаворыш, як пяеш... І верыцца, і не верыцца...— Дубавецкі цяжка задумаўся.— Так. Гм-м... Многа табе прыйшлося... Ну, вайна ёсць вайна. Забітых бачыць і самому хадзіць каля смерці штомінуты — гэта доля кожнага з нас. Асабліва ў блакаду.— Ён зрабіў невялікую паўзу.— І што табе прыйшлося, баец Будзень, у гэтым ні я, ні мае хлопцы не вінаваты.— Дубавецкі раптам пасуравеў.— І давай мы будзем гаварыць начыстату! Давай будзем гаварыць дзела, а не слёзы ліць. Ты партызан, таварыш Будзень, ці баба? Што я кажу. І бабы зараз ваююць. Скажы мне прама: дзе твая вінтоўка? Ну, не тая, што раней была, дык другая. Дзе?

Цімка доўга маўчаў, апусціўшы галаву. Потым развёў рукамі.

— Вы ж чулі, як было...

— Што «было»?! — узарваўся Дубавецкі.— Знаць нічога не хачу! Баец павінен мець зброю! Інакш ён не баец! На якога чорта ты мне патрэбен! Ну, што ты значыш без вінтоўкі? Куды я цябе? Тут не дзіцячы сад, а баявая група! Байцы! А ты хто? Ну, хто ты?! Ці знаеш ты, што ўпачатку вайны на адну вінтоўку чатыры байцы было? Былі такія выпадкі... Во якая цана вінтоўцы! Людзей у нас,— Дубавецкі абвёў рукой балота,— як травы ў лузе. А вінтовак мала.

Цімка па-ранейшаму, панурыўшыся, маўчаў. Маўчаў і Пецька Свірык. Маўчалі і партызаны.

— Ну, ладна,— крыху суняўся Дубавецкі.— Дапусцім, ты не знаеш, што вінтоўкі нам з вялікай рызыкай нашы лётчыкі прывозяць з-за фронту. Дапусцім, ты не знаеш. Дапусцім. Ну, дык ты кажаш, баец Будзень, што вінтоўкі каля забітых партызан былі. Так, былі... Чаму ты не ўзяў хоць адну, калі ачуняў? Няхай бы хоць пабітую. Ну, чаму не ўзяў? Куды ты поўз: да сваёй Волькі Бурдэсіхі ці да байцоў? Падумаў ты пра гэта ці не падумаў?

Цімка маўчаў. Праўда, ён не падумаў тады пра зброю, калі ачуняў. Толькі зараз Дубавецкі навёў яго на такую думку... А так ён адразу, як ачуняў, і папоўз. Ні пра што не думаў. Хацелася жыць. І ён поўз да ракі, ні пра што не думаючы. І зараз ён мала мог разабрацца ў тым, што яму давялося перажыць... І, напружваючы памяць, адчуваў цяпер, што хто-хто, а ён пра вінтоўку тады падумаць не мог.

— Ну, што мы з ім будзем рабіць, хлопцы? — Дубавецкі абвёў позіркам партызан.

— Я думаю: няхай здабудзе зброю ў баі,— адказаў Пецька Свірык. Больш нічога сказаць не знайшлося. Ён разумеў, што маўчаць нельга, трэба нешта сказаць, і ён сказаў.

Пецька чамусьці стараўся не глядзець на камузвода.

— Гм. Здабыць зброю ў баі...— пасля доўгага роздуму іранічна ўсміхнуўся Дубавецкі.— Хітры ход. Мусіць, згаварыліся вы ўжо. Не быў бы ты маім вучнем, я б з табой інакш пагаварыў за такую падказку, баец Свірык.— І раптам перайшоў на высокі тон: — Распусціліся. Вам у пікара гуляць, а не немцаў біць! Не знаў я, што ў маім узводзе такія байцы будуць. Адзін кідае вінтоўку, другі за яго заступаецца.— І зноў раптам пацішэў.— Добра. Разбяромся з гэтым пасля блакады.

І з табой, баец Свірык, я пасля блакады ў атрадзе пагавару. Не для таго я цябе вучыў, каб заступаўся за ўсякага баязліўца і размазню... Не для таго. Ну, ладна... Цяпер не той час, каб з гэтым разбірацца. Паспеем.— І зноў замоўк.

Цяжкая, пакутлівая цішыня. Пецька паглядзеў на партызан. Яны пільна сачылі за балотам, але адчувалася, што ў іхняй насцярожанай пільнасці было і нежаданне глядзець туды, дзе адбывалася гэта непрыемная гаворка.

Цімка таксама сядзеў, не ўзнімаючы галавы. Ён увесь згорбіўся, збегся ў камячок, сядзеў, як верабейка.

Пецьку стала да слёз шкада Цімкі. Ён жа такое перажыў... Як другі раз на свет нарадзіўся.

— Я вот што рашыў,— пачаў Дубавецкі. Ён гаварыў гучна, каб чулі партызаны.— Паколькі баец Будзень знае ўсе хады і выхады цяпер, то няхай ён будзе нашым правадніком. Ён кажа, што радзівонаўцы займаюць абарону ў лесе. Гэта значыць, у Мышалоўцы. Праз Мышалоўку мы і павінны вырвацца з блакады... Будзем спадзявацца на ўдачу...— Дубавецкі зноў задумаўся.— Мяне толькі насцярожвае адно: пра якіх гэта Рамана і Грыцько гаварыў баец Будзень? Яшчэ падвядзе нас пад агонь, як і тых партызан? Чаму гэта Раман і Грыцько адзелі яго ў нямецкую форму? Для якой патрэбы? Што гэта дало? Нічога. А можа яны яго завербавалі, ды ён прыбег, каб выдаць нас? Вось загвоздка. Рэбус.

— Ніхто мяне не вербаваў,— нарэшце выціснуў Цімка.— Я расказаў вам чыстую праўду.

— Ну, ты памаўчы! — зірнуў на яго Дубавецкі.— Я не табе гавару, а партызанам. Цяпер такі час, што трэба быць гатовым да ўсяго. А што ты мне пра Рамана і Грыцько гаварыў — гэта глупства. Я не веру радзівонаўцам. Чаго яны пайшлі да немцаў і стаяць у абароне супраць нас? Што, зноў-такі сваю скуру ратуюць, як і ты? Не, гэта не метад — пайсці з лагера ваеннапалонных са зброяй у руках супраць партызан. Здраднікі! Падыхай ад голаду, а зброю супраць сваіх не бяры! Можа, думаў каторы з іх, што Радзіме карысць прынясе, абы толькі выбавіцца ад галоднай смерці? Якая з іх карысць?

— Можа каторы думаў такім шляхам да сваіх перайсці. А гэта не так проста. У лагеры ж усё роўна смерць. Я веру Цімку: Раман і Грыцько, відаць, шчыра імкнуліся, ды не выйшла,— гледзячы прама ў вочы Дубавецкаму, сказаў Пецька.

— Што ты мне сягоння ўзяўся пярэчыць?!— раптам ускліікнуў Дубавецкі.— Камандзір узвода я, а не ты! Будзеш ты, тады я цябе буду слухаць! А цяпер не лезь не ў сваё! Малады яшчэ, каб мне пярэчыць! Бач ты яго! Разумнік знайшоўся. Добранькі. Ты ж чуў, што Будзень гаварыў і пра нейкага высокага радзівонаўца. А чым Раман і Грыцько лепшыя за яго? Усе яны з аднаго кодла.

Зноў цяжкае маўчанне. Яго парушалі толькі далёкія кулямётныя чэргі недзе там, каля Вускрам'я.

Пецька разумеў, што далей пярэчыць камандзіру ўзвода няма сэнсу, лепей памаўчаць. І раіць яму няма сэнсу. Няхай рашае сам. І Пецька маўчаў.

Дубавецкі казаў ужо роўна:

— Ну, ладна. Пашумелі і хопіць. Трэба рашаць,— ён гаварыў да ўсіх партызан.— Я думаю так: пойдзем да ракі. Падаждждом вечара. Сцямнее, баец Будзень пераправіцца цераз раку, дапаўзе да рэчкі Карчаватка. І будзе чакаць Свірыка. Баец Свірык выправіцца пазней. Дапаўзе да Будзеня, надзене яго нямецкі мундзір і падасца да Мышалоў-

кі. Свірык будзе чакаць Будзеня ў Мышалоўцы, каля разлапістай сасны. Памятаеце, там мы рабілі прывал, калі адступалі за раку? У разлапістай сасне ёсць старое дупло. Дык вот: калі ўсё добра, Свірык і Будзень пакладуць у тое дупло два баявыя аўтаматныя патроны — гэта будзе азначаць, што шлях адкрыты. А самі — ужо ўдваіх — пададуцца далей, да Будзілаўкі. Там будуць чакаць нас у лесе, на месцы былой нашай стаянкі. Група будзе паўзці па іхняму следу... Калі што ў іх будзе няладна, няхай адбіваюцца. У Свірыка аўтамат, Будзеню дадзім гранаты і кінжал... Страляніны ў гэтым кірунку не будзе — значыць, усё добра. А пачуем страляніну — тады будзем рашаць, што рабіць далей... Згодны ўсе?!

Іншага выхаду не было. Усе партызаны маўчалі, згаджаліся.

— Пойдзеце на такое заданне? — спытаў Дубавецкі Пецьку і Будзеня.

— Згодны! — амаль разам ускочылі з месца хлопцы. Цімка нават аж засвяціўся ад радасці, што камандзір узвода ўсё ж такі паверыў яму і даручае такую важную справу — правесці партызан праз варожую лінію. Пецька стаяў суровы.

— Ну, таварышы, уставайце! Пайшлі! — загадаў Дубавецкі.

Партызаны рушылі па балоце.

Дубавецкі, Пецька і Цімка ішлі наперадзе. Маўчалі. Партызаны таксама ішлі ззаду моўчкі.

На беразе ракі ў кустах адпачылі. Дачакаліся цемнаты.

Калі сцямнела, Дубавецкі даў Цімку гранаты і кінжал, сказаў:

— Табе пара...

Цімка пераплыў раку і знік у цемры, на тым беразе.

Праз чатыры гадзіны Дубавецкі адправіў услед за ім і Свірыка. На развітанне паляпаў яму па плячы і звычайна, як некалі ў школе, сказаў:

— Ты, хлопец, не крыўдуй на мяне, што я пакрычаў на цябе. Ты мой вучань, таму і пасцябаў крыху. Гэта на карысць пойдзе. А старшага ўсё ж такі трэба слухаць. Тым больш, свайго камандзіра.

Пецька не адказаў нічога, змоўчаў.

Дубавецкі правёў яго да берага, параіў быць асцярожным і моцна пацiснуў руку.

Пецька Свірык поўз па балоце адзін.

## II

...Пецька Свірык знаў разлегласць, што была на яго шляху, добра. Іншы раз аж да Перасова — месца пераправы цераз раку — некалі яшчэ малым хлапчуком пад'язджаў са сваім сябрам Саўкам Івакевічам па бацькоў на калёсах, калі лета было цэплае і ваду ў балоце сцягвала. Ягоная вёска Маргавіца была далекавата ад Бярэзіны, і мужчынам пасля добрай касьбы цяжка ісці было дадому, таму кожны дзень у сенакос і прыязджалі па іх хлапчукі. Коні ў калгасе былі добрыя, цягнулі. Звычайна з Маргавіцы Пецька і Саўка (а таксама іншыя хлапчукі) выязджалі апоўдні — коні на лузе, распрэжаныя, павінны былі адпачыць, паскубсці травы, каб потым спраўна цягнуць вазы. Дураслівыя малыя падводчыкі ад Маргавіцы і аж да лугу гналі сваіх буланых і гнядых навыперадкі... Кожны станавіўся на калёсах на ўвесь рост, напružваўся і, тузаючы лейцамі каня, паласуючы пугай, са свістам і галёканнем імкнуўся абагнаць усіх, хто ехаў папе-

радзе. Тыя, безумоўна, не саступалі. Часам па дзве-тры падводы мчалі ў рад, пакуль каторая вырвецца, апярэдзіць. Прасёлачныя дарогі вузкія, падводы ў абгон імчалі па полі, па кустоўі: каменні, сасняк ляцелі пад колы. Свіст, крыкі, гул, звон. І пыл, густы пыл клубіўся па дарогах, мурзаў гарэзлівыя твары ездакоў. Узмыленыя коні ў галопе аж выцягваліся і, здавалася, адрываліся ад зямлі, ляцелі. Калёсы кідала на калдобінах, па каменнях; здаралася, што некаторыя ездакі выляталі з панарадаў. Гэта была найвялікшая ганьба для таго, хто вылятаў, і небывалая пацеха для астатніх. Абоз, вядома, адразу спыняўся — існаваў няпісаны закон узаемадапамогі. Пацярпеўшага гуртам узнімалі, прыкладвалі да ран, калі яны былі, сакавітае лісце трыпутніку, падбадзёрвалі, жартавалі і агулам саджалі яго зноў на калёсы. Ён пасля гэтага ехаў ужо ў канцы абозу.

На лузе хлапчукі адразу распрагалі загнаных коней, а самі расцягваліся на траве — вядома, стаміліся ўсе — і наперабой шумелі: хто як гнаў і чый конь імчаў шпарчэй за астатніх...

Саўка Івакевіч часцей за ўсё прыязджаў першы,— ён больш няўрымслівы быў, ды і каня паспяваў схапіць самага лепшага.

Калі Пецька Свірык і Саўка Івакевіч падраслі, яны разам з бацькамі хадзілі на луг касіць. Дадому ўжо везлі іх таксама разам з іншымі касцамі малыя аднавяскоўцы.

Усё гэта чамусьці ўспомнілася Пецьку Свірыку зараз, калі поўз ён уздоўж Бярэзіны да вусця Карчаваткі, дзе яго ўжо даўно чакаў Цімка Будзень.

Узняцца і ісці, хоць і прыгнуўшыся, нельга было: з фашысцкай лініі час ад часу бухаў кулямёт і кулі нізка ішлі над берагам. Узнімешся — адразу прашыюць наскрозь.

Да Цімкі было недалёка.

Пецька рад быў з ім убачыцца.

Калі Дубавецкі ўдзень пачаў дапікаць Цімку, выказваць свой недавер і сумненні, Пецька пабойваўся за яго.

Добра, што так усё скончылася.

І хто яго знае, што за чалавек гэты Дубавецкі? Раней Пецька не заўважаў за ім такое. Наадварот. Выпадак з Ласаковым выклікаў сімпатыю да Дубавецкага не толькі ў Пецькі.

Летась, увосень, узвод абстраляў калону фашыстаў на Даўгінаўскім бальшаку. Забілі ці не забілі каторага, але пасля партызанам прыйшлося туга. Фашысты рассыпаліся і пачалі акружаць узвод. Уступаць у бой не было сэнсу: ворагаў у шмат разоў было больш. І лясок маленькі. Дубавецкі даў каманду — адступаць. За ляском поле, а далей — рака Поня. Нешырокая, але глыбокая. Дабеглі партызаны да Поні — немцы цэлай плоймай ляцяць, вось-вось схопяць каго. Кінуліся партызаны цераз раку. Дубавецкі стаў на беразе і аўтаматнымі чэргамі аблажыў фрыцаў. Побач з Дубавецкім страляў партызан Ласакоў.

— Пераплывай і ты! — крыкнуў яму Дубавецкі.— І з таго берага смалі па гадах!

З гарачкі Ласакоў шпурнуў цераз раку аўтамат, забыўшы паставіць яго на прадахоўнік. Аўтамат цахнуў на дзірван, і кароткая чарга пырснула з дула. Кулі прашылі грудзі камандзіру аддзялення Вежнаму, які толькі пераплыў раку і выходзіў на бераг. Партызаны падхапілі Вежнага і зніклі ў лесе, што пачынаўся адразу за Поняй. Ласакоў, пераплыўшы раку, схапіў аўтамат і біў па фашыстах, пакуль не апынуўся побач Дубавецкі. Разам яны дагналі ўзвод у лесе.

Немцы за Поню не пайшлі.

У часе сутычкі і ў часе адступлення страт у партызан не было.

Толькі вось Вежнага не стала.

У лагеры Дубавецкі далажыў камандзіру атрада ўсё, як было.

Ласакова абяззброілі і пасадзілі.

Партызаны пасля ўжо дачуліся, што жыццё Ласакова было на валаску. Але Дубавецкі не раз хадзіў і да камандзіра атрада і да камісара, даказваў невіноўнасць партызана. Ласакоў неўзабаве вярнуўся ў строй.

Гэты ўспамін падбадзёрваў Пецьку. Значыць, і з Цімкам павінна быць усё добра. І думкі яго пайшлі ў іншым плане.

Душа Пецькі перапоўнілася спагадай да Цімкі.

Цімка — ад прыроды чырвоны, як бурак,— яшчэ больш чырванеў ад сораму, калі партызаны пачыналі, бывала, жартаваць з яго. Жарты яму дужа не падабаліся, але што паробіш, ён бы і сам жартаваў, калі б гэта было на нагах па шэсць пальцаў не ў яго, а ў каго іншага. Але ён — малады яшчэ — і так прыкра не жартаваў бы, вядома, як бывалыя мужыкі, што нядаўна адарваліся ад жонак.

Маладыя партызаны таксама жартавалі з Цімкі.

— Слухай, братка,— па-змоўніцку хітра прыжмурыўшы вока, ляпаў па плячы які-небудзь яго равеснік.— Калі дзе немцы міны паставяць, дык цябе трэба пускаць першым. Ты на сваіх нагах пройдзеш і не павалішся ад страху, табе лацвей: такія тракі маеш.

— Не,— пярэчыў другі равеснік Цімкі,— яго не трэба пускаць на міны першым. Трэба пускаць чалавека на нармальных нагах. А то Цімка шостымі пальцамі зачэпіць, чаго добрага, і тую міну, якую, можа, і не трэба было чапаць. Лішняга грукату наробіць...

— Хі-хі-хі! Ха-ха-ха! — падміргвалі жартаўнікам маладыя ваякі.

Хоць жарты пажылых і маладых партызан былі Цімку не да спадобы, але ён не крыўдзіўся. Яго нават часам цешыла, што ён у цэнтры ўвагі атрада, што яго ўсе ведаюць. Ведаў, што дрэннага яму ніхто з партызан не зычыў, усе былі свае, добрыя для яго людзі, і на жарты забываў адразу, як толькі партызаны суніміліся.

Пецька бачыў гэта і таму ў спрэчку з жартаўнікамі не ўступаў. Хаця яму не падабаліся ні жарты пажылых, ні кпіны маладых партызан. Сам ён ніколі з Цімкі не жартаваў, але зараз, набліжаючыся да Цімкі, чамусьці пашкадаваў, што раней не заступаўся за яго.

Паўзці было ўсё цяжэй і цяжэй. Пецька стаміўся. Ён прыўзняўся, памкнуўся на карачках — спрытней так. Калі на нямецкай лініі ўсчынаўся кулямётны грукат і кулі вішчэлі над балотам, Пецька шлёпаў усім целам ніцма ў гразь. І поўз далей: ведаў — за ім людзі, падвесці іх нельга, трэба выканаць заданне камузвода. Кулямёт біў часцей трасіруючымі, яркія струмені праціналі цемру начы. Калі б гэта не пагражала смерцю — залюбавацца можна. Часам недзе каля Вускрам'я ледзь чутна абзываўся мінамёт, і міна, скрыгатнуўшы ў небе, разрывалася дзесьці ўперадзе, здаецца, на Перасове.

Выбухі мін і ціўканне куль было для Пецькі звыклае — прывык ужо за вайну, і зараз нікольні не палохала яго — не па ім білі.

На сушэйшым, дзе трава гусцейшая — лепш. А вось на багне асака данімала, рэзала далоні, пальцы ног. Пецька адчуў, як балюча пякуць парэзы і, не зважаючы на небяспеку, падаўся бліжэй да Бярэзіны. Ля ракі цвярдзей грунт — мурава вільготная, мяккая, як вата. Гэта адразу так адчулася, а потым і па мураве ад густой, буйнай расы зноў балюча пачалі пячы парэзы. Што далоні гарэць — не такой бяды — можна на локцях паўзці. А вось куды ты пальцы ног дзенеш?



І Пецька вельмі пашкадаваў, што ён быў босы. Шкада, што і Цімка босы. А то можна было б папрасіць у яго абутак. Цімка аддаў бы, ён добры. Тым больш, што ён будзе паўзці па Пецькаваму следу — асака будзе абабіта — не парэжашся так. Але што ж. Няма абутку. Ды і ў каго надумаў абутак дастаць? У Цімкі. Цімка і перад блакадай часцей босы хадзіў, а то ў лапцях. Боты ён не насіў.

І Пецьку прыгадалася, як летась партызаны амаль усім атрадам хацелі абуць Цімку ў боты. Складаная справа — падабраць боты шасціпаламу. І вось як толькі захопяць партызаны трафеі,— так і пачнуць прымерваць боты Цімку. Ды колькі ні прымервалі,— усё дарэмна: не падыходзілі. Памер ягоны, але насіць боты са звычайнай нагі Цімка не мог. Бывае часам па шырыні добра, дык затое даўгаватыя— націраюць пяткі. А хадзіць партызанам даводзілася многа. Не толькі хадзіць, але і бегаць, калі часам сутыкнуцца з вялікай сілай фашыстаў. А як пабяжыш, калі боты шлопаюць на нагах. Пабяжыш, але не доўга. Цімка тады скідаў боты і драпаў босы.

Партызанам, нарэшце, надакучыла валаводзіцца з Цімкам. «Ты так усе трафеі нашы параскідаеш,— прыйшлі да вываду яны.— Хадзі, браце, у лапцях. Няхай будзе адзін партызан у лапцях. Для форсу. Не абіжайся толькі на нас. Нічым мы табе памагчы не зможам. На твае гусеніцы трэба шыць боты спецыяльна. А дзе мы табе пашыем? Шавецкіх арцеляў у сёлах няма — сам знаеш. Ваюй, браце, у лапцях. А вось дойдзем да Берліна — там табе дастанем боты па тваёй назе — быць не можа. А не дастанем — пашыем у Маскве спецыяльна па заказу. І не якія-небудзь, а казацкія... Са шпорамі будзеш ісці, звінець будзе. Усе дзеўкі за табой ганяцца будуць. Яшчэ нам па дзеўцы дасі. Мы заўсёды каля цябе будзем. Не падвядзём! Толькі ты цяпер нас, глядзі, не падвядзі — ваюй добра! Бацькі нашы басанож усіх буржуяў пабілі. Перакоп узялі... А тут лацвей табе каля нас, абутых... Не прападзеш... Калі лыка для лапцей надраць памагчы табе — не стыдайся — скажы толькі,— надзяром хоць воз». «Вы толькі хаця мяне, хлопцы, не чапайце,— міралюбіва адказваў Цімка.— Я сам сабе лыка надзяру, скольні мне трэба».

І Цімка ў кароткія часы прывалу сам плёў сабе лапці, запасіў лы-

ка. У яго партызанскай торбе заўсёды разам з патронамі і скарынкай хлеба ляжала пара новенькіх лапцей і маток сухога лыка, якое ён пасля паходаў размочваў і падплятаў спадыспаду лапці, што былі на нагах.

У блакадных баях партызаны абнасіліся, абтапталіся. І Цімка аддаў дзве запасныя пары лапцей сябрам. У самога таксама скора стапталіся, і, вядома, зараз ён нічым выручыць Пецьку не мог. Дарэмна Пецька толькі падумаў.

Пецька раптам убачыў перад сабой вузенькую палоску рэчкі Карчаваткі. Спыніўся ля вусця, агледзеўся. Зладжаны настрой — як рукой зняло, прыступіла трывога... Дзе Цімка?.. Кашлянуў ціха. Ніхто не адазваўся. І, як бы яго штурхнуў хто, споўз з берага да вады, пачаў шнырыць па водмелі, азіраць абрывісты бераг Бярэзіны. І раптам убачыў Цімку.

Цімка сядзеў пад берагам, сцюцюрыўшыся, маленькі, ледзь прыкметны ў гэтай трывожнай начной цішыні.

Пецька падпоўз блізка да яго — Цімка як бы не заўважаў. Гэта здзівіла Пецьку, ён нават памкнуўся тукнуць на яго, але ўспомніў — крычаць нельга. Ён нават падумаў, што Цімка заснуў, седзячы. Крануў яго за плячо — Цімка ўзняў галаву і, цахаючы зубамі, асалавела ўтаропіўся на Пецьку. Глядзеў-глядзеў так доўга, як бы сіліўся ўспомніць, хто гэта перад ім. А Пецька маўчаў ад нечаканага неўразумення, не знаў, што сказаць.

Раптам Цімка схапіў яго за грудзі і рот у рот зашаптаў:

— Жабы.. Рапухі... Паўзуць на мяне... Ты знаеш, такія вялікія, зялёныя... Пузатыя-жыватастыя... І рот шырокі, і вочы пукатыя... Памалу паўзуць, перавальваюцца... І маўчаць. Страшна... Лезуць слатой... Задушыць мяне хочуць...— Цімка абхапіў рукамі галаву і закачаўся ўвесь: — Страшна як... Ай, як страшна,— і затросся ўвесь, як асінавы ліст...

Пецька моцна сціснуў Цімкаву руку, адарваў ад грудзей, адхінуў яго ад сябе і спалохана-строга загудзеў:

— Якія жабы? Што ты вярзеш? Апомніся.. Жабаў вялікіх няма, яны малыя,— ён схапіў у руку слізкі камячок і паднёс да вачэй Цімкі: — Во, паглядзі, дурань. І няма чаго баяцца... І не выдумляй абышто.

— А-а-а...— застагнаў Цімка роспачна.— Гэта ты, Пецька. А я не пазнаў цябе, я не знаю, на якім свеце сяджу... Пецька, Пецька... Браточак мой...— і ён жаласліва ўсхліпнуў, як малое дзіця пасля зацятага плачу.

— Ну, што з табой? Перастань, Цімка...— пачаў супакойваць яго Пецька. На нейкі момант Пецька разгубіўся. Як быць? Ён не чакаў такой сустрэчы з Цімкам. Нервы, нервы ў Цімкі здаюць. Думаць жа: колькі яму давялося перажыць за апошні час...

Цімка пакутліва-цяжка глытнуў сліну — у горле каўкнула, нібы глытнуў гарачы камень, хаўкнуў іртом, як рыба, выкінутая з вады, і, часта цахаючы зубамі, зашаптаў, зашыпеў:

— Пакуль я... тут... ждаў цябе, Пецька... Дык як здасца мне неяк, што яны, тыя... пасечаныя... ажылі... І крычаць на мяне... нашто я іх на смерць завёў... Страшна робіцца, аж мурашкі па целе... І валасы на галаве дыбам становяцца, я нават чую, як валасы ўзнімаюцца... Я й пад бераг забраўся ад страху... У грудзях ад нечага агнём смаліць... Згараць грудзі, здаецца...

— Лухту вярзеш! Перастань! — адрэзаў Пецька.

Замоўклі абое. Цімка дыхаў цяжка, як стомлены конь... Пецька

пакутліва задумаўся. Ён разумеў, што Цімку боязна пакідаць тут аднаго. Але ніякага выхаду не было; ёсць загад камандзіра. Ужо можа недзе паўзуць па яго следу партызаны, і для іх ён павінен ісці ўперад. І ён моўчкі крануўся з месца.

— Слухай...— знянацку моцна абшчапіў яго за шыю Цімка, аглянуўся навокал, як бы баючыся, каб хто — крый божа — не падслухаў, што ён скажа, зашаптаў роспачна, горача Пецьку ў твар...— А што мне будзіць за тых парцізан?.. Не магу перажыць... Баюся дужа...

— Яшчэ больш дурное гаворыш! — строга, каб асадзіць узрушанасць Цімкі, адказаў Пецька, зноў сарваўшыся ў голасе.— Хіба ты іх пабіў? — ён разняў дрыжачыя Цімкавы рукі на шыі — цісне вельмі — далікатна, як малога, адхінуў зноў Цімку ад сябе.— От дзівак! — зашаптаў выразна.— Знайшоў, за што баяцца... Ты ж іх не пабіў. Немцы пабілі. Ты вёў іх, як мог... І ты ў іх гібелі не вінаваты...

Пецька сказаў усё гэта з цвёрдай упэўненасцю, каб пераканаць Цімку і супакоіць.

— Гэта я так...— апусціў галаву Цімка. Адчувалася, што да яго паступова вяртаецца раўнавага: спрыяла прысутнасць Пецькі.— Але ж чамусьці баюся... Я тут усё перадумаў...— пакутліва прамовіў Цімка.

— Не бойся! — рашуча запэўніў Цімку Пецька.— Вінтоўку табе сягоння дабудзем... Не бяды. Ну, не ный тут. Ты ж партызан. І глупствы не думай... Думай, як нам нямецкую лінію пераскочыць сёння... Ну. Давай скарэй твой мундзір. У замен пінжак мой надзень і не лезь пад бераг: скора нашы тут будуць.

Селі на траве. Пераапрануліся.

— Ад Карчаваткі бяры ўлева, прама на Мышалоўку,— на дзіва спакойна параіў Цімка.— Дзяржыся далей ад Перасова. Я наглядаў тут — па Перасове немцы б'юць з мінамётаў, ухлопаюць, калі пападзеш туды...

— Добра,— адказаў Пецька са стрыманай удзячнасцю за перасцярогу. Пецьку вельмі хацелася сказаць Цімку штосьці добрае, спагадлівае, але неяк не выпадала. І ён маўчаў, упоцемку аглядаючы свае далоні.

— Што? Парэзаў? — затурбаваўся Цімка.— І я парэзаў рукі аб асаку... Ну, далей табе лепей будзіць: я прыдумаў,— і Цімка дастаў з кішэняў белыя шкуматы, падаў Пецьку.— На. Абматай рукі і ногі — не парэжаш болей... Гэта я ніжнюю сваю сарочку парваў... Бяры. Бяры...

— Ай, смешны ты, Цімка. Забоцішся пра мяне, як пра малога...— ветліва адказаў Пецька, задаволены, што нарэшце выказаў сваю дабрату Цімку.— Ну, вазьму, вазьму ўжо — калі ты пра мяне так...

Узяў з рук Цімкі белыя шкуматы, пачаў ухутваць свае рукі і ногі.

— Укручвай, укручвай,— сказаў дабрадушна Цімка.— І паўзі. Як у рукавіцах і тапачках... Паўзі... Далей бяры ўлева... Толькі глядзі, да падбітых парцізанаў не дапаўзі — заб'юць і цябе немцы там...

— Ну, гатоў,— прамовіў Пецька.— Я, брат, пайду далей... А ты тут аставайся. Глядзі, не сумуй. Скора нашы тут будуць. Ну, я пайшоў...

Пецька перайшоў Карчаватку і пабег, сагнуўшыся, каб паказаць Цімку сваю смеласць і гэтым падняць яго дух. Азірнуўся. Цімкі не ўбачыў у цемры, упаў на траву, папоўз, адразу ўзяў улева, як раіў Цімка.

Поўз Пецька цяпер таропка, шпарка, нягледзячы на тое, што быў стомлены. Настрой у яго раптам сапсаваўся зусім. Што цяпер з Цімкам? Гэта ж такое плёў... Страх падумаць...

З такой радасцю Пецька поўз да Цімкі і — на табе... Усё паляцела к чорту... І надумаў жа Дубавецкі адчытваць у такі час чалавека. Не мог другім разам пагаварыць — няхай сабе і строга. І без таго нервы ва ўсіх напятыя. Асабліва ў Цімкі... Разумець трэба... Вайна то вайна... Але ж...

І тут Пецьку раптам падумалася, што і Дубавецкі сёе-тое варты. Камандзір усё-такі. Адразу скеміў, што да чаго. Накіраваў Цімку першым, як разведчыка, які ўжо ведае падыходы да нямецкай лініі. І каб дазор трымаў. А зараз першым ідзе ён, Пецька, і можа пройдзе, можа ўсё добра будзе.

Над Пецькам час ад часу праносіліся трасіруючыя кулі, рэзалі паветра міны. Ірваліся міны гулка і, як здавалася Пецьку, неяк з размаху, нібы хто іх кідаў рукой. Ірваліся справа, недалёка ад яго, на Перасове.

На нейкі час Пецька нават забыўся, што гэта абстрэльваюць Перасоў з мінамётаў, здалося, зноў бамбяць нямецкія бамбавозы — так усё нядаўна было...

Ужо немцы занялі Бягомль, калі аднойчы пад раніцу на Перасоў з Ельніка панаехала многа падвод маргаўчан і бягомльцаў з дзецьмі, з клункамі, з хатулямі,— каровы да калёс прывязаны. Трэці атрад займаў абарону якраз на Перасове, на левым беразе ракі. Камандзір атрада загадаў партызанам арганізаваць пераправу, каб не тоўпілася каля ракі столькі людзей. Партызаны выгналі з чаратоў лодкі, пачалі перавозіць цераз раку дзяцей, жанчын, пажыткі. Мужчыны — адны перагналі ўплаў кароў і коней, другія — з бярвенняў зрабілі плыт, перацягнулі цераз раку на плыце калёсы, затым на лодках пераплылі самі раку.

Ноч летняя кароткая. Хоць пераправа на Перасове была праведзена быстра, але абаднела неўзабаве.

Толькі сяляне запрэглі коней, склалі манаткі ў вазы, прывязалі кароў да калёс, як пачуўся паветраны гул. Жанчыны і дзеці кінуліся, колькі сіл, ад Перасова. Партызаны і мужчыны ўдарылі па конях, бягом пагналі падводы ў лес. Ад'ехаць паспелі недалёка — над Перасовам паявілася дзевяць зялёных нямецкіх бамбавозаў. Зрабілі разварот і сыпанулі бомбы. Па пустых лодках.

Пецька стаяў на ўскрайку лесу, пад магутнай кашлатай ялінай, і бачыў, што на Перасове рабілася.

Самалёты рабілі разварот над лесам і білі па лесе з кулямётаў і зноў сігалі бомбы на Перасоў.

На Перасове не было ані душы.

І раптам Пецька ўбачыў, як з лесу выбегла расхрыстаная жанчына з раскудлачанымі валасамі. За рукі яна вяла двух малых... Бягом беглі аж да берага. На беразе жанчына спынілася, схапіла аднаго хлопчыка, укінула ў раку, потым другога... У гэты час над берагам завылі бомбы... Адна бомба гухнула каля жанчыны. Пецька заплюшчыў вочы...

Бамбавозы неўзабаве выстраіліся ў рад па тры і зніклі недзе за Бягомлем.

Партызаны і сяляне сыходзіліся, затоена прыслухоўваліся, насцярожана чакалі, можа бамбавозы вернуцца. Да людскога гурту падышоў Пецька, расказаў пра жанчыну з двума малымі хлапчукамі... Людзі ведалі яе. Гэта была бежанка. Гаравала, бедная, галадала... Ста-



рэйшы сын яе быў у партызанах, пры штабе брыгады. І яна з меншымі хлапчукамі каля партызан перабівалася, але ў блакаду згубіла сваіх, усё гаравала па большым сыне... Людзі суцяшалі яе, дзяліліся, хто чым мог. І за раку з сабой узялі. Бачылі яе на пераправе, бачылі, як бегла ў лес, а потым недзе знікла... Чаго яна сама пабегла на бераг



і сама паўкідала ў раку сваіх хлопчыкаў?... Хтосьці выказаў страшную здагадку: яна, мусіць, звар'яцела...

...Пецька ўжо далёка быў ад рэчкі Карчаваткі, ад Перасова. Ужо бачна была цёмная яловая сцяна — Мышалоўка, калі ў нос яму ўдарыў трупны смурод. Прытарна-саладжавы, едкі,— раз'ядаў ноздры...

Пецька зразумеў, што непадалёк парваныя мінамі партызаны, пра якіх казаў Цімка... У яго гэта з галавы не выходзіць... Хвалюецца, бедны, вельмі... А папярэджанні яго добрыя, трэба ўлічыць... Значыцца, блізка нямецкая лінія... Акопы, дзоты... Пецька ўзяў яшчэ правей — далей ад гэтага страшнага месца... Забыўшыся, што блізка фашысты, раптам узняўся, прыгнуўся, пабег па балоце... Яго аблажыў густы веер трасіруючых куль. Папоўз зноў...

Пецька адчуў, што смыляць рукі, убачыў, што Цімкавы шкуматы згубіліся — не заўважыў, калі раскруціліся. Ён раптам спыніўся, сеў. Паскідаў мокрыя, брудныя анучы з ног.

К чорту ўсялякую асцярогу! Колькі суджана жыць — будзеш жыць!

Пецька ўзняўся на ногі. Прыслухаўся. Трупнага паху не чуваць было,— значыць, далёка адпоўз.

Агледзеўся. Кругом пуста. Цемната. Толькі міна сігане над ім ды заціўкаюць кулі, як чмялі. Не бяды! Б'юць не па ім. Не ў такой неразбярысе быў, побач сябры гінулі, а яго ніводная куля не зачапіла. І тут яго ніякі чорт не возьме...

Уперадзе — рукой падаць — выразна бачна быў нізкарослы алешнік, за ім высіліся магутныя, вастраверхія яліны, высокія, раскідзістыя сосны.

Мышалоўка.

Пецька сарваўся з месца, нібы яго штурхнула магутнай выбуховай хваляй. І, правальваючыся па калена ў багну, на ўвесь рост пабег уперад...

## III

Ад балота густы каржакаваты алешнік, парослы шчавуком, асакой. І гразь-гразь кругом кожнага куста. У гразі лотаць. Бліжэй да ялін і хвой рэдкія бярэзнікі, таксама каржакаватыя, малыя, як алешыны,— дзе ім у гразі вырасці. Гразь канчаецца адразу, пачынаецца пругкі дзірван. Тут высяцца сосны і яліны, таксама ўперамешку з алешынамі і бярэзінкамі, больш стройнымі ўжо. Яшчэ вышэй, на ўзруб'і, густа пайшоў сасновы лес. У лесе польскія акопы, яшчэ з дваццатага года. Ля акопаў спелая сасна сустракаецца чамусьці рэдка, усё больш маладняк.

Уся гэтая лясная мясціна — ад Вускрамскага лугу да Бабцаўскага поля — чамусьці называецца Мышалоўкай. Хто даў такую назву — невядома. Чаму — таксама ніхто з мясцовых не знае.

Пецька таропка ўбег у алешнік, плюхаючыся па гразі, спатыкаючыся аб карчы, падаючы, кінуўся ўправа, потым назад, улева, знайшоў кладкі — па дзве-тры жардзіны былі пракладзены праз алешнік ад балота аж да ўзруб'я — некалі з Саўкам, перад вайной яшчэ, пракладваў — і, расставіўшы рукі, зрываючыся час ад часу ў гразь, пабег далей.

Вось і ўзруб'е. Цвёрды трывалы дзірван. Над галавой вершаліны ялін і сосен. Спыніўся. Невядома для чаго, рукамі счысціў ціну і гразь з нямецкага мундзіра, з галіфэ. Нават ногі выцер аб траву. Толькі пасля гэтага агледзеўся, прыслухаўся — нікога, адно яліны ды сосны шумяць ды дзесьці далёка тахкае кулямёт. Адчуў, як намоклі ў балоце мундзір і галіфэ,— прыліплі да цела, абцягнуліся,— хоць ты выкручвай. Але выкручваць не стаў. Прыгнуўся, узяў аўтамат наўзгатоўку, пабег прама.

Яліны кончыліся, пачаўся сасняк.

Пецька мінуў польскія акопы. І адгэтуль пайшоў памалу, пільна аглядаючыся кругом, напружана прыслухоўваючыся да наваколля. Ля кожнай тоўстай сасны спыняўся, чуйна і пільна выглядаў дарогу ўперад. Пераканаўшыся, што нікога нідзе, памалу ішоў далей. Кожны сучок, зломлены ім, быў як грукат — палохаў яго. Ён спыняўся, прысядаў і вадзіў кругом аўтаматам.

Насцярожана абышоў маленькую палянку — тут у часе адступлення яго атрад прыпыняўся, партызаны адпачывалі, грэліся на сонцы. За палянай, крыху ў лес, будзе разложыстая сасна са старым дуплом.

Вось яна... У дупло трэба пакласці два аўтаматныя патроны і чакаць Цімку.

Пецька ўгледзеўся ў чорную пашчу дупла і ўжо хацеў падацца да яго, як раптам убачыў пад сасной чалавека... Немец... Аўтамат заціснуў між кален, абшчапіў рукамі, звесіў на грудзі галаву,— мусіць, дрэмле... Трэба прыкончыць яго. Але як?... Гэта дазорны; тут, мусіць, дзоты блізка... Страляць нельга... А кінжала няма... Ах, як шкада, што не ўзяў у Цімкі кінжал... Як жа прыкончыць яго? Задушыць! Толькі задушыць...

І Пецька абышоў дуплістую сасну, падкраўся ззаду і з-за дрэва наваліўся на немца.

— Хто гэта? Што гэта за шуткі? — раптам загаварыў «немец».

Пецькавы рукі расслаблі, ён апантана асеў побач з «немцам».

— Саўка? Ты? Чаго ты тут сядзіш?

— Пецька? А я думаў, хто гэта наваліўся на мяне, як мядзведзь... Чуць не задушыў... І ты ў Радзівонава служыш? У якім ты палку? Чаму я цябе раней не відзіў?

— Дык ты...— сутаргава ірвануўся да Саўкі Пецька.

— А-а, ты...— Саўка толькі цяпер зразумеў, якога «радзівонаўца» ён сустрэў.

Пецька раз'ятрана наваліўся на Саўку, падмяў яго пад сябе, пальцы сутаргава папаўзлі да шыі.

— Пецька, пусці...— здаецца, праз слёзы папрасіўся Саўка.

І Пецька зноў, міма сваёй волі, абмяк, асеў. Ён бы Саўку зараз задушыў, каб не гэтае «Пецька, пусці...» Так некалі казаў Саўка, калі хлопцы на лузе, чакаючы касцоў, пачыналі дурэць і Саўка трапляў пад ніз грутмалу... «Пецька, пусці...» — так гаварыў Саўка, калі, пакрыўджаны чарговай узбучкай класнага кіраўніка Дубавецкага, ірваўся з урокаў дамоў, а Пецька стараўся яго затрымаць...

— Дарэмна ты на мяне кідаешся, Пецька,— выціраючы



вочы, прамовіў Саўка.— Ты партызан... Гэта дужа добра... Я рад, што з табой спаткаўся... Каб ты знаў... На мой аўтамат, калі ты мне не верыш...

Пецька адчуў, што Саўка гэта сказаў шчыра.

Успомніліся Раман і Грыцько, пра якіх расказваў Цімка. Саўку Пецька добра ведаў з дзяцінства і чамусьці не сумняваўся ў ім і зараз, хоць сустрэўся з ім у такіх незвычайных абставінах...

— Дзяржы ты яго сам,— адхінуў Пецька зброю.— У мяне свой ёсць.

— Не, ты вазьмі,— казаў Саўка.— Давай сыдзем адгэтуль. Я цяпер ад цябе не адчаплюся. Ці забі мяне, ці вядзі з сабой.

— Чакай...— узняўся Пецька.— Мне трэба сёе-тое зрабіць.— І паклаў у дупло два баявыя аўтаматныя патроны.

— Рабі, рабі скарэй, ды давай сыдзем адгэтуль,— пацягнуў яго за рукаў Саўка.— Тут наш дазорны будзе праходзіць скора. Увідзіць — абодвум гібель. Давай адыдземся. Дужа прашу цябе.

Пецька пайшоў следам за Саўкам, трымаючы аўтамат напагатове.

— Вось тут, у сасонніку, сядзем,— сказаў Пецька.— Далей не хачу ісці, замарыўся.— А ў думках: «Адгэтуль будзе відна сасна з дуплом. Буду відзець, як Цімка падыдзе».

Саўка залез у сасоннік першы, прымасціўся там, аўтамат паклаў воддаль ад сябе.

Пецька сеў насупраць Саўкі, зброю прыладзіў на калені. Палец ад курка не адвёў.

— Скажы ты мне,— звярнуўся да Саўкі Пецька.— Як ты папаў да Радзівонава? Ты з нашымі ж байцамі пайшоў...

— Пайшоў і дайшоў да Оршы...— прыцішаным голасам пачаў Саўка.— Пад Оршай распачаўся вялікі бой... Я без вінтоўкі ў акопе ляжаў... Там і нашых і немцаў многа палягло... Мяне кантузіла... Ачуняў, віджу — немцы на полі, каля нашых акопаў ходзяць. Узагналі мяне, прыгналі ў Оршу. У эшалон. І ў Сувалкі. Дарогай раненыя паўміралі. А ў Сувалках пленныя мёрлі, як мухі. Ад голаду. Пленных там было многа, а нічым не кармілі. Ну, вот пачуў я, што Радзівонаў брыгаду фарміруе. Думаю — усё роўна ад голаду здохнеш. Пайду да Радзівонава, а там перабягу да сваіх. Абы толькі з лагера вырвацца. Доўга дзяржалі нас на ахове дарог. Усё не было як вырвацца. Дый не знаў, дзе сваіх знайсці. У нас учора дваіх — Рамана і Грыцько — эсэсаўцы перад строем расстралялі. Хацелі ўкрыць партызана... На прарыў партызаны ішлі, усіх пабіла, адзін неяк жывым застаўся, дык яны хацелі яго ўкрыць... І паплаціліся. О, эсэсаўцы лютуюць у нас. Чуць што — расстрэл. Ім нашы людзі не дарагі. Раман і Грыцько мае сябры былі. Я з імі збіраўся да партызан перабегчы... Няма іх... Яны самі пахавалі некалькі забітых партызан. А тых, што пасекла мінамі, эсэсаўцы не даюць хаваць. Кажуць — будзе прыманка для другіх...

— А ці знаеш ты, што той партызан, якога Раман і Грыцько хацелі выручыць, жывы? — спытаў Пецька.

— Ну? — здзівіўся Саўка.— Яго ж Дрыла забіў. У-у-у, звер у нас ёсць. Горш за эсэсаўцаў. Не знаю, адкуль ён. З яго рук ніхто жывым не выходзіў... Дзе ён рос толькі... З нашай зямлі аднекуль... Не верыцца, што ў нас мог такі гад вырасці... Да мяне ўсё чапляўся... Учора браў мяне з сабой у Бягомль. Па прадукты на машыне ездзілі. Ехалі праз Маргавіцу... Усё спалена... Як я глянуў, дык слёзы самі пакаціліся... А Дрыла ўвідзіў ды як гаркне на мяне: «Чаго нюні распусціў, шчанюк? Спалілі — і правільна. І ты мне болей кілбасы не развешвай. Увіджу яшчэ раз — застрэлю». Ён гэта зробіць. Звер такі.

Пецька глядзеў на Саўку і не пазнаваў яго. Саўка зараз быў такі збедаваны і такі хліпкі... Пецька глядзеў, глядзеў на былога сябра, ён ведаў яго, верыў, што ён гаворыць чыстую праўду, і думаў, што рабіць далей...

Яшчэ больш думаў пра гэта Саўка.

— Што будзем рабіць? — спытаў ён.— Пойдзем мы адгэтуль, куды вочы глядзяць... У полк я болей не вярнуся. Вядзі мяне, куды хочаш. Скажы ты мне, Пецька,— раптам спахапіўся Саўка,— а дзе мае бацькі? Ці знаеш ты? У Маргавіцы — ні душы. Дзе людзі падзеліся? Я знаю, за ракой многа. Туды скора пойдуць карнікі... Як гэта людзей апавясціць?

— Пра гэта за ракой людзі знаюць,— адказаў Пецька.— І твае бацькі там. Я іх цераз раку пераводзіў. Яны то, можа, астануцца жывыя там. Балота вялікае. Карнікі, можа, іх не знойдуць... А вот што мне з табой рабіць?

— Пойдзем да партызан,— падказаў Саўка.— Ты скажаш, хто я такі. Хоць і ў нямецкай форме, ды я ніводнага чалавека не абідзіў. Не пакідай мяне...— з трывогай учапіўся Саўка за Пецькаў рукаў.

— Да партызан ісці не трэба. Партызаны скора самі тут будуць,— адказаў Пецька.

— О! Добра! — узрадаваўся Саўка.— Мы да іх і далучымся.

Пецька задумаўся.

— А ты знаеш, хто тут скора будзе?

— Хто?

— Дубавецкі...

— Гардзей Анціпавіч?.. Наш класны?..

— Ён. Ён у нас камандзірам узвода.

— О-о-о... Ён жа так стараўся, вучыў нас... І як я яму пакажуся... Хоць ён на мяне сварыўся некалі. Было за што. А я яго паважаў і любіў. І цяпер люблю. І думаю, ён зразумее мяне... Жыць мне хацелася... Жыць... Я не мог нічога прыдумаць... Толькі так... Сітуацыя...

— Вось іменна — сітуацыя...— прамовіў Пецька.— Ты сам знаеш, як лютуюць фашысты. Вайна. Тут абы-як нельга...— Пецька задумаўся і нечакана для сябе адчуў: настрой яго набыў выразны напрамак.

Калі ён слухаў, як Дубавецкі гаварыў з Цімкам, ён хіліўся інакш. У той момант ён быў проста радавы партызан. Думаў за яго Дубавецкі, ягоны былы класны кіраўнік, якому ён мог запярэчыць. Дубавецкі да яго ставіўся, як да роднага сына. Пецька гэта адчуваў і, як кожны сын, часам не слухае бацьку, пярэчыць яму, гатоў быў пярэчыць Дубавецкаму. А цяпер, калі трэба было самому знайсці нейкае рашэнне, Пецька раптам уявіў сябе на месцы Дубавецкага, і многае, вельмі многае праяснілася. Ён папросіць прабачэння ў Гардзея Анціпавіча за сваю няўрымслівасць, папросіць. Успомнілася, як Дубавецкі праводзіў яго на гэтае заданне, як добра сказаў яму: «Ты, хлопец, не крыўдуй на мяне...» Гэта тое самае, што прасіў прабачэння ў яго. А ён жа, Дубавецкі, старэй за яго, Пецьку. Жыццё пражыў. У грамадзянскую ваяваў. Знае, што да чаго. І чаго яго, Пецьку, собіла тыцкаць палкі ў колы? Ну, вось цяпер сустрэў Саўку, сябра свайго, разбярыся. Дубавецкага побач няма. Рашай, калі ты такі смелы. Саўка чакае твайго рашэння. Ён пакутуе больш за цябе. Ты павінен знайсці выхад канкрэтны і беспаваротны. Кажы яму, што ты думаеш рабіць.

— Што ты маўчыш, Пецька? — вывеў яго з цяжкага задумення Саўка.— Скажы хоць слова. Ты лепей разбіраешся цяпер, што да чаго... Што будзем рабіць? Можа давай махнём да другіх партызан? Ці

за фронт можа? Дзе трэба — ты закінеш за мяне слова. А я апраўдаю. Гэта я адзін баяўся, не знаў, што рабіць... А цяпер — смела...

— Другія партызаны звяжуцца з нашым атрадам, навядуць спраўкі — тады яшчэ горш будзе,— разважаў Пецька.— Што я скажу, чаму я ўцёк са свайго атрада? А за фронт ісці? — задумаўся Пецька.— Гэта ідэя. Толькі не цяпер гэта. Фронт далёка. За Віцебскам. Не дойдзем. Дый не магу я пакінуць свой атрад...

Непадалёк узарвалася граната.

Хлопцы прыціхлі. Хаця іх і так нельга было пачуць: яны гаварылі шэптам.

— Гэта Дрыла ідзе...— ледзь чутна прашаптаў Саўка.— Правярае дазоры. Я знаю. Ён жорсткі, але дужа баязлівы. Як пойдзе ноччу правяраць дазоры, дык у кожны куст ад страху гранату бухае. З яго ўжо ўсе смяюцца.

— Што рабіць? — устрывожыўся Пецька.— Сюды вось-вось наш партызан прыйдзе... Цімка. Той, якога Дрыла ваш расстрэльваў.

— Я зараз гэтага падлюгу Дрылу заб'ю. Няхай толькі пакажацца,— схапіўся Саўка за аўтамат.

І ў гэта імгненне Пецька ўбачыў Цімку. Той падбег, азірнуўся, засунуў у дупло руку.

Пецька і Саўка ўсхапіліся, каб бегчы да яго, але агромністая высокая постаць раптам аднекуль навалілася на Цімку, асадзіла яго...

Пецька і Саўка разгублена застылі — страляць нельга — заб'еш Цімку... Што рабіць?

Саўка вялікім падскокам кінуўся туды, каб з-за дрэва аглушыць прыкладам Дрылу. І ў гэта імгненне раптам за сасной бліснуў выбух гранаты. Асколкі сцебанулі па сасняку.

Саўка адскочыў назад, у сасоннік.

— Канец гаду. Толькі партызана шкада... Узарваўся... Сам...

— Зараз паявіцца Дубавецкі з узводам...— узрушана загаварыў Пецька.— Выбух гранаты пачулі... Ці пройдуць?

— Пройдуць,— радасна адказаў Саўка.— Тут пройдуць. На выбух ніхто ў дзотах і вухам не павядзе. Да выхадак Дрылы прывыклі. Толькі вось бяда: каб яны ўдала праскочылі прасеку... Во, побач... Там міны...

Толькі зараз Пецька ўбачыў: побач у сасонніку была вузкая прасека. І там раслі малыя, да кален, сасоначкі.

— Во, глядзі,— тузануў яго за рукаў Саўка. Пецька павярнуўся.

Да разложыстай дуплістай сасны падбег Дубавецкі, засунуў руку, адвярнуўся, пасігналіў партызанам. Убачыў збоку ля сасны забітых, нагнуўся. Падбеглі два партызаны, ён ім штосьці сказаў. Яны схапілі забітага Цімку, панеслі цераз прасеку. Удачна — міну не закранулі.

Дубавецкі стаяў спіной да сасны і прапускаў перад сабой партызан, махаў рукой — скарэй, скарэй... Партызаны адзін за другім сягалі цераз прасеку і знікалі ў лесе.

Увесь гэты час Пецька змагаўся сам з сабой. Думкі беглі ліхаманкава. Ён адчуваў, што Дубавецкі зразумее яго, не дасць у крыўду. І за сябе ён не баяўся. Ён зараз думаў толькі пра Саўку. Думаў пакутліва, як быццам вырашаў — жыць ці не жыць Саўку. Ён думаў, узважваючы ўсе акалічнасці. І раптам выратавальная думка прыйшла да яго: усё самае цяжкае і страшнае мінулася, узвод вырваўся з блакады.

Выхаду ўзвода з блакады нейкім чынам спрыяў і Саўка. Ён жа быў у дазоры каля дуплістай сасны. Ён жа не падаў ніякага сігналу, калі Пецька з ім сутыкнуўся. А, наадварот, быў рады Пецьку. Праўда,

яны нічога не рабілі. Але ж быў Дрыла. Саўка забіў бы яго, калі б не апярэдзіў Цімка.

Пра ўсё гэта Пецька раскажа Дубавецкаму, ён павінен узважыць такі факт. Узвод вырваўся з фашысцкага кальца. Цяпер можна будзе спакойна пагаварыць з Дубавецкім пра ўсё. І пра Саўку. Дубавецкі разумны чалавек, зразумее Пецьку.

Шкада Цімку... Так нечакана загінуў. Тут прамарудзіў Саўка. І ён, Пецька, таксама. Цімка мог бы не загінуць. Так. Ён выяваў сумленна і загінуў сумленна.

Калі Дубавецкі, прапусціўшы перад сабой апошняга партызана, схапіў аўтамат Дрылы і сігануў цераз прасеку, Пецька тузануў Саўку за рукаў.

— Пабеглі.

Саўка ці не зразумеў, што азначае гэтае «пабеглі», мо падумаў, што Пецька сказаў гэта пра партызан, ці не рашаўся крануцца з месца — стаяў, як укапаны...

— Ты што? Аглух? — раптам раззлаваўся Пецька.— Давай за мной!

Яны выскачылі да дуплістай сасны, павярнулі на сцяжынку партызан і — што ёсць сілы — пабеглі даганяць Дубавецкага.

**У жніўні чытайце**
**сказ Антона БЯЛЕВІЧА**
**ПРА БАЦЬКУ МІНАЯ.**

## ПАЭЗІЯ



● *Сэрца раіла так*



### Іван АРАБЕЙКА

●

*Партызанцы атрада імя Катоўскага*
*Люсі Сечка прысвячаю.*

Крыўдна ад таго, што мала ведаю,
А сумленне просіць — напішы.
Гэта й ёсць, відаць, сама трагедыя
Чалавечай песеннай душы.

Можа тут наводдаль перад гумнамі
Перайду маўклівасці мяжу.
Люся, Люся! Столькі перадумана!
Я ж і сотай долі не скажу.

Стань ты песняй, стань, як праўда існая.
Над табой не ўладна забыццё.
Дай мне тую веру непахісную,
За якую аддаюць жыццё.

I

Дрыжала неба, зорны бляск збаўляючы.
Пад лёгкі шум збягаліся аўсы.
Абапал сцежкі, нібы блаславуляючы,
Шапталі штосьці на вуха каласы.

Мінула жыта, выйшла на абочыну.
І толькі да пагорка дапаўзла,—
Нібыта ключ у шчыліну замочную,
Ў дубовыя прысады ты ўвайшла.

Паспець бы хоць, — адно цяпер трывожыла.
У логаве таго асабняка

Свае сабакі спяць. І ў кожнага
Чужая кроў, як памяць, на руках.

Таропкаю, нясмелаю дзяўчынкаю
Яшчэ бліжэй падбегла да акна,
І кінула. Пачула толькі — дзынкнула.
Ратуй цяпер, жытнёвая сцяна.

Як глянула — шугала ў небе золата,
Даносіліся стрэлы праз палі...
А сэрца біла гулка пнеўмамолатам,
Калі туліла цела да зямлі.

Пад ранак аж вярнулася дзяўчына,
Памылася, прыбрала валасы.
Ах, ім бы не натрапіць на сцяжыну,
На тую, дзе памяты каласы!

## II

Мама, мама, што на свеце робіцца?
Дзе той сёння справядлівы суд?
Тых палонных, хто не мае родзічаў,
Кажуць, хутка ў лагер павязуць.

Мне баліць, нібыта сэрца ранілі.
Там у вёсцы лётчык ёсць адзін.
За яго мне, мама, замуж раілі.
Ўгаварыў нарэшце камандзір.

Знаю, што на суд людскі аддадзена,—
Светлыя ж пачуцці зберагу.
І не вер, што я каханню здрадзіла,—
Я Радзіме здрадзіць не магу.

## III

Разрывалі сэрца плёткі подлыя.
І замоўкла — ані слова з губ.
Я цяпер назваў бы толькі подзвігам
Тваю згоду на фіктыўны шлюб.

## IV

Сосны з залатымі акантоўкамі.
Ззаду плач. Далёка да сяла.
Ты тады — о не!— не пад вінтоўкамі,
Пад канвоем дум сваіх ішла.

Можа там прыкмецілі пры зарыве?
Мо віна за іншае лягла,
Што была і «жонкай камісаравай»,
І падпольнай камсамолкаю была.

Думы, думы. Хіба ўсё бяссэнсіца?
Не, не плакаць каля гэтых дрэў.

За спіною дыхалі эсэсаўцы,
Гергеталі, чорт не разбярэ.

Маці даганяла немцаў-коннікаў,
Ногі пазбіваўшы на карчах.
Ты вось тут стаяла ля сасонніку,
Ані просьбы, ані жалю у вачах.

Мама! Хоць рукою памахала б.
Сэрца доні ўзята на прыцэл.
Плачце ж Вы, Таісія Міхайлаўна,—
Можа злітуецца ўнтэр-афіцэр.

Плачце, ды не пры гэтым выпадку,—
Чуеце, гаворыць ён: «Дабро.
Будзе ўсё, як толькі будзе выпіўка,
Ну і мёду — поўнае вядро».

А над ямай аж сініца піскнула.
Ўзняўся рад вінтовачных ствалоў...
Гляньце вы, канвойныя, з запіскаю
Хтось ляціць па полі стрымгалоў.

## V

Каб у смерці цябе толькі выкупіць,
Пагалоска пайшла, як паштар.
Саланіны сабралі і выпіўкі.
Усё загадзя знеслі у штаб.

От закон!— за кручок самагонкі
Можна і даравадь, і страляць.
І гарэлка, як бог беспагонны,
Мела права загад адмяняць.

Афіцэр пасля першай пачаў:
— Больш карысна ў Германію вывезці.
— Расстраляць,— і на стол ажно выплеснуў
Паліцай самагон з-за пляча.

Заліваліся пеўні вясёлыя.
Усю ноч тут да самага дня
З рук у рукі — з агню ды у полымя
Пераходзіла доля твая.

Захліпаўся агеньчык у лямпе.
Кнот смылеў, як сіняк на шчацэ...
І ўсё ж за апошняю шклянкаю
На сваім настаяў афіцэр.

## VI

Стаяла ноч бабуляю набожнаю,
І znічкаю хрысцілася рука.
А колы сваю музыку трывожную
Са стукам адбівалі на стыках.

Як засаўку іржавую раз'югалі,
Ты ў шчыліну уціснула абцас,—
І поўня загайдалася, як круглая,
Як новенькая пломба са свінца.

Прыкрыем, пачакаем, бо зарана, бач,—
З хлапцом адным параілася ты.—
Мы выскачым далей, каля Баранавіч,
Праехаўшы апошнія пасты.

— Адумайся, дурная, ты загінеш так.
— Ах, дзядзька, адчапіся, не мяшай.
Дзе гінуць, не ўсё роўна ці ў чужыне той,
Ці тут адразу з ветрам у вушах.

## VII

Кожны лісцік, стань сягоння гідам мне.
Ціха, памяць, слухай і маўчы.
Я прыйшоў на месца тваёй гібелі —
Ў вёску-крэпасць Лугамавічы.

Зарасло бур'янам месца выбухаў,
Даўнім дымам пахне перагной.
Вось і кузня, з-за якой тут выбегла
Ты насустрач кулі разрыўной.

Ў небе трубяць трубы жураўліныя,
Восень дваццаць пятая пайшла.
Можа там, дзе рукі ты раскінула,
Позняя свірэпка расцвіла.

Гэты роў не раз гады скародзілі.
Дзе той насып з патранташам шпал?
Дзе дарога, па якой цябе вывозілі,
У вагоне кінутую напавал?..

Ты была ўжо тут нібы на ростані
Між высокім небам і зямлёй.
Збоку дрот ляжаў і кол завостраны.
І шарпак, акроплены крывёй.

З нежывой тут здзекваліся доўга шчэ,
Рвалі ільняныя валасы.
Жудасным палохалі відовішчам,
Каб народ не крочыў у лясы.

Аж на трэці дзень, блакітнавокую,
Скамянелую, вывозілі цябе.
Мо той снег вунь там плыве аблокамі,
Пра былое помнячы й цяпер.

Хай у тлушчы поля чарназёмнага
Трактары палошчуць лемяшы.
Хай трава мне свеціць толькі зёлкамі
Вось на гэтай вогненнай мяжы.

## VIII

**Кружыць ліст над насыпам імшаным.**
**Восень дваццаць пятая пайшла.**
**Ты ляжыш пад зоркаю бляшанай,**
**Галавой да роднага сяла.**

**Я стаю, тваёю памяццю паранены.**
**Вось сюды мяне трывога прывяла.**
**Перадумаць, ці жыву я правільна**
**На зямлі, што ты мне зберагла.**

**Вось і гасне промень на пагорку тут.**
**І пад покрывам асенняга радна**
**Ты не знаеш, што зялёнымі прыколкамі**
**Тут усю цябе засыпала сасна.**

## IX

**Ты будзеш ранай матчынай да скону.**
**Ты будзеш юнай, як сама зара.**
**Любіміца падпольнага райкома,**
**Важак, канспіратыўная сястра.**

**Пярэлка* школы! Гэта я бяруся**
**Такое права на сябе узяць,—**
**Цяпер цябе пярэлкай Беларусі,**
**Як самым чыстым іменем, назваць.**

---

* Пярэлка — жамчужына (польск.). Настаўнікі называлі Люсю «пярэлкай школы Любчанскай».

*Некалі шчыра, з дзіцячай сур'ёзнасцю дабіваўся ад вусатых дзядзькоў адказу на самае хвалюючае пытанне: навошта жывуць людзі?*

*Цяпер цікавіць іншае. Як жывуць людзі? Чым жывуць?*

*Гэта прага нешта ўбачыць, нешта зразумець, вiдаць, і вяла неадольна дарогамі цалінніка, культработніка, райкомаўца. А цяпер — журналіста.*

*Бясконцая пуцявіна да сэрцаў людскіх і да свайго, на якой да нясцерпнага болю часам глыбока раніць чэрствасць і фальш, хітрасць і, нават, подласць. Дзе да пякуча-шчымлівай радасці бываеш шчаслівы дабратой і шчырасцю, сумленнасцю, мужнасцю...*

*Дзе б ні быў, чым ні займаўся б, здаецца, у душы заўсёды жыло, цяжка вярэдзіла яе — слова. Стараўся не ўслухоўвацца, уцякаў ад яго поклічу. Ды, урэшце, нікуды не дзенешся: у нейкія моманты яно дужэйшае за цябе. Трапечацца, б'ецца, як птушка ў клетцы, каб вырвацца на волю, дыхнуць прасторам, захлынуцца радасцю свабоднага лёту.*

*Так з'явілася і гэта апавяданне.*

*Алесь КАЛЕСНІК.*

ПРОЗА

Алесь КАЛЕСНІК

Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА

# БЭЗАВАЯ БЛІСКАВІЦА

АПАВЯДАННЕ

Цёплая чэрвеньская ноч насунулася на вёску неяк нечакана з-за лесу, дзе нядаўна патухла зыркае пажарышча захаду.

Ноч прыйшла, і адразу дыхнула свежасцю рэчкі. Патанулі ў тумане бліжнія да аселіцы агароды. Туман поўз, заплятаўся пасмамі вакол быльнягу і сланечніку на градках і паволі сунуўся вышэй да гасцінца, к хатам. Але тут яшчэ моцна трымалася цяпло. З гасцінца пахла ўзварушаным, разбітым пылам, а з агародаў ужо цадзілася духмянасць садоў, агурэчніку і кропу, патаптанага за дзень у вузкіх барознах радзькоўніку. Бялявы туман стаіўся недзе на агародах і закрыў сабой далячынь, зруйнаваў дзень і ноч, зблытаў іх межы.

Вёска заснула. Ноч кароткая, а падымацца трэба рана.

Надвячоркам маці занесла ў гладышыку Марціянавай Вольцы малака.

— Гэта ж каторы год не вязе кабеце на кароў...— адыходзячы, тлумачыла маці.— Ды, пэўне, праз які тыдзень, а мо і раней, дачакаецца свайго ўжо...

Пасля бацькі ў паўзмроку павячэралі. Нават не ўключалі святла: не хацелі, відаць, разганяць шэрую дрымоту, што ўсталявалася па вуглах. Ціха разышліся спаць.

З непрывычкі, бо ў горадзе ніколі так рана не кладзешся, я не змог бы ніяк заснуць. Не думаў і лажыцца.

На душы было чамусьці шчымліва, неспакойна. Нешта падказвала, што я чагосьці не зрабіў, аб нечым забыўся, але на што забыўся — не прыпомню, не магу згадаць.

Патупаўшы без занятку ў хаце, ціха выйшаў у сені, вобмацкам прайшоў іх, намацаў халодную клямку і ступіў за парог. Прайшоўся па мяккай травяністай вулачцы — раса яшчэ не выпала — і спыніўся ў канцы яе пад рабінай.

З застрэшша Вольчынай хаты пачулася ціўканне маладых вераб'ёў. Мабыць, старыя залішне разварушыліся ў цеснай дамоўцы.

Потым па той бок гасцінца, за сценкай, недзе ў калгаснай канюшыне задрымцеў драч. Неўзабаве сухім трэскам, быццам ломячы загарадку, у якую яго пасадзілі, азваўся другі. Так і будуць праз усю ноч шукаць, не знаходзячы, адзін аднаго.

Уздоўж па вуліцы ў хатах агнёў амаль няма. Зрэдку дзе-нідзе за навіссю вішнёвых прысад прабіваецца чырванаватая пляміна.

Няма агню і ў Вольчынай хаце. Спіць, натаміўшыся за дзень, жанчына. А можа, ляжыць на халаднаватым чарэні печы і думае, думае... Ноч, хаця і курыная, бо толькі паспееш прыплюшчыць вочы, як трэба падымацца,— усё ж у адзінокага, старога чалавека доўгая, нібы той клубок кужэльных нітак.

Марціяніха ездзіла сёння ў горад і вярнулася адтуль удзяняшнім поездам. Сустрэўся з ёй выпадкова на вуліцы. Яна здзівілася майму прыезду, бо нічога не чула ад маёй маці, і ўсё гаварыла:

— Зайдзі, Міколка, зайдзі, сынок... Паглядзі, як жыву.

Узрадаваўшыся сустрэчы ці чаму іншаму, па-старэчы, не супыняючыся, расказвала:

— Гэта ж, каб ён заўжды быў здароў! Падвёз мяне Цупрыянаў малы. З саменькай станцыі! Але ж дайце рады: стары чалавек, ды розуму, мусіць, у яго ўжо няма. Малому даверыў такога жарабца. І закілзаць нельга — аброць малая. Ён нас як вынес за лес, думалі, што ўсё, прапалі, касцей не збяром. Учапіліся за білкі з Цупрыяніхай і чакаем, што тут ужо будзе. Ён нясецца, а малы стрымаць не можа. Хіба ж з яго сілай! Дзякуй богу, жывыя засталіся. О-ой-ей, гэта ж падумаць толькі, так нацярпеліся... Дык глядзі ж, Міколка, зайдзі... Зайдзі, сынок...

Марціяніха за апошнія гады моцна падалася, пастарэла, здаецца, прыгнулася яшчэ больш і ўжо не глядзіць прама, а ўсё неяк па зямлі, быццам нешта згубіла і зараз вечна заклапочана думкай, дзе б гэта нешта знайсці.

Жыве цяпер Марціяніха адна. Быў і мужык... Не вярнуўся з фінскай.

Быў у яе і сын. Мой аднагодак, Мішка, з той лютай, памятнай людзям зімы, у якую не вярнуўся Марціян, яе чалавек, і якая выкаціла ў вёсцы ўсе сады.

Потым была зноў вайна.

На другім ці трэцім годзе па вайне (надта ж цяжкім выдаўся год) Марціянісе нехта з вяскоўцаў-суседзяў, з тых, хто заўсёды ўсё ведае, параіў аддаць Мішку ў суворaўскае ці якое іншае ваеннае вучылішча.

Мішку было, як і мне, гадоў за сем, і мо якраз узялі б. Бацька, што ні кажы, ваенны...

Марціяніха тады адразу не прыслухалася да гэтай чужой парады.

— Ат, лёгка гаварыць вам, людцы, калі свайго не маеце такога,—

кідала Марціяніха ў адказ любому, хто пачынаў гамонку.— Гляньце на Стэфку вунь Падабедаву. Чорная ходзіць, траіх мае, і то маўчыць. А калі то помачы дачакаецца ад іх?

Так запэўнівала Марціяніха суседзяў і перш за ўсё супакойвала самую сябе. У такія мінуты твар яе хмурнеў, невысокая, Волька ўвачавідкі станавілася як бы меншай, порстка, ледзь не дзявочай хадой, яна кідалася праз вуліцу да свайго дома, каб толькі не бачыць і не чуць чарговага спагадчыка.

Як не з таго часу Марціяніха амаль зусім не размаўляла з суседзямі. Хіба што прасіла ў каго якой падмогі.

Праўда, на тое, што Марціяніха стала зацятай, негаваркой, ніхто не звяртаў увагі: гора хапала ў кожнага.

А жыць было ўсё цяжэй. Асабліва к лету. Дні цягнуліся бясконца доўга. Маладая ж крапіва адскоквала пад разбуранымі платамі вельмі марудна. Пра хлеб і ў нашай хаце апошні час стараліся не ўспамінаць. Шчаўе, крапіва і, як найлепшы прысмак, бульбіна.

Памятаю, даставаць на ласунак па дзве-тры бульбіны, акрамя таго, што перападзе дома, мы ўнадзіліся ля парніка. Чамусьці так называлі кармакухню, што была ў старой кузні. Там у двух вялізных умураваных катлах парылася бульба для свіней.

Яе прывозілі аднекуль. Бульба была падмарожаная. Не мыючы, яе адразу засыпалі ў катлы.

Мы цікавалі вакол парніка, паглядвалі ў шчыліны, міжвольна глытаючы сліну, і цярпліва чакалі таго моманту, калі да парніка пад'едзе на зморaным татарскім кацуку дзядзька Максім, каб у скрыні адвезці параную бульбу на ферму. Што гэта быў за момант!

— Едзе! Едзе! — часцей за ўсіх гэта выкрыкваў Мішка.



З-за павароткі з прарэзлівым, аж ламала вушы, свістам і рыпам колаў (бо ніколі, мабыць, не былі змазаны яны) паказвалася скрыня.

У скрыні, страшэнна вялікай, як не з параконкі, пагойдвалася галава дзядзькі Максіма. Кацук ледзь перастаўляў ногі, цягнучы за сабой пусты воз, і быў да таго малы, што адразу і не кідаўся ў вочы.

Максім кацука не падганяў і нават пугі не трымаў у руках. Яна ляжала на дне скрыні. Ён толькі зрэдку тузаў лейчыной у надзеі, што кацук, глядзіш, падыме галаву і пойдзе крыху спарней.

Ды не такі быў кацук. Тыя, хто на ім ездзіў, ведалі, што хоць кол чашы — не выправіцца ў дарогу і трухам. Трымалі яго ці не з-за таго, што мог цягнуць больш, чым нямецкі аўсянік-бамбавоз, які таксама быў у брыгадзе.

Мішка, крыху адбегшыся і зірнуўшы назад, ці далёка Максім, запавольваў хаду і параўноўваўся з возам.

— Гэй, дзядзька, ты крапівы пад хвост палажы,— дражніў ён Максіма.— Крапівы яму, ды вунь той, дробненькай, жачкоўкі. Во-о панясе-е...

— Но-о, воўчае мяса! — Максім махаў пугай. А потым ужо да Мішкі: — Згінь, смаркач! Я табе штаны поўныя належу...

Кацук якраз у гэты момант ужо ля парніка.

Бразганне калёс сціхае, дзверы парніка расчыняюцца, і на волю вырываюцца клубы сівой пары, салодкі пах бульбы і разагрэтай, змакрэлай зямлі. Максім знікае ў гэтай пары, і дзверы зачыняюцца. Праўда, бавіцца ён там не доўга.

Неўзабаве жанчыны пачынаюць у вялікіх плеценых карзінах выносіць і высыпаць бульбу ў скрыню. Максім стаіць побач з пугай у руках і пыхкае самакруткай.

І вось зараз скрыня будзе поўнай. У ёй ужо цераз край бульбы — яна нейкая сіне-чарнаватая. А вунь каторыя бульбіны разварыліся — жаўтавата-белыя, вабныя, і мы кідаемся да скрыні.

Дзядзька Максім у раскудлачанай і дзе-нідзе прапаленай шапцы-аблавушцы (чамусьці і на лета не скідаў), у засмуголенай, як кацёл, ватоўцы, у бахілах, клееных і пераклееных, такіх жа латаных-пералатаных штанах — гэты дзядзька, бы тое пудзіла на гародзе, спачатку махае рукамі і крычыць, успамінаючы па пятае калена ўсіх багоў, а пасля, як бы прыпомніўшы, што ў руках пуга, кідаецца да воза... Жанчыны, выпусціўшы з рук карзіну і забыўшыся на яе, з енкам знікаюць у парніку, а мы ў адзін міг разбягаемся, ужо на хаду кідаючы за пазуху па дзве-тры гарачых, зманліва-пахучых бульбіны.

Але і гэтая «сталоўка» праз колькі тыдняў неспадзявана закрылася. Недзе яшчэ з раніцы, збіраючыся на гасцінцы талакой, каб к абеду падысці да парніка, мы пачулі, што ноччу выграблі ўсе катлы. Хтосьці, з вечара падпільнаваўшы, калі жанчыны адвярнуліся да суседак, у закоце адарваў некалькі падгнілых дошак і ціха вынес усю бульбу. Слядоў не асталося ніякіх.

У той дзень мы і блізка не падышлі да парніка. Не падыходзілі і пазней ужо, бо прыязджаў старшыня з участковым...

У агародчыках на цвет бралася ранняя бульба. Людзі перабіваліся па-ранейшаму, але глядзелі ўжо весялей, бо вось гэты спадзяванак, што хутка дачакаюцца палёгкі,— як-ніяк гародніна не дасць пайсці па свеце,— надаваў сілы.

Марцяніха ж не вытрывала.

Помню, бацька павінен быў вярнуцца з лесу. Мы гулялі на вуліцы

і чакалі яго. У лес ён мяне з сабой не ўзяў—каб не замінаў, ці мо таму, што выбраўся туды надта ж рана. Праўда, лес той быў недалёка ад вёскі, усяго кіламетры за тры. Ды і які гэта лес, на цяперашнюю галаву?

Спачатку яго нішчылі немцы, бо там размяшчаўся да вайны наш ваенны гарадок і яшчэ ад бліжэйшай станцыі падыходзіла аднапутка. У першае ж лета па вайне ўволю з лесу вазілі бярвенні мужыкі— кожнаму хацелася перабудавацца. А на вясну нечая дурная рука ўзяла і падпаліла апошняе. З паўмесяца, бы над горадам, свяцілася, трапятала па начах неба ў тым баку — гарэў лес.

І згарэў. Застаўся адзін сухастой, ды скрозь па лужах і балацінах, як і нічога не было, буяў арэшнік, шапацеў і безупынку трывожна шастаў асіннік, грэліся на сонцы, радуючыся свабодзе, маладыя рудаватыя сосны. Па гэта і ездзілі цяпер людзі. Што ішло з прывезенага на жэрдкі, што на штыкетнік, а больш за ўсё — на частакол.

Мы чакалі бацьку, каб пасля ўшчаміцца на вершаліны асін і арэшніку, што цягнуліся за возам, і, седзячы на іх, уз'ехаць на двор. Гэта лягчэй лёгкага: разбяжышся ззаду і — гоп на галлё! Паспеў ухапіцца рукамі — уседзіш, не — падымайся з пылу і зноў даганяй.

Бацька ў гэты час звычайна ішоў уперадзе і вёў каня за аброць. Стараўся весці яго якраз пасярэдзіне вузкай вулачкі, каб, крый божа, не зачапіцца коламі за свой або марціянішын плот і не знесці падгнілых, пазелянелых ад моху жэрдак. Што рабілася за возам, ён не бачыў.

Чамусьці бацька пазніўся і паказаўся з возам апаўдні. Насустрач яму пабеглі я і Мішка. З ім мы і ўз'ехалі на двор.

Не спяшаючыся, бацька разбіраў воз. Круціліся побач і мы. Па ўсім двары разыходзіўся пах лесу, прыемна казытаў водар сасны, нечым гаркавым аддаваў арэшнік, сухадрэвіны мазаліся смалой, свежай, ліпучай.

Калі закончылі, бацька прымасціўся на прызбе перакурыць. Я ўсё мергаваў з галлём, шукаў тонкай арэшыны на пугаўё. Шукаў доўга, перабіраючы галіну за галінай, і ўсё ніяк не трапляў на патрэбную.

Мішка таксама прысеў на прызбе. Сеў, як дарослы: рукамі падпёр твар, а локці паставіў на калені, прыгнуўся і аб нечым задумаўся. Я не чуў пачатку іхняй размовы, а мо яны нічога і не гаварылі, але неўзабаве да майго слыху дайшло:

— А я, дзядзька, сёння дадому не пайду, во. Няхай сабе маці шукае, колькі хоча! Хай думае, што я з дому сышоў ці ўтапіўся...

— Чым жа яна не ўгадзіла табе? — спытаў бацька.

— Не хачу з ёй болей жыць. Яна ў сельсавет сёння пайшла... Нейкія паперы на мяне даставаць.

— А што з іх зробіш, з папер тых, зараз? — бацька неўпрыкмет сам перайшоў на сур'ёзную размову.

— Гы, зробіш... Сказала, што мяне аддасць у нейкае вучылішча, далёка-далёка,— і Мішка раптам заплакаў. Нечакана, моцна, аж стаў захліпацца.

Я здзівіўся. Ён дзень быў побач са мной, і я не заўважаў за ім ні кроплі суму. Толькі некалькі разоў пытаў у мяне, ці хутка вернецца бацька. Тады я не звярнуў на гэта ўвагі.

— Дзядзька Андрэй! — Мішка крыху прыціх, не плакаў, толькі цёр мурзатымі кулакамі вочы.— Вазьміце мяне да сябе. Вось паглядзіце: усё буду рабіць — і свіней ганяць, і ў траву хадзіць, і карову пасвіць. Усё-ўсё, што скажаце, тое і зраблю. Вазьміце!

Чорныя Мішкавы вочы поўны былі слёз.

— Да-а, хлопча, бяда ў цябе... Што ж, начуй у нас сёння.

Неяк і я зразумеў, што чакае Мішку, калі маці яго пазбудзецца, а яшчэ больш, відаць, запякло тое, што страчу такога вернага дружаку, бо кінуўся да бацькі і пачаў прасіць:

— Тата, вазьмі Мішку да нас. Марцяніха здурнела, яму есці не дае, а ў нас жа хопіць. І спаць ёсць дзе. Мы на адным ложку памесцімся.

Бацька пагладзіў нас па галовах і разважна, ледзь не самому сабе, сказаў:

— Бяжыце, гуляйце.

У адзін міг былі мы за вуглом хаты, вельмі ж хацелася абмеркаваць, як будзем жыць цяпер удваіх у нас.

Назаўтра бацька хадзіў да Марцяніхі. Мішку яна нікуды не аддала, і ён пайшоў жыць дамоў. Пасля ж людзям Марцяніха гаварыла, што яго і не ўзялі б у вучылішча. Яе Марцян, нябожчык, быў толькі салдатам. А ў вучылішчы ў тыя гады, гаварылі, пераважна бралі дзяцей загінуўшых афіцэраў...

Паводкамі ды віхурнымі калаўротамі сплывалі вёсны, грыбамі і арэхамі леты, восень звінела, шастала на развітанне пераспелымі апошнімі антонаўкамі, цёплай печчу, калі па вечарах забярэшся на самую чарэнь і недзе ў коміне гудзе-завывае вецер і страшэнна ляскоча непрыціснутая анучай юшка, адыходзілі зімы.

Той вясной мы заканчвалі чацвёрты клас. Гаварылі, што будзем здаваць экзамены. Настаўнікі папярэджвалі, каб рыхтаваліся. Неяк цёплым, пагодлівым красавіцкім днём старэйшыя класы пайшлі ў лес. Школа ўзялася высадзіць дрэўцамі дарогу, што вяла з вёскі на станцыю, ды і на самім школьным двары было пуста. Ні градак доследнага ўчастка, ні клумбаў з кветкамі — адны кучы бітай, пачарнелай ад агню і дыму цэглы, буйна зарослыя крапівой, лопухам, лебядой, і абрысы старога падмурка спаленай немцамі школы.

Школа некалі была цагляная, двухпавярховая. Цяпер мы вучыліся ў драўляным будынку. Ляпілі яго наспех, і быў ён цесны, хаця і доўгі, як барак, з маленькімі класамі, халоднымі калідорамі.

У лес дазволілі ісці і нашаму, чацвёртаму, класу. Каб мы, малыя, змаглі вытрымаць усю дарогу, кіламетраў шэсць,— бо зараз ішлі мы ў казённы лес, а не ў той, куды ездзіў бацька,— нам дазволілі не браць з сабой рыдлёвак. Хопіць і тых, што прынясуць старшакласнікі. Мы ж будзем несці назад дрэўцы.

У такім лесе нам ніколі не даводзілася бываць. Скрозь чысціня, парадак. Неабарваным, бурым лісцем шамацелі разлапістыя вузлаватыя дубы, да іх туліліся шапкі-клёны. А сосны! У ваччу рабаціць ад сонца — пакуль агледзіш выносістую вяршыню. І цішыня — аж заложыла ў вушах, як пасля няўдалага нырца ў ваду.

Сям-там трапляліся акопы, часам звінелі пад нагамі адстраляныя гільзы. Хто-ніхто прыглядваўся, каб знайсці цэлы патрон, і знаходзілі. Ад лагчын між кустоў пачынала пятляць доўгая, крыху абсунутая, глыбокая траншэя. Гэту мясціну мінулі з прыціхлым настроем...

Хлопцы-старшакласнікі выкопвалі невялікія клёны, бярозы, ліпкі. Неяк знячэўку, зусім неспадзявана, узбіліся на дзялянку з маладымі піхтамі. Выкапалі іх многа. Настаўнікі радаваліся.

Тым часам аднекуль прыйшоў ляснік, невысокі, апрануты ў форму, што нас вельмі зацікавіла. З твару ён быў дробненькі, з рыжымі пракуранымі касмылямі-вусамі, пляскатым, нібы абмарожаным но-

сам. Доўга сачыў за работай, падказваў, што лепш выкапаць і адкуль, і неяк выпадкова згледзеў выкарчаваныя, з самлелымі ад сонца карэньчыкамі, піхты. Умомант пакінуў нас і падаўся да настаўнікаў. Яны сядзелі на прыгрэтым грудку пад дубамі.

Мы бачылі, як ён там махаў рукамі. Нешта гаварылі настаўнікі, паціскалі плячыма. Пасля голас яго памацнеў, і мы пачулі лесніковы словы:

— Гэтага дзела і шапкай не закрыеш!.. Разумееце — не закрыеш... Гасударства... Штраф... Будзе штраф і мне і вам! — і стукаў кулаком у грудзі.

Лаянка сціхла. Ляснік, цяпер ужо з пасінелым, свінцовым носам, зноў падышоў да нас, пералічыў выкапаныя піхты і знік за дрэвамі. Больш ён не паказваўся.

Мы вярнуліся з лесу ледзь не прыцемкам. Прынесеныя дрэўцы пакінулі ў школе — пасадзім заўтра. Некалькі старшакласнікаў неўпрыкмет ад настаўнікаў прыхапілі з сабой па бярозцы ці клёніку і разышліся. Нешта цюкнула і Мішку. Ён памкнуўся ісці, але адразу вярнуўся, выбраў ёмкую бярозку і канавай подбегам пашыбаваў ад школы. Гэта заўважыла Марыя Міхайлаўна і пазвала яго:

— Казачок, вярніся! Вярніся, Казачок! — гукала яна Мішку. Але дарма. Мішка бег з бярозкай, не аглядаючыся.

Мы ўжо тады вячэралі, калі вокны паласнула бліскавіца і асляпіла хату. Зазвінелі шыбы.

...Мішка падарваўся на сваёй прысадзе ў вішанніку ля куста бэзу. Тут хацеў пасадзіць бярозку. Тут некалі дажджлівай асенняй ноччу немцы рабілі засаду на партызан. І партызаны, не ведаючы аб гэтым, напароліся на іх. Бой быў пякуча-кароткі. Пяцёх хлопцаў лягло на месцы. Адзін на кані ўцякаў кіламетры два. За ім гналіся на матацыклах. Пры ўездзе ў суседнюю Слабодку на крутым узгорку конь не вытрымаў — сканаў. Тут загінуў шосты — уцячы не было куды.

Ціха дакрануўшыся да шчакі, апусціўся на плячо лісток. Я ўстрапянуўся.

Стаю, прыхінуўшыся да плота. Над галавой рабіна. Шэпчацца лісце.

Ноч зорная, ціхая. У двары Марцiяніхі чутна, як бразнула завала ў сенцах. Расчыніліся дзверы, і з газніцай у руках, нават не прыкрываючы яе, асцярожна к хлеву пасунулася Марціяніха. Відаць, паглядзець на карову. Не спіцца старой...

— Глядзі ж зайдзі, сынок,— гаварыла.

— Зайду, абавязкова зайду, маці...

Разразаючы тугое начное паветра, са свістам праляцеў рэактыўны. Мабыць, дзяжурны.

Потым зноў запанавала цішыня, набрынялы начнымі летнімі пахамі змрок. Зрэдку чырвоным вуголлем датлявалі рэдкія вокны дамоў. Вёска ўсур'ёз масцілася на сон.

ПАЭЗІЯ

• ———

•• *Дурніцы*

••• ———

•••• ———





## Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ

●

Мы прывыклі да лёгкай патэтыкі,
Да расы, верасоў і крыніц.
Пэўна, стаў бы з нас кожны
аптэкарам,
Насушыўшы малін і чарніц.
У лясы, у бары зашываемся,
Тут лягчэй адшукаць даніну.
А не помнім, як з «аўсвайсамі»
Ля грудзей нёс падпольшчык міну.
У вачах пацямнела — выдалі —
На паўнеба раслі акацыі,
Бо не ў сілах і міна вытрымаць
Сэрца палкага дэтанацыю.
А ў барах і сягоння гільзы
Вочы мне выядаюць жахам.
Трасцянца і Дахау прысак
Запаўзае ў душу вужакай.
Мы прывыклі да лёгкай патэтыкі,
А ў гарачых гадоў свячэнні
Не хапіла камусь паветра,
Песні — гордага нараджэння.

●●

Абросяць спадніцы
На золку кабеты.
Бягуць па дурніцы,
Па спелае лета.
О, сінія слёзы,—
Няма ў тым віны:
Без чаркі цвярозы
Тут стане п'яны.
Жанкі-маладзіцы,
Алены і Тосі,—
Злуюць брыгадзіры:
— Дзе чэрці іх носяць?

І толькі пад вечар
Прыходзяць кабеты.
Ім муляе плечы
Салодкае лета.



А рыдлёўка бегала па градах,
Дыхала напорыста зямля.
І душа свяцілася, як радасць,
Калі ты пад вішнямі цвіла.

Ты рукой разводзіла карэнне,
Апускала ціха ў глыбіню.
Над табой галінкі, як арэлі,
Калыхалі плаўна цішыню.

Нешта тут было ад мацярынства,
Ад чуцця улады на зямлі...
У тваіх далонях прамяністых
Хілыя раслінкі ажылі.

Аж прыціх хлапец у агародзе:
Бо шнуры заблытаныя хмелю
Ты па тыне да яго наводзіла,
Нібы провад да свайго вяселля.



Помню я: ткала палотны,
Плавалі два чаўнакі.
Вяла мяне ты, малога,
Слаць палатно да ракі.

Колькі дзіцячай уцехі
І весялосці было.
Ногі, як самі хацелі,
Неслі мяне за сяло.

Вось і палотны пасланы,
Нібы дарогі ляглі.
«Ты не будзі мяне рана»,—
Словы ў душы ўзышлі.

Мама, ты мне раскаціла
Светлае ў шлях палатно.
Еду да роднай хаціны —
З песні саткана яно.

ПРОЗА

● Уладзімір МЯЖЭВІЧ

● Мал. В. ШРАМЯКОВА



АДПЛАТА

БЫЛЬ

## ТЫ, ЯНКА, ДЗІВАК

алі Янку Буцько прынялі ў камсамол, ён сваёй радасцю падзяліўся з Сымонам Каратковым, сябрам дзяцінства.

— Зайздрошчу табе,— сказаў Сенька.

— Цябе таксама прымуць, калі падасі заяву.

— Табе што — няма бацькі, ты сам сабе гаспадар! У мяне інакш. Бацька заб'е да смерці, калі дазнаецца, што хаджу на сходы.

Бег час, Янка думаў, як памагчы сябру. Аднойчы Буцько сказаў Сымону:

— Няхай толькі твой бацька паспрабуе цябе крануць, мы яго адразу выклічам на бюро і дадзім такую прачуханку, што ён дзесятаму закажа! Такое ў нас ужо было. Памятаеш, я табе расказваў пра старога Гульцова, што не пускаў дачку на сход?

І Янку панесла фантазія.

Сенькаў бацька, Іван Іванавіч Караткоў, вінавата стаіць у клубе, а перад ім Барыс Тылецкі. Прытрымліваючы левай рукой драўляную кабуру «маўзера», правай сячэ паветра і кідае цяжкія, як камені, словы ў Караткова. «Мы ведаем, хто накіроўвае вашы рукі супраць камсамольцаў — гэта справа кулака Завароўскага! Ён падбухторыў вас, цёмнага чалавека, пабіць уласнага сына, які змагаецца за сусветную рэвалюцыю! Як вам, бедняку, не сорамна ісці на повадзе ў кулака? Папярэджваем, што мы гэтага

не пацерпім!» Бацька перамінаецца з нагі на нагу, нясмела кашляе і нарэшце кажа: «Даруйце, больш не буду».

Янка цераз плаціну бяжыць на фабрыку, каб расказаць Барысу, што ў Крывушы можа быць адным камсамольцам больш, калі як след прыструніць старога Караткова. Ні ў клубе, ні ў тым пакоі, дзе звычайна працуе Барыс, Янка не знаходзіць Тылецкага.

— Я бачыў, Барыс пайшоў у парк,— кажа Янку камсамолец Лёня Шаблоўскі.— Пашукай яго там.

Былы парк барона Корфа займае многа гектараў. Ён пачынаецца адразу за палацам і цягнецца з аднаго боку да самага возера, а з другога да дарогі на Вялікія Якаўлевічы. Ліпавыя, кляновыя, каштанавыя і срабрыстай піхты прысады бягуць уздоўж і ўпоперак. Зараснікі шыпшыны, кветнікі. Паміж імі альтанкі, лаўкі, тэнісны корт, пляцоўка для гульні ў кеглі. Тут некалі забаўляліся барон і яго госці. Цяпер на гэтых пляцоўках — турнікі, трапецыі, драўляны конь. Не раз Янка бачыў, як Барыс на турніку робіць «сонца». Зайздросціў Тылецкаму. Аднойчы на пляцоўцы нікога не было, і Янка ўзлез на турнік. З зямлі дацягнуцца не мог, бо малы ростам. Учапіўся за жалезіну рукамі і паспрабаваў разгойдацца, каб выкруціць тое самае «сонца». Добра, што ніхто не бачыў, як ён тады грымнуўся аб зямлю. Было б смеху і кпінаў...

Хоць на небе зззяе месяц і святлом залівае парк, Буцько заходзіць у такі густы цень, што нічога не бачыць. Ён дарэмна бегае ад адной да другой альтанкі, спадзеючыся знайсці Барыса. Можа ён дзе схаваўся і абдумвае меры барацьбы з бандытамі? Пятнаццацігадоваму Янку няўцям, што ў парку можна займацца і нечым іншым...

Ад каштанавых прысад, нібы атожылак, ідзе прыгожая дарожка, абсаджаная жоўтай акацыяй. Яна засыпана белым пяском. Янка чуў, што гэты пясок барон прывозіў здалёк, нібы з-за Крычава. Вядзе тая дарожка на густа зарослыя шыпшыннікам могілкі. Стаіць там прыгожая альтанка. Вакол яе, як вартавыя, срабрыстыя піхты.

Можа, Барыс на могілках? Хоць і страшна познім вечарам ісці туды аднаму, але Янка павінен памагчы свайму сябру Сямёну. Трэба толькі адшукаць Тылецкага. Буцько затрымаўся на хвіліну ў самым пачатку прысад, махнуў рукой,— «што будзе, то будзе»,— і рашуча пабег па дарожцы. Быў басаног, у палатняных штанах, пафарбаваных у альховай кары, і ў такой жа кашулі.

Апынуўшыся каля альтанкі, Янка аж жахнуўся ад таго, што там убачыў. У Барыса на каленях сядзела дзяўчына ў белай сукенцы, і, як здалося Буцько, Барыс яе цалаваў. Янка не кінуўся ўцякаць, хоць гэта яму вельмі хацелася зрабіць, а дачакаўся, калі дзяўчына сказала: «Ах, Бора, мне сорамна». «Чаго ж табе, Гэля, сорамна, калі я цябе кахаю?» — пачуў Янка нейкі дзіўны, незнаёмы, пяшчотны Барысаў голас.

«Гэля, Гэля...— углядаючыся ў твар дзяўчыны, думаў Янка.— Якая ж гэта Гэля?»

Яго не бачылі, бо Янка стаяў за бліжэйшым дрэвам, а месяц кідаў на піхту цень ад альтанкі. О, здаецца прыгадаў! «Гэта ж дачка арандатара!» — ледзь не крыкнуў Буцько. Яна вучыцца, здаецца, у Маскве, а сюды, на фабрыку, прыехала на канікулы. Яе бацька — адзін з двух арандатараў. Яны арандуюць былую баронаву суконную фабрыку. Пра іх рабочыя кажуць, што гэта нэпманы, каб толькі ім даць уладу, ціснулі б не горш за барона. Але фабком, са Сцяпанам Голікавым на чале, камуністы, камсамольцы не даюць нэпманам разгону, падразаюць крылы. «Нэпманы — нашы ворагі, мы іх церпім

толькі часова,— гаварыў аднойчы на сходзе Барыс Тылецкі.— Адновім гаспадарку і дадзім нэпманам каленам пад зад». «Значыць, нэпманам каленам, а нэпманскім дочкам — пацалункі»,— хваляваўся Янка. Такой здрады ён не чакаў ад свайго сакратара.

Чаму ён, дурань, не пакахаў камсамолку Соню Мастовіч, калі без гэтага буржуйскага перажытку нельга было абысціся? Хіба ж наша Соня горш за гэтую класава варожую дзяўчыну?

Крыўда сціскала сэрца. Янка ж спадзяваўся, што Барыс у парку думае-гадае, як перахітрыць, злавіць атамана банды, а яно вунь што...

Усё гэта надало Янку смеласці.

— Барыс, хадзі сюды,— выступіў з ценю Янка.

Барыс азірнуўся і пазнаў Буцько.

— Што здарылася? — сумеўся ён, засланяючы сваёй постаццю дзяўчыну.

— Мне трэба тэрмінова з табой... пагаварыць...

— Гэта так неадкладна?

— Але.

Барыс выйшаў з альтанкі.

— Што там такое?

— Разумееш,— перамагаючы сябе, заспяшаўся Янка.— Сенька Караткоў хоча падаць заяву ў камсамол, але бацька яго папярэдзіў, што заб'е, калі ён гэта зробіць.

— Ну?!.

— Трэба папярэдзіць бацьку, каб не распускаў рукі.

— Але што ты ад мяне хочаш?

— Хто ж яго папярэдзіць, як не ты?

— Хм, здаецца, нажыў я сабе клопату, прыняўшы цябе ў кандыдаты...

— Што ты сказаў? — перапытаў Янка.

— Сказаў, што ты, Янка, дзівак. Няўжо табе іншага часу не было, каб расказаць пра Сеньку і яго бацьку?

— Мне ж заўтра да ўсходу сонца ўставаць на работу. А вярнуся, калі сцямнее... А Сенька напісаў ужо заяву. Усё можа здарыцца.

— Гэта яго бацька з такой шырокай барадой, як у князя Крапоткіна? Часта сядзіць на прызбе...

— Ага.

— Добра, бяжы дахаты і кладзіся спаць, заўтра я сам падыду да Сенькавага бацькі. Пагавару з ім. Скажы Сеньку — няхай падае заяву ды шукае паручыцеляў,— неяк адразу памякчэў Барыс.— Думаю, што прымем яго. Ён добры хлапец...

## ЖНІВЕНЬСКІМ РАНКАМ

Хоць у полі была няўпраўка, Янка на два дні адпрасіўся ў маці, каб памагчы сельсаветчыкам. Па старой звычцы, некаторыя хутаране стараліся схаваць ад уліку авечак, свіней, а некаторыя і кароў заганялі ў лес.

У тым годзе сяляне ўпершыню падатак плацілі не збожжам, бульбай, ільнасемем, яйкамі, а грашыма.

На Субараўскіх хутарах, дзе Янка працаваў разам з сакратаром сельсавета Пілiпам Акулавым, да іх падышоў вельмі дапытлівы дзядок, у святочных лыкавых лапцях з белымі, як снег, анучамі і вераў-

чанымі аборамі. А пастрыжаны дзед быў пад гаршчок, чыста паголены, меў пышныя, генеральскія, вусы.

— Можна мне ў вас запытаць, таварышы? — пачаў дзед.

— Чаму ж не, пытайце, калі ласка,— сказаў Піліп Акулаў.

— Якімі грашыма можна плаціць падатак?

— Якімі б вы хацелі? — усміхнуўшыся, запытаў Піліп.

Дзядок ссунуў на лоб старую армейскую шапку з аблупленым казырком, пачухаў патыліцу.

— Каб мікалаеўскімі, га?

— Не, мікалаеўскіх не бярэм.

— А думскімі?

— Таксама.

— А керанкамі?

— Хіба керанкі лепш за думскія?

— Канечне, горш. Але што з імі рабіць?

— Аддайце ўнукам, няхай забаўляюцца.

— А можа яшчэ спатрэбяцца калі?

— Не дачакацца больш таго, дзядуля.

Стары пакруціў галавой, рукой дакрануўся да вуса.

— А скажыце, людцы добрыя, чаму гэта чырвонцы такія дарагія?

— А хіба гэта кепска, што ў нашай дзяржаве цвёрды рубель?

— Каму як...

— Не разумею,— паглядзеў Акулаў на дзеда.— Што гэта значыць: «каму як»?

— А тое значыць,— весела бліснуў вачыма вусач,— што не ўсім гэта падабаецца. Казаў мне адзін, што хацеў трохі золата памяняць на чырвонцы. Паехаў у Оршу. А яму за залатую дзесятку даюць толькі восем рублёў савецкімі...

— У банку?

— Хіба ён дурань, каб сунуцца ў банк? Недзе там, ля Аршыцы, на рынку... Калі гэта было, каб паперка цанілася даражэй за золата?

— Дык яна ж не проста паперка, а забяспечана золатам,— сказаў Янка.— Каб ваш знаёмы зайшоў у банк, яму б, напэўна, памянялі рубель на рубель. А чаму ён не хоча ісці ў банк? Хто гэты чалавек?

— Будзеш, хлопец, многа ведаць, рана састарэеш,— сказаў дзед і, не развітаўшыся, падаўся на дарогу.

Акулаў і Буцько пагледзелі яму ўслед.

— Ці ведаеце вы гэтага чалавека? — запытаў у гаспадара Піліп Акулаў.

— Крыху ведаю,— азваўся гаспадар.— Здаецца, яго прозвішча Катковіч. Жыве ён недзе за Рманоўкай. А гаварыў ён, відаць, пра Завароўскага. Яны старыя сябры. І чаго яго сюды прынесла нялёгкая?

Акулаў і Янка пераглянуліся. Калі гаспадар выйшаў, Янка сказаў:

— Завароўскі недзе хавае багата золата. У яго больш за шэсць тысяч рублёў. Праз гэтае золата раней часу на той свет пайшоў Лявон Тымкевіч, а яго сын Ціма на ўсё жыццё калекам застаўся. Якнебудзь я табе раскажу гэтую гісторыю. Цікава, навошта Завароўскаму спатрэбілася мяняць золата на чырвонцы?

— Думаеш, пра яго гаварыў дзед?

— А пра каго ж яшчэ?

— Сапраўды, цікава было б дазнацца,— падумаўшы, сказаў Акулаў.— Ён жа, здаецца, твой сусед? Паспрабуй разведаць...

— Вельмі скрытны чалавек. Яго на казе не аб'едзеш. Ні баба

Наста, ні сыны, якіх ён пааддзяляў, мусіць, не ведаюць, дзе стары хавае грошы. Людзі кажуць, што, як яны за ім ні сачылі, нічога не дазналіся...

Пераначаваўшы на хутары, Янка раніцай пайшоў дамоў.

Неадольная сіла хараства цягнула пад векавыя шаты дубоў і соснаў. Хацелася завярнуць у лес, прайсціся пад дрэвамі, паслухаць шэпат лісця і перасвіст птушак, падыхаць водарам лясных кветак.

Янка ішоў, а мары, як пчаліны рой, віліся і неслі далёка ад роднага дома, на берагі Нявы, дзе ў маладосці жыў і працаваў на заводзе Пуцілава яго нябожчык-бацька. Пабыць бы там і самому глянуць на горад, пра які ён так многа чуў у доўгія зімовыя вечары ад бацькі. То яго думкі неслі ў Маскву, дзе вучыўся блізкі сябар — Альбін.

Пад нагамі нешта хруснула. Янка нахіліўся. Баравік. Такі крамяны, прыгожы. Шкада, што раструшчыў. Прыгледзеўшыся, Янка тут жа ў чарнічніку знайшоў другі, трэці, ладную сямейку. Хутка пад дубам вырасла першая грудка. А потым і другая. Выйшаўшы на край лесу, Янка знайшоў так многа грыбоў, што аж здзівіўся: як іх тут не пабралі? Вочы бачылі больш, чым паспявалі рукі з нажом. Набралася так многа баравікоў, што прыйшлося здымаць кашулю. Янка садраў з ліпавай галінкі палоску лыка і завязаў кашулю з грыбамі.

Ён выйшаў на сцежку і пачаў насвістваць новую песню, што спявалі на апошнім камсамольскім сходзе: «Здэх Пілсудскі, здэх». Ідучы дахаты, ён угледзеў, як з-за гумнаў нехта выехаў на кані. Хто ж гэта едзе яму насустрач?..

Завароўскі, запрогшы ў калёсы на жалезным хаду шэрага ў яблыкі жарабца, ехаў па снапы. Ён сядзеў у перадку, паставіўшы на аглоблі ногі. Баба Наста, маленькая, сухая, вастраносая, падобная на сівcaptaronку, сядзела спіной да дзеда, спусціўшы з воза ногі. Рукой яна прытрымлівала рубель, што на кожнай калдобіне стукаў яе.

Бабка даўно не ездзіла па снапы, можа хіба толькі ў маладосці, калі памагала бацьку. Цяпер жа вось едзе. Андрэй Завароўскі скардзіцца на рукі: сноп як след не можа пакласці на воз. Першыя рады яшчэ выкладзе так-сяк, а калі вышэй, то рукі не слухаюцца. Усіх сыноў пааддзяляў, дачок замуж пааддаваў. Ва ўсіх цяпер свае сем'і, свае клопаты, і пра старых ніхто не дбае.

Дзед Андрэй адмовіўся ад батракоў, разлічыў апошніх. Мала што галадранцы-камсамольцы зямлю адрэзалі, дык яшчэ падбухторылі батракоў, каб патрабавалі падпісаць з імі нейкую ўмову. Толькі таго і не хапала, каб сам Завароўскі, першы ў акрузе гаспадар, распісваўся з тымі злыднямі на адной паперы!

Хутка, пэўна, канец свету настане, думала Наста, бо ўсё робіцца толькі на радасць д'яблу. Век яна звекавала, дзяцей пагадавала, усіх пажаніла, колькі дабра нажыла, а кніжак тых і ў руках не трымала. Цяпер жа камсамольцы не даюць жыцця. Прыходзяць у хату і загадваюць, каб брала буквар. Кажуць: «Будзем цябе, бабка, грамаце вучыць». Ах, каб вас сыра паламала з вашай граматай!

Бабка здзівілася, што паўтарае дзедаву прымаўку. Ён і рота не раскрые, каб не сказаць сваё: «каб цябе сыра паламала». Чым старэ, тым скваппнее. Іншы раз палезе ў печ па вугольчык для сваёй люлькі, качаргой гаршкі паварочае, а запалку шкадуе. А яшчэ зусім нядаўна хаваў ад Насты гарэлку, на якую грошай не шкадаваў. Як толькі паедзе ў Оршу ці Копысь, абавязкова прывязе дваццаць, а то і трыццаць пляшак гарэлкі. Па дарозе дахаты пахавае: то ў ельніку суне адну-дзве пляшкі пад які корч ці ў дупло, то ўторкне дзе пад страхой, або

ў канюшыну за пуняй, у бульбянішча на гародзе, ці занясе ў лазню. Потым, небарака, шукае, не знаходзіць, злуе, лаецца, не падазраючы, што суседскія хлопцы падгледзяць і павыцягваюць яго бутэлькі.

Бабка так захапілася сваімі думкамі, што раптам голасна сказала:

— Старэе, дзед, старэе...

Жарабец ішоў паціху, спакойна па роўнай дарозе каціліся калёсы. Дзед Андрэй павярнуўся да жонкі:

— Што ты там кажаш, Наста?

— Нічога. Гэта табе здалося...

Калі Завароўскаму з двух валок пакінулі толькі паўвалокі, а паўтары адрэзалі і перадалі былым парабкам, ён прадаў трое коней, а сам застаўся з двума: жарабцом і гнядой кабылкай. Раней жарабец Арол запрагаўся толькі ў лёгкую лінейку. Завароўскі на ім ездзіў у воласць ці ў госці да бацюшкі, з якім здаўна сябраваў. Ні ў плузе, ні ў баране Арол не хадзіў. Цяпер жа Завароўскі араў на Арле, вазіў сена, дровы, снапы. Але цяжкая праца, здаецца, не змяніла нораву жарабца. Ён не адзін раз паказваў свой круты характар, гарцуючы па полі, не зважаючы на цуглі, што раздзіралі яму рот.

— Я табе пакажу, падла, каб цябе сыра паламала! — гразіўся дзед і круціў над жарабцом бізуном.

Арол касавурыўся, жоўтым вокам паглядаючы на свайго гаспадара. За рыжай у падпалінах барадой не відаць быў дзедаў твар. Толькі шырокі з чырвонымі пражылкамі нос выторкваўся ды глыбока ў ямках пад застрэшкамі броваў хаваліся маленькія бліскучыя вочкі. Арол нібы разумеў дзедаў гнеў, на час сцішваўся.

— Жывёліна, а не горш за чалавека разумее...— сказаў сам сабе Завароўскі.

Ён угледзеў, што ад лесу па сцежцы ідзе нейкі чалавек. Нешта белае трымае на галаве. Дзіўна! Хто ж гэта такі? Што ён нясе?

Чым бліжэй падыходзіў чалавек, тым больш непакоіўся Андрэй Завароўскі.

— Наста, глянь-тка, што за дзіва такое? — прытрымліваючы жарабца, павярнуўся да жонкі дзед.

— Дзе?

— Уперадзе, на дарозе.

Баба Наста хуценька, па-птушынаму, крутанулася і, засланіўшы даланёй ад сонца вочы, пачала ўглядацца.

— Хто яго ведае... Нейкі чалавек.

Дзед лейцамі крануў жарабца. Арол махнуў хвастом, раптам выгнуў шыю і, ускінуўшы заднія ногі, так ірвануў з месца, што бабка Наста, як мячык, зляцела на зямлю, а Завароўскі, упершы-



ся нагамі ў аглоблі, з усяе сілы пачаў нацягваць лейцы. Жарабец. перамагаючы боль ад цугляў, угнуў галаву і пайшоў капыціць.

Усё адбылося імгненна. Жарабец ускінуў ногі, брыкнуўся: дзед паваліўся дагары. Ногі з'ехалі з аглабель, цела саслізнула з перадка на дол. Нізка пасаджаны шворан падчапіў Завароўскага і правалок яго метраў з дзесяць па ржэўніку, пакуль не трапілася разора.

Баба Наста кінулася да старога, апусцілася на калені і старалася перавярнуць яго на спіну, але не хапала сілы. Падбег Янка і паціху, каб старому не зрабіць балюча, памог бабцы. Але дзед Андрэй быў нежывы.

## ПРАКЛЯТАЕ ЗОЛАТА

Ціма і Янка сябравалі з малых год. Адзін без аднаго — нікуды.

— Янка, хадзем хутчэй! — цягнуў за рукаў Ціма малога Буцько.

Яны выйшлі на вуліцу.

— У нас няма нікога дома, усе на полі,— спяшаючыся, гаварыў Ціма.— Збегаем да тваёй цёткі Вікці. Я папрашу ў яе таго маленькага ключыка, які мой татка ўчора пазычаў адамкнуць сваю шкатулку. Ён свой згубіў.

— А навошта табе тая шкатулка?

— Каб ты бачыў, якія там цацкі! Аж гараць!

— Дык ідзі сам.

— А раптам твая цётка не паверыць? Тады скажаш, што татка прыслаў.

— Я не люблю хлусіць.

— Кіўнеш галавой, і ўсё. Я скажу, што ты чуў, як татка мне наказваў, каб хутчэй прынёс ключык.

— Ну, добра, хадзем,— згадзіўся Янка.

Цёткі Вікці не было дома. Малыя пабеглі за гумны, дзе на вузкіх палосках жнеі жалі жыта. Іржышча балюча калола ногі. Янка аж прысядаў ад болю, слёзы самі сыпаліся з вачэй. Ціма быў у шлапаках. Ён бачыў, як моршчыўся Янка, і, скінуўшы з ног шлапакі, аддаў яму.

— Надзявай, а я так пабягу.

Цётка Вікця не хацела адставаць ад суседак і порстка гнала свой загон. Адной рукой захоплівала жыта каліва да каліва, а другой хутка падразала сярпом. Калі набіралася добрая жменя, цётка Вікця клала яе на раней прыгатаванае перавясла. Дзесятак такіх жмень — і выходзіў ладны сноп.

Цётка аглянулася і ўбачыла хлопцаў.

— Гэта ж ці ты, Янка? — здзівілася цётка.

— Я... з Цімам прыйшоў.

Тут Ціма падаўся наперад.

— Мяне татка прыслаў,— пачаў ён.— Просіць у вас ключыка. Таго самага, што ўчора браў у вас.

— А твой татка хіба дома, а не ў манапольцы? — зірнула на Ціму цётка Вікця.

Ціма крыху сумеўся, але тут жа скеміў, што сказаць:

— Дома. Яго і Янка бачыў.

Янка кіўнуў галавой.

Цётка Вікця падумала трошкі. Учора Лявон, Цімаў бацька, сказаў жартам, а можа ўсур'ёз, што пакуль ён заменіць замок, яна, Кандраціха, адна будзе ведаць яго таямніцу. Якую таямніцу? Не рашылася ўчора перапытаць, хоць гэта і цікавіла яе. Пэўна, чалавек нешта хавае. А што ёй да таго? Няхай сабе хавае. Яна яшчэ раз паглядзела на малых.

— Чаму бацька дома?

— Нага ў яго вельмі баліць,— схлусіў Ціма, а Янка зноў кіўнуў галавой.

Цётка адвязала ад фартуха ключы, выбрала сярод іх самы маленькі.

— Глядзі ж не згубі! Увечары прынясеш.

— Добра, цётачка, прынясу.

У вёску Ціма бег што меў сілы. За ім ледзь паспяваў Янка.

Дом Тымкевічаў стаяў за векавымі ліпамі і клёнамі, што сваім разгалістым веццем хавалі ад людскога вока вялікую хату, клець, браму і паркан сядзібы. І сам гаспадар, Лявон Тымкевіч, з дзяцінства кульгавы, не вельмі любіў паказвацца на людзях. Адна яго нага не разгіналася ў калене. Ён здаўна скакаў на мыліцы.

На гаспадарцы ўпраўлялася жонка, а сам Лявон у манапольцы прадаваў гарэлку. Жылі Тымкевічы, як усе, нічым сярод вяскоўцаў не вызначаліся. Сёй-той гаварыў, што ў Тымкевічаў грошай куры не клююць, але ніхто грошай манапольшчыка не лічыў. Ці мала аб чым языкамі мелюць...

Калі хлопчыкі вярнуліся ў вёску, сонца стаяла над галавой. Было горача і душна. З вуліцы брама і веснічкі ў Тымкевічаў былі закладзены засаўкай. Ціма пералез цераз паркан, адчыніў Янку фортку. Дзверы ў хату таксама былі замкнёны. Ціма выцягнуў з-пад дошкі ключ і спрытна адамкнуў замок.

У чорнай палавіне, дзе былі вялікая печ, палок і стол, а ля дзвярэй віселі хамут, лейцы, аброці, роем віліся і гулі мухі, стаяла такая духата, што нечым было дыхаць.

— Сюды,— сказаў Ціма, адчыняючы дзверы ў чыстую палавіну.— Толькі хутчэй, а то наляцяць мухі. Ганька будзе лаяцца.

Янка ведаў старэйшую сястру свайго сябра, бо разы са два, калі Ціма заводзіў яго на чыстую палавіну, Ганька іх выганяла адтуль. Але Янка ведаў, дзе і што стаіць на чыстай палавіне, якія абразы на покуце пад ручнікамі, як выглядае скрыня, Ганьчын ложак, засланы крамнай посцілкай.

Ціма падвёў таварыша да скрыні.

— Тут таткава шкатулка. Пачакай, я зараз адамкну.

Ён выбег і праз імгненне вярнуўся з ключом у руках.

На скрыні, як на клеці, вісеў цяжкі замок. Ключ шчоўкнуў, замок адамкнуўся. Ціма паклаў яго на падлогу і ўзняў века скрыні.

— Памажы, Янка,— папрасіў ён сябра.

Хлопчыкі ўдвух ледзь выцягнулі са скрыні цяжкую дубовую шкатулку, паставілі ля сваіх ног. Ціма пазычаным ключыкам адамкнуў яе, узняў вечка. Першае, што Янку кінулася ў вочы,— прыгожыя паперкі. З арламі. Ціма іх сабраў і паклаў на падлогу. Пад паперкамі былі засекі. Не такія, як у клеці са збожжам, а маленькія. І не збожжа было ў іх, а зусім маленькія, трошкі большыя і яшчэ большыя бліскучыя кружочкі. У некаторых засеках іх было поўна-поўна, у іншых крыху менш.

— Бачыў! — хваліўся Ціма.— Зараз мы іх набярэм і пойдзем гуляць.

Янка ад здзіўлення, што і яму Ціма дасць гэтых бліпічастых цацак, разявіў рот і, нахіліўшыся над шкатулкай, стаяў нерухома.

— Трымай прыпол, Янка! — скамандаваў Ціма.

Ён стаў ля шкатулкі на калені, зубамі захапіў прыпол сваёй кашулі і сыпаў цацкі па чарзе: адну жменю сабе, другую Янку.

— Ты сабе дзве,— сказаў пакрыўджаны Янка.

— А зараз і табе дзве,— супакоіў Ціма.

Як пусцеў адзін засек, Ціма не выграбаў яго зусім, а пераходзіў у поўны. Зноў адну жменю сабе, адну Янку.

— Цяжка трымаць,— паскардзіўся Янка.— Глядзі, у цябе сыплюцца з прыполу.

— Ну, хопіць,— сказаў Ціма.— Калі вернемся, то падбярэм гэтыя, што на падлозе. А цяпер, ведаеш, давай пойдзем на Лысую горку і там будзем качаць гэтыя кружочкі.

— Да возера?

— Угу.

Цяжка нагрузіўшыся цацкамі, сябры асцярожна перайшлі вуліцу і па сцежцы цераз садок дабраліся да возера. Тут, насупраць сядзібы Тымкевічаў, была невялікая гара. Спускалася да самага возера. Схіл гары быў гліністы і гладкі.

Ціма высыпаў свае кружочкі на траву. Паставіў адзін з іх рубам і лёганька падпіхнуў. Кружочак пакаціўся ўніз. З разгону булькнуў у возера, узняўшы маленькі фантанчык вады.

— Ой, добра! — крыкнуў Ціма.— Высыпай, Янка, свае і пускай з гары. Паставім разам і паглядзім, чый хутчэй пакоціцца.

Пад абрывістым, крутым берагам была глыбокая яма. Калі яшчэ барон Корф не будаваў застаўкі, не было тут возера, а цякла рэчка Лешча, то яна пад правым высокім берагам павымывала віры.

З горкі адзін за адным са звонам несліся ўніз бліскучыя кружочкі, шлёпаліся ў ваду і знікалі на дне ямы.

— Глядзі, Янка, твой паваліўся.

— Не, гэта твой!

Хлапчукі не заўважылі, як за іх спінамі спыніўся Андрэй Завароўскі. Ён ішоў берагам ад папа і заўважыў малых на коўзкай, як шкло, гары. Яшчэ патопяцца, падумаў, і збочыў са сцежкі. Чые ж гэта малыя?

Па мяккай, шаўкавістай траве Завароўскі падышоў зусім блізка. Хлапчукі нешта бліпічастае скочвалі ў возера. Каменьчыкі? Не, не каменьчыкі. Адно імгненне і Завароўскі зразумеў, што малыя качаюць манеты. Золата!

Нейкая сіла раптам сарвала Завароўскага з месца і кінула напярэймы манеце, што імкліва неслася ўніз. Яму пашчасціла. На маленькім пагорачку манета падскочыла і шмякнулася на бок. Андрэй Рыгоравіч падпоўз і ўзяў яе на далонь. Гэта быў імперыял! 15 рублёў! Тут жа ляжала яшчэ адна, меншая. Залатая дзесятка!

У Завароўскага загарэўся твар, затрэслася, нібы ў ліхаманцы, цела. Што ж гэта такое? Адкуль у гэтых шпінгалетаў золата? Лежачы на баку, Завароўскі глянуў угору, дзе толькі што сядзелі малыя. Глянуў і здзівіўся — нібы іх ветрам здзьмула. Тады ён спахапіўся і, рызыкуючы сарвацца і скаціцца ў возера, папоўз на гару. Там за кустом бэзу ўбачыў хлапчукоў. Ціма і Янка хацелі ўцячы, але шкада было кінуць бліпічастыя кружочкі, што ляжалі ў траве. Завароўскі прапоўз крыху правей і таму не бачыў залатых манет.

— Гэта вы ад мяне пахаваліся? — сказаў ціха і ласкава Завароў-

скі, падыходзячы да дзяцей.— Можа не пазналі? Гэта ж я, дзядзька Андрэй. Нядаўна частаваў вас пернікамі, не памятаеце?

Першы з-за куста высунуўся Ціма, за ім Янка.

— Памятаем,— сказаў Янка.

— Ах вы, мае харошыя! Памятаеце. Вось добра. Хадзіце сюды. Я адразу і не пазнаў вас, думаў, што нейкія чужыя хлапчукі.

Завароўскі выцягнуў з кішэні дзве вялікія з кутасамі цукеркі і аддаў іх Ціму і Янку.

— Дзе вы ўзялі такія цацкі? — Завароўскі падкінуў на далоні залатыя манеты.

— У нас іх многа,— пахваліўся Ціма.

— А дзе ж яны? — у Завароўскага гарэлі вочы.

— Там,— паказаў на возера Ціма.

— У вадзе?

— Не, у вадзе мала, а ў траве многа.

— А ну, хутчэй паказвайце свае багацці!

Ціма пайшоў першы, за ім Завароўскі, а ззаду Янка. Яны пaціху спускаліся з гары. Раней, чым Ціма прыпыніўся, Завароўскі ўгледзеў сярод рамонкаў і званочкаў дзве кучкі золата. Яго так скаланула, што ён не ўтрымаўся, паслізнуўся і, як мех, напакаваны каменнем, пакаціўся ўніз. Ён сіліўся за што-небудзь ухапіцца, але дарэмна. Зразгону боўтнуўся Завароўскі ў ваду і, вынырнуўшы, так смешна фыркаў у вусы і рыжую бараду, што Ціма і Янка аж заходзіліся ад смеху.

Завароўскі выплыў крыху правей ад крутога берага. Там расла трава. Ён вылез з вады і хуценька пабег на гару, дзе ляжала золата. Пяцёркі, дзесяткі, імперыялы гарэлі на сонцы, бліскацелі і, як магніт, цягнулі да сябе Завароўскага.

— Дзе ж гэта вы, хлопчыкі, знайшлі столькі манет? — ад хвалявання ў яго аж дух займала.

— У татавай шкатулцы,— адказаў Ціма.— Там яшчэ ёсць.

— Многа?

— Менш, чым тут,— адказаў Янка.— Мы хацелі ўзяць больш, але ў прыполах не змясцілася.

— Добра, вельмі добра,— гаварыў Завароўскі, а сам не зводзіў вачэй з золата.— Мы з вамі, хлопчыкі, так дагаворымся. Вы мне дасце крыху гэтых цацак, і мы пойдзем да мяне ў краму. Там возьмеце чаго толькі захочаце — цукерак, пернікаў, арэхаў...

— А пугачы? Дасцё нам, дзядзька, пугачы?

— Не толькі пугачы, але і пробкі да іх дам.

— Пугачы, пугачы! — Ціма заскакаў на месцы і запляскаў у далоні.

— Калі хто будзе ў вас пытаць, дзе вы дзелі гэтыя манеты, то скажаце, што гулялі з імі тут, на гары. Пускалі ўніз, а яны скочваліся ў ваду, у вір. Дзядзьку Андрэю, гэта значыць мне, далі адзін маленькі кружочак. Добра?

— Добра, добра. Так і скажам.

Дзядзька Андрэй стаў на калені і жменямі пачаў сыпаць у кішэні пінжака і штаноў золата. Рукі калаціліся, манеты выкоўзваліся і падалі ў траву. Завароўскі шукаў іх, зграбаў у кучу і пхаў-пхаў у кішэні, азіраючыся па баках.

Спачатку ён хацеў пакінуць дзецям колькі манет, каб яны яшчэ трохі пагулялі тут, калі вернуцца з лаўкі на гару, але перадумаў.

— Што ж вы стаіцё, Ціма, Янка? —ускінуў на малых шалёныя вочы Завароўскі.— Памагайце мне выбіраць з травы кружочкі! Ці забыліся пра пугачы?

Ціма і Янка дружна ўзяліся памагаць. Яны поўзалі па траве, падбіралі і перадавалі дзядзьку кружочкі, што там-сям пахаваліся пад сцяблінкамі.

— Калі вам захочацца пагуляць у гэтыя кружочкі, то возьмеце яшчэ ў шкатулцы.

— Чаму ж не? — сур'ёзна, па-гаспадарску сказаў Ціма.— Там трохі засталося.

— А цяпер пойдзем са мной...

Праз паўгадзіны сябры зноў былі на тым жа месцы, над возерам. Тут яны разглядалі свае гасцінцы. А было там шмат чаго. Дзядзька Андрэй не пашкадаваў для іх прыгожых, каляровых, з пышнымі кутасамі паясоў. Сам падперазаў іх і напакаваў пазухі такімі рэчамі, што малым і ў сне не снілася.

Арэхі, халва, розныя цукеркі, пернікі перамяшаліся з сярнічкамі, папяросамі, карабкамі пробак для пугачоў. Самі ж пугачы, як найбольш каштоўныя здабыткі, Ціма і Янка не выпускалі з рук. Усе гэта было так незвычайна, нечакана, што малыя разгублена глядзелі на сваё багацце, не маглі прыйсці да розуму.

— Во, не скупы дзядзька! — паказваючы на кучу пачастункаў, сказаў Ціма.

— Аж не верыцца,— пагадзіўся з ім Янка.— А памятаеш, як ён сабакамі зацкаваў Глёка?

— Памятаю, канечне, але ж Глёк украў абаранак.

— Тыдні два хварэў тады Глёк.

Глёкам у вёсцы звалі Віцьку Сняпкова.

Расстраляўшы па цэлым карабку пробак, Ціма і Янка адчулі, што добра прагаладаліся. Накінуліся на гасцінцы. Перамурзаліся ліпучай халвой, панабівалі раты цукеркамі, пернікамі. Напіўшыся ў возеры вады, курылі папяросы. Нарэшце, заснулі пад кустом бэзу.

Тут іх і знайшлі Тымкевічавы суседзі, калі вярнуліся з поля.

Цімкава маці, а яшчэ больш Янкава, надта здзівіліся, адкуль у малых пугачы, цукеркі, халва. Хлапчукоў нельга было дабудзіцца. Так іх сонных і забралі дахаты.

Трывога ўзнялася пазней, калі Лявон Тымкевіч вярнуўся з манапалькі і зайшоў у чыстую палавіну хаты. На падлозе валяліся вэксалі, стаяла расчыненая спустошаная шкатулка.

— Ратуйце! — крыкнуў Тымкевіч, а сам кінуўся падбіраць з падлогі вэксалі.

— Чаго ты, Лявон? — прасунулася ў дзверы жонка.

— Абакралі, абакралі!

Лявон паказаў жонцы шкатулку. Ён не разумеў, чаму зладзеі пакінулі вэксалі, некалькі кацярынак і трохі золата. Можа хто перашкодзіў ім? Значыць, ёсць чалавек у вёсцы, які іх бачыў. Дзе ён, як яго знайсці?

У хату ўвайшла суседка Вікця. Яна чула, як Лявон крыкнуў: «Ратуйце!», устрывожылася і прыбегла сказаць, што днём у яе ўзяў ключык Ціма, але не вярнуў. Той самы, што ўчора пазычаў Лявон Гаўрылавіч.

— Які ключык? — аслупянеў Тымкевіч.

— Самы маленькі, па які вы сёння днём прысылалі Ціму да мяне. З ім быў Янка...

— Я?! Прысылаў?..

— А хіба не прысылалі? — чуючы нядобрае, падалася да дзвярэй Вікця.

— Я з дому пайшоў, калі Ціма яшчэ спаў! А які гэта Янка?

бразнула. Ён нагой штурхануў дзверы. Яны расчыніліся. Каля скрыні на табурэтцы гарэла свечка, а на падлозе стаяла шкатулка. Лявон лічыў грошы. Убачыўшы Прохара, ён сыпнуў у шкатулку жменьку залатых манет і наваліўся грудзьмі на шкатулку. Ён калаціўся, як у ліхаманцы.

— З торбамі пусцілі мой і твой сынкі, Прахор! — крыкнуў Лявон, нібы баронячыся ад няпрошанага госця.— Абрабавалі! Забралі шэсць тысяч золата!

— Перастань галасіць! Няўжо табе грошы даражэй за жонку і сына? Кат ты, а не чалавек! Ты бачыў, што ты з імі зрабіў?

Тымкевіч схапіў шкатулку і прыцісну ў яе да сябе.

— Не дам, не дам, не падыходзь!

— Ты што, ашалеў? Навошта мне твае грошы?

«Яшчэ падумае чорт ведае што. Прападзі ён са сваім золатам,— сказаў сам сабе Прохар і падаўся за дзверы.— Падобна, што чалавек з глузду з'ехаў. Адкуль у яго столькі золата? Шэсць тысяч! Хто б мог падумаць! Жыў, як свіння, у гразі, насіў нейкія транты, атопкі, заўсёды стагнаў, што мала зарабляе ў манапольцы. Не раз зайздросціў мне. Во, скнара!»

— Знявечыў сына,— шапнула Прохару Вікця.— Калі і выжыве, будзе калекам. Трэба было б яго да доктара, але хто павязе ноччу.

— Я павязу,— сказаў Прохар. — Вы тут збірайце, а я пайду запрагаць каня.

Вікця бачыла першы раз, як у Прохара на вачах бліснулі слёзы. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але махнуў рукой і выйшаў.

У валасці ніякага доктара не было, а толькі адзін фельчар Цыганок. Прохару пашчасціла — фельчар быў дома. Цыганок агледзеў малога і загадаў неадкладна везці яго ў павятовую бальніцу. Напісаў туды запіску.

Толькі на трэці дзень Прохар вярнуўся дамоў. Ціму паклалі ў бальніцу.

Пакуль Прохар быў у дарозе, у вёску прыехалі станавы прыстаў і ўраднік.

Прохара на двары сустрэла жонка і пачала папракаць, што ў такі час пакінуў яе адну з малымі.

— Тры разы прыходзіў Лявон, чапляўся да Янкі, каб сказаў, дзе грошы. Глядзіць на мяне так, нібы я забрала яго золата. Янка перапалоханы і Лявона баіцца, як агню.

— А дзе ён зараз?

— Павялі на бераг возера, туды, дзе яны качалі з Цімам грошы.

— Як жа ты яго пусціла аднаго?

— З ім пайшлі Вікця і ўраднік з прыставам.

— Я пайду туды.

— І я з табою, Прахорка.

Хоць дзень быў жніўны і кожнага ў полі чакала работа, на беразе возера тоўпіліся ледзь не ўсе вяскоўцы. Не было толькі Андрэя Завароўскага. Сымон Купрэйчык першы даў нырца ў вір. Яму пашанцавала. Ён на дне знайшоў дзве залатыя манеты: імперыял і дзесятку. Знаходка падахвоціла іншых. Хлопцы скідвалі кашулі, саматканыя порткі і кідаліся ў ваду. Выцягнулі яшчэ шэсць манет.

Янка паказваў, як яны з Цімам качалі блішчастыя кружочкі. Дзе іх ставілі рубам, як яны каціліся і дзе прападалі ў вадзе. Прыстаў слухаў і нешта гаварыў ураднiку, а той пісаў у сшытак. Лявон Тымкевіч, счарнелы, стаяў, падпёршыся мыліцай, ля вады і перахопліваў кожнага з хлопцаў, як толькі той падплываў да берага, вынырнуўшы

з ямы. За дзесятку ён даваў грыўню, а за імперыял — па пятнаццаць капеек.

Ваду так ускаламуцілі, што нічога больш знайсці не ўдалося. Станавы падлічыў, што на дне ямы, калі праўду кажа Янка, павінна быць больш за чатыры сотні манет, а знайшлі толькі сем.

— Можа, хлопчык, вы яшчэ ў якім іншым месцы качалі кружочкі? — нахіліўся станавы да Янкі.

— Не, толькі тут.

— А колькі ж табе гадоў?

— Шэсць было вясной, а цяпер не ведаю...

— О, ты ўжо вялікі! Значыць, сёмы пайшоў. Малайчына,— пахваліў Янку станавы.— Дзе ж вы куплялі цукеркі, пугачы, папяросы?

Янка разгубіўся. Але тут да яго падышоў татка. Янка павесялеў.

— Мы не куплялі, нам дзядзька Андрэй даў.

— Ён вам цукеркі, а вы яму кружочкі, так?

— Не, ён казаў, каб мы яму далі толькі адзін самы-самы маленькі...

У натоўпе вяскоўцаў пачуўся стрыманы смех. Ураднік крыкнуў, і зноў стала ціха.

Так здарылася, што Прохар не меў магчымасці распытаць свайго сына пра гісторыю са шкатулкай. Ачмурэлы ад курэння, Янка спаў, калі бацька павёз у воласць Ціму. Прохар тады паслухаўся жонкі і не стаў яго будзіць. Куды малыя падзелі грошы — Прохар не ведаў. Ён цяпер уважліва слухаў, як прыстаў гаварыў з Янкам, а думаў тым часам пра Завароўскага. Гэты чалавек здатны на ўсё. Нездарма ў вёсцы пра яго казалі, што ён разбагацеў, абрабаваўшы пад Красулінскай гарой нейкага п'янага купца.

— Сынок, ты скажы дзядзьку, ці многа было ў вас гэтых кружочкаў,— шапнуў сыну бацька.

Янка ажывіўся.

— Многа, вельмі многа. Поўны прыпол у Цімы і ў мяне.

— Малайчына, Янка,— зноў пахваліў прыстаў.— Вы з Цімам насілі дзядзьку Андрэю манеты ці ён сюды прыходзіў сам?

— Сам прыходзіў! Насыпаў поўныя кішэні і павёў нас у сваю краму. Даў паясы. Напхаў нам пазухі арэхамі, цукеркамі...

Усё было зразумела.

Але Завароўскі не для таго браў золата, каб яго аддаваць.

— У той дзень мяне і дома не было,— сказаў ён прыставу.— Паклёп! Спытайце ў бацюшкі, ён пацвердзіць, што надвячоркам выйшаў ад яго. Хоць і не хацелася мне прызнавацца, але скажу: мы з бацюшкам увесь дзень рэзаліся ў ачко...

У прыстава ад нечаканасці аж дыханне перахапіла.

— У ачко? З бацюшкам? Ай-яй-яй!

— Прашу вас, пан прыстаў, аб гэтым нікому.

— А дзе ж малыя ўзялі пугачы і ўсякія прысмакі?

— Хіба такім таварам я адзін гандлюю? На фабрыцы барона аж два магазіны. Там усяго поўна. Можа мае ворагі так зрабілі, каб на мяне ўзвесці паклёп, а самі пакарысталіся. Угаварыць малых — раз плюнуць.

Прыстаў паехаў да папа, захапіўшы з сабой Лявона Тымкевіча.

— Чуў пра няшчасце, якое здарылася,— паспачуваў Лявону бацюшка.— Але дзіўлюся, як гэта вы, такі вопытны чалавек, трымалі ў сябе вялікія грошы ў нейкай скрыні, а адчынялі яе чужым ключом?

— Згубіў ключык, бацюшка. У суседкі знайшоў якраз такі. Заказаў новы замок, бацюшка, ды не паспеў пераставіць, бо сын...

— Хачу пасведчыць,— перабіў Тымкевіча поп,—што ў той дзень сапраўды ў мяне да цямна быў Андрэй Рыгоравіч. Грэх думаць дрэнна пра такога высакароднага, сумленнага, набожнага чалавека.

Спрабаваў Лявон судзіцца з Завароўскім, але не меў доказаў. Яму адмовілі, бо суддзі не маглі палічыцца з паказаннямі малога Янкі.

Ціму перавезлі ў губернскую земскую бальніцу. Там яму некалькі разоў рабілі аперацыю. Хутка ў «жоўты», вар'яцкі, дом завезлі і Лявона Тымкевіча. Адтуль ён не вярнуўся.

Завароўскі ж закрыў сваю крамку, заняўся гаспадаркай. Купляў коней і кожны год на выстаўкі выводзіў пародзістых жарабкоў. Не раз браў прызы. Сярэбраныя медалі, велічынёй са сподак, вешаў на сцяне побач з гадзіннікам і партрэтам цара Мікалая.

Ціма на ўсё жыццё застаўся калекам.

## ВОСЬ ЁН ЯКІ, СТАРЫ СВЕТ

Другі дзень у жнівеньскую спёку на покуце пад абразамі ляжыць дзед Андрэй. Гарыць, на ўсю хату чадзіць лампадка. Аднастайна над нябожчыкам чытае псалтыр Фёдар-манах.

Шыракаплечы, чырванатвары з расчасанай у падплешынах барадой, дзед Андрэй ляжыць у труне і, здаецца, усміхаецца з тых слоў, якія над ім чытае манах.

Перад расчыненым акном на хвіліну прыпыніліся камсамольцы Янка Буцько і Сымон Караткоў. Прыслухаліся. Фёдар гугнява чытае:

— Божа, сэрца мае трапечацца і смяротныя жахі напалі на мяне. Я знямог ад крыку, перасохла горла мае, стаміліся вочы мае ад чакання бога майго. Ненавідзячых мяне больш, чым валасоў на галаве маёй. Ворагі мае, што праследуюць мяне, памацнелі. Усе, што я адбіраў у іх, павінен вярнуць ім...

Янка і Сымон пераглянуліся.

— Глядзі, нібы пра нябожчыка напісана,— ціха сказаў Янка.— Толькі той апостал быў больш палахлівы. Завароўскі не баяўся ні бога, ні чорта. Здзіраў з жывога і мёртвага. Браў, але не аддаваў...

Праз расчыненую браму з двара на вуліцу адзін за другім выйшлі ўсе тры сыны Завароўскага, за імі дзве дачкі, і трушком, каб не адстаць ад дзяцей, спяшалася баба Наста. Малодшы, Піліп, нёс драбіну, сярэдні, Міхал, сахор і жалезныя граблі, а Майсей — пяньковае вужышча. Твары ва ўсіх былі заклапочаныя. Ніхто з іх на камсамольцаў нават не глянуў.

Цераз вуліцу ля прыгрэбніка была студня. Журавель узнімаўся ўпоравень з высокімі клёнамі, што, як салдаты ў страі, адгароджвалі вялікі сад Завароўскіх.

Усе шасцёра спыніліся ля студні. Піліп на вяроўцы спусціў у студню драбіну, а потым браты, абвязаўшы вяроўкай, паціху адправілі туды Піліпа. Ён захапіў з сабой сахор і граблі.

Не толькі Янка з Сымонам, але многія вяскоўцы глядзелі, што рабілася на сядзібе Завароўскага. Сыны, дочкі, баба Наста



хвіліны не стаялі ля нябожчыка, не маліліся богу, не прасілі нябожчыку збавення ад грахоў, не плакалі, а са сцятымі зубамі, заклапочаныя, другія суткі запар пераварочвалі ўсё ўгору дном у хаце, клецях, аборы, пунях, гумне, склепе, лазні. Не шкадавалі ні падлог, ні стрэх.

Шукалі золата.

Ведалі сыны і дочкі, што бацька меў золата, і нямала, а дзе схаваў — нікому не сказаў.

Янка думаў пра Завароўскага. Той, як толькі даведаўся, што Янка, Прохарышын сын, збіраецца ўступіць у камсамол, ледзь не кожны дзень пільнаваў, каб сустрэцца з ягонай маці. Пераймаў яе на вуліцы, ля возера, на полі ці яшчэ дзе.

— У цябе ж, Марыля, сямёра дзяцей! Няўжо не здагадваешся, якую бяду накліча на тваю галаву Янка, калі стане камсамольцам?

— Што я магу зрабіць, Андрэй Рыгоравіч? — у роспачы Прохарыха заламвала рукі.— Каб быў бацька, а то ж...— слязамі залівалася жанчына.

— Штодня кажы яму, смаркачу, што ў смале на тым свеце кіпець будзе! Языком лізаць гарачую патэльню!

Не спадзеючыся на пагрозы, Завароўскі рашыўся сам пагаварыць з Янкам. Ён сустрэў хлопца за вёскай, калі той на захадзе сонца вяртаўся з поля.

— Даўно хацеў цябе пабачыць, але неяк не выпадала,— лагодна пачаў Завароўскі.— Як ты жывеш, Янка? Чаму ніколі не заходзіш да мяне? Калі быў малы, памятаю, часцяком забягаў...

Сонца схавалася за лес, але ўгары, дзе высока над званіцай быў крыж, яшчэ ярка гарэлі апошнія праменні. Па зямлі ж сеяўся змрок. Янка адчуў, як нейкая гарачая хваля ўзнімалася з глыбіні яго душы.

— Я таксама памятаю, як Цімаву і маю пазухі вы напакоўвалі цукеркамі і папяросамі! Што, можа і цяпер хочаце чым-небудзь мяне пачаставаць?

Завароўскі ўзняў рукі, шырокімі далонямі нібы хацеў засланіцца ад Янкі. Ён не знаходзіў, што сказаць. Разгублена зірнуўшы на крыж, дзе згасалі апошнія кроплі святла, Завароўскі выціснуў з сябе:

— Пабойся бога! Што ты вярзеш, Янка?

Напамінак пра бога быў вельмі дарэчы.

— А чаму вы, Андрэй Рыгоравіч, не пабаяліся бога, калі забіралі чужыя грошы?

Завароўскі нібы не чуў Янкавых слоў.

— Ты ж разумны хлопец,— сказаў ён.— Навошта табе са мною настырацца? Ведаю, як вы жывяце. Ці ж я не памог бы сіротам, каб ты не яршыўся ды мяне слухаўся? Кінь думаць пра камсамол, ён не для такіх, як ты. Твой бацька быў добры чалавек. У камсамол жа ідуць адны шыбельнікі...

Гэта было ўжо занадта.

— Не, памыляешся, пан Завароўскі. Туды ідуць такія, як я, каб людзей не гнялі такія шыбельнікі і зладзеі, як ты!

— Глядзі, будзеш каяцца!— пачуў у адказ Янка.

У той жа вечар ён напісаў заяву і перадаў яе Барысу Тылецкаму.

— Будзем цябе прымаць у кандыдаты з гадовым стажам, як таго патрабуе статут,— сказаў Барыс.— Трэба дзве рэкамендацыі. Калі не знойдзеш — прыйдзеш да мяне, я напішу.

— У статуце я прачытаў,— сказаў Янка,— што паручыцелямі могуць быць не толькі камсамольцы, але і камуністы. Гэта праўда?

— Дзівак! Канечне! Знойдзеш камуністаў, тым лепш. Праўда, у нас іх вельмі мала.

Янка задумаўся. У каго ж папрасіць рэкамендацыю? Можа ў старых бацькавых сяброў-камуністаў?

Янка пайшоў да Сцяпана Голікава і Лукаша Барысенкі, расказаў, што яму трэба.

— А ведаеш, якую адказнасць бярэш на сябе,— паглядзеў у вочы хлопцу дзядзька Лукаш.— Ці хопіць стойкасці ў барацьбе з ворагамі?

Буцько прыгадаў сваю сустрэчу з Завароўскім.

— Вялікую адказнасць бяру на сябе,— сказаў ён.— Стойкасці ў мяне хопіць. Калі спатрэбіцца, жыццё аддам за рэвалюцыю!

— Жыццё трэба берагчы,— задумаўшыся, сказаў Лукаш Барысенка.— Яно даецца адзін раз.

І напісаў паручыцельства.

Сцяпан Голікаў сказаў, што ён з радасцю дасць рэкамендацыю сыну свайго старога сябра.

— Твой бацька быў бы камуністам, каб жыў у наш час.

На першым камсамольскім сходзе, у нядзелю, разгледзелі Янкаву заяву і аднагалосна прынялі яго кандыдатам у члены камсамола...

...Завароўскі ляжыць у труне, над ім у пустой хаце бубніць манах псалтыр, і нікога няма каля нябожчыка: ні яго дзяцей, ні сяброў, ні суседзяў. Янка чамусьці не адчувае да яго ні нянавісці, ні жалю.

Піліпа выцягнулі са студні, ён нічога не сказаў, а толькі крутануў галавою: няма! Але яму не паверылі. Можа, знайшоў, ды не хоча дзяліць на ўсіх, сабе пакідае. У студню палез Міхал, а пасля яго Майсей. Потым усе мужчыны палезлі на гарышча хаты.

— Хадзем,— сказаў Сымон.

З хаты чуваць быў голас Фёдара:

— Божа! Ты больш любіш зладзейства, чым дабро, больш хлусню, чым праўду...

— Малайчына, Фёдар! — сказаў Янка.— Ведае, што чытаць.

Падвечар пахавалі Завароўскага. На могілках былі толькі старыя.

Янка з Сымонам вярталіся з сельсавета, куды іх запрашалі на нараду. Пераплылі цераз возера, узняліся на пагорак, а там сцежка ўжо вяла па краі могілак. Спыніліся за бярозамі, паглядзелі, паслухалі.

Ніхто не плакаў, не галасіў, як звычайна бывае на могілках. На галаве ў Піліпа вецер варушыў чорныя кучары, а губы нешта шапталі. З-пад густых броваў зіркалі калючыя вочы.

— Паглядзі на Піліпа,— штурхнуў Янку Сымон.— Кляне бацьку.

— Жыў чалавек, рабаваў, а сыходзіць у магілу пад праклёны родных сыноў. Вось ён які, стары свет!

— К табе, божа, узношу душу маю! — зацягнуў дзяк.

— Прымі, божа мой!— адгукнуўся поп.

Янка крануў Сымона за руку. Яны моўчкі пайшлі сваёй сцежкай.

Сыны Завароўскага яшчэ доўга шукалі бацькава золата, але дарэмна.

— Праклятае яно,— сказала Прохарыха сваім дзецям.— Колькі праз яго людзі слёз пралілі, гора перанеслі. Можа так і трэба, што яно загінула без следу.

# ПАЭЗІЯ

## • Табе семнаццаць



Еўдакія ЛОСЬ



●

Табе — семнаццаць, чыстая вясна,
а ў вашым Пышне — лета на зыходзе.
Узгоркамі паўсюль садавіна,
і мёду густа ў кожненькай калодзе.
У агародах цешыцца дзятва.
Дзядзькі і хлопцы трактар асядлалі:
другога ўкосу сытная трава,
хаця б усю яе ссіласавалі!
Нагружан канюшынаю прычэп,
хістаецца пад грузам сакавітым.
І ў кожнай хаце падрастае хлеб —
са свежага, з пышнянскай нівы, жыта...

*

Да бацькі я, ён партызанам быў
і мо раскажа пра гады змагання...
А дзверы ў сені ты мне адчыніў,
нягучна адказаў на прывітанне.

Я думала: ты пойдзеш сам сабой,
ну, што табе расказы пра былое,—
пра бацькаў лес і пра вядомы бой
пад Лысаю — суседняю — гарою!

Застаўся ты, хоць быў ужо ў плашчы,
ісці збіраўся ў ботах нефасонных...
У вокны заглядалі касачы.
на вуліцы праехаў нехта конна.

Твой бацька, хоць не вельмі гаваркі,
загаманіў, як разгарнуўшы кнігу:

— І я пагойсаў праз баркі-туркі,
пачаўшы ардынарцам у камбрыга!

Прасіўся ў ардынарцы... А чаго?
Камбрыг быў коннік проста заліхвацкі!
Імкнуўся пераймаць ва ўсім яго —
у выпраўцы, у выглядзе салдацкім...

Ты слухаў, як і я,— бы ўпершыню,
адно што не запісваў на паперы...
Ты сам не бачыў ворагаў гайню,
яна ў твае не калаціла дзверы.

Не ранілі цябе ў баі лясным,
не выдаваў прадажнік паліцаям...
Ты хлебам не душыўся травяным,
у багне ты не прэў блакадным маем...

Але ты слухаў — слова не сказаў
і на сваёй не зварухнуўся лаве.
І хоць таго нічым не паказаў,
ты бацькавай быў рады простай славе.

Яму паклон шле колішні камбрыг,
яго ў глыбінцы, бачце, адшукалі...
Бадай жа не танней ад залатых
салдацкія, бацькоўскія медалі!

Тады пайшлі. Праводзілі мяне
да бальшака, дзе бегаюць машыны.
Прыбіўся дожджык ціха, нібы ў сне,
да гравію, што пахне канюшынай.

Татуля развітаўся і пайшоў,
а ты застаўся пад дажджом са мною,—
мой новы друг Валодзя Ермашоў,
народжаны харошай стараною.

Харошай — бо дала разлёт брывам,
і постаці — прываблівую гонкасць,
і ўсмешку сарамлівую — губам,
і голасу — непаказную звонкасць.

Іду з табой — і сэрцу харашэй,
і трошачкі журботна маладзіцы:
перарастаюць юныя вышэй,
ім у бацькоўскіх хатах не сядзіцца...

А што тут зробіш? Хай сабе ідуць,
у гэтым шчасце кожнага, хто шчыры...
І для цябе ужо свае гудуць
вятры і бальшакі кладуцца шырай.

Ты скончыў школу...
— А куды ж цяпер?
— Я здаў у інстытут, ішоў з удачай.
Аднапалчанін татаў у чацвер
званіў, што прозвішча у спісах бачыў...

— Ужо і выклік ёсць?
— Няма пакуль,
Але я не хвалююся...
— Шчаслівы!..
А сонца ўжо калоціць жоўты куль,
і не такі ўжо далягляд імглівы.

Мы падышлі да школы, ты свой клас
мне паказаў, дзе толькі парты стылі.
За школай узвышаўся тоўсты вяз,
яго, напэўна, прадзеды садзілі.

За вязам уздымалася гара...
Ты паглядзеў — і нібы зажурыўся...
Аднак жа і аўтобусу пара,
а той аўтобус быццам праваліўся!

І я кажу звычайна, што пайду
да станцыі бліжэйшай — Навасёлкі.
Там спадарожную хутчэй знайду,
яшчэ мне і пасвішчуць перапёлкі!

Але і тут не кінуў ты адну...
Ішлі мы, як сябры-землепраходцы.
І думала я: добра крытыкну
усіх, хто будзе бэсціць гэткіх хлопцаў!

Хто будзе гаварыць пра «цемнату»,
пра недастачу ветласці і лоску...
Ад кпінаў засланяю за вярсту
матулю-выхавацельніцу — вёску!

Пра лёс твой думала і гаварыла так:
— Усё ў цябе, Валодзя, на пачатку.
Але і пачынай не абы-як.
Жыццё нялёгка перайначваць, братка...

Я гаварыла:
— Горад — слаўны друг,
але і сам глядзі не разгубіся...
Цяжэй — калі адзін, лягчэй — удвух.
Калі ж другі благі — пасцеражыся.

Я гаварыла:
— Мэту вызначай
і да яе ідзі беспаваротна.
Пакуль не дойдзеш — і дзяўчына хай
чакае і не вохкае гаротна...

Як хутка Навасёлкі надышлі!
Пярэплаты, пад гонтаю хаціны.
Гародчыкі вяргіняй зараслі,
Утоптаная сцежка да адрыны.

Ля плота, дзе стаім, бурэе кроп.
Ад водару яго бульбоўнік п'яны.
І певень траўку шчыкае: лоп-лоп,
і гэты дробны гук — як барабанны.

Мая зямля, якое цішыні
ты дачакалася пасля грымотаў!

Які спакой табе прыносяць дні
з адным, жаданым, громам ад работы!

Мая зямля, табою даражыць,—
такой зялёнай, мокраю,— да скону.
Дзеля твайго спакою варта жыць
і берагчы апошнія патроны...

Жучок-аўтобус выбег на шашу...
— Ну што, Валодзя, з богам за парогам?
Ускочыць на прыступку я спяшу,
закручваюся шаліноўкі рогам.

Хачу яшчэ зірнуць на юнака...
А ён ужо... А ён ужо з другою!..
Дзяўчына выйшла з нашага «жучка»—
І хлопцаў твар запунсавеў зарою.

Відаць, не сустракаліся даўно.
Яна — як дрэўца ў чорным сарафане.
— Дзе ты была?— я чую праз акно.
— Развітвалася... з домам... цёці Тані...

...Пра «цёцю Таню» выведала я,
пра «дом» яе пад Лысаю гарою.
Увесну там — раздолле салаўя,
а на зыходзе лета — лісце роем.

Там выцвілая, з дошчачак, страла
і просты надпіс на фанеры чыстай,
што смерць тут куляметчыца знайшла,
знішчаючы захопнікаў-фашыстаў.

Мне расказалі: легла прыкрываць
яна сябрам сваім дарогу к волі...
«Не будзе камсамолка адступаць!»—
сказала, толькі танк яе адолеў...

Развітвалася з цёткаю дзяўчо...
Відаць, таксама пакідае хату...
Пайшлі яны шашой плячо ў плячо,
зямлі непакаронай дзіцяняты.

*

Журба сваё, жаноцкае, пяе,
але і радасць сэрца засяляе...
Не страшна мне за вас, сябры мае,
ніпіто вас на дарозе не стрымае!

Мой юны друг Валодзя Ермашоў,
ты з чамаданам, пэўна, ля вакзала...
Пакуль яшчэ цягнік не падышоў,
спыніся, я не ўсё табе сказала.

Не слухай тых, што інуцца апляваць
сапраўдных камуністаў заваёвы.
За праўду не стамляйся ваяваць
у час твой і трагічны, і суровы.

Не слухай, друг, а пераконвай сам.
Мы з краю змагароў, ты гэта помні!
Мы пастаім за чырвань нашых брам,
за светлыя над вашым Пышнам промні!

ПРОЗА



● Раман САБАЛЕНКА

● Мал. С. ВОЛКАВА

# ПАСЛЯ РОСТАНІ

АПАВЯДАННЕ

Здавалася, хто ні ішоў насустрач, той і смяяўся з яго. А мо яму і было чаго саромецца? Ён не звык лічыць за работу тое, што як бы само рабілася, ад чаго не балелі рукі, не шумела ад думак галава. Калі Арсень Белабровік вучыўся яшчэ ў школе, яму часам здавалася, што ён ужо ў тым узросце, калі чалавеку сорамна, што ён есць хлеб з чужых рук. Хлопец усё часцей і часцей задумваўся, як яму жыць, як быць. Бацька яго памёр, калі яшчэ Арсень быў у пятым ці ў шостым класе: у грудзях яшчэ з вайны сядзелі мінныя асколкі. Урачы не маглі даць аніякай рады, каб чалавек яшчэ хоць трохі памадзеў на свеце.

Арсень, яшчэ тады падлетак, як прыйшоў з могілак, дык больш мо за тыдзень не абазваўся ніводным словам ні да маці, ні да меншых братоў і сясцёр. Арсень застаўся самы большы, і маці здавалася, што ён узяў на сваю галаву ўвесь клопат пра сям'ю.

Маці тады крадком ціхенька падышла да сына, шорсткай рукою пагладзіла непадатныя, старчакаватыя валасы і сказала:

— Цяпер табе, сынок, хіба я калі і магу кім быць, дык толькі litарадцай. Сілы ў мяне калі і хопіць, дык хіба толькі на тое, каб малым даць у рукі які кусень хлеба. А ты ўжо, бач, які вырас і сам сабе павінен шукаць хлеба,— маці аж прыўзняла руку над сынавай галавою, мо каб паказаць, які ён высокі.

— Мама, дык я кіну школу і буду ў калгас хадзіць.

— Не, не, сынку, як тая прыказка кажа, за аднаго вучанага двух нявучаных даюць. Дык ты вучыся. Улетку будзеш хадзіць на калгасную работу, а зімою трэба вучыцца.

І от пасля выпускнога вечара ў школе Арсень нібы апынуўся на раздарожжы. Школу хлопец скончыў добра. У інстытут ён хацеў бы паступіць. Але хіба ж пражывеш на адну стыпендыю! Маці, як і тады, калі памёр бацька, падышла да хлопца ў самыя хвіліны роспачлівага роздуму, пагладзіла шорсткай далоняю па галаве і сказала:

— А ведаеш, сынку, што я надумала?

— Што, мама? — нібы за выратавальнае кола хапіўся Арсень.

— Паедзеш у Мінск да цёткі Палагеі. Станеш у яе на кватэру. Будзеш працаваць і вучыцца. Ты ж не ўломак які. Я ўжо і з цёткаю параілася. Яна згодна.

— Я тут буду працаваць,— спалохаўся матчынай прапановы хлопец.

— Што ты тут заробіш? — іранічна спытала маці.

— Памагу табе малых гадаваць,— выказаў свой клопат Арсень.

— Не трэба, сынку. Табе трэба дбаць пра сваю долю. І я яшчэ не зломак. Самую вялікую ношку здужаю панесці,— выказала сваю рашучасць маці.

Спадылба неўзаметку Арсень зірнуў на матчын твар, нібы хацеў пераканацца, што ён яшчэ не стары, і яму здалося, што за апошнія дні ён вунь як перамяніўся, глыбейшымі і часцейшымі сталі баразёнкі маршчакоў, скулы на смуглым матчыным твары аж завастрыліся. На момант хлопцу страшна стала, што ён месяцамі, а мо і гадамі, калі з'едзе з дому, не будзе бачыць маці. А мо ёй будзе што балець, хто ж ушчуне боль?

— Так, сынку, і зробім. Да восені пабудзеш яшчэ тут, у Казіміраўцы, а там з богам Параска, калі людзі знайшліся,— нагадала маці пра тое, што цётка Палагея згаджаецца яго ўзяць.— І з мае галавы лішні клопат упадзе, і табе добра будзе,— як прыняла рашэнне маці.

Арсеню, як, відаць, і кожнаму чалавеку, боязна было адарвацца ад звыклага і пайсці на нямаведама якую дарогу.

Арсень нясе перад сабою вялізную паштарскую торбу. Напакаваная газетамі і пісьмамі, яна няцяжкая, але нязручна яе несці. Арсень ідзе ў свой першы, пробны рэйс. Дагэтуль тут разносіла пошту Клава. Гады тры назад яна таксама прыехала з вёскі. Яна і цяпер цюпае з боку поруч з Арсенем. Нізенькая, галавою ледзьве дастае Арсеневага пляча. Дробненька-дробненька перабірае нагамі, быццам бяжыць. Нешта мармыча, шчабеча сама сабе. Мабыць, радуецца, што яе перасаджваюць на машыну. Нібы сказалі ёй: «Няма чаго ў век механізацыі і аўтаматызацыі таміць ногі. Дзяды і прадзеды нашы сваё адхадзілі, а мы зацугляем матора і будзем ездзіць». Клава нават трошкі ганарыцца перад Арсенем, што яе перасаджваюць на «Запарожца».

От ён і той квартал, які яму давядзецца абслугоўваць і куды яго ў першы раз вядзе Клава. Вунь дом нумар трыццаць два. Ён гэтакі высокі, што як захочаш зірнуць на карніз, дык шапка з галавы можа ўпасці. Арсень глядзіць на дом, і яму шкада ў думках становіцца тых людзей, якія пеша ходзяць на гэтакую вышыню. Нават спалохаўся, што яму самому давядзецца туды хадзіць. Хацеў спытаць у Клавы, як яна туды падымаецца, але пасаромеўся: маўляў, яна падумае, які ён баязлівец: гэтакі байбус, а вышыні баіцца!

Сама Клава чамусьці маўчыць пра вышыню. Толькі калі зайшлі

яны ў вялізны двор, Арсень у атачэнні дамоў адчуў сябе, як у калодзежы, на самым дне яго. Двор здаўся чамусьці змрочным. Мо таму, што сонца недзе свяціла за сценамі дамоў, ад якіх як не на ўвесь пляц ляжалі цені. Чамусьці прыгадалася, як у маленстве яго паслалі лезці ў мураваны калодзеж даставаць бляшанае вядро. Туды спусцілі на вяроўцы. Арсень босымі нагамі намацаў на самым дне вядро. Яго ўсмактаў глей. Хлопец цэліўся доўга зачапіць нагою за дужку. Ён такі і зачапіў, але, як ні рваў, не мог даць рады. Хлопец змушаны быў па самы пояс стаць на дно ў халодную крынічную ваду. Ногі аж падубянелі ў хлопца, пакуль ён вырваў з глею тое вядро. Арсеню давялося абвязвацца вяроўкаю, і яго як нежывога выцяглі наверх. Маці як зірнула на хлопца, дык залемантавала:

— А няхай бы тое вядро прахам пайшло там! Хто гэта яго надавуміў лезці туды?

Арсень хоць бы і хацеў тады што сказаць, дык не мог: ляскалі зубы. Пасля таго хлопец тыдні з два прахварэў. Маці аж рукі ламала, што не дагледзела сына.

Гэта чамусьці ўспомнілася Арсеню, калі яны з Клаваю зайшлі ў двор. Хлопцу, хоць недзе за дамамі свяціла і грэла сонца, здалося холадна.

— Дык гэта вы на тую вышыню носіце? — не стрымаў сваю цікаўнасць Арсень.

Клава прамаўчала з адказам, быццам не пачула яго запытання. Арсень адчуваў, што дзяўчына чула, але падумаў, што яна не хоча яго палохаць.

— Давайце ў гэты пад'езд зойдзем, і я пазнаёмлю вас з тым, што і як вам трэба будзе рабіць,— прапанавала Клава і дала нырца ў дзверы.

Арсень падаўся за ёю. Торба зачапілася за вушакі жаўтаватых дзвярэй, якія адмысловая пружына імкнулася зачыніць за Клаваю. Торба ўчэпіста трымалася. Арсень тузануў, аж дзверы ляснулі.

— Што вы!— палахліва азвалася Клава.

— Іду,— адказаў Арсень, асцярожненька спускаючыся ўніз па маленькай, на чатыры ці пяць прыступак, лесвіцы. У напаўцёмным калідоры хлопец угледзеў на сценах нумараваныя скрынкі, за драцяной сеткай нейкую з шклянымі дзверцамі скрыню.

— От сюды мы і будзем раскладваць карэспандэнцыю. Гэта нумары кватэр. А з цягам часу вы будзеце ведаць, каму якая карэспандэнцыя. Парастыкаеце яе па скрыначках, і — усё ў парадку.

Клава схапіла з Арсеневага пляча торбу і хуценька рассартавала пошту.

— От і ўсё,— быццам з палёгкай, выдыхнула яна.— Нічога тут мудронага няма. Ва ўсіх маіх дамах такія скрынкі ёсць, так што вам туды наверх падымацца не трэба. А калі якое заказное на самы верх, дык націснеш кнопку і — там,— сказала дзяўчына і падышла да драцяной сеткі.

Арсеню ніколі не даводзілася падымацца на ліфце, і калі Клава расчыніла дзверцы, хлопец баяўся зайсці ў сярэдзіну. Клава ўзяла абедзвюма рукамі хлопца за плечы і нібы падпіхнула. Следам за ім зайшла сама і з сілай ляснула дзвярыма. Арсень аж спалохаўся металічнага лёскату. Але калі кабіна плытка і ціхенька пайшла ўгару, хлопцу здалося, што ў яго за плячыма выраслі крыллі і ён паляцеў аж у самы блакіт. На апошнім, дзесятым, паверсе кабіна суцішылася і стала. Яны з Клаваю выйшлі на лесвічную пляцоўку.

— Скажыце, калі ласка, як вас завуць? — спытала дзяўчына.

— Арсень.

Клава назвала сваё імя.

— От мы і пазнаёміліся. Ведаеце, Арсень,—ужо як з даўнім знаёмым, гаварыла дзяўчына,— у гэтай стотрыццатай кватэры жыве Галубцова Маргарыта. Яна сюды нядаўна прыехала. Ёй як не кожны дзень ідуць пісьмы, ды ўсё заказныя. Мабыць, нейкі каханак усё піша, бо папрасіла, каб іх я не кідала ў скрынку, а конча заносіла на кватэру і аддавала ёй у рукі. Я гэтак і раблю,— пахвалілася Клава.— І вы будзеце насіць. Яна такая, што ёй нельга адмовіць.

Клавіна характарыстыка Галубцовай заінтрыгавала Арсеня, і ён борздзенька з ліфта пабег да дзвярэй стотрыццатай кватэры. Хацеў ужо націснуць на кнопку званка, ды яго апярэдзіла Клава. Як прыглушаны падушкай, пачуўся праз дзверы званок, і неўзабаве яны адчыніліся. З кватэры лінулася дзённае святло, і Арсень убачыў маладую жанчыну. Спачатку Арсень нават не разгледзеў яе добра. А Клава ўжо шчабятліва гаварыла жанчыне, як гавораць тым, каму хочуць дагадзіць:

— Цяпер, мая любенькая, гэты чалавек будзе вам пісьмы насіць. Дык вы на яго і спадзявайцеся, ён нідзе не згубіць ніводнага пісьма.

— Добра, што сказалі. Я буду ведаць, у каго пытаць,— дапытліва зірнула на Арсеня Галубцова.

Арсеня, здалося, аж пекануў яе позірк, і хлопец засаромеўся.

— Мне ўсё роўна, хто будзе насіць, абы пісьмы не прападалі,— неяк абыякава сказала Маргарыта.

Арсень угледзеў, што абыякавасць дзяўчыны нейкая незвычайная, што за ёй, за гэтай абыякавасцю, хаваецца зацікаўленасць. Яе круглыя, з цёмна-сінімі зрэнкамі, нібы трохі падфарбаваныя зверху вочы свідравалі Арсеня. На яго мо ніхто ніколі не глядзеў так зацікаўлена. Стройная, трошкі камлюкаватая, не вельмі высокая Маргарыта, на якой быў, мусіць, яшчэ з ночы, халат, нечым вабіла Арсенеў позірк, і хлопец саромеўся. Валасы ў дзяўчыны яшчэ былі не дагледжаны як мае быць, быццам вецер пахадзіў па іх. Маргарыце, відаць, таксама кінуўся ў вочы Арсень. На момант яна адвярнулася, каб пакласці на стол прынесены ёй ліст і тым самым вызваліць рукі.

— Дык гэта вы цяпер будзеце насіць мне карэспандэнцыю? — спытала Галубцова для таго толькі, каб штo-небудзь гаварыць.

— Я...— саромеўся Арсень.

— То я вас прашу, гэтак жа, як і ваша папярэдніца, не мінаць нашу кватэру.

Арсень гаварыў з дзяўчынай і неяк механічна правяраў рукою, ці зашпілены ўсе гузікі на цётчынай бравэрцы, якую яна аддала Арсеню. Хлопцу здавалася, што ён у гэтай з чужога пляча бравэрцы, як нейкая няўклюдзіна. Хто да чаго звык! Бравэрка ж падкрэслівала стройнасць Арсеневай постаці. Клава, калі ішла поплеч з Арсенем, не раз старалася адстаць на якія два ці тры крокі, каб паглядзець на хлопцаву паходку. Арсень сапраўды быў хлопец прыгожы: правільныя рысы твару, зыркія, выразныя вочы, трошкі вышэйшы, чым звычайны, рост — усё гэта кідалася ў вочы дзяўчатам. Каторыя з іх мо і не хацелі глядзець на Арсеня, а як толькі хлопец трапляўся на вочы, не маглі адвесці ад яго позірку. Спачатку Арсень гэтага не разумеў і калі заўважаў, што якая дзяўчына ўтаропіла на яго вочы, аж чырванеў. Не заўважаў мо да тае пары, пакуль цётка Палагея не сказала аднойчы яму:

— Ты, мой пляменнічак, як пісаная прыгажуня, хоць з цябе карціны малюй. Хутка дзеўкі будуць па табе сохнуць.



— Чаго яны будуць сохнуць? — не мог даўмецца хлопец.

У цёткі Палагеі ў канторы сувязі было нейкае вельмі блізкае знаёмства, і, калі яны з Арсенем прыйшлі туды, доўга не давялося ўпрошваць. Хлопца адразу залічылі ў паштары. І цяпер Арсень украдне радуецца, што пайшоў на гэтую работу: не-не ды і ўзбрыдзе ў галаву тая Маргарыта.

Пасля таго, як хлопец некалькі разоў занёс да Маргарыты заказныя пісьмы, яму закарцела даведацца, хто гэта ёй піша. Здавалася, што нейкі хлопец, як тая назойлівая муха, кружыцца над ёю. Арсеню закарцела хоць злёгку махнуць рукою і адагнаць тую муху. Хлопца таго ён ніколі не бачыў ды і не мог бачыць, але ж злавіў сябе на тым, што ненавідзіць яго. Што гэта за пачуццё, адкуль яно прыйшло да хлопца, Арсень яшчэ не мог разабрацца. Ён яго адганяў, а яно шчамілася, лезла ў душу .

Арсеню захацелася ўсё ведаць пра Галубцову. Калі прыходзіла пісьмо на імя Маргарыты, ён, нават не растасаваўшы па скрынках карэспандэнцыю, як апантаны, ляцеў на дзесяты паверх. Хуценька і рашуча званіў у Маргарыціны дзверы і радаваўся, як дзіця, калі дзверы адчыняла яна.

На гэты раз на пакліч званка азвалася не Маргарыта, а немаладая ўжо, прыгожая з выгляду жанчына, трошкі падобная на Маргарыту. Арсень угледзеў яе і засаромеўся, яму здалося, што ён гвалтоўна ўварваўся ў чужую кватэру.

— Прабачце, прабачце,— нямаведама навошта пачаў перапрошваць хлопец. Падумаў, што мо памыліўся паверхам, ці пазваніў не ў тыя дзверы. Хлопцу здавалася, што ў стотрыццатай кватэры, апроч Маргарыты, больш ніхто не можа жыць. Жанчына пільна глядзела на паштара. Яна не разумела, чаму ён просіць прабачэння: ён жа нічога такога не зрабіў.

— Пісьмо пакіньце. Яе зараз няма дома. Паехала ў вёску. Я перадам. Яна гэтага пісьма чакала. Адарвалася, як птушанё ад роднага гнязда, дык у яе толькі і клопату што пра маці. Ды і маці без яе ды-



хаць не можа. На мяне, мабыць, старая ўжо забылася,— ахвочая на словы, не сунімалася жанчына.

Арсень слухаў і не разумеў, хто такая гэтая жанчына.

— Гэта ж мая меншая сястра. Ледзьве паступіла ў інстытут, ды і то ў вячэрні,— спавядалася перад Арсенем жанчына.

Арсень здзівіўся такому супадзенню ў Маргарыцiным i ягоным лёсе. Тое, чаго ён баяўся, думаючы, што Маргарыце піша які хлопец, неяк адпала само сабою.

Увечары на лекцыях у інстытуце Арсень увесь час думаў пра яе. Яму закарцела расказаць дзяўчыне ўсё пра сябе. Няхай яна не думае, што ён толькі паштар. Няхай ведае, што і ён вучыцца. Але як жа ты раскажаш?

Восень была імжыстая. Арсень не ведаў, куды сябе дзяваць у такія панурыя дні. А цётка яго навучала: каб ён смялей, па-гарадскому, трымаў сябе на людзях.

Тое, што прапусціш у такія, як у Арсеня, маладыя гады, ніколі не дагоніш, хоць і прыпусцішся бегчы за ім на ўсю сілу. Арсень неяк злавіў сябе на думцы, што яго пражытыя гады быццам упалі ў той калодзеж, у які ён лазіў калісь па вядро. А ўсё тое, што прайшло, быццам паваланлося шызай дымкай небыцця і да яго не тое што нельга дакрануцца рукою, дык нават нельга ўзнавіць у памяці ва ўсіх драбніцах.

І раптам стрэліла Арсеню ў галаву думка, і ён хуценька пабег дадому. Цэлы вечар хлопец праседзеў за пісьмовым сталом. Думаў і перадумваў: пасылаць ці не. Нарэшце рашуча напісаў: *«Маргарыта, я даўно хачу з вамі сустрэцца. Я ўсё вам раскажу. Ваш паштар Арсень Белабровік».*

На канверце хлопец напісаў добра знаёмы яму адрас. Назаўтра ён перадаў з рук у рукі дзяўчыне пісьмо. Яна не паспела нават здзівіцца, што адрас напісаны незнаёмаю ёй рукою, як Арсень знік за дзвярыма. Ніколі так не было, каб паштар гэтак хуценька знікаў. Маргарыта адчыніла дзверы. Ліфт чуўся ўжо недзе ў самым нізе шахты.

Дні беглі, як растрыножаныя. За вучобаю, за работаю Маргарыта ледзь не забылася на тое пісьмо. Акурат падаспела зімовая сесія. Нават матчыны пісьмы і тыя нейк перасталі цікавіць дзяўчыну. Мо і праўда, што час нейк неўпрыкмет сцірае радасці і смутак. Новыя знаёмствы прыносяць нязнаныя дагэтуль уцехі і скрухі. І калі толькі імі жыць, можна забыцца на самую сябе. Тое, што напісаў тады ёй дзівак паштар таксама пакрысе пачало забывацца, хоць на пачатку яно і інтрыгавала, як усялякая невядомасць.

Маргарыце хлопец вунь як падабаўся. Але што яму стукнула ў галаву пісаць? На пачатку яна нават нейк аж пакрыўдзілася на хлопца, што ён мо палічыў яе за тую, што, як матыль на кветкі, ляціць на хлопцаў. Яна ж кожны раз, як прыносіў Арсень пісьмы, трымала сябе так, што ніякага повада не давала гэтак думаць пра яе. А Арсень так і не думаў. Ён сам не мог бы сказаць, чым спадабалася яму Маргарыта з першага разу.

Хлопец адважыўся ёй напісаць. Не таму, што ён быў нахабны, а таму, што бясконцая, як здавалася Арсеню, ростань з дзяўчынай была для яго невыноснай. Дзе ён ні быў, куды б ні ішоў, што б ён ні рабіў, адна яна была ў думках. Ён ужо асмельваўся не толькі напісаць, а пайсці сказаць, гледзячы дзяўчыне ў вочы, што яна самая жаданая, самая прыгожая на свеце.

Колькі часу Арсень стараўся не патрапляць на вочы ні Маргарыце, ні яе сястры. І от аднаго разу, ужо на самай вясне, дзяўчына як з вады вынырнула перад Арсенем. І ён разгубіўся. Стаў, як у зямлю ўрос. Думаў, што дзяўчына яго не пазнае. Але над ім ужо, як песня, гучаў голас:

— Дзень добры! Быццам цэлую вечнасць вас не бачыла. Аж засумавала.

У Арсеня на языку вярцеліся самыя лепшыя словы, але ён адно мыляў вуснамі, не могучы іх вымавіць. Засаромеўшыся, хлопец як не бегма рынуўся з двара. Маргарыта стаяла ў непаразуменні і глядзела ўслед хлопцу.

Пасля той першай нечаканай ростані, калі Маргарыта паехала была ў вёску і Арсень напісаў ёй пісьмо, хоць і думаў, што дзяўчына ніколі яму не даруе нахабства, ён яе лічыў нібы сваёй.

Можа яны яшчэ і сустрэнуцца.

**У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ**

**АПАВЯДАННІ**

**ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ**

**І**

**ПАЎЛА КАВАЛЁВА.**

ПАЭЗІЯ

- Крыніцы
- Паэзія
- Нарачанка



Яўген ШАБАН



●

Часамі,
праходзячы сцежачкай вузкай,
пачуеш,
як ціха звініць
ласкавая песня
крыніц беларускіх,
празрыстых і чыстых
крыніц.

Мне любы іх голас
і смех той іскрысты,
шчаслівы, задумлівы смех,
пад промнямі сонца
іх бег залацісты,
імклівы і радасны
бег.

І я на калені
гатоў апусціцца
губамі сасмаглымі піць
крыштальна-празрыстую
тую вадзіцу
сцюдзёных гаючых
крыніц...

●●

*Р. Барадуліну*

Паэзія,
станцыя мая першая...
У той час
пад стол хадзіў яшчэ пешшу я

і ў абдымках з катом
вечарамі на печы
праводзіў першае паэтычнае веча.
Кот ляжаў,
прыжмурыўшы вочы мудра так,
і перакладаў
мае вершы на музыку.
Паэзія,
наступныя мае станцыі...
Першы урок
і першая настаўніца,
хвалі Нарачы,
таемнасць ночы,
і блізкае дыханне дзявочае,
першы залік
і радасць першага,
прапахлага фарбай друкарскай,
вершыка...
І дзе б ні хадзіў
і дзе б ні ездзіў я —
ты адна са мною заўсёды,
Паэзія,
буслямі у небе,
усмешкай вясёлкі,
успамінам у сэрцы
тужлівым і колкім,
першай сняжынкай,
песняй матчынай,
губамі любай
гарачымі.



То гарэзлівай вясёлкай усміхнешся,
то закруцішся ўчарнелымі вірамі,
то люстэркам нечакана разальешся:
сонцам блёснеш,
жытам глянеш і барамі.
Уздыхнеш сабе паціху лёгкім ветрам,
не паскардзішся
(такая ўжо работа!)...
І наперад —
кіламетр за кіламетрам,
і наперад —
паварот за паваротам.
Віліі-сястры на шыю рукі ўскінеш,
з бацькам Нёманам пералічыш ноччу зоры
і спяшаешся,
спяшаешся няспынна
хвалі Нарачы аддаць
прасторы мора.
Я таксама за табою,
Віліёю,
за магутным бацькам Нёманам
яснавокім
па зямлі іду,
вітаюся з зямлёю,
каб спазнаць той невядомы свет далёкі...

ПРОЗА

***Дні польскай культуры ў Беларусі***

Збігнеў ЖАКЕВІЧ

# ДЗЕНЬ ПЕРШЫ І ТРЭЦІ

АПАВЯДАННЕ

Мал. А. КАШКУРЭВІЧА



Найдаўнейшы мой успамін — гэта згадка пра тое, як позні́м вечарам ехалі мы ў высокіх санях са станцыі да дзядулі. Побач, абняўшы мяне рукой, сядзела маці. Мы калываліся праз глыбокія, да палавіны занесеныя снегам ямы, з якіх некалі бралі пясок. Гэты снежны, бязлюдны краявід так моцна запаў у самыя вытокі памяці, што стаў часткай мяне самога.

Памятаю таксама нейкі вялікі луг у ветках, высокія пушыстыя дрэвы, раку — усё ў бляклa-жоўтым колеры, як на старых дагератыпах.

Аднак магчыма, што гэты луг, раку, дрэвы я перанёс у сваю памяць са старога здымка. Помніцца, што на беразе гэтай шырокай, выкручастай ракі я быў не адзін, а з Вандай, дзядзькавай дачкой.

Магчыма, што ўсё гэта бачыў я ў Ванды на фатаграфіі. На пачатку маёй памяці Ванда жыла над намі, у надбудоўцы дома.

Не ведаю, калі для мяне пачалася маці. Не памятаю, каб я калі-небудзь убачыў яе ўпершыню. Але таксама не ўяўляю часу, у які яе не было б, гэтак жа, як не памятаю, каб калі-небудзь не было мяне.

Гэтак жа трывала, неадступна заўсёды існаваў дом.

Страха майго дома была вымытая дажджамі і шэрая, як у стогадовага слана.

Невялікія вокны, падзеленыя на шэсць шыбак, углядаліся ў два светы — на мястэчка і на сад.

Мястэчка праязджала пад вокнамі рыпу-

чымі фурамі. Памятаю, як аднойчы мне прыснілася, быццам вуліца гэтая была забалочанай дарогай і на ёй ставілі высокія слупы, абвешвалі іх дротам, а дом адгароджвалі ад вуліцы штыкетнікам.

Сон меў колер агню, які разрастаўся за дарогай жоўтым кустом: там нам будавалі дрывотню і хлеў, і чорныя сяляне-работнікі снавалі вакол вогнішча, падкідаючы ў яго свежыя трэскі. (Гэтая старонка свету квітнее і іншым цветам... Было гэта, відаць, на некалькі гадоў, а можа месяцаў, пазней — вечарэла, я стаяў побач з бацькам, як і ён, прысланіўшыся да печы, насупраць акна. За дрывотняй, за дубамі палала велізарным вогнішчам стадола, у якой стаялі нашы каровы. Памятаю, як мне вельмі хацелася, каб каровы ўцалелі, і калі бацька перастаў углядацца ў агністае акно, я перажываў усё так моцна, што і цяпер выразна бачу, як бацька вынікае з полымя, якое для мяне было тады святлом і рухам. І зноў бачу, што стаю поруч з бацькам, і зноў чую смурод паленага, і зноў мы ўглядаемся ў нешта сумнае і жахлівае адначасна...)

Край саду зросся з домам, і дом быў, здавалася, берагам лісцянога вострава.

Сад быў апушчаны на дно вялікага ліпавага чатырохкутніка. Ліпавыя прысады беглі праз сярэдзіну саду, падзяляючы яго напал — палавіна прымыкала да выпасаў, другая — да балоцістага поплава. А далей былі рэчка і вёска.

Тая частка саду, што падыходзіла да выпасаў, болей светлая і рэдкая. Прысадзістыя, угнутыя пад цяжарам садавіны дрэвы здаваліся аднаногімі і разгалістымі.

Насупраць высокіх дрэў, абступіўшы альтанку, якая адкрывала перспектыву ў вышыню, для мяне ўжо назаўсёды будзе рассцілацца зімовы сад: карычневае, паскручванае галлё, плеціва ляшчынніку, журбота і зімовая чысціня.

Направа, на другой ускраіне саду, дзе раслі ліпы і некалькі высокіх ялін, на якіх цвілі чырванню шышкі, адчувалася багністасць рэчкі, вільготнасць поплава і цёмная прысутнасць вёскі, якая не стала яшчэ ўскраінай мястэчка. І ўсё гэта падступала да невідочнай з акна згусцела-чорнай сажалкі, якая жыла недзе пад карэннямі саду і ліп.

У сажалку сцякала ўсё тое, чаго я не мог зразумець: тут віліся чорныя п'яўкі, у мутнай квашаніне трымцелі зярняты жабурыння, з аеру свяцілі чорныя шклістыя вочы, нібыта з самых нетраў зямлі.

На дзвюх ліпах, што раслі пад вокнамі, пагойдваліся вароны. Надвячоркам яны зніMаліся з мястэчка шумлівай хмарай і асядалі на галінах, нібы чорнае, зімовае, лісце.

Я і баяўся гэтага зімовага саду і шчыра любіў яго. І калі вечарам, кінуўшы вокам на суконны дыванок з буслам, я шаптаў: «Анёл, ахоўнік мой...», анёл прыходзіў аднекуль з мястэчка. Сад быў каралеўствам д'ябла.

Зрэшты, з д'яблам я быў знаёмы бліжэй. Неяк на калядную куццю наш дом наведалі анёлы, і сярод іх быў д'яблік, чорны ад сажы, з казлінымі рагамі. Калі ўсе каляднікі, адспяваўшы тонкімі галасамі сваю наіўную містэрыю, пакідалі дом, д'яблік, які ішоў апошні, затрымаўся на момант і, пагладзіўшы мяне па галаве, назваў па імені.

Гэтую сцэну я запомніў наймацней, бо было дзіўна, што д'яблік, які прыйшоў аднекуль з-за свету, з-за саду і сажалкі, заўважыў мяне.

Я ж упершыню ўбачыў сябе ў вішнёвым ложачку з папярочкамі, пад дываном — кавалкам чорнага сукна, на якім падкурчваў нагу бусел, пакрыты тоўстым пластом лаку.

Аднак я ведаю, што я пачаўся значна раней: на паддашку дома, на высокіх ножках стаяў плецены вазок. Адшукаўшы вазок і адгадаўшы яго таямніцу, я са здзіўленнем агледзеў сябе, не могучы дапасаваць свайго цела да плеценай калыскі.

Можа якраз гэта было непасрэдным штуршком да таго, каб занящца ўласным целам, можа якраз тады пачалося гэтае палкае і салодкае сузіранне, якое адбываецца зазвычай у таямніцы, бо я інстынктыўна адчуваў, што занятак выключна сабой — акт варожы ў адносінах да свету.

Найлягчэй прыйшла да мяне дружба з рукамі. Рукі былі патрэбны, і я карыстаўся імі часта і нібыта бяздумна. Сёння я ведаю, што і мая любоў да рук была болей складаная, чым гэта магло вынікаць з іх прызначэння і наяўнасці. Таму гісторыю рук я запомніў настолькі моцна, наколькі цвёрда вывучыў гісторыю твару, гэтай, безумоўна, найбольш грэшнай, ганебнай часткі майго цела.

Заняты гэтымі адкрыццямі, я вельмі цаніў хвіліны купання і... хваробы.

Рукі маці, якія энергічна хадзілі па маім целе, сягаючы ўсюды без сораму і — як здавалася мне — без усялякага ўзрушэння, дакраналіся да тых мясцін, да якіх я ўжо даўно меў складаныя пачуцці, і гэтыя рукі рабілі адкрыццяў больш, чым я мог бы зрабіць сам.

Не толькі праніклівы дотык матчыных рук рабіў купанне важнай справай. Сваю аголенасць я адчуваў надзвычай востра, я быў настолькі непрыкрыты і пазбаўлены волі, што не мог перанесці чыйнебудзь прысутнасці, катэгарычна дамагаючыся, каб завешвалі вокны, каб не дазвалялі ўвайсці ў дом нікому, апрача маці і бацькі.

Пасля купання я падарожнічаў на руках маці праз усе пакоі, звязаны з ёю перажываннем, якога не мог акрэсліць, адчуваючы млявую стомленасць, якая пераходзіла ў раптоўны глыбокі сон.

Здзіўляе лёгкасць, з якой маё цела паддавалася хваробе, прымаючы яе амаль за адзін з натуральных станаў існавання. Спачатку лёгкасць гэтая як быццам паскарала рытм жыцця, калі я ляжаў, распалены гарачкай, чуючы найслабейшы шолах, з настолькі ажыўленым зрокам, што мусіў заплюшчыць вочы ад святла, а потым усё іначылася, пераходзіла ў запаволенае і глыбокае сузіранне таго, што мяне акружала. У мяне ёсць падазрэнне, што яно, маё цела, было нейкім чынам зацікаўлена ў хваробе.

А хварэў я ганебна часта. Калі надыходзіла восень, зіма ці ранняе прадвесне, я клаўся ў ложак, пераможаны грыпам на многа доўгіх дзён. Але гэтая бесперапынная гушкалка майго жыцця дарыла і шчаслівыя дні, калі я ачуньваў і цела зноў адчувала зямное прыцягненне, пускала ў ход механізм руху.

Тады сад і мястэчка падступалі да акон так блізка і набывалі такое значэнне, што засталіся да гэтага часу непарушнымі ў сваёй глыбокай, ужо сімвалічнай шматзначнасці.

Пасля рук я наймацней адчуваў твар. Адчуваў, як блізка я да сябе самога, як набухаюць, нібы вялікія цёплыя гронкі, гукі ў маёй гартані і, выспеўшы ў вільготных глыбінях, трыумфальна выязджаюць на кончыку языка. Адчуваў, як праз пачварна вялікія вушы вырастае нешта, што дазваляе мне чуць гукі, як ноздры ўбіраюць у сябе ўражанні, якія я называў пахам, як той самы язык, што жыве ў слізкай, ружовай пячоры майго роту, ажно млее ад смакаў.

Я не бачыў сваіх вачэй, але бачыў сваё бачанае, бачыў, як праз яго я выходжу па-за сябе, як я існую па-за сваім тулавам. Тады пры-

ходзілі пакуты, бо я не мог пагадзіцца з тым, што ніколі не ўбачу сваёй спіны, свайго карку, сваіх вушэй...

І тады распачыналася магія люстэрка. Я сядаў насупраць люстэрка, упраўленага ў дзверы вялікай шафы, і глядзеў на сябе так, як пазіраў бы на што-небудзь вонкавае, што было па-за мной, пакуль не пазнаваў сябе ў сваёй адлучанасці, усё болей здзіўляючыся гэтаму знаёмаму і незнаёмаму адлюстроўку.

Здаволіўшыся ім, я пачынаў змагацца з абмежаванасцю зроку, стараючыся агледзець сябе ззаду, збоку. І яшчэ вастрэй адчуваў, што ніколі, ніколі не ўбачу я сябе ўсяго так непасрэдна, як бачыў я сваю маці, свае рукі, што ўжо назаўсёды я застануся некім заслонены, аднабаковы.

Углядаючыся ў люстэрка, я вельмі рана мусіў зразумець, што ўсё маё — у твары, бо не помню, калі пачаў адчуваць гэты гнятлівы цяжар: па сваёй наіўнасці лічыў, што людзі не могуць не бачыць майго зроку, майго слыху, майго адчування і майго мыслення. І з якой трывогай, пакутай, з якім сорамам адчуваў я свой твар, думаючы, што праз яго выстаўляюся на людзі ў сваёй найзапаветнейшай існасці. І з якой вострай, пранізліва вострай цікавасцю ўглядаўся я ў гэты твар падчас доўгіх самотных сеансаў перад люстэркам у кутку бацькоўскай спальні.

Гэтае ўгляданне было тым больш асаблівае, што ўглядаўся я ў сваё ўласнае ўгляданне, што бачыў свае думкі пра сябе. Бачанне ў люстэрку было нечым большым, чым проста бачанне: гэта было замкнёнае кола самаадчування і самабачання, дзе выток і вусце, узаемна зліваючыся, застывалі над часам і над жыццём.

Аднойчы (гэта здарылася, відаць, ужо крыху пазней, калі я на некалькі скачкоў аддаліўся ад уласнага пачатку) я ўзяў цяжкае люстэрка, што стаяла на камодзе з точанымі ножкамі, і прыставіў яго да вялікага люстра. Спачатку я ўбачыў адбіткі люстэркаў у люстрах, срабрыстыя сходкі, якія вялі ў глыбіню люстранога свету, а потым адкрыў свой профіль: у мяне былі два профілі, і кожны паведамляў мне частку новай праўды пра мяне. З той хвіліны, паказваючыся людзям, я павінен быў дбаць, каб паказаць правільнае аблічча.

Відаць, тады' я і праглынуў кавалачак адамавага яблыка, страціўшы ўсю сваю дзіцячую нявіннасць, асланяючы сваю галізну такой чырванню ў твары, што яна і дагэтуль — найбольшае маё ўтрапенне.

Выхаваны ў абдымках маці, я хваравіта пачынаў цікавіцца жаноцкасцю, бо ў ёй таксама таілася таямніца маёй адменнасці. Спачатку яна была для мяне фізічным цяплом, лагоднасцю, мяккасцю, якую я ўбіраў усім целам, бо ў ім было мноства крыніц салодкага адчування. А потым жаноцкасць пачала адасабляцца, як нешта такое, што існуе па-за мной і па-за бацькам, напінаючы мае нервы да апошняй мяжы.

Памятаю, як аднойчы ўвечары, схаваўшыся пад сталом, я пазіраў на ногі служанкі, якая, нічога не падазраючы, прасавала бялізну. Асмялеўшы ад беспакаранасці майго ўчынку, адурманены вострым пахам яе цела, я стараўся пранікнуць поглядам вышэй і, убачыўшы тугія, белыя сцёгны, адчуў шалёны рытм сэрца і з заплюшчанымі вачыма паляцеў у бяздонне.

Недзе ў тыя гады (яшчэ дашкольныя, бо я не ведаў ніякіх змен, апрача змены ў порах году) з'явілася Бася. І тое, што ў безыменным свеце, пасля маці, самога сябе і бацькі я адразу вылучыў яе з ананімнай стыхіі, сведчыць пра адно — для мяне ўжо існавала загадка жаноцкасці.

Памятаю, што ўпершыню зусім па-інакшаму я ўбачыў Басю ў нейкі не акрэслены ў часе дзень, калі мы ўдваіх стаялі пасярэдзіне пакоя, акружаныя цесным колам дарослых, якія хвасталі нас смехам і словам — гэтага слова я не разумеў і ўсё ж яно абуджала ва мне сарамлівы гонар.

У гэтым успаміне не было пачуцця агульнасці лёсу, тут асабліва выразна я адчуваў сваю і яе адметнасць.

Я бянтэжыўся зусім так, як у сваіх пачуццях да маці, якая прыносіла мне найбольшую радасць і найглыбейшы боль. Я стараўся бачыць Басю, трымаць яе за руку, а калі гэта не ўдавалася, прыходзілі пакуты, бо я не ўмеў і нават не хацеў толькі запамінаць прыемнасць, а прагнуў затрымаць яе каля сябе назаўсёды.

І вось нарэшце — я дакладна памятаю той веснавы дзень — я даведаўся, што існуе непасрэдная сувязь майго цела з бацькамі, што я выйшаў з маці — гэтак жа, як выходзіць дзень з дня, і ва мне абудзіўся бунт супраць гэтага найвялікшага з абмежаванняў, якое такім нечаканым чынам вырашала трывожную загадку: калі я ёсць (а што я ёсць, гэта я ведаў добра) — дык адкуль я?

Спакутаванае сэрца пагнала мяне да сажалкі. Зламаны першай вялікай здрадай і ашаломлены таямніцай натуры, я ўглядаўся ў вялікія чорныя галоўкі апалонікаў. А потым, не могучы больш цярпець, я пагражаў усяму свету сваёй дарослацю, дрыжучы пры самім прадчуванні тых акрыццяў, якія мяне чакаюць...

А сёння, сто разоў пасля тых міфічна-даўніх часоў скінуўшы скуру і сто разоў вярнуўшыся ў свет, я знаходжу свой першы дзень у дзецях. Бачу нібыта перагорнутую старонку той самай кніжкі. Бачу, як яны адкрываюць свае далягляды — знаходзячы саміх сябе ў калысцы цела і ў той краіне лагоднай, і ўжо новай для мяне,— і ўсё ж такой блізкай.

Тут будуць іх пажоўклыя ад часу рэкі, тут іх зямля, выбеленая, нібы косць морам, тым морам, якое разлілося яшчэ перад паяўленнем людзей.

**З польскай.**
**Пераклад Алеся МАЖЭЙКІ.**



Варшава. Помнік славутаму Фрэдэрыку Шапэну. Па нядзелях улетку тут, ля помніка, наладжваюцца канцэрты фартэпіяннай музыкі.

● Пятро СТЭФАНОВІЧ

# НАСТУП ТАЛЕНТАЎ

Верасень 1939 года. Фашысцкая лавіна навалілася на Польшчу. Краіна ператварылася ў аблытаны калючым дротам канцэнтрацыйны лагер. Люты тэрор акупантаў затармазіў культурнае жыццё народу. Былі ліквідаваны ўсе нацыянальныя выдавецтвы, друк, радыё, закрыты тэатры, інстытуты, школы. За пяць гадоў няволі афіцыйна не выдадзена ніводнай кніжкі. Знішчана каля 85 працэнтаў кніжнага фонду, прычынены вялізныя страты мастацтву, архітэктуры, помнікам культуры. На месцах многіх гарадоў і вёсак засталіся папялішчы ды руіны. У планах Гітлера было поўнае вынішчэнне народу, і перш-наперш інтэлігенцыі. У выніку — шэсць мільёнаў расстраляных, павешаных, замучаных. Сярод іх — лепшыя сыны Польшчы.

Аднак ні жудасны тэрор, ні катаванні, ні шыбеніцы і канцлагеры не паставілі на калені свабодалюбівы народ.

У той суровы час асаблівае значэнне мела мастацкае слова, што ўсяляла веру ў перамогу, заклікала да няспыннай барацьбы з ворагам. З рук у рукі, з вуснаў у вусны перадаваліся вершы Юліяна Тувіма «Польскі салдат», Уладзіслава Бранеўскага «Я сын заваяванага народа». У падпольных друкарнях былі размножаны анталогіі «Паэтычная вясна» і «Слова праўды»...

Большасць польскіх пісьменнікаў, якія былі звязаны з рэвалюцыйным рухам, эвакуіраваліся ў Савецкі Саюз. Сярод іх Уладзіслаў і Яніна Бранеўскія, Ванда Васілеўская, Тадэвуш Бой-Жаленскі, Леан Пастэрнак, Ежы Путрамент, Юліян Пшыбась, Адольф Рудніцкі, Мечыслаў Яструн. Яны прымалі актыўны ўдзел у стварэнні Войска Польскага, вялі ў ім культурна-выхаваўчую работу.

1944 год. Ад магутных удараў Савецкай Арміі развальвалася гітлераўская ваенная машына. Савецкія войскі, а разам з імі і польскія часці, пачалі вызваляць Польшчу. У свабодным Любліне ўтварыўся народны ўрад.



**Док імя Парыжскай Камуны ў Гдыні. Тут будуюцца судны грузападымальнасцю да 95 тысяч тон.**

Многа, вельмі многа клопату ў маладой улады.

Аб тытанічнай працы польскіх працоўных можа сведчыць хоць бы такі факт. Заходнія тэарэтыкі і спецыялісты заяўлялі, што для таго, каб адбудаваць польскую гаспадарку і давесці яе да даваеннага ўзроўню, спатрэбіцца не менш як пяцьдзесят гадоў, а для адбудовы зруйнаванай Варшавы—цэлае стагоддзе. У краіне ж не толькі загоены раны вайны, але ў дзесяць разоў больш, чым да акупацыі, выпускаецца сёння прамысловай прадукцыі і намечаны такія планы, якія заходнім палітыканам і не сніліся. Гэтыя поспехі першы сакратар Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка назваў «паскарэннем рытму сэрца народу». Назваў вельмі трапна.

Цяпер ужо нікога не здзіўляе, што ў ПНР не ставяць крыжыкі замест подпісу, што кожны чытае кніжку і газету. Наадварот, людзі здзіўляюцца, калі хто-небудзь не павышае свае веды, не вучыцца. У 74 інстытутах і акадэміях краіны каля чвэрткі мільёна студэнтаў. Колькасць адукаваных расце з кожным годам. Цяпер людзей з вышэйшай адукацыяй стала больш, чым калісьці было непісьменных. Таму растуць і культурныя запатрабаванні. Каб іх задаволіць, народная дзяржава пашырае сетку адпаведных устаноў і прадпрыемстваў, павялічвае духоўны набытак — друкаванае слова. Рэдакцыі друкуюць у год паўтара мільярда газет і паўмільярда часопісаў. Сорак выдавецтваў штогод выпускаюць 80 мільёнаў кніг.

Гэта дае працоўным магчымасць карыстацца дасягненнямі польскай і сусветнай культуры. Мерай дасягненняў у гэтай галіне могуць служыць пасляваенныя тыражы кніг польскіх класікаў: Міцкевіча — 6,5 мільёна, Славацкага — 3,5, Сянкевіча — каля 12, Пруса, Канапніцкай, Крашэўскага — больш як па 10 мільёнаў, Жаромскага — 6,5 мільёна экземпляраў. Больш за мільён экземпляраў складаюць выданні твораў Талстога, Дзікенса, Бальзака, Чэхава, Пушкіна, Стэндаля, Гюго, Заля, Твена... Можна смела сказаць, што творы класікаў сусветнай літаратуры стала прапісаны на польскай зямлі.

Польская літаратура карыстаецца вялікім попытам за рубяжом. У пасляваенныя гады выдадзена за мяжой ПНР каля трох тысяч назваў кніг у перакладзе на 60 мовах свету, на замежных сцэнах пастаўлена звыш 60 п'ес польскіх аўтараў.

Яшчэ ніколі ў шматвяковай гісторыі існавання польскай культуры не было такіх магчымасцей для выяўлення талентаў. Асаблівая ўвага аддаецца росту маладых. У «Альманаху маладых», напрыклад, кожны год дэбютуе звыш дзесяці аўтараў.

Многія выдавецтвы выпускаюць спецыяльныя зборнікі і серыі вершаў

пачаткоўцаў. Выяўленню талентаў прысвячаюцца фестывалі, сімпозіумы, паэтычныя конкурсы «Клодская паэтычная вясна», «Лодзінская паэтычная вясна», «Люблінская паэтычная бібліятэка», гданьскі конкурс «Чорвоная ружа», перыядычныя зборнікі пры аб'яднаннях студэнтаў.

Штогадовыя конкурсы на лепшы раман, аповесць, навелу, апавяданне не ведаюць недахопу ў творах: сюды паступае па некалькі соцень рукапісаў, галоўным чынам — пачынаючых пісьменнікаў. Літаратурную моладзь ахвотна друкуюць часопісы «Паэзія», «Вспулчэснасць», «Культура» і іншыя.

Вялікая ўвага звяртаецца і на драматургію. Штогод праводзіцца некалькі конкурсаў. Сталічны тэатр «Атэнэум» праводзіць конкурс на драматычны дэбют. На конкурс паступае звыш сотні п'ес. Прыняў у ім удзел і вядомы польскі пісьменнік, аўтар кнігі «Потым наступіць цішыня» і сцэнарыя многасерыйнага тэлевізійнага фільма «Мацней за смерць» Збігнеў Саф'ян, раман якога быў надрукаваны ў часопісе «Нёман» пад назвай «Ключ следства». П'есе Саф'яна «Наваселле» прысуджана першая прэмія. Анатацыі аб новых п'есах сістэматычна публікуе спецыяльны тэатральны «Інфармацыйны бюлетэнь» Міністэрства культуры і мастацтва. Лепшыя драматычныя творы публікуюцца ў часопісе «Дыялог». Вялікую ролю ў папулярызацыі драматычных твораў і іх аўтараў адыгрываюць тэлевізійныя тэатры «Сенсацыя», «Эксперыментальны», «Літаратурны» і іншыя, радыёпастаноўкі і літаратурныя радыёперадачы.

Значнае месца ў польскіх выданнях займае савецкая проза, паэзія, драматургія, навукова-тэхнічная і палітычная літаратура. Творы Гогаля, Дастаеўскага, Талстога, Маякоўскага, Ясеніна друкаваліся ў перакладзе Уладзіслава Бранеўскага. Сярод шматлікіх пера-



**Польская моладзь умее працаваць...**

●

**...умее і весяліцца.**





Варшава. Вялікі тэатр оперы і балета.

кладаў Юліяна Тувіма, выдадзеных у трохтомным зборніку «З рускай мовы» — «Слова аб палку Ігаравым», камедыя Грыбаедава «Гора ад розуму», «Медны коннік» Пушкіна, паэма Някрасава «Каму на Русі жыць добра». Адам Важык склаў анталогію рускай паэзіі і пераклаў «Яўгенія Анегіна». У апошнія гады выпушчана «Анталогія савецкага апавядання».

Польскаму чытачу вядома творчасць беларускіх празаікаў і паэтаў. Дружба паміж польскімі і беларускімі пісьменнікамі сваімі карэннямі ідзе ў мінулае. Невычэрпнай скарбніцай беларускай народнай творчасці карыстаўся Адам Міцкевіч.

З пашанай і ўдзячнасцю ставяцца палякі да ўдзельнікаў паўстання 1863 года — Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча. Дружба двух братніх народаў мацнела ў сумеснай рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе, захоўвалася ў перыяд нацкоўвання адной нацыі на другую, цэментавалася ў час змагання з фашысцкімі акупантамі. Яшчэ большага ўзаемаразумення абодва народы дасягнулі пасля стварэння ПНР.

У выніку добрага ўзаемаразумення з кожным годам расце колькасць твораў беларускіх пісьменнікаў, якія атрымлівае польскі чытач. За апошні час асобнымі кніжкамі выйшлі з друку ў Польшчы выбраныя вершы Янкі Купалы і Максіма Танка, аповесць «Трэцяя ракета» Васіля Быкава, п'еса Кандрата Крапівы «Пяюць жаваранкі». Кракаўскае літаратурнае выдавецтва выпусціла зборнік перакладаў Леапольда Левіна, у які ўвайшлі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. У 1955 годзе, у Дні беларускай культуры ў ПНР, быў выпушчаны спецыяльны нумар «Працы светліцовай», дзе былі надрукаваны сатырычныя творы Кандрата Крапівы, Сяргея Дзяргая, вершы беларускіх класікаў, беларускія песні.

Нядаўна выйшаў з друку раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Папулярызатар беларускай літаратуры Яўгеньюш Кабатц пераклаў раман Івана Мележа «Людзі на балоце». Вялікай папулярнасцю ў польскага чытача карыстаюцца творы Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова. Іх вершы ўвайшлі ў зборнік «Сто трыццаць савецкіх паэтаў». Творы беларускіх пісьменнікаў перакладалі на польскую мову Казімеж Яворскі, Леапольд Левін, Станіслаў Ежы Лец, Раміг'юш Квяткоўскі, Зямовіт Фядэцкі, Севярын Поляк, Ежы Загурскі і іншыя. Ян Гушча, які летась пабываў у Беларусі, у сваім перакладзе апублікаваў вершы Петруся Броўкі, Анатоля Вярцінскага, Дануты Бічэль-Загнетавай і іншых. Вельмі многа папрацавалі польскія пісьменнікі, перакладчыкі, журналісты, каб дастойна адзначыць пяцідзесяцігадовы юбілей Савецкай улады.

У дні святкавання 50-годдзя Вялікага Кастрычніка матэрыялы аб рэвалюцыі, Савецкім Саюзе і пераклады твораў савецкіх аўтараў сістэматычна друкаваліся ў «Твурчосці», «Жыці Варшавы», «Панараме», «Зажэве», «Пшыяцюлцы», «Пшэкраю» і іншых часопісах і газетах ПНР. Адным з прыгожых падарункаў юбілейнай даце з'яўляецца «Кніга палякаў — удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі». На тысячы старонках кнігі зме-

шчаны біяграфіі каля васьмі тысяч палякаў, якія прымалі ўдзел у заваяванні і ўмацаванні Савецкай улады. Сярод іншых тут надрукаваны матэрыялы пра палымянага рэвалюцыянера Фелікса Дзяржынскага і старшыню Савета Народных Камісараў Туркестанскай Народнай Савецкай Рэспублікі Уладзіслава Фігельскага, работніка ЦК і ЦВК Браніслава Весялоўскага пра палякаў, якія змагаліся за Савецкую ўладу ў Беларусі, Азербайджане, Крыме, Сібіры.

Другой працай, якая ўзбагаціць польскіх чытачоў ведамі аб падзеях, звязаных з Кастрычніцкай рэвалюцыяй, з'яўляецца кніга успамінаў палякаў — удзельнікаў рэвалюцыі, што жывуць цяпер у Польшчы.



У новым мікраараёне Варшавы. Дзіцячы сад.

Цікава выдадзены кнігі «Польскія інтэрнацыяналісты ў барацьбе за перамогу Савецкай улады ў Расіі» А. Манусевіча, успаміны вядомага рэвалюцыянера Фелікса Кона «За пяцьдзесят год», дыпламатаў І. Майскага і В. Беражкова «З дыпламатычнай місіяй да Гітлера», «Знешняя палітыка СССР» Гжэгажа Яшунскага, «Анталогія савецкіх рэпартажаў», нарысы лепшых польскіх літаратуразнаўцаў пра савецкую літаратуру і найбольш выдатных празаікаў, паэтаў, драматургаў.

Дзеячы культуры народнай Польшчы дапамагаюць расці дружбе і ўзаемаразуменню двух братніх народаў, якім Кастрычніцкая рэвалюцыя і вызваленне з-пад гітлераўскай акупацыі стварылі магчымасці для росквіту культуры і дабрабыту.

# СЛЯДАМІ ПАМЯЦІ

**Гродна... Калі я прыязджаю сюды, абавязкова прайдуся па маляўнічай вуліцы Ажэшкі і абавязкова не абміну домік, у якім жыла выдатная польская пісьменніца. Яго так і называюць — «Домік Ажэшкі». Сёння тут размясціліся гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, замежны аддзел абласной бібліятэкі і даволі цікавая экспазіцыя пра жыццё і творчасць Элізы Ажэшкі. З хваляваннем адчыняю лёгкія філянковыя дзверы. Размаўляючы з бібліятэкарам замежнай літаратуры Станіславай Пятроўнай Глухіх (яна ж і загадчык экспазіцыі), я не ве-**



даў яшчэ, што мяне чакаюць цікавыя сустрэчы з людзьмі, якія помняць пісьменніцу.

Я разглядаў чытацкія фармуляры. Адабраў з іх тыя, дзе былі запісы: «Ён ведаў Ажэшку», «Ён сустракаўся з Ажэшкай». Хутка ў маім блакноце з'явілася некалькі прозвішчаў — Ганна Жалудзевіч, Ядзвіга Кулакоўская, Ядзвіга Пекса, Францішак Катынскі. А потым былі размовы, доўгія і цікавыя.

Вуліца Ажэшкі. Яшчэ на пачатку веку яна насіла імя губернатара Мураўёва... Дзень і ноч цокалі падковы па гладкай брукаванцы. Вуліца была самай людной. Часам які-небудзь заможны чалавек кідаў фурману некалькі манет і, хаваючыся ад сонца, ехаў па цяністай вуліцы Мураўёва. Абапал яе было многа домікаў, абвітых хмелем. Але гэты, больш як іншыя, кідаўся ў вочы. Заўсёды разнасцежаныя вокны, музыка і галасы...

— Хто жыве тут?—цікавіўся праезджы.

— О, ды гэта пісьменніца Эліза Ажэшка! — адказваў з ноткамі гордасці фурман.

Першае апавяданне пісьменніцы, напісанае ў 1866 годзе, было прысвечана беларускаму мужыку. Яно прагучала праклёнам тым, хто чыніў здзек над простым людам, хто чарніў яго лёс.

У тыя гады ў Гродна і навакольных вёсках блукала многа беспрытульных дзяцей. Пісьменніца ніколі не праходзіла міма іх. Вельмі часта жыхары горада бачылі, як па вуліцы ішла пісьменніца і на руках несла заплаканае дзіця. Неўзабаве ў доме Ажэшкі арганізаваўся цэлы пансіён, гадаваліся былыя беспрытульныя дзяўчынкі. Сама пісьменніца давала ім урокі. Ішоў час, выхаванкі Ажэшкі выходзілі замуж. І для кожнай у шчырай і добрай «маці» знаходзіўся сякі-такі пасаг.

Пісьменніца жыла будучыняй, якая кожнаму ўяўляецца толькі светлай і раднай. Не суджана было ёй самой дажыць да такіх дзён, але яна верыла, што гэтыя дзеткі з хмурымі тварамі і сумнаватымі вачыма іх дачакаюцца. Яны будуць чытачамі пісьменніцы. У іх захаваюцца цікавыя кнігі з яе дома, за якімі потым будуць «ганяцца» літаратуразнаўцы і кнігалюбы.

Бывалі дні, калі ў доме Элізы Ажэшкі збіраўся амаль увесь горад. Гэта было на Новы год. Пісьменніца наладжвала ёлкі, да яе прыходзілі дзеці простых рабочых. Гродзенскаму пенсіянеру Францішку Катынскаму давялося аднойчы быць на навагоднім вечары ў пісьменніцы. Ёлка была ўстаноўлена ў зале, дзе цяпер размяшчаецца экспазіцыя. Было весела і ўрачыста. Іграла музыка, ярка ўспыхвалі бенгальскія агні. У канцы вечара Эліза Ажэшка надзяліла ўсіх падарункамі.

«Каралевай жывога слова і прыгнечанай праўды» называў Элізу Ажэшку выдатны беларускі паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч. Перапіска аўтара «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага» з польскай пісьменніцай — яркая і яшчэ далёка не даследаваная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. У студзені 1887 года і праз год Францішак Багушэвіч наведваў Гродна. Цяжка сказаць, хто з іх дваіх быў больш рады гэтай сустрэчы. Адно вядома, радаваліся абое. У 1892 годзе адзначалася 25-годдзе літаратурнай дзейнасці Элізы Ажэшкі. На ўрачыстасці, прысвечанай гэтай даце, сярод шматлікіх гасцей быў і Францішак Багушэвіч. Больш ім не давялося сустрэцца. А вечным дарам пісьменніцы назаўсёды засталіся фота Францішка Казіміравіча ды прачулы верш «Яснавяльможнай пані Арэшчысе».

У 1910 годзе Эліза Ажэшка цяжка захварэла. Горад, здаецца, пацішэў, спахмурнеў ад гэтай весткі. Цэлымі днямі ля вокнаў дома Ажэшкі тоўпіліся людзі. Ім не цярпелася даведацца пра здароўе свайго шаноўнага і паважанага сябра. Дбайныя рукі жыхароў Гродна густа выслалі вуліцу Мураўёва саломай, каб праезджыя экіпажы сваім грукатам не парушалі спакой хворага чалавека. Нехта расказаў аб гэтым пісьменніцы.

— Дзякуй, дзякуй...— толькі і вымавіла яна, а на вачах паказаліся слёзы. Чым, як не расчуленасцю, можна было аддзякаваць людзям за іх дабрату...

Пісьменніцы не суджана было перамагчы цяжкую хваробу.

Імя пісьменніцы ўвекавечылі яе глыбока рэалістычныя творы і людзі, якім яна заўсёды давярала. У 1929 годзе ў гродзенскім гарадскім парку адбылося адкрыццё помніка Элізе Ажэшцы. Потым Мураўёўскую вуліцу назвалі імем пісьменніцы. А яе домік стаў музеем. З хваляваннем заходзілі людзі ў ціхія пакоі доміка, быццам ішлі на сустрэчу з самой пісьменніцай.

У гады Айчыннай вайны, калі Гродна занялі немцы, яны пагаспадарылі і ў музеі. Некалькі дзён вокны і дзверы яго былі расчынены насцеж. З іх вылеталі сшыткі, кнігі. Калісьці чулыя людзі заслалі вуліцу саломай, каб зберагчы спакой пісьменніцы. Гэтыя ж вылюдкі ўслалі вуліцу пашматанымі творамі Ажэшкі. З гарадскога парку быў вывезены помнік.

Гродзенцы вярнулі пасля вайны ўсё на сваё месца. У доме абсталявана цікавая экспазіцыя. Праз год-другі яна ператворыцца ў сапраўдны музей. Нехта з турыстаў, наведаўшы «Домік Ажэшкі», запісаў у кнізе: «Пабываць на радзіме Ажэшкі, гэта значыць — пабываць у казцы».

Так здалося і мне.

**Казімір КАМЕЙША.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Сцяпан КУХАРАЎ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Васіль ЧАРНЕНКА
- Анатоль МЯЛЕШКА
- Іван КІРЭЙЧЫК
- Алесь ЕСАКОЎ
- Вячаслаў РАГОЙША
- Янка ШПАКОЎСКІ
- Міхась ТОНДЗЕЛЬ
- Сцяпан МАЙХРОВІЧ
- Леанід АЛЯКСЕЕЎ
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Ісак ЦЫВЕС
- Аляксей СУЭЦІН



Думка. Малюнак Мікалая Жукава.

*Няхай кожны, хто хоча вучыцца ў Леніна, запомніць: ніякіх паспешлівых заключэнняў!..*

*... Не толькі кожнае сцверджанне павінна было быць дакладным вывадам з правераных дадзеных, але самая думка павінна ўся была быць так узважана, каб у ёй не засталося нічога расплывістага і няяснага і каб яна ад пачатку да канца вызначалася поўнай выразнасцю і акрэсленасцю.*

*З успамінаў Георгія Чычэрына
пра У. І. Леніна.*

● Сцяпан КУХАРАЎ

# ВОДГУЛЛЕ

### З блакнота журналіста

Палескі Купалаў маршрут. Паглядзім на тыя мясціны, дзе хадзіў Янка Купала, завітаем да тых людзей, з якімі ён страчаўся трыццаць з лішнім гадоў назад, паслухаем быліны пра тое, «як на край балотны ішоў сацыялізм».

Пры ўездзе ў Любань нас вітае Феня Конанава — камсамолка з вёскі Нежын над Арэсай. Феня ў гады фашысцкай акупацыі ўзначаліла групу падпольшчыкаў, выканала не адно баявое партызанскае заданне, а калі яе схапілі карнікі, то мужна трымалася і загінула, як герой. Малады скульптар Уладзімір Ананка і архітэктар Георгі Заборскі ўвасобілі мужны воблік Фені Конанавай у камені.

Камсамольцы паставілі Фені помнік. Сваімі сіламі. Яны ж прыносяць сюды вянкі і кветкі.

Мужнасць і гераізм камсамола Любаншчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны адзначаны ў сувязі з 50-годдзем ВЛКСМ ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

Ідзе год ленінскай ударнай работы. Любаншчына намеціла сабе новыя рубяжы, якія патрэбна будзе заваяваць, каб буйным коласам шумелі неабсяжныя палескія гоні, каб кожны гектар любанскай зямлі даваў чалавеку шчыры дарунак. На ленінскай вахце працы камуністы і камсамольцы — ударная сіла Любаншчыны.

Юнакі і дзяўчаты здаюць ленінскі залік. Кожны на сваім месцы, на даручаным участку. Спаборніцтва шырыцца пад дэвізам: «Па-ленінску працаваць, вучыцца і жыць!» Весткі з палёў, з фермаў, ад механізатарскіх агрэгатаў сведчаць пра тое, што маладыя любанцы прыйдуць з важкім рапартам на Усесаюзны камсамольскі сход.



Помнік-абеліск адважнай любанскай камсамолцы Фені Конанавай.

●

... Іх ужо засталося ў Камуне, — так і цяпер называецца пасё-



**Тыя, хто пачынаў ладзіць Камуну.**
**Фота С. Дарожкі.**

лак на пясчанай выспе Забалаць, вакол якой некалі хлюпалі балоты і буялі хмызнякі,— не багата, можа, чалавек пятнаццаць, не больш. Іх называюць старымі камунарамі ў будні, а ў святы, калі запрашаюць у прэзідыумы на сходах і ўрачыстасцях, ветэранамі, героямі працы. Яны з той кагорты дэмабілізаваных чырвоных воінаў, што прыйшлі на Мар'інскія балоты першыя. З гарачым, нястрымным жаданнем будаваць новы свет, адкрыць скарб, схаваны ў дрыгве. Іх было спачатку сем, а за імі прыйшлі дзесяткі...

Кожны, каго вы сустрэнеце ў пасёлку, назаве іх, пакажа, дзе жывуць ветэраны. А пасёлак вялікі — 240 двароў. Ад цэнтра, дзе праўленне ардэнаноснага калгаса імя ЧБВА, клуб, сталовая, магазін, пошта, школа імя Янкі Купалы, сельскі Савет, разбегліся радамі вуліцы. Глянеш на дом, на сядзібу (пры кожнай абавязкова садок), і адразу скажаш: жывуць людзі заможна! Над многімі дахамі тэлеантэны. Ну, вядома, і радыё, і электрычнасць у дамах.

Недалёка ад клуба — майстэрня камбіната быту. Тут мы засталі за працай Фёдара Мікалаевіча Шалаева, аднаго з той адважнай сямёркі. Паказалі яму фотакартку, дзе знята вялікая група маладых камунараў ля трактара.

Фёдар Мікалаевіч прыладзіў акуляры, пачаў узірацца, і твар яго ўсё святлеў, разгладжваліся зморшчынкі.

— А як жа, добра памятаю! — ахвотна загаварыў Фёдар Мікалаевіч, прыладжваючыся ў крэсле. — Гэта мы фатаграфаваліся зімою перад паездкай у Любань. Во Анісімаў. А гэта Адам Кур'ян. А гэта Андрэй Барсукоў — наш партыйны сакратар. Вось — Серафім Міхаленя. Быў у нас майстрам на ўсе рукі, гарачы да працы хлопец, загінуў яшчэ ў фінскую вайну. А тут, у цэнтры, Модзін, наш камунараўскі старшыня... Усе, шчыра скажу вам, баявыя, адчайныя хлопцы. А як жа, хлопцы: усім было па дваццаць чатыры, аднагодкі, 1905 года нараджэння. А працавалі як: ні дрыгва, ні дажджы, ні бездараж — нішто нас не палохала! Што ж, усе былі здаровыя, маладыя, а галоўнае — перапоўненыя вялікім жаданнем збудаваць камуну!..

Фёдар Мікалаевіч то здымае, то начэплівае акуляры, выцірае спацелы твар — вядома, чалавек хвалюецца. І ўсё расказвае. Прыгадвае, як жылі першыя камунары ў палатках, як сталаваліся, як праводзіліся тыя сходы, на якіх задавалі пытлю «свістунам» — тым, каму была то «не ў час яда», то «сячэ камар», «смярдзіць вада».

Мы гутарылі з многімі, амаль з усімі старымі камунарамі, якія

жывуць у пасёлку Камуна, у пасёлку Сосны (саўгас імя 10-годдзя БССР), у Любані. Нялёгка цяпер выявіць усе дробязі, бо за даўнасцю асобныя дэталі сцёрліся, пазабываліся. Але і з таго, што нам удалося сабраць, праглядвае воблік Янкі Купалы — паэта і грамадзяніна, простая і шчырая натура цікаўнага і ўражлівага чалавека.

Янка Купала, прыехаўшы ў Камуну з Платонам Галавачом і Уладзімірам Хадыкам, спыніўся на кватэры ў старшыні камуны Эмануіла Модзіна.

— Іван Дамінікавіч, вы будзеце жыць у мяне на кватэры, — сказаў Модзін да Купалы.

Але той замахаў рукамі:

— Не, што вы, няхай тут хлопцы, з імі будзе весялей. А мне маленькі пакойчык. Да мяне ж будуць ісці людзі. Я ўжо як-небудзь перакідаюся, не турбуйцеся...

Міхаіл Міхайлавіч Марачоў, — адзін з тых чырвоных кавалерыстаў, што заснавалі камуну на балотах, — таксама дзеліцца сваімі ўспамінамі пра Янку Купалу.

— Вунь, дзе цяпер сталовая, — паказвае Міхаіл Марачоў на домік, што побач з клубам, — стаяў той наш першы дом літарай «П». Там і Купала асталяваўся ў маленькім пакойчыку. У яго часта былі людзі. І хутаране-палешукі прыходзілі, і сам ён ездзіў і ў Кузьмічы, і ў Куцінку, і ў Нежын. Песні палескія любіў. З цікавасцю слухаў гаворку палешукоў. Быў ён у камуне, здаецца, тыдні два, а потым зноў неяк прыязджаў улетку. На беразе Арэсы любіў пасядзець. З настаўнікамі ў лес на прагулкі хадзіў. А мне неяк сказаў: «Напішу кнігу пра Палессе, пра вашу камуну». Тое, што ўбачыў Янка Купала на нядаўніх балотах, зрабіла на яго вялікае, незвычайнае ўражанне. І вылілася ў паэму «Над ракой Арэсай».

У паэтычныя радкі пераплаўлены рэальныя факты і падзеі жыцця камунараў і рабочых саўгаса, а героі паэмы — гэта жывыя людзі, з якімі сустракаўся паэт і якія яго ўсхвалявалі. Быў у камуне і Барысенка, што загінуў ад няшчаснага выпадку на гатары, быў і Пракоп Адзярыха, які з брыгадай камунараў праклаў вузкакалейку ад камуны да саўгаса. Насуперак замежным спецыялістам, якіх спачатку запрасілі, каб спраектавалі чыгунку.



**Успамін аб вайне. Адна з партызанскіх зямлянак, што захаваліся на востраве Зыслаў.**

«Дзівакі! Навошта тут чыгунка? — гаварыў спецыяліст-немец, якога запрасілі былі ў камуну. — Хіба каб палешукі ездзілі ад аднаго балота да другога...»

«Што ж, самі пабудуем, — адказаў на гэта старшыня камуны Мо-



**Усё, што пакінула вайна ад Камуны. Здымак 1944 года.**

# КАМУНАРЫ

# І

# ДЗЕЦІ КАМУНАРАЎ



Змітрок Каленчанка, член праўлення калгаса імя ЧБВА.



Наста Міхаленя, даярка.

Малюнкі Янкі РАМАНОЎСКАГА.



Марыля Абраменка, даярка.



Кастусь Адзярыха, шафёр.



Іван Адзярыха, трактарыст.

# КАМУНАРЫ І ДЗЕЦІ КАМУНАРАЎ



Цімох Анісімаў, былы камунар.

дзін. — Знойдзецца ў нас свой інжынер».

Гэта і быў Пракоп Адзярыха — сялянскі сын з-пад Слуцка. Але ён прайшоў ўжо добрую школу ў кавалерыйскім эскадроне. Як і яго саслужыўцы, дэмабілізаваўшыся, прыехаў у камуну. Стаў у кузні ля горна. Кемлівы хлопец, любіў корпацца ля машын. Калі яму старшыня камуны прапанаваў узяцца за будаўніцтва вузкакалейкі, Пракоп ахвотна ўзяўся за справу — за адну зіму вузкакалейка была гатова.

Першыя трактары. Першы аўтамабіль. Чыгунка. Першая лямпачка Ільіча. Першы рабфак у саўгасе. Першыя дзіцячыя яслі. Усё ў камуне было першае, новае. Камуна расла на вачах. Яе агні свяцілі ярка і далёка, асвятляючы працоўным сялянам шлях у новае жыццё.

●

... Унук Пракопа Адзярыхі — пяцікласнік Толік Адзярыха прынёс з бібліятэкі томік Купалы, паказаў бацьку, які толькі што вярнуўся з рэйса, прачытаў радкі з паэмы:

**А на рэчцы на Арэсе**
**Растуць акцябраты,**
**піянеры, камсамольцы —**
**з бальшавіцкім гартам...**

І, ускінуўшы на бацьку цікаўныя вачаняты, спытаў, мабыць, ужо не ў першы раз:

— А праўда, тата, што тут пра нашага дзеда напісана? Во і прозвішча, як у нас, — Адзярыха?..

— Праўда, сын, праўда. Ты чытай усё ўважліва і запамінай. Гэта ж і пра цябе тут сказана: «Піянеры, камсамольцы...»

— А дзеда нашага памятаеш, тата? — зноў не сунімаўся Толік з роспытамі: — Дзе ён? Памёр на вайне?..

— Як жа, памятаю, — уздыхнулася чамусьці Кастусю Адзярыху. Сын крануў балюча тое, што неяк даўно прытупілася, загаілася: — Мне было тады сем гадкоў, як нашай Светцы цяпер. Дзед твой быў малады, дужы. Як падкіне мяне на руках, аж пад самую столь. На машыне ён ездзіў, як цяпер твой татка. Мяне іншы раз браў з сабою. Добра памятаю, як мы ездзілі на Урэчча... Даўно ўжо гэта было...

І Косця змоўк, каб супакоіцца, заспяшаўся на двор, не адказаўшы сыну на тое ягонае запытанне. Яму і самому стала вядома пра бацьку толькі праз многія гады пасля вайны.

У Пракопа выраслі сыны — Косця, Іван і Зміторк, дачка Ніна. Не лёгка было адной жанчыне гадаваць дзяцей, ды Аўдоцця Васільеўна не пала духам — свае людзі (камунары ж!) верылі, што бацька іх не вінаваты, падтрымалі, не пакінулі ў бядзе.

— Вайною, як на нашай зямлі лютавалі фашысты, — Аўдоцця Васільеўна Адзярыха прыкладвае ражок хусткі да вачэй, — мы нагараваліся. У лесе жылі, з партызанамі. А Ніна мая сувязной была, хадзіла ў разведку, у Сосны, дзе гарнізон стаяў. А пасля вайны яшчэ два гады ў зямлянцы жылі...

Сваімі дзецьмі ганарыцца Пракопіха. Выраслі добрыя, сумленныя, вартыя бацькі-камунара. У клубе на фотавітрыне «Нашы лепшыя людзі» побач з партрэтам ганаровага калгасніка Кастуся Якаўлевіча Бердніковіча, кавалера ордэна Леніна, фотакарткі братоў Кастуся і Івана Адзярыхаў.

Кастусь — шафёр, адзінаццаць гадоў за рулём. Самыя адказныя і цяжкія рэйсы даручаюць яму — камуністу Кастусю Адзярыху. Яго магутны «ЗІЛ» блішчыць, як новенькі, а прайшоў ужо за сотню тысяч кіламетраў.

Падлеткам Косця пайшоў у людзі. Скончыў школу ФЗН, працаваў на будоўлі, адслужыў вайсковую службу, паступіў на завод імя Кірава ў Мінску. Неяк да Косці завітаў у госці дзядзька Каленчанка, зямляк і бацькаў сябар.

— Ідзем пакажу, дзе стаяла наша чырвонаармейская казарма, — сказаў дзядзька Каленчанка да Косці. — Паглядзіш, дзе твой бацька служыў...

Яны доўга хадзілі па тых мясцінах. Косця ўсё распытваў пра бацьку, нават пачаў лепш уяўляць сабе ягоны вобраз — здавалася, нібы пабачыўся з ім.

— А дадому не хочаш? — на развітанне запытаў дзядзька Ка-

ленчанка.— У нас, у камуне, скора такое будзе — куды твой горад!..

Косця прамаўчаў. А на сэрцы было неспакойна, нешта трывожыла, як бы хто клікаў яго туды, на адваяваную і абжытую бацькам зямлю. Праз некаторы час ён узяў разлік і прыехаў у камуну, сеў «за баранку».

Пяць гадоў як Кастусь Адзярыха ля сэрца носіць партыйны білет. Сын камуніста стаў камуністам. Яму рэкамендацыю даў стары камунар Зміцрок Каленчанка.

— Гэта я яго, Косцю, а потым і Івана рэкамендавала ў партыю,— устаўляе Аўдоцця Васільеўна.— Я так і сказала: ідзіце, сыны, у партыю. Партыя вас на благое не навучыць — ні піць, ні біцца, ні красці...

— Сказалі, мама! — усміхнуўся Кастусь, зачырванеўшыся: — Рэкамендацыю ж даюць камуністы...

— А я хто? — пакрыўдзілася Аўдоцця Васільеўна.— Я за партыю жыцця не пашкадую. Дармо, што я на вашы сходы не хаджу ды білета не маю. Мая гэта партыя, як і вашая. Вы ж, можа, мае сыны!

... Каля хаты спыніўся трактар. Праз расчыненае акно з пахам чаромхі данёсся церпкі дымок. І тут жа на парозе паявіўся Іван — меншы сын Пракопа Адзярыхі, плячысты, чарнявы, толькі крыху драбнейшы з твару. Усміхнуўся, адразу бачна, што Кастусёў брат.

— Зноў еду на балота,— сказаў ён, звярнуўшыся да жонкі, якая ўходжвалася ля печы. Потым, пазнаёміўшыся з намі, растлумачыў: — Як толькі настане вясна, пачынаюцца пажары на тарфяніках. Вось мне і даводзіцца змагацца.

Маці ўголас перажывае, што ў Іванавай жонкі ўсё нараджаюцца дзяўчынкі. А Іван жартуе, смяецца:

— Нічога, мама, пяць дачок — гэта пяць зяцёў!..

— Ой, калі тое! Яшчэ во большанькая толькі ў першы клас хадзіла,— смяецца і Аўдоцця Васільеўна.

А Косця з Іванам спяшаюцца.

Вясна. Няма часу на размовы. Працавіты май — багаты каравай.

— Цяперашняй моладзі можна жыць у вёсцы,— на развітанне кажа Кастусь Адзярыха.— Гэта не тое, што мы, такія ж хлопцы, па вайне не мелі чаго ні апрануць, ні на ногі ўссунуць. У ватоўках завэзганых і гной вазілі, і ў клуб ішлі, на гулянку...

— Цяпер і вучаць за кошт калгаса,— дадае Адзярыха малодшы.— Стыпендыю даюць, толькі вучыся...

Браты развітваюцца. Яшчэ раніца. З комінаў уюцца дымкі. Вуліцу заторылі каровы — пастухі збіраюць статак на пашу.

Расце змена ў Камуне. Новыя людзі, народжаныя ў пасляваенныя гады, ужо вядуць рэй, бяруць у свае маладыя, дужыя рукі ўладу над зямлёй, становяцца гаспадарамі ўсяго, што ў голадзе і ў холадзе, у крывавых бітвах здабывалі іх дзяды і бацькі. А яны зусім не абыякавыя да таго, якой расце гэта іх змена, як вядзе яна далей пачатую справу. І ўжо крыўдна, калі чуеш ад ветэрана пра маладых: «Не завуць, а дармо!..»

Пад крылом самалёта — веснавая зямля. Зялёнае з чырвоным. Палессе. Блакітныя стужкі рэчак, стрэлы каналаў, ніткі калектараў. Зялёныя купы садоў. Стрэхі дамоў.

А гэта што такое? Усё зялёнае раптам знікла. Вакол — водная прастора. Ляцім хвіліну, другую над вадой.

— Гэта ж Случ перагарадзілі,— растлумачвае чырванашчокая паляшучка з вялікім кашом на каленях: — Мора ўтварылася.

Пад намі Салігорск. Як прыгожа і магутна выглядае горад беларускіх шахцёраў, калі глядзіш на яго з-пад крыла самалёта! Ды яшчэ ранкам. Гмахі дамоў, цыгары труб, шахтныя капры...

За Салігорскам — пацягнуліся лясы. Значыць, жывое яно, тое лясное царства...

Матор спявае сваю сталёвую песню.

Як рэха, перагукаліся галасы Палесся.

Зноў клікала да сябе Любаншчына.



# ЗВАНЫ ХАТЫНІ

Спявае матор. Гойдае мяне ўверх-уніз любімая дарога. Бяру пад'ёмы і віражы, і на кожным з іх усміхаецца чаромхаю вясна.

Сіняе неба сёння, блакітны ў мяне настрой. Я дыхаю пахамі лясоў, мае вочы не могуць адарвацца ад святочнай зеляніны. Я мчуся шпарка, лёгка, бо такі яркі і чысты сёння дзень, бо так шчасліва на маёй зямлі — квецень вясны і майскі звон абуджаюць весялосць, у цёплых хвалях радасці калышацца сэрца.

Любімая мая дарога на пятнаццатым кіламетры за Лагойскам стромка ўзнімаецца ўгару, здаецца, упіраецца ў вяршаліны сосен. Даю поўны газ...

Вымахнуўшы на грэбень, заўсёды кідаеш позірк як мага далей, каб даведацца, што чакае ўнізе: гарбаты масток ці круты паварот. І раптам вочы натыкаюцца на вялікае, у пяць маіх ростаў, попельнае, жудаснае слова: ХАТЫНЬ.

Хто ведае пра Хатынь, хто едзе на матацыкле ці на грузавіку, ці па ўзбочыне трасецца на драбіне аль-

бо крочыць з рукзаком за плячыма,— усе спатыкаюцца аб гэтае лясное слова ХАТЫНЬ.

І кожны на маёй зямлі спатыкаецца аб гэтае слова, бо ў таго — бацькі, у другога — маці, у трэцяга брата ці сястры, а ў чацвёртага — усёй радні не стала, як не стала на гэтым свеце Хатыні.

ХАТЫНЬ — як балючы ўздых маёй радзімы, як стогн, як праклён, як запаведзь бацькоў, як прысяга на помсту.

Сёння на падворках лясной вёскі Хатынь не расце трава. Няма падворкаў, няма вёскі, толькі шэрыя бетонныя вянцы ўзнімаюцца над аплаўленым шлакам.

Раслі ля хат дрэвы. Арабіны, чаромхі, клёны. У канцы сакавіка





— А дамовачка твая цёмная!..



Пах згарэлага бэзу сустракае тут кожнага.

прыляталі шпакі — хлапчукі ладзілі на дрэвах шпакоўні, усцягвалі старыя колы, каб даўганогія буслы неслі ў Хатынь шчасце.

Згарэлі хаты і дрэвы, што раслі пад вокнамі, згарэлі разам з буслянкамі і шпакоўнямі. Сёння шпакі аблятаюць пажарышча, буслам ніколі ўжо не прынесці ўдачы хатынцам. Бо няма хатынцаў.

Хаты стаялі вольна, на ўзгорках. Вясковая вуліца ішла лагчынкай. І да кожнай хаты вяла сцежка, абсаджаная бэзам ці язмінам. Гаспадары на ноч зачынялі брамку, каб не выйшла з двара скаціна, каб не ўбіліся ў двор ваўкі.

Згарэлі брамкі, згарэлі свірны і хлеўчукі, але другія, бетонныя веснічкі расчынены назаўсёды: заходзьце, людзі, на нашы падворкі, хай стрэне вас пах згарэлага бэзу...

Пяць дарог выходзіла з Хатыні ў поле, у лес, да суседзяў. Па тых дарогах вазілі сена — авечак і кароў карміць, вазілі ядловец—шынкі вэндзіць, насілі кашамі грыбы і вёдрамі ягады. З сярпамі і косамі, з песнямі ішлі на працу па тых дарогах, ішлі ранютка, па расе. А вечарам брылі дамоў сытыя рудыя каровы. Зараслі тыя дарогі. Сёння на пачатку кожнай стаіць капліčка, а да яе прыбіта, прыварана падкова.

Карнікі сагналі людзей у хлеў і падпалілі. Спачатку страху. Ад страхі заняліся бярвенні.

Згарэла ўсё: хаты, людзі, мары. 154 жыцці, 26 двароў Хатыні згінулі ў полымі.

Згарэлі матчыны рукі, бацькавы плечы, светлыя тварыкі дзяцей і губы каханых. Уся вёска, усе жыхары Хатыні згінулі.

Гэта здарылася 23 сакавіка 1943 года, у нядзелю. Вёска Хатынь Каменскага сельсавета Плешчаніцка-

та раёна была знішчана за сувязь з партызанамі. Кіраваў аперацыяй камандзір эсэсаўскага батальёна «Чорная смерць» Дырлевангер.

— А дамовачка твая цёмная!..

26 комінаў шэрымі кантамі рэжуць сіняе неба.

— Цесная твая дамовачка!..

26 званоў стогнуць над зялёным лесам.

Нясуць вянкі, безліч вянкоў. І нясуць кветкі: сумную, паніклую сон-траву, пяшчотныя пралескі, сонечны казялец, палымяныя цюльпаны, духмяны бэз, першыя ружы.

У лесе высвістваюць дразды. На ўскраіне вёскі строіцца піянер-



Ля помніка ахвярам Хатыні.

скі атрад. Трубіць горн. Пад абцасамі жалобна пазвоньваюць пліты бетоннай дарожкі.

Ля старых могілак, дзе пад крыжамі пахаваны продкі хатынцаў, уразаецца ў зямлю экскаватар. Тут бялее падмурак будучага музея, які раскажа людзям пра Хатынь і пра сотні іншых беларускіх вёсак, якія гітлераўцы спалілі разам з жыхарамі.

А над усім гэтым стогнуць, плачуць, ірвуць на кавалкі сэрца званы, і жанчына ля коміна галосіць:

— А дамовачка ж твая цёмная!..

Падаюць долу слёзы. Цісне ў грудзях. У кожнага з нас свая Хатынь, свае пакуты, свае званы.

Маё асабістае гора таму бязмернае, што яно — частка народнага гора. Мой жаль бясконцы, бо бяс-



Іосіф Камінскі быў 155-м у полымі Хатыні. І... выжыў.



Жывая рака жалобы і смутку.



концы жаль маёй радзімы па дзецях сваіх.

Трасцянцы, азарычы, гета, хатыні — мяне там катавалі і забівалі, марылі голадам, аблівалі на марозе студзёнай вадой. Мяне кідалі ў печы Асвенціма. Па каменнай лесвіцы Маўтхаўзена маё цела шпурлялі ў прорву небыцця. Мяне распіналі ў штабным бліндажы. На маім горле сціскаліся сківіцы аўчарак. Маю каханую мардавалі мюнхенскія гандляры.

Гэта мне выдзіралі залатыя зубы. З маёй скуры зроблены рыдыкюль для фрау. На матрасе з маіх валасоў абслугоўваюць гасцей бонскія прастытуткі.

Гэта мае раны не даюць мне спаць.

Я пахаваны на Піскароўскіх могілках. Я — у ямах Бабінага Яру. Я — пад руінамі Мінска. Мой попел у сінім небе.

Стрыманы мой народ у помсце, вялікая яго літасць.

Перамогшы лютага ворага ў цяжкай барацьбе за незалежнасць, мой народ спазнаў цану радасці, і таму ён не зласлівы. А ў каго менш злосці, той даўжэй жыве. І над намі неба чыстае, палеткі нашы — урадлівыя, настрой наш — бадзёры.

А тым часам зноў рыхтуецца замах, і не ціхай сапай, а ў адкрытую, у тых жа піўных барах, дзе планаваліся асвенцімы і хатыні. Ад крывавай прагі вар'яцеюць недабіткі, і толькі спусці з ланцуга, як шалёная зграя сабак рынецца на ўсход: «зіг хайль!»

Але б'е ў званы Хатынь, над лясамі і палеткамі, у сінім небе плыве яе стогн, і галасы загінуўшых загадваюць: «Трымайце порах сухім! Будзьце пільныя, людзі! Будзьце пільныя землякі!»

Валянцін ЖДАНОВІЧ.
Фота аўтара.

НЯМА ТАКОЙ СФЕРЫ ў дзейнасці чалавека, якая б не была звязана з вадой. Наша сувязь з вадой такая простая, што мы і не заўважаем, якая яна складаная на самай справе.

Чалавек, як спажывец вады, уяўляе яе звычайным рэчывам. З пункту гледжання навукі — вада вельмі складаная па сваёй будове. Самую простую формулу $H_2O$ мае малекула парападобнай вады. Малекула вадкай вады аб'ядноўвае дзве простыя формулы $(H_2O)_2$, а малекула лёду складаецца з трох простых $(H_2O)_3$. Апрача таго існуе яшчэ і цяжкая вада — $Д_2O$, якая з'яўляецца вокісам не вадароду, а яго ізатопа — дэйтэрыю. Цяжкая вада ёсць ва ўсіх вадаёмах, праўда, у нязначнай колькасці.

У прыродзе чыста хімічнай вады не бывае. Нам даводзіцца мець справу з рознай вадой — салёнай, прэсна-жорсткай, мяккай, празрыстай, мутнай, бальзамнай і г. д. Прытым рэчывы, якія раствораны ў ёй, па сваім складзе вельмі разнастайныя. Сярод іх найбольшы працэнт займае спажыўная соль.

станні якой чалавек зрабіў толькі першыя крокі. Можна ж атрымліваць электраэнергію ад сілы марскіх прыліваў і адліваў, ад розніцы тэмператур паміж верхнімі і глыбіннымі водамі акіяна. Гэта дазволіла б чалавеку зберагчы вялізную колькасць арганічнай сыравіны: вугалю, нафты, газу, торфу, якія ў наш час спальваюцца, напаўняючы паветра шкоднымі для здароўя газамі. Энергія марскіх прыліваў у сто тысяч разоў перавышае магутнасць усіх ГЭС нашай планеты. Атрыманне электраэнергіі за кошт спальвання арганічных рэчываў — пройдзены этап у развіцці навукі і тэхнікі. Увагу трэба скіраваць на вывучэнне і асваенне сіл, створаных самой прыродай. А гэта ж невычарпальныя крыніцы энергіі! Поспех у іх асваенні дазволіў бы чалавецтву ўзняцца на больш высокую ступень цывілізацыі.

У акіянах і морах сканцэнтравана асноўная маса біялагічных рэсурсаў. Іх у вадзе ў чатыры разы больш, чым на сушы. Многія марскія водарасці да-

# ВАДА — ЧАЛАВЕК — ГОРАД

Як сцвярджае савецкі хімік О. А. Алёкін, штогод з сушы ў акіяны і моры выносіцца 25 мільярдаў тон розных соляў. Але салёнасць сусветнага акіяна застаецца пастаянная. На адзін кубічны метр вады прыпадае тры з паловінай кілаграма солі. Акрамя таго, у вадзе ёсць значная колькасць складаных арганічных рэчываў і газаў. Сярод іх можна сустрэць вугляводы тлустых кіслот і амінакіслот, роставыя гармоны, вітаміны і антыбіётыкі.

Вядома, што ў прыродзе вада існуе ў трох станах: вадкім, цвёрдым і парападобным. Ва ўсіх станах яе на зямным шары каля паўтара мільярда кубаметраў. Моры і акіяны займаюць 361 мільён квадратных кіламетраў паверхні зямнога шара. Астатнюю частку, роўную 149 мільёнам квадратных кіламетраў, займае суша.

Такія суадносіны паміж воднай паверхняй і сушай зямнога шара маюць надзвычай вялікае значэнне ў жыцці чалавека. Яны падтрымліваюць сучасныя кліматычныя ўмовы. Пры другіх суадносінах, напрыклад, аднолькавых, клімат многіх раёнаў нашай планеты быў бы сушэйшы, менш спрыяльны для жыцця.

Акіяны і моры тояць у сабе вялікія запасы патэнцыяльнай энергіі, у скарыюць па сто пяцьдзесят тон зялёнай масы з гектара. А з аднаго гектара лепшай сенажаці на зямлі атрымліваюць не больш чатырох тон сена. Толькі Атлантычны акіян па спажыўнасці ацэньваецца ў дваццаць ураджаяў, знятых за год на сушы.

Такім чынам, водная абалонка нашай планеты — гідрасфера — больш спрыяльнае асяроддзе для ўзнаўлення кармавых рэсурсаў, чым суша. Як сцвярджаюць вучоныя, чалавецтва ў хуткім часе зробіць яе сваёй асноўнай жытніцай. Так, вядомы польскі вучоны-гідрабіёлаг К. Дэмель лічыць, што ў 2000 годзе чалавек павінен будзе атрымліваць з мораў і акіянаў трыццаць працэнтаў неабходных бялкоў. Акрамя таго, на дне акіянаў у выглядзе валуноў залягае два мільярды тон кобальту. Гэта ў дзве тысячы разоў больш, чым ёсць яго на сушы. А яшчэ ніжэй знаходзіцца шэсцьдзесят мільярдаў тон нафты.

Вялікія прасторы займае вада ў выглядзе лёду. У адной толькі Антарктыцы запасы лёду складаюць каля трыццаці мільёнаў кубічных кіламетраў. Гэта ў шэсць разоў перавышае аб'ём прэсных вод рэчак і азёраў зямнога шара. Паводле падлікаў вучоных, з Антарктыды ў моры скідваецца каля паўтары

тысячы кубічных кіламетраў лёду. А колькі яго на вяршынях гор, на рэках і азёрах у зонах сярэдняга клімату! Калі б увесь лёд расплавіць, то ўзровень вады ў сусветным акіяне павысіўся б на шэсцьдзесят шэсць метраў. Многія нізінныя месцы апынуліся б пад вадой.

Водамі леднікоў жывяцца шматлікія рэкі, якія рухаюць магутныя турбіны гідраэлектрастанцый, абвадняюцца палі і буйныя прамысловыя гарады. Цяжка, напрыклад, пераацаніць значэнне ракі Аму-Дар'і для жыхароў Сярэдняй Азіі, якая нясе з высокіх гор Паміра ваду леднікоў.

Вада ў выглядзе пары знаходзіцца ў атмасферы і ў нетрах зямлі. З акіянаў на сушу вады пераносіцца значна больш, чым яе паступае ў акіян з сушы. Перыяд, на працягу якога ідзе абмен вільгаццю паміж сушай і акіянам, прыкладна роўны дзевяці суткам. За год гэта паўтараецца сорак адзін раз. На паверхню зямлі выпадае вады не ўсюды аднолькава. Над пустынямі дажджы ідуць рэдка, у зоне сярэдняга клімату часцей, а ў трапічных мясцовасцях вільгаці нават залішне.

Барацьба чалавека з прыродай за ваду ў засушлівых раёнах планеты вядзецца на працягу ўсёй яго гістарычнай дзейнасці, і асабліва энергічна ў нашы дні. Прыклад гэтаму — мерапрыемствы нашай партыі і ўрада па арашэнню пустынь і абвадненню населеных пунктаў у рэспубліках Сярэдняй Азіі, на поўдні Украінскай ССР, Паўночнага Каўказа і ў іншых раёнах краіны. Вырашаюцца гэтыя праблемы розным шляхам: акумулююцца мясцовыя талыя воды, а таксама перакідваюцца значныя масы вады з раёнаў, дзе яе шмат, у засушлівыя раёны. Так, напрыклад, вядзецца вялікая работа, якая дасць магчымасць перакінуць ваду з Іртыша ў Караганду. Вывучаецца і распрацоўваецца таксама праблема ўзбагачэння Каспійскага мора водамі рэк, якія цякуць у паўночным напрамку. Гэта выклікана тым, што за апошнія сорак год узровень Каспія знізіўся больш чым на два з палавінай метра. Перамясцілася берагавая лінія, і вялікія залівы засталіся без вады. Гэта адмоўна адбілася на прамысловасці, сельскай гаспадарцы і, асабліва, на рыбалоўстве. Асноўная мэта ўсіх мерапрыемстваў — раўнамернае размеркаванне вады паміж геаграфічнымі раёнамі краіны. Калі іх ажыццявіць, то ў значнай ступені вырасце эканамічны і культурны ўзровень жыцця людзей.

Дагэтуль у нас гаворка ішла пра дэфіцыт (недастачу) вады. Але існуюць праблемы, звязаныя з лішкам яе. Гэта асушэнне зямель, папярэджанне паводак і барацьба з імі. Раней паводка была стыхійным няшчасцем, якое нельга было прадугледзець. Веданне ж кругазвароту вады ў прыродзе памагло чалавеку прадбачыць паводкі і больш эфектыўна змагацца з імі. На многіх рэках нашай планеты, дзе не адрэгуляваны сцёк, паводка прыносіць немалую шкоду. Як паведамлялася ў друку, у 1966 годзе Італія перажыла катастрофу паводкі. Выйшлі з берагоў рэкі По і Арно. Гарады Фларэнцыя, Грасета, Венецыя, Піза, а таксама безліч вёсак былі затоплены. Загінула пяцьдзесят тысяч галоў жывёлы і ўраджай на плошчы ў трыста тысяч гектараў. Паводка прынесла страт на дзевяцьсот мільёнаў лір.

Чалавецтва настойліва імкнецца вырашаць праблему вады. Але з ростам цывілізацыі яна ўсё больш ускладняецца. Павялічваецца насельніцтва планеты, растуць прадукцыйныя сілы, людзі ўсё больш спажываюць вады, рэсурсы ж яе застаюцца нязменныя. Гэта азначае, што запасы свежай вады, прыдатнай для ўжывання, скарачаюцца.

Рост гарадоў, стварэнне ўмоў для развіцця воднага спорту і адпачынку, несумненна, садзейнічаюць павелічэнню норм водаспажывання. На свае гаспадарча-бытавыя патрэбы адзін жыхар Масквы за год спажывае 116 м$^3$ вады, Ленінграда — 107, Кіева — 95, Баку—84, Тамбова — 31, Кастрамы — 24.

Водныя рэсурсы Савецкага Саюза багатыя. На долю Беларусі прыпадае 1,3 працэнта ад іх агульнай колькасці. Працэнт выкарыстання паверхневых вод у нашай рэспубліцы крыху вышэйшы, чым у сярэднім па краіне.

Нашым гарадам і прамысловым цэнтрам патрэбна ўсё больш і больш вады. Так, напрыклад, у 1980 годзе водаспажыванне рэспублікі павялічыцца ў два з палавінай раза ў параўнанні з 1965 годам. А гораду ж патрэбна вада не толькі для прамысловасці. Таму адшуканне магчымасцей для забеспячэння вадой нашых гарадоў, рацыянальнае выкарыстанне яе мае вялікае значэнне для рэспублікі.

Прыродныя ўмовы Беларусі — яе клімат, рэльеф, глебавы і раслінны покрыў, геалагічная будова, гідраграфічная сетка садзейнічаюць накапленню падземнай вады. Патэнцыяльныя рэсурсы пітной вады ў нас даволі значныя і забяспечваюць патрэбы рэспублікі на ўзроўні прадукцыйных сіл 1980 года.

Затое на тэхнічныя патрэбы вады ў нас малавата. Некаторыя гарады ўжо адчуваюць недахоп яе. А для таго, каб падвесці ваду з іншых месц, патрэбны значныя сродкі. Гэта бачна на прыкладзе абваднення Мінска і Салігорска.

У 1980 годзе сталіца рэспублікі будзе спажываць 680 тысяч кубаметраў пітной вады ў суткі, а на тэхнічныя патрэбы — 320 тысяч кубаметраў. Разведаныя запасы вады паблізу горада значна перавышаюць гэтыя лічбы. Але ўсё ж трэба беражліва абыходзіцца з падземнай вадой, не выкарыстоўваць яе на тэхнічныя мэты.

Цяпер Мінск спажывае 380 тысяч кубаметраў вады ў суткі. 75 працэнтаў яе бяруць з падземных крыніц, а палову аддаюць прамысловасці. Безумоўна, што так абыходзіцца з высакаякаснай вадой — не па гаспадарску.

Вялікае значэнне для сталіцы рэспублікі будзе мець Вілейска-Мінская водная сістэма. Яна ў пяць разоў павялічыць водныя запасы Свіслачы, дазволіць палепшыць санітарны стан горада. Шэраг прадпрыемстваў і гаспадарак Мінска будуць спажываць паверхневую ваду.

У апошні час вада ў многіх нашых рэках становіцца непрыгоднай для спажывання. Гэта датычыць Дняпра, Сожа, Свіслачы, Ушы, Мышанкі, Плісы, Мухаўца... З развіццём новых галін прамысловасці, асабліва хімічнай, а таксама з укараненнем новай тэхналогіі сцёкавыя воды, якія зараз спускаюцца ў рэкі, будуць змяняцца па сваім складзе. У іх будуць трапляць масла, фарбы, кіслоты, шчолачы, якія ўтрымліваюць таксічныя рэчывы. Сучаснымі метадамі ваду ад іх ачысціць нельга. А доследы паказалі, што таксічныя рэчывы атручваюць жывёльны і раслінны свет нашых рэк, парушаюць біяхімічныя працэсы. Асабліва гэта небяспечна для вялікіх рэк, якія, па сутнасці, сталі каналамі для сцёку адпрацаванай прамысловай вады.

Што ж рабіць, каб не застацца без вады? І наогул, ці ёсць выйсце з гэтага становішча?

Геамарфалагічныя і кліматычныя ўмовы Беларусі дазваляюць у будучым на многіх малых рэках, што цякуць паблізу прамысловых цэнтраў, ствараць штучныя вадаёмы. Толькі трэба, каб ля іх ужо цяпер не будаваліся фабрыкі і заводы, не высякаліся лясы. Басейны іх варта было б узяць пад ахову і трымаць у натуральнай чысціні. Гэта дазволіла б акумуляваць значную масу вады добрай якасці.

А як жа быць з пітной вадой? Хто займаецца павелічэннем яе запасу? Вядома, што пра гэта перш за ўсё клапоціцца сама прырода. Але карысна было б заняцца гэтым пытаннем і адпаведным інстытутам рэспублікі. Справа ў тым, што выкарыстанне падземнай вады ў народнай гаспадарцы ўвесь час расце, а прыродныя ўмовы для ўзнаўлення яе запасаў застаюцца ранейшыя, месцамі ж нават пагаршаюцца. Гэта датычыць меліярацыі забалочаных зямель на вялікіх плошчах. Грунтавая вада ў гэтых месцах з кожным годам паніжаецца, ідзе ўглыбіню, што будзе далей, сказаць цяжка. Але зразумела адно, што эксплуатацыйныя запасы падземнай вады ў раёнах прамысловых цэнтраў не бясконцыя, і на больш аддаленым перспектыўным узроўні развіцця яны не змогуць задаволіць патрэбы народнай гаспадаркі. А браць падземную ваду з аддаленых ад горада мясцін не заўсёды магчыма і эканамічна нявыгадна.

Для ўзнаўлення запасаў вады пэўную ролю маглі б адыграць буйныя меліярацыйныя сістэмы. Асаблівую цікавасць у гэтых адносінах мае Палеская нізіна. Чым спускаць безліч вады ў рэкі і затрачваць сродкі на рэгуляцыйныя работы, ці не лепш было б частку яе адводзіць па адкрытых каналах на палі інфільтрацыі або па закрытых вадасцёках у водапаглынальныя пароды нетраў. Праблема напаўнення падземных крыніц за кошт меліярацыйнай вады мае вялікую эканамічную выгаду для народнай гаспадаркі.

**Васіль ЧАРНЕНКА,**
**галоўны інжынер аддзела водазабеспячэння Навукова-даследчага інстытута водных праблем.**



# У СВАІМ ДОМЕ ГАСПАДАР

Вялікая і прыгожая вёска Казловічы, што на Случчыне. Толькі звернеш з гравійкі, якая пабегла на Урэчча, ступіш пад урачыстую арку з надпісам «Калгас імя Кірава», і тваім вачам адкрываецца незвычайнае відовішча. Роўная, як прамень, асфальтаваная вуліца перасякае папалам вёску і выходзіць на плошчу, на будучы гандлёвы цэнтр. Ужо цяпер там вырас белы з сілікатнай цэглы будынак сельмага, у якім можна купіць усё: ад бохана хлеба і колца каўбасы да нейлонавай кашулі, шкарпэтак і тэлевізара.

Ладна склюдаваныя пяцісценкі, што выстраіліся паабапал вуліцы, усе абшаляваны і пафарбаваны. Сярод іх пракідаюцца і цагляныя дамы з верандамі. У кожным доме многа вокнаў: яны глядзяць на ўсход, поўдзень, захад.

Тут нідзе не ўбачыш саламянай страхі — на кожнай хаце даўгавечны і прыемны для вока шыферны, бляшаны ці гонтавы дах. І амаль над кожным дахам тэлевізійная антэна. З абодвух бакоў вуліцы — роўны, як па шнурку, фарбаваны штыкетнік ды ажурныя металічныя весніцы ў кожны двор; на падворках — бетонныя калодзежы.

А колькі садоў! У іх патанаюць Казловічы, і не адразу разбярэшся, ці ты трапіў у паркавую зону, ці ў населены пункт. А ўжо здаўна вядома: дзе раскоша дрэвам і кветкам, там жывуць добрыя, сардэчныя людзі. У гэтым я пераканаўся яшчэ раз, калі прымаў вясною ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі аб ролі і задачах камсамола ва ўздыме культуры вёскі.

Арганізатары гэтага вялікага і прадстаўнічага сходу камсамольскага актыву Міншчыны вырашылі правесці канферэнцыю ў калгасе імя Кірава не выпадкова. Тут, у добрым сельскім Доме культуры, ёсць дзе сабрацца, пагаварыць, тут увачавідкі можна паглядзець на здабыткі духоўнай і матэрыяльнай культуры, якія мае сённяшняя вёска.

На канферэнцыі адным з першых выступіў старшыня мясцовай арцелі, Герой Сацыялістычнай Працы **Сяргей Дзмітравіч ЛЯМЕШЧАНКА.** Яго слова чакалі ўсе, чакалі з нецярплівасцю: што скажа павучальнага і цікавага гэты паважаны і ўмудроны жыццём чалавек, пад кіраўніцтвам якога арцель дасягнула небывалых вышынь, стала патэнцыяльным мільянерам.

Сяргей Дзмітравіч, спакойны, разважлівы чалавек, не спяшаючыся падышоў да трыбуны, пацёр скроні і на хвіліну задумаўся. Потым, без аніякіх паперак, загаварыў проста і шчыра пра тое, як жыве і працуе ў калгасе моладзь, што робіць яна і што робіць калгас для яе.

Камсамольская сям'я ў Казловічах вялікая, кожны дзесяты калгаснік — член ВЛКСМ. Працуюць яны ў розных галінах вытворчасці, працуюць шчыра, сумленна. Але добра працаваць — гэта яшчэ не ўсё, гэтага мала. Жыццё патрабуе большага — вырашаць новыя праблемы. Адна з іх неадкладная і надзённая—уздым культуры сяла. Маладая змена кіраўцаў зразумела сваё месца ў барацьбе за высокую культуру і выбрала правільны арыенцір. Адпраўным пунктам узята вядомае ленінскае ўказанне пра тое, каб «...кожны дзень у

— Не намі пачалося, не нам і канчаць: традыцыя такая...— гаварылі малаверы і закрывалі вочы на дрэнь.

І цяжка сказаць, колькі б яшчэ часу жыла такая «філасофія», калі б не камсамольцы. Яны стварылі дружыну, пачалі выпускаць спецыяльную насценную газету. У выхадныя і святочныя дні ўстанавілі дзяжурствы па вёсках. Поўную падтрымку моладзі аказалі старшыня і калгасныя камуністы. Але хутка байка баецца, ды не хутка справа робіцца. Не адразу палагаднелі дэбашыры. Агрызаліся, пагражалі дружыннікам. Аднойчы нават сарвалі насценгазету. Камсамольцы рук не апускалі, з дня ў дзень, з месяца ў месяц цвёрда стаялі на адным. І адстаялі сваю лінію, навялі ўзорны парадак у вёсках.

А вазьміце пасадкі дрэў, кустоў, парк з пладовых дрэў! Усё гэта — справа



**Камсамольцы Эдуард Жук, Ніна Сінягуб і Рыгор Калядка пасля работы.**

любой вёсцы, у любым горадзе моладзь вырашала практычна тую або іншую задачу агульнай працы, няхай самую маленькую, няхай самую простую».

У калгасным Доме культуры маю ўвагу прыцягнула насценная газета «Голас дружынніка». Газета як газета, такіх ці падобных даводзілася бачыць нямала: тэксты, карыкатуры. Толькі за ўсім гэтым — цэлая цікавая старонка з жыцця калгасных камсамольцаў... Быў час, калі хуліганскія выхадкі, п'янства, непрыстойныя паводзіны асобных «малойчыкаў» лічыліся ледзь не нормай жыцця ў Казловічах і іншых вёсках арцелі.

рук маладых. Дом культуры — таксама ідэя моладзі. Пабудаваны ён у свой час гаспадарчым спосабам, пры актыўным удзеле камсамольцаў. Зараз будуе калгас свой дом адпачынку — і тут не абыходзіцца без моладзі.

Ці такая далікатная справа, як нараджэнне дзіцяці або рэгістрацыя шлюбу. І тут камсамольцы робяць добрую справу: прыбяруць клуб, створаць у ім такую ўрачыстую абстаноўку, каб і бацькі, рэгіструючы нараджэнне дзіцяці, і маладажоны адчулі, што дзень гэты — свята не толькі для іх, але і для ўсіх калгаснікаў.

Старшыня калгаса гаварыў і аб пер-

Камсамольскі сакратар Галіна Лагун.



спектывах культурнага будаўніцтва ў калгасе, пра месца і ролю камсамольцаў у ім. Удзельнікі канферэнцыі як бы зазірнулі ў заўтрашні дзень калгаснай вёскі, і ўжо нават не вёскі, а, відаць, аграгорада. Рысы заўтрашняга дня бачны сёння ў Казловічах і навакольных вёсках. Гэта асфальтаваныя дарогі, цэлая вуліца двухпавярховых катэджаў для калгаснікаў, у якіх з цягам часу будуць усе камунальныя выгоды. У перспектыве — будаўніцтва сельскага Палаца культуры, стадыёна, вадаёма з лодачнай станцыяй, Дома піянераў, далейшае азеляненне вуліц, плошчаў, дарог і пасадка новага парку. І ўсюды, зразумела, не абыдзецца без удзелу камсамольцаў і моладзі. Ім іграць галоўную ролю ў ажыццяўленні гэтых сапраўды дзівосных планаў і задум.

Камсамольцы-кіраўцы пад кіраўніцтвам партарганізацыі імкнуцца выхоўваць у саміх сабе і ў сваіх аднагодкаў пачуццё гаспадара, любоў да роднай зямлі, прагу да ведаў. Шляхі дасягнення гэтай мэты самыя розныя: тут і гарачыя размовы на сходах, і клубы цікавых сустрэч, і вечары пытанняў і адказаў, і гурткі мастацкай самадзейнасці. Але самае, відаць, галоўнае — праслаўленне, узвелічэнне чалавека працы. Два дзейсныя сродкі ёсць у выхаваўчым арсенале: маральны і матэрыяльны. І калі апошні выкарыстоўваецца вельмі актыўна, то маральны фактар— не заўсёды поўна.

Запомніліся мне дзве сустрэчы ў Казловічах. Зайшлі мы з журналістам Беларускага радыё ў сельмаг паглядзець, ці багата ў ім тавараў. І тут да майго напарніка раптам падышоў калгасны токар. Разгаварыліся. Аказалася, што некалі яны разам працавалі на трактарным заводзе.

— Дык ты што — пакінуў завод і цяпер тут працуеш?— пытаецца ў токара журналіст.

— Разлічыўся з заводам даўно. Цяпер у калгасных майстэрнях раблю... Ведаеш, не горш за які цэх. І зарплата вышэйшая. Кватэру атрымаў. Ажаніўся нядаўна. Ужо малое ёсць. Заходзь у госці.

Вечарам мы ўдвух з журналістам ішлі з клуба вясковай вуліцай. Нас праводзіў малады хлопец (імя ўмоўна назавём — Кастусь). Па дарозе разгаварыліся. Нашаму праважатаму сёлета ісці ў армію. Працуе ён механізатарам у калгасе. Камсамолец.

— Адслужыш армію і дамоў вернешся, канечне?— спыталі мы.

— О, не! Пасля арміі — у горад.

— Чаму ж гэта?

— Не хачу... Не тое...

— Вось табе і на!..

У аднаго Кастуся такі намер ці, можа, многія думаюць пра гэта? І чаму адзін чалавек вярнуўся ў калгас, а другі, яшчэ юнак, намерыўся пакінуць родную бацькоўскую хату? У чым тут справа?

Тую ж трывогу мы пачулі на канферэнцыі ў выступленні камсамольскага прапагандыста **Георгія БУТРЫМА** з калгаса імя Леніна Лагойскага раёна. «Летась у калгасе,— сказаў Георгі,— не было вяселляў, не нарадзілася ніводнага дзіцяці, не згулялі ніводных радзін». Той-сёй засмяяўся з такога паведамлення, але, мне думаецца, дарэмна. Справа тут сур'ёзная: у калгасе вельмі мала моладзі, і гэта павінна выклікаць трывогу, наводзіць на роздум.

Пачуццё адданасці роднай зямлі... Пачуццё гаспадара... Высокае і складанае, гэтае пачуццё само не прыходзіць, яго трэба выхоўваць у моладзі штодзённа, старанна і настойліва. І толькі дамогшыся гэтага, можна сур'ёзна гаварыць пра авалоданне вышынямі культуры, пра ўздым яе на новую ступень. Бо навошта таму ж самаму хлопцу тая «культура», калі заўтра ён не збіраецца жыць у вёсцы?

У адным страі з усім савецкім народам юнакі і дзяўчаты сяла, будучыя гаспадары зямлі сваёй, рыхтуюць сёння працоўныя падарункі ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Ленінскі Саюз Моладзі мае слаўныя традыцыі ў рэвалюцыйнай перабудове вёскі, у паходзе за новую, сацыялістычную культуру і выхаванне людзей. Рэвалюцыйныя традыцыі мінулага, як эстафету, пераймаюць у наш час камсамольцы і нясуць яе далей. Як гэта практычна робіцца, гаварыла ў сваім выступленні камсорг калгаса імя Леніна Крупскага раёна, настаўніца **Людміла ГРЫНЕВІЧ.** Яе расказ усе слухалі з вялікай цікавасцю.

— Нас, чатырох маладых спецыялістаў, выпускнікоў інстытута, прыслалі ў калгас імя Леніна,—успамінала Людміла.— У інстытуце, акрамя прафесіі, нас нічому больш не вучылі, а наказ давалі салідны: «Вы, маладыя спецыялісты, павінны першымі несці культуру ў вёску». А як яе несці? З чаго пачынаць? І вось мы першы раз трапілі ў старэнькі сельскі клуб. А там бруд, выбітыя вокны, верхаводзяць п'яныя хлопцы. У нас апусціліся рукі.

Але збянтэжанасць паступова прайшла. І парашылі дзяўчаты пачаць з самага простага: прыбраць спачатку клуб, прывесці яго ў прыстойны выгляд. Знайшлося пятнаццаць мясцовых камсамольцаў, «актыўных штыкоў», якія падтрымалі новенькіх. І першае, што яны наладзілі потым усе разам, быў «Агеньчык» — сустрэча камсамольцаў трох пакаленняў. Убачыўшы стараннасць новенькіх, і асабліва Людмілы, да яе пацягнуліся вясковыя хлопцы і дзяўчаты. Давер аказалі, сваім камсамольскім важаком выбралі. А яна так павяла справу, што амаль кожнаму члену арганізацыі дала даручэнне, каб усе прызвычайваліся да работы, адчувалі давер сяброў і адказнасць перад ім. Потым на сходзе паставіла пытанне: кожнаму камсамольцу — вучыцца.

Тым часам і кіраўніцтва калгаса пайшло насустрач моладзі, калі заўважыла жывінку ў рабоце камсамола. Вылучылі сродкі і матэрыялы, і пачалі будаваць новы тыпавы клуб. Мулярамі і цеслярамі пайшлі юнакі і дзяўчаты, а вакол клуба селетняй вясной камсамольцы заклалі парк. У калгасе імя Леніна нарадзіўся Герой Савецкага Саюза М. Казлоўскі. Камсамольцы рашылі паставіць насупраць клуба помнік свайму земляку. Яны збіраюць металалом, а сродкі за яго паступаюць на спецыяльны рахунак для помніка.

Вырас, зусім іншым стаў сёння савецкі селянін. Па тэхнічнаму і культурнаму развіццю ён даганяе гарадскога рабочага, але духоўныя запатрабаванні яго задавальняюцца не поўнасцю. Таму перад камсамолам стаіць вялікая і пачэсная задача: як мага хутчэй пашырыць гарадскую культуру і на вёсцы.

І тут аўтаматычна ўзнікае пытанне аб дапамозе гарадскіх камсамольцаў сельскім у такой важнай і адказнай справе, як уздым культуры вёскі. Гараджане могуць зрабіць многае. Дарэчы, сёе-тое і робяць. Але гэта — кропля ў моры ў параўнанні з тым, што ад іх патрабуецца. Адны канцэрты ды выезды агітбрыгад у вёску сёння ўжо не задавальняюць жыхароў сяла. Трэба шукаць нейкія новыя формы сувязі. І вельмі шкада, што на гэтай канферэнцыі не прысутнічалі маладыя прадстаўнікі заводаў і фабрык, кіраўнікі гарадской камсамоліі. Яны пачулі б шмат прэтэнзій і пажаданняў у свой адрас і зрабілі б пэўныя вывады. Але іх чамусьці не запрасілі на канферэнцыю.

На III-м з'ездзе камсамола У. І. Ленін паставіў задачу перад Саюзам моладзі: вучыцца! І ў першую чаргу — вучыцца камунізму. Аб гэтым напомніў прысутным і дэлегат III-га з'езда камсамола **Мікалай Васільевіч РАЗАНАЎ.**

Здавалася б, ісціна вядомая: без навукі — слабыя розум і рукі, без яе нельга ладзіць сапраўды высокую культуру. Але і сёння здараюцца яшчэ сумныя факты, калі ў асобных сельскіх камсамольскіх арганізацыях і палавіна членаў ВЛКСМ не мае сярэдняй адукацыі і не вучыцца (узяць, напрыклад, калгас імя Фалько, Дзяржынскага раёна). Чакалі, што на канферэнцыі будзе намечана нейкая сістэма мер, каб выправіць становішча. На жаль, абышлося ўсё толькі простай канстатацыяй фактаў і заклікам: абавязаць вучыцца!

На вёсцы вельмі мала яшчэ спартыўных комплексаў, не ўсюды ёсць мастацкая самадзейнасць. А чаму? Чаму моладзь часам пасіўнічае ў гэтай кроўнай сваёй справе? І якімі сродкамі выклікаць у яе прагу да дзеяння? Зноў-такі размовы пра гэта не адбылося. А вельмі шкада: дзе ж, як не на такім сходзе, гаварыць пра самае набалелае і надзённае!

Даўно і вельмі слушна ставіцца пытанне аб арганізацыі ў рэспубліцы вучылішча, якое рыхтавала б загадчыкаў сельскіх Дамоў культуры і клубаў. Пакуль што на гэтых пасадах — выпадковыя людзі. Калі ж трапіць чалавек творчы, з агеньчыкам і жаданнем нешта рабіць, лічы, такому клубу пашанцавала.

Відаць, варта прыслухацца гандлёвым арганізацыям, і ў першую чаргу Міністэрству гандлю рэспублікі, вось да якой прапановы. Трэба, хоць бы спачатку адзін на рэспубліку, адкрыць спецыялізаваны магазін (ці базу), дзе можна было б набыць касцюмы, музычныя інструменты — усё, што трэба для сельскіх калектываў мастацкай самадзейнасці. Застаецца праблемай і набыццё мэблі і абсталявання для сельскіх (таксама і гарадскіх) палацаў і дамоў культуры, для бібліятэк і чырвоных куткоў. Камсамольскім кіруючым органам трэба, відаць, больш настойліва ставіць гэтыя пытанні перад адпаведнымі ведамствамі.

У кожнай справе нам патрэбны байцы, а не абознікі, у тым ліку і ў вырашэнні такой вялікай праблемы, як далейшы ўздым культуры вёскі.

**Анатоль МЯЛЕШКА.**

**Фота А. Каляды.**

# ПЕРАД ІНСТЫТУЦКІМ ПАРОГАМ

## ДВА ІНТЭРВ'Ю

Імкліва бяжыць час. Ужо і ліпень надышоў. Юнакі і дзяўчаты развіталіся з роднай школай. У руках — атэстаты сталасці. У галаве поўна клопатаў, куды ж падацца, дзе тая сцяжынка, па якой варта пайсці, каб не шкадаваць потым?

Шырока расчынены дзверы ў жыццё перад маладымі. Працуй, шукай, ствара́й. Рабочы клас рэспублікі атрымае новае маладое папаўненне. Многія юнакі і дзяўчаты застануцца ў родных вёсках, каб стаць на змену сваім бацькам, пайсці іх працоўнай дарогай. А большасць? Большасць думае пра адно — прадоўжыць вучобу ў інстытуце і тэхнікуме, у вытворча-тэхнічным вучылішчы.

Пра сёлетняга абітурыента, пра яго прафесійны накірунак, пра тое, як вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рыхтуюцца да прыёму будучых студэнтаў і навучэнцаў, расказваецца ў ітэрв'ю, якое ўзяў карэспандэнт «Маладосці» ў двух міністэрствах рэспублікі.

**Перш ён завітаў да міністра асветы БССР Міхаіла Гаўрылавіча МІНКЕВІЧА.**



**— Міхаіл Гаўрылавіч, у чым, на вашу думку, прычына няўдачы, што напаткала тых выпускнікоў мінулага навучальнага года, якія не вытрымалі ўступныя экзамены ў інстытуты?**

— Прычын шмат. Але галоўная з іх — гэта недастатковая падрыхтоўка, слабы набытак ведаў у сярэдняй школе. А без глыбокіх і трывалых ведаў, без умення карыстацца імі на практыцы, самастойна аналізаваць факты і з'явы, рабіць пэўныя вывады і абагульненні — не пойдзеш далёка. І ў гэтым, вядома, вінаваты ў першую чаргу настаўнікі і самі выпускнікі.

Падчас узнікае пытанне на што трэба арыентавацца школе — на падрыхтоўку моладзі да жыцця ці на падрыхтоўку да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Скажу шчыра, тут не можа быць супрацьстаўлення. Бо чалавек, не падрыхтаваны да жыцця, не падыдзе і для далейшай вучобы. Школа павінна рыхтаваць моладзь да жыцця. Яе абавязак — даць усебаковую агульнаадукацыйную падрыхтоўку і належнае камуністычнае выхаван-

не. Гэта — залог паспяховай вучобы ў вышэйшых навучальных установах, як і залог добрай самастойнай працы.

**— Якое ўражанне ў вас складаецца аб сёлетнім выпускніку?**

— Дадзеныя інспектарскіх праверак, аналіз стану выкладання і якасць ведаў школьнікаў сведчаць пра тое, што педагагічныя калектывы, усе работнікі асветы імкнуцца дастойна сустрэць 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Аўтарытэт школы залежыць ад яе працы на працягу ўсяго навучальнага года. Настаўнікі і стараліся, каб іх выпускнікі былі добра падрыхтаваныя. І ў гэтым ёсць пэўныя поспехі. Асабліва ў галіне працоўнага навучання і выхавання.

**— Міхаіл Гаўрылавіч, пакуль што адчуваецца больш нізкі ўзровень ведаў у выпускнікоў сельскіх школ у параўнанні з выпускнікамі гарадскіх школ. Як ідзе ліквідацыя гэтай няроўнасці ў падрыхтоўцы вучняў? І ў сувязі з гэтым раскажыце пра дыяпазон абітурыента 1969 года.**

— У рэспубліцы з году ў год расце колькасць сельскіх школ. Яны даюць юнакам і дзяўчатам абавязковыя агульнаадукацыйныя веды. Вопыт работы лепшых сельскіх школ мы прапагандуем і пашыраем. Але ўзровень работ вясковых школ усё яшчэ многа дзе нізкі. Веды іх выпускнікоў не адпавядаюць тым патрабаванням, якія стаяць перад школай на сучасным этапе яе развіцця. І галоўная прычына гэтаму — няправільная арганізацыя вучэбна-выхаваўчай работы.

Каб выправіць такое становішча, трэба павысіць кваліфікацыю настаўнікаў, аказаць дапамогу педагагічным калектывам як мага лепш наладзіць вучэбны працэс. Міністэрства асветы БССР сумесна з выдавецтвам «Народная асвета» павялічылі выданне метадычных і наглядных дапаможнікаў, дыдактычных сродкаў. Але выдаць іх — гэта яшчэ не ўсё. Галоўнае, каб кожны дапаможнік дайшоў да школы, трапіў на стол настаўніка. У гэтым кірунку мы таксама ўжо зрабілі тое-сёе карыснае. Але, паўтараю, першаступенная ўмова поспеху — гэта кваліфікацыя настаўніка, яго ўменне працаваць па новых праграмах і падручніках.

Педагагічныя навучальныя ўстановы рэспублікі ў пераважнай большасці рыхтуюць добрых спецыялістаў. Каля 90 працэнтаў выпускнікоў інстытутаў і вучылішчаў мы накіравалі працаваць у сельскія школы. Адначасова мы імкнемся паляпшаць бытавыя ўмовы жыцця і працы вясковага настаўніка. Прымаем таксама меры па ўмацаванню вучэбна-матэрыяльнай базы сельскіх школ, іх добраўпарадкаванню. Школьныя бібліятэкі папаўняюцца новай праграмнай літаратурай і літаратурай для пазакласнага чытання. У многіх вёсках і гарадскіх пасёлках працавалі курсы па падрыхтоўцы сельскай моладзі да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сувязь сярэдняй школы з вышэйшай. Якія, на вашу думку, тут ёсць прабелы і няўвязкі, як яны пераадольваюцца?**

— Існуюць розныя формы сувязі сярэдняй школы з вышэйшай, органаў народнай асветы — з кафедрамі педагагічных інстытутаў, універсітэтаў, педвучылішчаў. Галоўныя з іх — гэта сумеснае абмеркаванне вучэбных планаў, праграм, стварэнне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, наладжванне перападрыхтоўкі настаўнікаў, абагульненне і пашырэнне перадавога вопыту, правядзенне навукова-практычных канферэнцый, семінараў і г. д.

Згодна з пастановай ЦК КПСС «Аб асноўных кірунках дзейнасці Акадэміі педагагічных навук СССР», Міністэрства асветы вызначыла канкрэт-

ныя меры па развіццю педагагічнай навукі, каардынацыі даследавання і эксперыментальнай работы ў галіне педагогікі, псіхалогіі і дыдактыкі. Галоўным тут з'яўляецца выпрацоўка навукова-абгрунтаваных рэкамендацый па развіццю ў сучасных умовах агульнай і палітычнай адукацыі, працоўнага навучання, падрыхтоўкі вучняў да жыцця, да грамадска-карыснай працы і свядомага выбару прафесіі.

**— І апошняе вам пытанне, Міхаіл Гаўрылавіч. Абітурыенты часцей за ўсё атрымліваюць нездавальняючыя адзнакі па пісьмовых работах (мова, матэматыка). Што робіцца ў гэтым напрамку, якія вывады на гэты конт у работнікаў асветы?**

— Гэта ідзе перш за ўсё ад нетрывалага засваення асноўных раздзелаў вучэбнага матэрыялу, ад няўмення вучняў карыстацца тэарэтычнымі ведамі на практыцы. А праграмны матэрыял па матэматыцы і мовах вельмі вялікі. Ён вымагае штодзённай, сістэматычнай работы. Вось чаму асаблівая ўвага аддаецца пераадоленню фармалізму ў навучанні. Акцэнт робіцца перш за ўсё на глыбокае ўсведамленне і разуменне вучнямі вучэбнага матэрыялу, а потым ужо на трывалае запамінанне яго. Актывізаваць пазнавальную дзейнасць школьнікаў, развіць іх лагічнае мысленне — вось адзін з галоўных клопатаў школы.

У апошнія гады ў сельскіх школах на ўроках рускай мовы практыкаваўся падзел вучняў на падгрупы. Гэта дало карысныя вынікі, бо настаўнік больш працаваў з тымі, што адстаюць. Усё гэта дае падставы меркаваць, што сёлетнія выпускнікі сярэдніх школ на ўступных экзаменах у вышэйшыя навучальныя ўстановы пакажуць больш трывалыя веды. Лепшыя з іх увальюцца ў студэнцкую сям'ю.



**Наш карэспандэнт пабываў і ў міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР Мікалая Максімавіча МЯШКОВА.**

**— Мікалай Максімавіч, маё першае пытанне, відаць, вымагае адказваць лічбамі. Скажыце, калі ласка, колькі будзе прынята сёлета выпускнікоў школ, тэхнікумаў і вучылішчаў у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы рэспублікі?**

— У 1969 годзе вышэйшыя навучальныя ўстановы Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР прымуць 22 тысячы выпускнікоў сярэдніх школ, тэхнікумаў і вучылішчаў. На стацыянары з іх будзе займацца больш чым палова — 12 180 чалавек.

У беларускіх студэнтаў радасная навіна: адкрыта новая навучальная ўстанова — Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Ён, як і БДУ імя У. І. Леніна, будзе рыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў для школ, навуковых устаноў і для іншых галін народнай гаспадаркі.

План прыёму навучэнцаў у сярэднія спецыяльныя ўстановы таксама немалы — 21 850 чалавек. На дзённае навучанне будзе прынята 12 200 ча-

лавек, у тым ліку на базе дзесяці класаў — больш трох тысяч навучэнцаў. Вечарам у тэхнікумах будзе займацца 4 120 чалавек, а завочна трохі болей — 5 530 чалавек.

**— У чым, на вашу думку, была прычына няўдач абітурыентаў мінулага года?**

— У вышэйшыя навучальныя ўстановы прымаюцца самыя дастойныя, падрыхтаваныя і здольныя людзі з тых, што канчаюць сярэднія школы, тэхнікумы і вучылішчы і паспяхова здаюць уступныя экзамены. Аналіз вынікаў уступных экзаменаў леташняга года дае падставы лічыць, што ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў сярэдніх школ усё яшчэ не адпавядае ўзросшым запатрабаванням.

Выявілася, што добрую і выдатную матэматычную падрыхтоўку даюць выпускнікам толькі спецыялізаваныя школы (школы з матэматычным ухілам), а яны, як правіла, ёсць толькі ў горадзе. Характэрнымі асаблівасцямі пісьмовых і вусных адказаў выпускнікоў гэтых школ з'яўляюцца: рацыянальныя прыёмы матэматычных пераўтварэнняў, глыбіня прасторавага ўяўлення, уменне прымяняць на практыцы тэарэтычныя веды ўсяго курса матэматыкі сярэдняй школы, графічная пісьменнасць і г. д. Гэтага нельга сказаць пра выпускнікоў некаторых гарадскіх, вясковых і школ рабочай моладзі. Так, напрыклад, тыя дзесяць абітурыентаў, якія не здалі вусны экзамен па матэматыцы ў Гомельскі педінстытут летась, былі выпускнікамі сельскіх школ.

Колькасць нездавальняючых адзнак па хіміі на ўступных экзаменах у 1968 годзе павялічылася ў параўнанні з 1967 годам удвая і склала 13,4 працэнта. Слабыя веды па гэтаму прадмету паказалі выпускнікі многіх і гарадскіх і сельскіх школ. Былі кепскія адзнакі па замежнай мове, чарчэнню і маляванню.

Праўда, больш трывалыя веды ў параўнанні з 1967 годам назіраліся ў сельскіх выпускнікоў па фізіцы. Відавочнай была таксама добрая падрыхтоўка ў гэтых школах па біялогіі. Тлумачыцца гэта ў першую чаргу тым, што выпускнікі сельскіх школ маюць больш магчымасцей назіраць жывую прыроду, падмацоўваць тэарэтычныя веды практыкай.

Як адзначылі экзаменацыйныя камісіі, часта мела месца неадпаведнасць адзнак у атэстатах з тымі ведамі, якія выяўлялі выпускнікі на ўступных экзаменах.

Каб пазбегнуць недахопаў у рабоце школ па падрыхтоўцы выпускнікоў, навукова-метадычны кабінет нашага міністэрства правёў аналіз ведаў абітурыентаў 1968 года. Вынікі гэтага аналізу па ўсіх прадметах перададзены ў Міністэрства асветы БССР.

**— Мікалай Максімавіч, скажыце, калі ласка, якія новыя патрабаванні будуць прад'яўляцца да абітурыентаў 1969 года?**

— Правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі сёлета застаюцца ранейшыя. Патрабаванні да абітурыентаў такія ж, як і летась. Трэба, каб яны паказалі трывалыя веды на ўступных экзаменах.

Ужо выйшаў з друку і паступіў у продаж даведнік для тых, хто збіраецца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. У ім змешчаны правілы прыёму, парадак залічэння і падрабязна расказана пра ільготы, якімі карыстаюцца тыя, хто паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Акрамя таго, у даведніку ёсць праграмы ўступных экзаменаў.

**— Хочацца ведаць і пра новыя сувязі інстытутаў і тэхнікумаў з выпускнікамі, у тым ліку з выпускнікамі сельскіх школ.**

— Такія сувязі існуюць. Яшчэ ў студзені мінулага года пры вышэйшых навучальных установах рэспублікі створаны пастаянна дзеючыя стацыянарныя і завочныя шасцімесячныя падрыхтоўчыя курсы. Яны аказалі немалую дапамогу тым, хто наважыўся паступаць у інстытуты рэспублікі. Тое ж самае можна сказаць і пра стацыянарныя і завочныя падрыхтоўчыя курсы пры тэхнікумах, на якіх сёлета займалася дзве тысячы чалавек. Яны, галоўным чынам, абслугоўвалі сельскую моладзь. Міністэрства паклапацілася забяспечыць іх неабходнай вучэбна-метадычнай літаратурай. Ужо выйшлі з друку дапаможнікі па матэматыцы, хіміі, фізіцы, рускай мове і літаратуры. Міністэрства дало ўказанне, каб у чэрвені — ліпені вышэйшыя навучальныя ўстановы наладзілі кароткатэрміновыя курсы выпускнікоў сельскіх школ з выклікам у інстытуты на 10—20 дзён.

Станоўчую ролю, як і летась, адыгралі алімпіяды (матэматычныя, хімічныя, фізічныя). Яны наладжваліся ў розных гарадах рэспублікі. Пераможцы гэтых алімпіяд заўсёды паспяхова здавалі ўступныя экзамены.

Работнікі вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікумаў міністэрства нямала зрабілі ў прафесійнай арыентацыі выпускнікоў сярэдніх школ. Тут мы скарыстоўвалі розныя метады: і анкеты, і непасрэдную сувязь з прадпрыемствамі, калгасамі, саўгасамі і школамі рэспублікі. Варта зазначыць, што ў большасці сваёй юнакі і дзяўчаты стаяць на правільным шляху пры выбары прафесіі.

З мэтай азнаямлення з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі наладжваліся «Дні адкрытых дзвярэй» у Беларускім дзяржаўным універсітэце, а таксама ў інстытутах горада Мінска.

Нарэшце, шмат карыснага далі выезды выкладчыкаў у раённыя цэнтры і вёскі для папулярызацыі розных спецыяльнасцей, для выяўлення выпускнікоў, якія жадаюць ісці вучыцца далей.

**— І апошняе пытанне да вас, Мікалай Максімавіч. Скажыце, якія, на ваш погляд, сёлета больш «прахадныя» будуць інстытуты? Якія «модныя» спецыяльнасці?**

— Калі пад словам «прахадныя» разумець установы, куды лягчэй паступіць, дык такіх у нас няма. У кожны інстытут цяжка паступіць, калі абітурыент слаба падрыхтаваны, калі ў яго няма дастатковых ведаў. І, наадварот, можна паступіць у любую навучальную ўстанову, калі маеш добрую падрыхтоўку. І яшчэ. У многіх абітурыентаў склалася ўражанне, што адны спецыяльнасці больш «прахадныя», а другія менш. Яны лічаць, што на гістарычны ці біялагічны факультэт паступіць лягчэй, чым на фізіка-матэматычны. Гэтым і тлумачыцца, напрыклад, той факт, што да мінулага года па спецыяльнасці «пачатковыя класы» конкурс складаў шэсць чалавек на адно месца. Але варта было летась увесці ўступны экзамен па матэматыцы, як конкурс адразу знізіўся амаль да двух чалавек.

Маючы памылковае ўяўленне аб «прахадных» спецыяльнасцях, абітурыенты кідаюцца ў адзін інстытут, і тады на адно месца прыпадае па дзесяць і больш заяў, у выніку дзевяць дзесятых застаецца па-за сценамі яго. У чым прычына такога неабдуманага падыходу да выбару спецыяльнасці?

На наш погляд, іх дзве.

Па-першае, у школах слаба наладжана прафесійная арыентацыя вучняў. Яны выбіраюць спецыяльнасць не па закліку сэрца, не па ўнутранай неабходнасці, а па прынцыпу: куды лягчэй паступіць. Калі б у школах

прафесійная арыентацыя была пастаўлена на належную ступень, то гэтага не было б.

Па-другое, многім школьнікам лягчэй даюцца такія дысцыпліны, як грамадазнаўства, біялогія, гісторыя, геаграфія і іншыя. Пры малой затраце сіл і энергіі яны атрымліваюць больш высокія адзнакі, чым, напрыклад, па матэматыцы, фізіцы, хіміі. У выніку ім здаецца, што і пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову будзе лягчэй атрымаць высокія адзнакі на ўступных экзаменах. Але на справе часта бывае так, што з дзесяці чалавек, якія паступаюць, нельга выбраць хаця б аднаго-двух з трывалымі ведамі. Гэта тлумачыцца тым, што патрабаванні ў школах да «лёгкіх» прадметаў заніжаны. Вось чаму ўзнікае вельмі завышаны конкурс па «прахадных» спецыяльнасцях і неабгрунтавана заніжаны па іншых спецыяльнасцях. Атрымліваецца, што «прахадныя» робяцца «непрахаднымі» і наадварот.

Я ўжо гаварыў, што пэўная работа па прафесійнай арыентацыі школьнікаў праведзена намі. Станоўчы вынік у гэтай справе далі выступленні прафесароў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў у друку, па радыё і тэлебачанні. Акрамя таго, каб крыху зменшыць «перапад» заяў па некаторых «прахадных» спецыяльнасцях, мы «рассакрэцілі» колькасць пададзеных заяў. Цяпер абітурыент, прыйшоўшы здаваць дакументы, заўсёды можа бачыць на дошцы аб'яў, колькі чалавек паступае на адно месца па той ці іншай спецыяльнасці.

Што датычыць пытання пра «модныя» спецыяльнасці, то тут трэба ўдакладніць: існуюць не «модныя» спецыяльнасці, а «модныя» вышэйшыя навучальныя ўстановы. Такія ў нас — БДУ імя Леніна, Мінскі радыётэхнічны інстытут, Віцебскі тэхналагічны інстытут, Мінскі інстытут замежных моваў і некаторыя іншыя. Напэўна, стане «модным» і Гомельскі ўніверсітэт.

У заключэнне, карыстаючыся выпадкам, хачу праз часопіс «Маладосць» звярнуцца да юнакоў і дзяўчат: паступайце ў вышэйшыя навучальныя ўстановы па закліку свайго сэрца, па прызванню. Шчаслівай дарогі Вам!

**Узяў інтэрв'ю Іван КАЛЕСНІК.**

***У бліжэйшых нумарах***

***артыкул Анатоля КАЗЛОВІЧА***

***ПРА МАЛАДУЮ ПАЭЗІЮ.***



Гомель.

Для многіх, хто пабываў калі-небудзь у Гомелі, горад пачынаецца з цудоўнага парку над Сожам. Адсюль, з-пад зялёнага шатра, і бярэ свой пачатак Савецкая вуліца — уся ў маладой зеляніне таполевых і клёнавых прысад, з дзіцячым і студэнцкім паркамі ўсцяж яе, з птушыным шчэбетам, рухавымі легкавушкамі, аўтобусамі і тралейбусамі.

Тут жа, на Савецкай, з'явілася нядаўна новая шыльда: «Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт». Першы на Палессі ўніверсітэт! Направа — пяціпавярховы белы гмах студэнцкага інтэрната. Вокны — насцеж, але ў іх не відаць нікога. Цяпер жа канікулы: хто адпачывае, хто на вытворчай практыцы. Пад вокнамі зелянее мурава, мякка звешваюць косы маладыя, ніцыя вербы.

Злева, — цераз вуліцу, — галоўны вучэбны корпус. Будынак но-

# УНІВЕРСІТЭТ НА ПАЛЕССІ

РЭПАРТАЖ




Валянціна і Ларыса Паўлішчавы — студэнткі Гомельскага ўніверсітэта.

вы, яму крыху больш за год. У памяці яшчэ захавалася перакапаная вакол яго зямля. Цяпер ужо заасфальтаваны дарожкі, студэнты пасадзілі дрэўцы, пасеялі кветкі, каб хораша было, каб падабалася кожнаму.

Глыбей, — у двары сярод зялёнай лістоты, — стары вучэбны корпус педінстытута, стары інтэрнат, і адразу ж за імі — стары парк. Шмат студэнцкіх пакаленняў, — амаль сорак гадоў, калі не лічыць вайны, — адкрывала таямніцы невядомага ў гэтых аўдыторыях, спрачалася і марыла ў гэтых пакоях, хадзіла пад гэтымі дрэвамі і раз'язджалася адсюль ва ўсе куткі рэспублікі, каб вучыць іншых.

Прывітанне ж табе, універсітэт, самы малады і пакуль не знаёмы!

Прывітанне табе, навіна роднага Палесся!

Пазнаёмімся ж з табой...

Студэнцтва — маладосць. Маладосць — будучыня. І таму адразу хочацца зазірнуць у будучыню.

Здаецца, знешне тут нічога не змянілася. Хіба мо часцей сустрэнеш шчаслівую ўсмешку, заўважыш узнёсласць, з якой студэнты ўпрыгожваюць універсітэцкую тэрыторыю, а ўсё астатняе — як і раней, як і ў педінстытуце, на базе якога створаны ўніверсітэт. Аднак першы і другі курсы перайшлі ўжо на ўніверсітэцкую праграму. Ужо даведзены план прыёму студэнтаў на першы курс факультэтаў гісторыка-філалагічнага, фізічнага выхавання, механіка-матэматычнага, фізічнага, біёлага-глебавага, геалагічнага і эканамічнага — 1 050 чалавек.

Праз пяць гадоў адсюль выйдуць педагогі і навуковыя работнікі па рускай і беларускай мовах і літаратуры, фізічнаму выхаванню моладзі, матэматыцы, фізіцы, біялогіі, гісторыі, гідралогіі і інжынернай геалогіі, па арганізацыі механізаванай апрацоўкі эканамічнай інфармацыі, эканоміцы працы. Чатыры апошнія спецыяльнасці зусім новыя.

І яшчэ. Калі ў 1930 годзе быў заснаваны Гомельскі дзяржаўны педагагічны інстытут, на яго двух факультэтах займалася ўсяго сто студэнтаў. Цяпер іх — 2 124 толькі на дзённым аддзяленні. Ва ўніверсітэце на стацыянарным навучанні будзе каля сямі тысяч студэнтаў. А яшчэ ж завочнае аддзяленне! А яшчэ ж міжвузаўскі вучэбна-кансультацыйны пункт! Не выключана магчымасць, што будуць створаны і новыя факультэты. Перспектывы на заўтрашні дзень самыя вялікія.

Як сказаў нам рэктар, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР **Уладзімір Аляксеевіч БЕЛЫ,** у далейшым універсітэт будзе развівацца кірункам прыродазнаўчых навук, г. зн. у адпаведнасці з развіццём прамыслова-эканамічнага патэнцыялу Палесся. Якія гэта будуць факультэты — цяпер меркаваць цяжка. Магчыма, нафтавы. Магчыма, яшчэ які...

Для ўніверсітэцкага гарадка ўжо адведзена восемдзесят гектараў зямлі. Ён раскінецца ад Студэнцкага парку аж да Мельнікавага лугу — прыгожай дубровы над Сожам. Што будзе ў гарадку? Нават просты пералік здзіўляе. Шматпавярховыя вучэбна-лабараторныя карпусы, карпусы навукова-даследчых інстытутаў, вылічальны цэнтр, батанічны сад, музей прыроды Палесся, бібліятэка, выдавецтва, спартыўны комплекс. Ужо сёлета павінны прыйсці рабочыя чарцяжы чатырнаццаціпавярховага галоўнага вучэбнага корпуса. Прадугледжана стварэнне новых кабінетаў і лабараторый, скажам, такіх, як малекулярнай фізікі і радыёфізікі, электроннай і імпульснай тэхнікі і многіх іншых. А пакуль будучыя навуковыя работнікі могуць карыстацца багацейшымі лабараторыямі аддзела механікі палімераў Акадэміі навук БССР. Разам з яго супрацоўнікамі студэнты і выкладчыкі ўніверсітэта змогуць праводзіць сумесныя даследаванні па вывучэнню фізіка-механічных уласцівасцей палімерных матэрыялаў у розных умовах, а таксама па распрацоўцы інжынерных метадаў разліку дэталей з палімераў.

Цудоўным абяцае быць і студэнцкі гарадок. Вырасце ён тут жа, побач. Інтэрнаты — самыя сучасныя, кватэрнага тыпу, з усімі камунальнымі выгодамі.

Знаёмства наша з універсітэ-

Рэктар універсітэта Уладзімір Аляксеевіч Белы са сваімі вучнямі — супрацоўнікамі Інстытута механікі палімерных сістэм: кандыдатам тэхнічных навук Анатолем Свірыдзёнкам, аспірантам Людмілай Карэцкай і кандыдатам тэхнічных навук Валянцінам Саўкіным.

там, як вы ўжо заўважылі, пачалося з кабінета рэктара. Універсітэт новы, Уладзімір Аляксеевіч Белы таксама тут чалавек новы, хоць жыве і працуе ён у Гомелі вось ужо шаснаццаць гадоў, з таго часу, як быў арганізаваны тут Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Быў начальнікам навучальнай часткі, дэканам механічнага факультэта, прарэктарам і загадчыкам кафедры дэталей машын. Пад яго кіраўніцтвам пачалі развівацца навукова-даследчыя работы па прымяненню палімерных матэрыялаў. За



У перапынку між лекцыямі.



**У лабараторыі аналітычнай хіміі.**

кароткі тэрмін была створана праблемная лабараторыя, потым самастойны аддзел механікі палімераў Акадэміі навук БССР, які цяпер ператвараецца ў інстытут. Шматлікія навукова-даследчыя работы Уладзіміра Аляксеевіча Белага, асабліва ў галіне машынабудавання, сёння вядомы і высока ацэнены ў нашай краіне і за рубяжом. За восем гадоў ён упершыню ў Беларусі падрыхтаваў адзінаццаць кандыдатаў навук па механіцы палімераў. Шэсць колішніх яго студэнтаў ужо абаранілі кандыдацкія дысертацыі.

Само сабой, выкладчыкаў ва ўніверсітэце яшчэ не хапае. Аб'яўлены конкурс на замяшчэнне пасад, запрошаны на работу ў Гомель выкладчыкі розных спецыяльнасцей, вучоныя з Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых гарадоў краіны.

Сёння тут працуюць людзі, вучыцца ў якіх — вялікі гонар. Гэта, у першую чаргу, акадэмік, доктар фізіка-матэматычных навук, загадчык кафедры алгебры Сяргей Антонавіч Чуніхін; доктар сельскагаспадарчых навук, дэкан біёлагаглебавага факультэта, прафесар



На занятках па батаніцы студэнт біёлага-глебавага факультэта Васіль Каменнікаў.

Фёдар Мікалаевіч Харытановіч; загадчык кафедры літаратуры, доктар філалагічных навук Павел Паўлавіч Ахрыменка. І яшчэ 42 кандыдаты навук — дацэнты, звыш дваццаці — старшыя выкладчыкі.

Малады ўніверсітэт — маладыя ў асноўным і яго выкладчыкі. Гэта кандыдаты навук Уладзімір Сабаленка, Леанід Сапегін, Аляксандр Раманоўскі — ім па трыццаць. Супрацоўнік лабараторыі тэорыі канечных груп Інстытута матэматыкі Акадэміі навук БССР Леанід Шамяткоў у свой час закончыў педінстытут і стаў займацца навуковай работай пад кіраўніцтвам акадэміка С. Чуніхіна. Нядаўна Леанід абараніў дысертацыю на вучоную ступень доктара фізіка-матэматычных навук. Яму 31 год. Ён таксама чытае спецыяльныя матэматычныя курсы для студэнтаў універсітэта.

Мы напаткалі ля ўніверсітэта маладых выкладчыкаў Міколу Маляўку, Міколу Янкоўскага і Міколу Родчанку. Тры Міколы ажыў-



На лекцыі.



Студэнтка фізіка-матэматычнага факультэта Ала Шубадзёрава ў лабараторыі.

лена размаўлялі. Пазнаёміліся з імі. Усе яны беларусы: Мікола Маляўка — з-пад Стоўбцаў, Мікола Янкоўскі — з-пад Глуска, Мікола Родчанка — з Цімкавіч. Працавалі настаўнікамі ў сельскіх школах, потым скончылі пры Гомельскім педінстытуце аспірантуру. Маляўка і Янкоўскі нядаўна абаранілі кандыдацкія дысертацыі. Цікавае і арыгінальнае даследаванне ў Янкоўскага — «Паэтыка беларускіх прыказак». Родчанка прадставіў да абароны дысертацыю на тэму «Аляксандр Твардоўскі і беларуская літаратура».

Дапытлівых і цікавых у новым універсітэце чакае студэнцкае навуковае таварыства. Гурткі ёсць на ўсіх факультэтах: амаль кожны чацвёрты студэнт — член таварыства.

У спорце гамяльчане — таксама не апошнія. Вы, напэўна, радаваліся, калі далёка за межамі Радзімы дэманстравалі свой спрыт і выходзілі пераможцамі Уладзіслаў Сапея, Леанід Гейштар, Яўген Гаўрыленка. Яны — студэнты Гомельскага ўніверсітэта. А колькі



Заняткі па гімнастыцы на факультэце фізічнага выхавання.

Ідзе размеркаванне выпускнікоў.

тут майстроў спорту, першаразраднікаў...

Гомель ахвотна прадастаўляе студэнтам свае стадыёны, Палац спорту, зімовы плавальны басейн, а зімовы і летні спартыўны азнараўленчы лагер універсітэта адразу прымае 230 чалавек. Турызм, веславанне, веласпорт, лёгкая атлетыка, футбол, валейбол — далёка не поўны пералік тых відаў спорту, па якіх займаюцца студэнты. Іх выхоўваюць вопытныя трэнеры. Перад плыўцамі, веслярамі і аматарамі падарожжаў сапраўдную раскошу штогод адкрывае блакітны Сож з яго кручамі і плёсамі, з пясчанымі адхонамі і зялёнымі дубровамі, з працавітымі катэрамі і рудавозамі, элегантнымі «ракетамі» і «стрэламі» на падводных крылах.

У Гомелі любяць песню і танец, дасціпны жарт. Калі вы спяваеце і паступіце ва ўніверсітэт, вас адразу ж ахвотна прымуць у свае

На лавачках універсітэцкага сквера не знойдзеш пустога месца.



рады гурткоўцы. А з песняй і вучыцца лягчэй.

На Гомельшчыне шырока вядомая ўніверсітэцкая агітбрыгада. На ленінскіх чытаннях, народных гуляннях у горадзе, Святах ураджаю і проста на сельскіх сцэнах — усюды цёпла і прыязна сустракаюць яе ўдзельнікаў. Яны пабылі амаль ва ўсіх кутках вобласці.

Таленты... Яны невычарпальныя, як невычарпальныя крыніцы, што поўняць Сож. Мо таму і назвалі студэнты сваё літаратурнае аб'яднанне і свой рукапісны альманах — «Крынічка». Цікава адзначыць, што праз Гомельскае літаратурнае аб'яднанне ў свой час прайшлі Іван Шамякін, Кастусь Кірэенка, Паўлюк Пранузa, Міхась Даніленка, Мікола Гроднеў — вядомыя цяпер паэты і празаікі. Некалі вучыліся і напісалі тут свае першыя творы Мікола Сурначоў і Леанід Гаўрылаў, якія не вярнуліся з вайны. Свае першыя кнігі маюць Станіслаў Кацуба, Аляксандр Капусцін, Уладзімір Отчык...

Нам пашчасціла падвечар сустрэць у парку культуры і адпачынку імя Луначарскага Любу Прышчэпаву, Таісу Цыганкову і Ніну Шкляраву. Дзяўчаты вучацца на розных курсах, на розных факультэтах: Люба — будучы біёлаг, Тася — філолаг, Ніна працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Маяк» і вучыцца завочна, але яднае іх любоў да паэзіі. Маладыя паэтэсы часта выступаюць са сваімі вершамі па абласным тэлебачанні, у абласным і рэспубліканскім друку, а Ніна Шклярава нядаўна здала ў выдавецтва «Беларусь» першы зборнік «Дзе ты, мая вёска?».

... Універсітэт на Палессі чакае абітурыентаў. Хоць ён яшчэ малады, але ў яго ёсць вопыт ставіць і «двойкі». Але, зразумела, некаторым. Таму гэтую дробязь трэба мець на ўвазе, бо якраз з яе і пачынаюцца ўсе непрыемнасці.

**Іван КІРЭЙЧЫК.**

Фота **У. МЯЖЭВІЧА.**

# ЭКЗАМЕНЫ ПА МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

**Падаем некалькі тэм сачыненняў, якія прапаноўваліся на ўступных экзаменах у вышэйшых навучальных установах рэспублікі ў 1968 годзе.**

1. Вобраз правадыра ўсіх працоўных У. І. Леніна ў творчасці М. Горкага і У. Маякоўскага.
2. Быць камуністам — гэта значыць дзярзаць, думаць, жадаць, імкнуцца.
3. Мы любім Радзіму сваю, народаў дружную сям'ю.
4. Беларусь індустрыяльная.
5. У. Маякоўскі аб прызначэнні паэзіі і грамадскай ролі паэта.
6. Тэма вольнасці і пратэсту ў лірыцы М. Ю. Лермантава.
7. Праца наша — справа гонару, доблесці, подзвігу і славы.
8. Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях.
9. Сатырычная накіраванасць баек К. Крапівы.
10. Радзіма ў творчасці А. С. Пушкіна.
11. Рэвалюцыйная інтэлігенцыя і сялянства ў рускім дакастрычніцкім рамане.
12. Паэма М. В. Гогаля «Мёртвыя душы» — геніяльная сатыра на прыгонную Расію.
13. Станоўчыя вобразы ў рамане К. Чорнага «Трэцяе пакаленне».
14. Вобраз народнага заступніка Грышы Дабрасклонава ў паэме М. А. Някрасава «Каму на Русі жыць добра».




# ЖНІВЕНЬ 1969



І. Я. Рэпін.

**5**

125 гадоў з дня нараджэння І. Я. Рэпіна (1844), вялікага рускага жывапісца, які жыў некаторы час у Здраўневе пад Віцебскам.

**11**

90 гадоў з дня нараджэння (1879) Ц. Л. Даўгапольскага, яўрэйскага пісьменніка. Памёр у 1959 годзе.

**14**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) П. С. Кабзарэўскага, рускага паэта, перакладчыка.

**25**

20 гадоў з дня адкрыцця (1949) у Маскве І Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру.

**28**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) М. А. Бергера, прафесара Беларускай кансерваторыі, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) В. М. Ціхановіча, беларускага мастака-графіка.



Ц. Л. Даўгапольскі.

В. М. Ціхановіч.



М. А. Бергер.



П. С. Кабзарэўскі.





Дом Янкі Купалы ў Ляўках.

# ІЎКА

Аўтобус спыняецца пасярод вёскі. Вачам адкрываецца прыгожая, шырокая цэнтральная вуліца.

Вось і школа. Уздыхнуў з палёгкай: урэшце дасягнуў мэты. Я ў Ляўках.

Каля школы я сустрэў жанчыну невысокага росту, з загарэлым тварам, у хустцы.

— Скажыце, калі ласка, вы не ў школе працуеце?

— Так, так.

— А ці не ведаеце вы, хто тут быў знаёмы з Янкам Купалам?

— Гэта вам трэба ісці да майго бацькі.

— А як яго прозвішча?

— Яфрэмаў Іўка. Ён тады працаваў у лясніцтве, якраз побач з дачай Купалы, і сустракаўся з ім штодня.

Зноў пашанцавала. Я сустрэў Клаўдзію Іонаўну, цяпер Баразнову, якая паходзіць з той сям'і, што была вельмі блізкай да Івана Дамінікавіча і Уладзіславы Францаўны.

Здаецца, і мне іхняя сям'я знаёмая. Прыпамінаю, што яе бацька прыходзіў на дачу да Купалы з маленькай дзяўчынкай і цёця Уладзя частавала яе цукеркамі і пернікамі. А дзяўчынка саромелася і нясмела брала гэтыя ласункі, пазіраючы на дарослых.

Няма Купалы і гаваркой цёці Уладзі. Няма і дачы, дзе мы некалі сустракаліся. Мы — у Іўкавай хаце.

— Дабрыдзень, паважаны Іўка, як вас называў Янка Купала.

— А-а-а... Чакайце, чакайце, мне нешта знаёмы ваш твар. Вы не з газеты? Гэтых усё больш і больш едзе. Дзякуй богу, перажылі горкую часіну.

На мяне глядзеў сярэдняга росту чалавек з прыжмуранымі, але вострымі вачыма, круглым тварам, апрануты ў кашулю і порткі з крамніны. Купала некалі казаў сваім гасцям пра яго: «Іўка — тыповы беларус, працавіты, чэсны, верны. Праўда, ёсць у яго і сялянская хітрасць».

— Памятаеце, што пра вас казаў некалі Іван Дамінікавіч?

— Дзіва, што памятаю. Ён заўсёды гаварыў сваім хлопцам, ну, гэтым — пісьменнікам ці з газеты: «Чаго вам далёка ездзіць, вось бярыце і пішыце пра Іўку».

Іўка — чалавек тутэйшы. Нарадзіўся ў 1893 годзе. І з таго часу жыве ў Ляўках. З 1924 года працуе рабочым Копыскага лясніцтва, што і цяпер побач з іхняй вёскай. Тут некалі былі задумлівыя сасновыя гаі з гонкімі дрэвамі. А цяпер шумяць мяшаныя пералескі. Дзе-нідзе парос і такі гушчар, што нават цяжка працерабіцца.

Унук Іўкі, ён сам і я стаім на ўскраіне вёскі. Якраз пры ляску. Вёска пабольшала. З хутароў і пасёлкаў звезлі хаты ў адно месца, і яна стала шырэйшая і даўжэйшая. Раней тут, пры лесе, было ўсяго трыццаць тры хаты, а цяпер сто з гакам.

— Да нас у Ляўкі Янка Купала прыязджаў да вайны. Мы тады з калгасам усё парадкаваліся. З ім, здаецца, быў і Пятрусь Броўка. Жыхаравалі яны ў клубе Копыскага лясніцтва. Спачатку шмат хадзілі, знаёміліся з людзьмі, многа гутарылі, прыглядаліся, як яны працуюць. А праз колькі дзён на палянцы паставілі палатку. Усё нешта чыталі, пісалі і гутарылі. Купала рабіў занатоўкі на каробку цыгарак «Казбек», а Броўка — запісваў у невялічкі блакноцік драбнюткімі літарамі...

Купала часта сядзеў ля канторы лясніцтва. Хто ні ідзе — абавязкова загаворыць. Да яго падсаджваўся Іўка, згортваў самакрутку, Купала частаваў яго «Казбекам». Ён браў цыгарку і клаў яе ў капшук:

— Няхай з махорыцай пабратуецца, тады будзе смачнейшая.



**Янка Купала і Пятрусь Броўка ў Ляўках. 1935 год. Сядзяць** (справа налева): **Пятрусь Броўка, Марыя Шыманская, Янка Купала, Фяліцыя Пашкевіч і Мікола Шыманскі.**

З фондаў літаратурнага музея Янкі Купалы.

— Вядома, сумесь заўсёды бывае лепшай — пахучай і прыемнай.

Дымяць цыгаркі, плыве непаспешлівая гаворка.

Цікаўны Іўка спытаўся неяк у Янкі Купалы, чаму ён хоча пасяліцца ў ляўкоўскіх краях. Аршаншчына ляжыць на скрыжаванні: шляхі тут разыходзяцца ў розныя бакі, разважліва гаварыў Купала. І куды б ні ехалі рускія, украінцы, беларусы, яны заўсёды будуць і гасцямі... На купалавым твары ўсмешка радасці, усміхаецца і яго субяседнік: прыемна, што на іх зямлі селіцца такі добры чалавек.

Купала выбраў для дома вясёлую мясціну — на ўзгорку, у ляску, з маляўнічай зялёнай пляцоўкай перад вокнамі. Ад дома да ракі вяла сцежка, пасярэдзіне стаяла лаўка. Купала любіў сядзець і глядзець на Дняпро. Тут жа адпачывалі і яго госці.

Будаваў дом Купалу Мікола Ігнатавіч Шыманскі, які працаваў у лясніцтве. Запрасілі майстроў з Лепельшчыны, якія добра ведалі драўлянае будаўніцтва. Будавалі па праекту мінскіх архітэктараў. У доме былі сталовая, спальня, кухня і невялічкая святлічка. На мансардзе — рабочы кабінет паэта. Хто прыходзіў да Купалы, збіраліся звычайна на верандзе.

На двары пабудавалі гараж для машыны, склеп, утульны і прыемны пакой для шафёра. Купала ўмеў клапаціцца пра ўсіх.

Ля дома быў агарод. Уходжваліся і гародніну садзілі самі гаспадары. Ім гэтая праца прыносіла шмат прыемных хвілін.

З Копыся, з кафельнага завода, правялі ў Купалаў дом электрычнае святло. Іўка памятае, як клапаціліся пра гэта людзі, якія шчыра паважалі паэта.

Купала часта хадзіў у лясніцтва, і да яго ахвотна наведваліся людзі — леснікі, садоўнікі, суседзі. З задавальненнем прыходзіў даглядаць купалаў сад садоўнік Міхаіл Сямёнавіч Старавойтаў.

Улетку ў Купалы было шмат гасцей — пісьменнікаў, журналістаў і даўніх дружбакоў. Прыязджалі туды Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, усіх не пералічыш. За гасцінным сталом збіраліся і тутэйшыя людзі, перш за ўсё суседзі. Тут бываў Мікола Шыманскі, яго жонка Марыя Восіпаўна, Іўка, Іўкава дачка, настаўнікі Ляўкоўскай школы.

Хто б ні прыехаў у Ляўкі шукаць купалавых слядоў, той ніколі не міне Іўку.

**Алесь ЕСАКОЎ.**

# У ВОЛЬНУЮ І ДУМНУЮ ХВІЛІНУ

Пераднавагодні нумар «Нашай нівы» за 1914 год прынёс чытачам неспадзяванку. Ці то так супала, ці выдаўцы газеты прынялі ў разлік святочныя навагоднія і калядныя вечары,— гэтую прадушыну ў скупым на вольныя хвіліны сялянскім жыцці,— аднак на чацвёртай старонцы, побач з рознымі аб'явамі і жартамі, тлустымі літарамі было набрана: **«Шарада № 1»**. Пад назвай, якая сама па сабе для чытачоў газеты была па тым часе, бадай, ці зразумелай, ішоў тэкст:

Гэй ты, першая мая!
Мы адно з табою,
Хоць ты літара ўсяго,
Дый мая ж затое.
Тая трэцяя, а з ёй
І другая з чыну
Прыгадзіцца мне на стол
І на дамавіну.
А ўсё як прыйдзе к нам —
Важна загуляем.
Пусцім чарачкі у ход,
Песню заспяваем.

Адразу ж за шарадай мясцілася рэдакцыйная прыпіска: «Хто прышле вершам найлепшую адгадку, той атрымае кніжку Янкі Купалы «Шляхам жыцця». А каторыя прышлюць так разгадкі, між тымі будуць разыграны тры кніжкі «Гісторыі Беларусі...»

Паразважаць, «памазоліць галоўку» доўгімі зімовымі вечарамі, безумоўна, было над чым...

І ўсё ж неспрактыкаваныя ў разгадванні такога тыпу загадак чытачы, відаць, адразу не знайшлі ключа. Прынамсі ў «Нашай ніве» ад 17 студзеня 1914 года не было названа ніводнага прозвішча «разгадчыка». Тым не менш газета друкавала **шараду № 2:**

Эх, памыйся, мой дружок,
Мылам ды вадою,
А так складна, як у нас
Першае-другое.
А калі ты ўжо другі
І чацвёрты ўдаўся,
Вось чаго, замест бліна,
Ты дапамінайся.
Гамані: давайце мне
Чацвёртае з раду
І трэцяе побач з ім,
Бо не будзе ладу.
Ну, а ўсё — кругом цябе
І ты з імі разам,
Ажно цешыцца душа
Адным гэтым сказам.

Тут жа публікавалася разгадка папярэдняй шарады: **Ка-ля-ды.** «Ключ» быў дадзены. Рэдакцыя спадзявалася на актыўнасць чытачоў, і спадзяванні яе спраўдзіліся...

Аднак пара назваць і аўтара шарад. Ім быў... Янка Купала.

Купала клапаціўся пра пашырэнне жанравых рамак перыядычнага выдання. Пры ім «Наша ніва» завяла асобны куток сатыры і гумару, у якім друкаваліся беларускія жарты і — пад агульным загалоўкам «У мутным віры» — вострa сацыяльныя байкі паэта. Да іх крыху пазней далучыліся і шарады.

Дзесяты нумар «Нашай нівы» за 7 сакавіка 1914 года, дзе публікавалася **шарада № 3**, стаў тым памятным нумарам, які ўпершыню падпісаў Янка Купала як рэдактар газеты (выдавец-рэдактар А. Уласаў з гэтага часу заставаўся толькі выдаўцом). Гэты факт не толькі дазваляе, але і вымушае больш падрабязна спыніцца на трох матэрыялах, якія падпісваў паэт да друку, якія стаялі ў газеце побач з новай вершаванай шарадай і адказам на папярэднюю **(Бе-ла-ру-сы)**.

На першай старонцы газеты пачынаўся артыкул Лемеша «Аб хутарах». Як вядома, царскі міністр Сталыпін, напалоханы выступленнем сялянства ў рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, рассяленнем вёсак на хутары імкнуўся прыдушыць рэвалюцыйную актыўнасць народу: вясковае насельніцтва раз'ядноўвалася, а гэтым самым раз'ядноўваўся, слабеў патэнцыяльны праціўнік царскага самаўладдзтва. Сталыпінская прапаганда на ўсе лады расхвальвала перавагі хутарскога жыцця: зручныя прыродныя ўмовы, вольны выпас жывёлы і г. д. «Наша ніва» не падзяляла такія погляды на хутары. Селянін Зрэбны ў артыкуле «Аб выхадзе на хутары» даволі доказна абгрунтаваў думку, што такі выхад — суцэльнае разарэнне для сялян-беднякоў. І калі праз некалькі нумароў нехта. Д. Д-ч, не маючы контраргументаў, паспрабаваў яму запярэчыць, газета змясціла грунтоўны артыкул Лемеша, які з'явіўся адказам на выступленне гэтага Д. Д-ча.

Лемеш не пабаяўся адкрыта заявіць: «Такое рассяленне на хутары, якое зараз вядзецца,— гэта зарэз усім сялянам». Ён пытаўся: «Які можа быць гаспадар на 1—1,5 дзесяцінах зям-

лі?» — і сам адказваў: «Каб гаспадарыць менш-больш парадачна, не паміраючы з голаду, трэба мець у нас на Беларусі прынамсі 10 дзесяцін... Тым часам нашы хутаране на большай часці дастаюць на сям'ю па 5 дзесяцін, і гэткі пераход на хутары, паўтараю, зарэз сялянам». Артыкул канчаўся вывадам, абгрунтаваным, прарочым: «Цяперашні пераход на хутары выб'е тысячы людзей з зямлі і кіне на гарадскі брук ды ў батракі, а гэта невясёлая будучыня нікога хіба не цешыць...»

Янка Купала, які паспытаў горкага хлеба дробнага арандатара, безумоўна, поўнасцю салідарызаваўся з думкамі Лемеша, благаславіўшы яго артыкул у свет сваёй рэдактарскай уладай.

Чацвёртая старонка газеты была, як звычайна, аддадзена розным інфармацыйным паведамленням. Цікава глянуць на матэрыялы, што стаялі побач з шарадай № 3. Вось два невялікія паведамленні:

«Інспектар народных школ у Кіеўскай акрузе загадаў прыняць з бібліятэк усе кнігі аб Украіне».

«У Пецярбурзе засудзілі на два гады ў крэпасць 70-летняга прафесара Бадуэна (дэ Куртэнэ) за тое, што ён напісаў кніжку аб нацыянальным пытанні ў будучым».

Звесткі гэтыя падаваліся пад рубрыкай «Свабода друку». Якая іронія! Сапраўды, не надта свабодна было ў гэтай свабодзе...

Добра вядома, што царскія ўлады ў 1914 годзе забаранілі святкаваць сотую гадавіну з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Большасць тагачасных газет, баючыся пакарання, не надрукавала пра Кабзара ні радка. Аднак «Наша ніва» юбілей адзначыла вялікім артыкулам прагрэсіўнага публіцыста Лявона Гмырака «Тарас Шаўчэнка». Праз паўмесяца пасля юбілейнай даты газета паведамляла пра асобныя моманты «ўшанавання» песняра. Якія гэта былі моманты і якое «ўшанаванне», добра відаць хаця б з гэтых допісаў:

«Рэвізіі і арышты: у Кіеве зроблена маса вобыскаў і арыштаў у сувязі са святкаваннем Шаўчэнкаўскага юбілею. Паміж арыштаванымі многа студэнтаў».

«На магіле Шаўчэнкі. На магілу Шаўчэнкі паліцыя ў дзень юбілею нікога не пускала. Цэлы дзень на магіле стаялі стражнікі са спраўнікам і земскім начальнікам».

Вось такія рэдакцыйныя матэрыялы падпісаў да друку Янка Купала, упершыню ў сваім жыцці сеўшы ў рэдактарскае крэсла. А побач змяшчалася новая яго шарада:

Калі возьмеш першае
І другое следам:
Што калісьці бегала,
Цяпер — за абедам.
Першае — чацвёртае
Жывіць свет сабою,
Хоць — гультайка шчырая
Зімовай парою.
Дзе другога — трэцяга
Не стае, не любяць —
Там жыццё няважнае,
Людзі шчасце губяць.
А ўся — знаёмая:
Мае панаванне
Ў посце прад вялікаднем
У сялянскім стане.



Янка Купала. 1908 год.

Чытачы газеты лёгка разгадалі шараду: **«Са-ла-ду-ха»**.

«Наша ніва» выходзіла ў свет чатыры разы на месяц. Раз у месяц у ёй, звычайна, друкаваліся купалаўскія шарады. Наступная — **шарада № 4** — з'явілася ў нумары за 3 красавіка.

Першы — муж вучоны, важны,
Носіць сан такі не кажны,
Хоць па-просту на наш лік —
Ён не больш, як чараўнік.
Наша трэцяя — другая
Будзе нейкая такая:
Знала рэчак берагі
І паганскія багі.
Ну, а трэцяя з чацвёртай —
Рэчка ў дальню даль запёрта,
Слаўна золатам для нас
І крывёй у апошні час.
А уся жаноча імя,
Кожны знойдзе між святымі.
Далей буду ўжо маўчаць,
Бо й так можна адгадаць.

У тэксце шарады, у трэцяй яе страфе, быў надзвычай празрысты намёк на крывавыя падзеі на берагах сібірскай ракі Лены. Чытачы добра ведалі

пра іх. Сама «Наша ніва» адразу ж пасля Ленскага расстрэлу паведаміла пра жорсткую расправу цара над рабочымі залатых капальняў. Там жа (№ 15—6 за 1912 год) была надрукавана і карэспандэнцыя пра забастоўкі рабочых Кіева, Адэсы, балтыйскіх фабрык у адказ на гэты нечуваны здзек з працоўных. Такі намёк на яскравы факт з палітычнага жыцця краіны не толькі памагаў хутчэй разгадаць шараду (адказ: **Маг-да-ле-на**).

Наступная **шарада № 5**, падпісаная літарай Л. (Луцэвіч — да гэтага, пад усімі шарадамі стаяў крыптанім К-а), мела ўсяго адну страфу:

Вазьмі два склады,
Каб добры былі да яды,
Прыбаў да іх склад трэці —
Будзе птушка, умее пеці.

Нумар газеты выйшаў у дзень 1-га Мая. Гэта пэўным чынам вызначыла характар тых матэрыялаў, якія былі побач з шарадай і на якія, безумоўна, нават аматары «вясёлай хвілінкі» не маглі не звярнуць увагі.

Рабочая Расія рыхтавалася адзначыць першамайскае свята. Некалькі нумароў наперад (дарэчы, на адной старонцы з шарадой № 4) «Наша ніва» пісала пра арышт «трох невядомых, каторыя хацелі вынесці з прыбыўшага ў Лібаву поезда скрынкі з майскімі праламацыямі». У наступным, пасля першамайскага, нумары газета змесціць разгорнутую нататку пра святкаванне 1-га Мая ў Пецярбурзе, пра нелегальную друкарню ў Тыфлісе, што друкавала першамайскія адозвы, яшчэ праз два нумары — заметку «за чырвоны колер». У ёй пісалася: «Начальнік пецярбургскай друкарні марскога міністэрства гэтымі днямі пабачыў у некаторых наборшчыц чырвоныя гальштукі, а ў наборшчыкаў — чырвоныя кашулі. Усіх «чырвоных» было сем. Ім выдалі заработную плату за два тыдні ўперад і ўвольнілі». Разам з тым, «Наша ніва» нагадвала сваім чытачам і пра другую значную падзею — дзень рабочага друку. 5 мая 1912 года выйшаў першы нумар бальшавіцкай газеты «Правда». Рабочыя пачалі адзначаць гэты дзень як сваё свята. У паведамленні пад назвай «Дзень рабочай прэсы» газета расказвала, як рабочыя Пецярбурга правялі яго: «Дзень прайшоў бойка. Сабралі на рабочую прэсу 100 000 рублёў. Адміністрацыя прылажыла ўсе старанні, каб у гэты дзень не збіралася ніякіх сходак. Былі масавыя рэвізіі і арышты».

Побач з шарадай № 5, у пастаянным раздзеле «З Беларусі і Літвы», быў набраны невялікі допіс «Забарона «Нашай нівы» арандатарам». Нейкі «Чытач і прыхільнік», напамінаючы пра матэрыялы самой газеты, якія сведчылі, што яе забаранялася выпісваць настаўнікам і розным службоўцам, прыводзіў новы прыклад. Пан Вітольд Чаховіч з Бесяд, аддаючы ў арэнду фальваркі, браў з «шарачковых» не толькі арэндную плату, але і слова, што яны ні выпісваць, ні чытаць «Нашу ніву» не будуць. Знамянальны факт! «Чытач...» гаварыў далей: «Наогул у нашай ваколіцы чуваць нямала нападкаў на беларускі рух, асабліва са стараны чыноўніцтва, духавенства (грэцкага і рымскага «звычаю») і паноў». Яшчэ б! Хто-хто, а гэтыя паны і падпанкі надзвычай добра адчувалі, што гэты рух — рэвалюцыйны, што ён — адна з формаў «абароны дэмакратыі» (У. І. Ленін). Разам з тым, калі «Чытач...» думаў, што пан Чаховіч ці нейкі іншы забараняў чытаць «Нашу ніву» толькі за яе беларускую мову, то ён бачыў далёка не ўсю праўду. Газета, якая паведамляла пра забастоўкі, арышты і расстрэлы рабочых, пра дзень рабочай прэсы і святкаванне 1-га Мая, пра забарону ўрадам ушанавання Кабзара, якая, урэшце, выступала супраць хутарызацыі,— такая газета не магла разлічваць на панскую прыхільнасць і ніколі такой прыхільнасці не мела.

Наступная шарада Янкі Купалы — № 6 — друкавалася ў перадапошнім майскім нумары газеты за 1914 год. Яна была змешчана без аніякага подпісу, але аўтарства паэта не выклікае сумнення: апрача яго ніхто ў газеце шарад не змяшчаў, ды і сам верш надта ж купалаўскі:

Другая — першая —
Горад у нас,
Губерні Віленскай —
Чуў мо не раз.
Другая — трэцяя —
уецца, як змей.
Часам, здараецца,
Ходзяць па ёй.
Уся ўсюды знойдзецца,
Дзе горы ёсць,
Нават над рэчкаю
Ёсць як на злосць.

За тэкстам ішоў адказ на папярэднюю шараду (**Са-ла-вей**), а таксама паведамляліся прозвішчы тых, хто прыслаў правільныя адказы. Янка Купала, відавочна, не толькі сам пісаў шарады, але і вёў раздзел шарад: перапісваўся з «разгадчыкамі», высвятляў правільныя адказы і, урэшце, прэміяваў за іх...

Шарада № 6 была апошняй шарадай Янкі Купалы. «Наша ніва» нават не знайшла магчымасці надрукаваць адказ на яе, хоць ён бачыцца даволі выразна: **Да-лі-на**. Пачыналася першая сусветная вайна, і ўжо ніхто — ні Янка Купала, ні чытачы — не мелі часу на газетныя забаўкі.

**Вячаслаў РАГОЙША.**



**Сымон БЛАТУН. Раўнавага. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# СЦІПЛАСЦЬ



Хто толькі з нас не паўтараў — сціпласць упрыгожвае чалавека. Аднак як жа лёгка не заўважыць і недаацаніць сціплае, непрыкметнае...

Нешта падобнае здарылася і з паэтам Сымонам Блатуном. Штосьці не вельмі зацікавіліся мы яго першай кніжкай. А між тым, калі ўчытацца добразычліва і ўважліва, нельга не адчуць, што ў ёй увасоблены цікавы чалавек, хаця і занадта сціплы і нават «ціхманы». Калі ж прыгледзецца, у гэтай «ціхманасці» часам затоена бура, якая абавязкова прарвецца вонкі, і сполахамі гэтай буры будуць напоены лепшыя радкі вершаў паэта.

Можа каму такая лірыка здасца старамоднай, можа не задаволіць улюбёных у эфектнасць і нязвычнасць. Ды той, хто па-сапраўднаму любіць паэзію, не можа не зацікавіцца ёю нават у самых непрыкметных праявах.

Сціпласць і сарамлівасць не выключаюць смеласці. Сымону Блатуну ўласцівы смеласць вобразаў і думак і нават, калі хочаце, не звычная смеласць неўпрыкмет, але з выклікам (бо сціпласць — заўсёды выклік развязнасці) прайсціся на грані прымітывізму і спрашчэння і часта шчасліва пазбегнуць апошніх. Калі Блатун, напрыклад, піша аб тым, як стары цясляр падняў сухую галавешку, намазаў ёю шнур і, выцяўшы тым шнуром крамяны ствол, часаць яго пачаў, то мы здзіўляемся, як гэта аўтар так проста і звыкла абуджае ў нас пачуццё эстэтычнага, і адчуваем, што тут яшчэ няма таго апошняга мазка, ад якога атрымаў бы сваю закончанасць увесь малюнак. І вось, ён, такі апошні мазок: «Падняў ён тую галавешку з папялішча у сорак... добра нам вядомым годзе». Верш засвяціўся.

І ўсё ж прымітывізм і спрошчанасць — самыя сур'ёзныя пагрозы для маладога паэта, бо не заўсёды ўдаецца яму ўтрымацца на вышынях Паэзіі. Расказаўшы ў вершы «Чысціня» аб цнатлівай натуральнасці і чысціні ў прыродзе, ён раптам без усякай арганічнай патрэбы «прывязвае» да верша і канцоўку-паведамленне аб сабе:

І ў маторны,
закручаны век,
я збярог
Чысціню вашу,
звонкія сані.

І тут мы маем поўнае права не верыць паэту, бо ён не пераканаў нас. Задзірыстая натуральнасць і «працяцкасць» ператвараюцца ў шкалярскі прымітыў, у прамалінейнасць, бо не пераадольваюцца тым апошнім мазком, аб якім мы ўжо гаварылі, навізной і глыбінёй думкі. Тое ж і ў вершы «Франтавік». Герой яго дзяліўся ўсім з сябрамі:

Глытком вады,
Апошняю зацяжкай папяросы
І крошкай хлеба...
Ён і крывёй сваёю падзяліўся
З салдатам невядомым...
Невядомы салдат выжыў,
А ён загінуў...
І застаўся жыць!

Лірычная сітуацыя, як бачым, тут не перажыта, не прадумана; аўтар паспяшаўся, не дачакаўся, пакуль думкі ў сэрцы «перабродзяць, нібыта ў бочцы спелае віно». Гэты недахоп — вельмі «ў духу Блатуна».

Паэт тады дабіваецца поспеху, калі жыццёвая карціна, адлюстраваная ім, звязана з лёсам канкрэтнага чалавека. Часам яна набывае, і даволі ўдала, сімвалічнае значэнне («Меданос», «Эра маіх пірамід»), але, здараецца, сімвалізацыя пераходзіць у звычайненькую прытчу-выгадку («Зімовая казка»). У «Эры маіх пірамід» гаворка ідзе пра пасляваеннае пакаленне і нават пра пераемнасць звычак і традыцый:

Будавалі і мы піраміды —
Аж яшчэ ў даюнацкую эру
Мы таптаді стагі.

Антытэза «піраміды — стагі» з'явілася не сёння і не ўчора, яе ўзрост — узрост чалавецтва, гісторыю якога як бы паўтарае ў працэсе свайго зараджэння і развіцця кожны чалавек. Таму такія выразы ў вершы, як «у да-

юнацкую эру», «піраміды», маюць не толькі іранічныя адценні, ажыўляючы ход гутаркі, але і глыбокі «сур'ёзны» сэнс. Піраміды працы і піраміды фанабэрыі... Але стагі раслі, яны растуць, бо кідаў іх «сам чарадзей — дзед Прышчэп»:

Толькі дзед застаўся ў аблоках —
Бог палескіх лугоў...
Шапку з стога не скінуць віхуры,
Абсякуць яго ніткі ліўняў,
Калі стог стагаваў
дзед Прышчэп...
Мы таптаді стагі —
Будавалі свае піраміды
І раслі угару, угару...

Як сабе хочаце (кожны мае права па-свойму асэнсоўваць вобразы-сімвалы), але дзед Прышчэп тут для мяне — сімвал усяго беларускага народа, які вядзе сваё малодшае пакаленне «ўгару, угару», да сапраўднага шчасця.

Пра сціплую шчырасць і шырокую шчодрасць самабытнага характару беларуса шмат гаворыць і верш «Меданос». Рухавая рытмамелодыка, праніклівыя інтанацыі, гукапераймальная і мілагучная інструментоўка — усё садзейнічае павышэнню лірычнага напружання. Адразу ж даецца сціслая, але яркая карціна:

Вецер з лугу прынёс
Пах духмяны:
То ідзе Меданос—
Хлопец п'яны.

І так развіваецца ўсё лірычнае дзеянне, без нязвыклых тропаў, нечаканых сродкаў. Паэтычны эфект — у сціпласці:

А хлапец у хмялі —
Дык шчадрыня:
Да яго і чмялі
Нават рынулі.
Дзесь хавае свой нос
Толькі шэршань,—

і, нарэшце, лірычная «кульмінацыя»:

Меданос, Меданос...
Звон сталёвых кос...

і развязка:

Пра цябе не раскажаш вершам.

Канечне, тут не знойдзеш вострай праблематыкі, але ці варта ад усякага верша вымагаць яе. Задача ўсяго мастацтва — усебакова паказаць сучасніка, і тут кожны адкрывае тое, што здольны ўбачыць ці адчуць у ім. Вядома, грамадзянская лірыка, сацыяльная праблематыка была і ёсць жывою душой літаратуры. Але не чужая яна і Сымону Блатуну. Пільна ўзіраецца ён у «залатую карусель» жыцця, што падхапіла яго, панесла на «агністым сваім кані»: вось трыццаты круг, а карусель круціцца, дні мільгаюць, а з імі — і жыццё, і людзі: «дзядзька, хлопчык, дзяўчына...», і ўжо гэта не вернеш, калі нават і не паспееў іх угледзець, і, нарэшце, «дзень раўнадзенства — дзень раўнавагі».

Паэт займае вельмі добразычлівую, гуманную пазіцыю ў гэтай каруселі жыцця, адлюстроўваючы яе праз чалавека і для чалавека. Асабліва запамінаецца ў гэтым сэнсе верш «Хварэе стары паравоз — прастудзіўся...», дзе ёсць і шчырае спачуванне, і чалавекалюбства. З такіх пазіцый напісаны і рэквіем дрэў:

Як рана паміраюць дрэвы:
Прыслухайся —
Тужліва дрэвы
Над помнікамі гэтымі шумяць.

Жальба па страчаным і дарагім, роздум аб лёсе чалавека і яго магчымасцях праніклёна гучыць і ў песні пра салаўя, які «памёр раптоўна, на самай высокай ноце».

Навошта ён браў на сябе больш,
чым бяруць другія,
Хапіла б і не дванаццаць, а восем
кален...—

галосіць салаўіха. Сумны і сур'ёзны змест у гэтай «байцы». І толькі псуе яе зусім лішняя, крыху вучнёўская канцоўка:

Вось мне б так памерці —
на самай высокай ноце!
І быў бы шчаслівы я.

А ўмее ж паэт заканчваць свае творы і арганічна, і хораша, скажам, верш «Чэсць». Гаворачы пра бессмяротнага Лермантава, марачы аб прадаўжэнні яго традыцый і ў жыцці, і ў творчасці, ён заяўляе:

Мы разумеем вас, паэт,
Мы вашыя адданыя салдаты.
Паручык Лермантаў, прыміце
нашу чэсць!

У паэта ёсць верш не толькі пра салаўя, але і пра пеўня свайго маленства. Спачатку ён прыгожа і ўзнёсла паведамляе:

А потым еў я зваранья лапкі:
Заўсёды крыльцы й ножкі
маладым,

але далей верш гучыць неяк парадыйна і смешна: шкадаваў пеўня, нат «слязамі шчырымі заплакаў і маці нават папракнуў тады» за тое, што забіла «Пецю», а лапкі яго ўсё ж такі з'еў.

Зусім іншае бывае, калі смешнае не ўзводзіцца ў ступень сур'ёзнага, пафаснага. На косы каханай калісьці селі два матылькі,— расказвае лірычны герой аднаго з вершаў. Трапяталіся доўга ў косах яны, знячэўку пырхнулі, паляцелі... Доўга шукаў іх закаханы і нечакана ўбачыў іх на льняной галоўцы дзяўчынкі. Зняць іх хацеў,

Ды дзяўчынка сказала з дакорам:
— Не чапай іх, ты ўжо дзядзя
вялікі,
Гэта будуць мае матылькі.

Вобраз матылькоў канкрэтызуецца, і гэтым, а таксама дабрадушным гумарам і сумнай насмешкай над сабой, паэт нібы здымае сентыментальнасць і спрошчанасць, якія пагражалі вершу.

Дарэчы, твор напісаны верлібрам, але мы нават не заўважаем гэтага: даскаваласць вершаванай тэхнікі — таксама ў непрыкметнасці, сціпласці.

Герой паэта, сціплы і знешне ціхі чалавек, выступае супраць душэўнага спакою і раўнадушша да чужых бед і няшчасцяў. Ён — за мужнасць, высакароднасць, сумленнасць у кожным учынку, ва ўсім штодзённым жыцці. Творчую думку паэта вельмі хвалюе праблема смеласці і гонару.

Пара мінула шпаг і пісталетаў,
Што спрэчкі грозна вырашыць
умелі...
Цяпер адны раўнівыя паэты
Вядуць свае шматслоўныя дуэлі.
Нібыта куляй, паляць зрэдку
вершам,
Ды часам порах сыплецца не
ў меру...
Смяльчак не той,
хто выклік кінуў першы,
А хто спакойна
падышоў к бар'еру.

Як бачым, паэт займае сваё, хаця і знешне непрыкметнае месца ў маладой паэзіі. Аднак у яго ёсць і вельмі адметная якасць — гэта высокае адчуванне высакароднасці, сумленнасці і актыўнае адстойванне іх.

**Янка ШПАКОЎСКІ.**






**Ф. ЯНКОЎСКІ, Беларуская фразеалогія. Выд. «Вышэйшая школа», Мінск, 1968.**

# СКАРБЫ РОДНАЙ МОВЫ

Фразеалагізмы належаць да самых эмацыянальных, самых экспрэсіўных сродкаў выразнасці мовы. Народ стварае іх, адшліфоўвае і ашчадна перадае з пакалення ў пакаленне. Многія з народных фразеалагізмаў трапляюць у мову пісьменнікаў, у літаратурна-кніжную мову і замацоўваюцца ў ёй, а многія застаюцца па-за кнігамі. Да апошняга часу ні фразеалогія беларускай літаратурнай мовы, ні народная фразеалогія спецыяльна не збіралася, не сістэматызавалася і не вывучалася. Таму выхад у свет кнігі Фёдара Янкоўскага «Беларуская фразеалогія» трэба вітаць, як пачатак добрай, вялікай справы.

Ф. Янкоўскі ўжо даўно працуе ў галіне збірання, вывучэння і даследавання беларускай фразеалогіі. Гэта кніга — плён яго амаль 30-гадовай працы, стараннай, дбайнай, рупнай. Чытачы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з багаццямі яго картатэкі па публікацыях у часопісе «Полымя» (пачынаючы з 1964 года) і ў іншых перыядычных і навуковых выданнях. Падборкі фразеалагізмаў і кароткія каментарыі да іх змяшчаліся ў I і II выпусках «Дыялектнага слоўніка» (1959 і 1960 гады), у кнігах «Беларускія народныя прыказкі» (1957), «Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі і фразеалагізмы» (1962), «Роднае слова» (1967) і ў многіх іншых працах Янкоўскага.

У кнігу «Беларуская фразеалогія», як зазначае аўтар, трапіла толькі невялікая частка матэрыялаў, сабраных ім за шмат гадоў. Гэтая праца з'яўляецца тлумачальным слоўнікам фразеалогіі народнай беларускай мовы. Асноўных крыніц матэрыялу кнігі тры: аўтарскія запісы; надрукаваныя тэксты жывой народнай мовы (галоўным чынам зборнікі Е. Раманава, З. Радчанкі, А. Сержпутоўскага, І. Сербава, М. Федароўскага, «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі»); зборнікі беларускіх народных прыказак і прымавак І. Насовіча і М. Федароўскага. Але аснова асноў кнігі Ф. Янкоўскага — гэта фразеалагізмы, пачутыя і занатаваныя ім самім з «натуры», з жывой гутарковай мовы, непасрэдна ад субяседніка. Тое ж і ў

падачы прыкладаў: дамінуючае месца, як правіла, займаюць выразы, запісаныя аўтарам асабіста, ілюстрацыі ж з друкаваных крыніц з'яўляюцца дадатковым матэрыялам, пацверджаннем цытат з жывой мовы.

Фразеаграфічны артыкул у кнізе Ф. Янкоўскага складаецца з такіх часцін: загаловак, у якім падаюцца (у дужках) разнастайныя варыянты фразеалагізма, указанні на сувязі фразеалагізма з кантэкстам, стылістычныя паметы, тлумачэнне значэння фразеалагізма, ілюстрацыйныя прыклады (цытаты). У плане параўнання прыводзяцца фразеалагізмы з рускай мовы. Акрамя таго, да многіх артыкулаў аўтар дае кароткія каментарыі, меркаванні пра гісторыю паходжання фразеалагізма. Вось некалькі цікавых этымалагічных тлумачэнняў, назіранняў, вывадаў, якія даюцца ў кнізе:

**«Араць дарогі».**

Рабіць неразумнае, несусветнае глупства. Параўнайце з намінатыўным, звычайным значэннем «араць дарогі», рабіць шкоду (дарога трэба ўсім), рабіць цяжкую працу (убітае дарогі плуг не бярэ).

**«Асёл маляваны».**

Няздара, дурань. Можна меркаваць, што выраз «асёл маляваны» пайшоў ад вандроўных цыркаў.

Фразеалагізмы і ілюстрацыйныя прыклады да іх, занатаваныя Ф. Янкоўскім у розных кутках Беларусі і часткова запазычаныя ў надрукаваных тэкстах, «разгортваюць перад чытачом,—як слушна заўважае ў прадмове да кнігі Янка Брыль,—жывую, паэтычную карту беларускай мовы, хвалюючь душу яе нелінючымі фарбамі, крынічным звонам яе бессмяротнасці».

Нельга не захапляцца, чытаючы старонкі гэтай кнігі. Тут што ні выраз—то вобраз, паэзія.

**«У роце расце».** Так кажуць, калі ў чалавека няма апетыту. Вельмі трапна падмечана: сапраўды, калі няма апетыту і чалавек пачынае есці, страва не глытаецца, здаецца, што яе ў роце становіцца больш, чым узяў.

**«Хоць вады напіся».** Гэты выраз ужываецца ў народнай мове, калі гавораць пра вельмі прыгожага з твару чалавека, у якога знешняя прыгажосць спалучаецца з чысцінёю маральнаю. Хораша сказана!

А колькі ў народнай мове сінанімічных фразеалагізмаў! У значэнні **надаваць, набіць, даць лупцоўкі** ў кнізе Ф. Янкоўскага прыводзяцца такія выразы: **даць гарту; даць лазню; намыліць карак (шыю); увярнуць у косці; накласці па шыі; налажыць у каўнер (у каршэнь); скроіць порткі.** У значэнні **гаварыць абы-што, гаварыць глупства—малоць не падсяваючы; малоць пустое; малоць языком; намалоць языком; намалоць пустога; не чуць смаку ў языку; плесці з дуба вецце; плесці лапці (з кашалямі); плесці смаловага дуба; блынды правіць; язык аб зубы біць; у званы біць** і г. д.

Народная фразеалогія вылучаецца сваёю шматзначнасцю. Так, фразеалагізм **«дагары нагамі»** можа мець пяць значэнняў: **уверх нагамі (упасці, бразнуцца, паляцець):** («Паляцеў дагары нагамі з воза»); **у беспарадку, у бязладдзі:** («Схадзіце ў клас, паглядзіце, што робіцца: усё дагары нагамі»); **свавольнічаць:** («Назбіралася поўная хата, і пайшлі дагары нагамі»); **усё не так, а насуперак** (чаканням, намерам, спадзяванням): («Думалі, што будзе так і так, а яно ўсё дагары нагамі»); **наадварот:** («Задумаўся пастушок, чаму гэта ў вадзе адбіваецца ўсё дагары нагамі»).

Народная фразеалогія—вечная невычэрпная крыніца для нашых пісьменнікаў, журналістаў, лектараў, настаўнікаў, перакладчыкаў—усіх, хто мае справу са словам. На матэрыялах кнігі Ф. Янкоўскага яшчэ раз пераконваешся, што народная мова куды багацейшая за літаратурную. На спосабы выказвання думак, на сродкі выразнасці. Так, напрыклад, для азначэння мноства, багацця чагонебудзь у літаратурнай мове ўжываюцца словы **«многа, безліч, шмат»**, а ў народнай: **«Зайшлі пад Канюшнішчы, дык там рыжыкаў хоць касою касі»; «Ягады—хоць шуплюй, а грыбоў у лесе... хоць касі».** У гэтым жа значэнні ў кнізе пададзены фразеалагізм **«хоць граблямі заграбай»** і іншыя.

На матэрыялах тлумачальнага слоўніка Ф. Янкоўскага можна яшчэ багата ілюстраваць вобразнасць, хараство, свежасць, сакавітасць і непаўторнасць беларускай народнай фразеалогіі, разнастайнасць і разнамаснасць спосабаў выражэння думкі, арыгінальнасць сінтаксісу.

Фразеалагізмы—гэта краса нашай мовы, яе самацветы, неацэнныя па сваёй вартасці і нязмерныя па сваім багацці. Яны чакаюць сваіх збіральнікаў і даследчыкаў. Тлумачальны слоўнік Ф. Янкоўскага, нястомнага і руплівага адкрывальніка скарбаў роднай мовы, першая, добрая ластаўка, першы буйны здабытак у справе збірання і вывучэння беларускай фразеалогіі. Гэта грунтоўная, дакладна і глыбока аргументаваная праца высокага майстра, таленавітага мовазнаўцы.

**Міхась ТОНДЗЕЛЬ.**

● Сцяпан МАЙХРОВІЧ



# АФАНАСІ ФІЛІПОВІЧ

Літаратурная і грамадска-палітычная дзейнасць Афанасія Філіповіча, таленавітага пісьменніка-патрыёта і палымянага змагара за ўз'яднанне Беларусі і Украіны з Расіяй, прыпадае на самы цяжкі перыяд у гісторыі беларускага народа. Гэта быў час, калі край запаланілі «чорныя груганы» Ватыкана — езуіты і іх саюзнікі ўніяты, якія ўтварылі пад эгідай шляхецка-каталіцкай Рэчы Паспалітай «дзяржаву ў дзяржаве». Узмоцненая феадальная эксплуатацыя прыгоннага сялянства, лютае праследаванне праваслаўных «рускіх людзей», іх роднай мовы, нацыянальнай культуры, звычаяў і абрадаў не ведалі межаў. На рашучую, бескампрамісную барацьбу супраць гэтай нацыянал-шавіністычнай, антынароднай палітыкі шляхецкай Польшчы і выступіў Афанасі Філіповіч. Яго літаратурная спадчына з'яўляецца вялікім дасягненнем перадавой грамадска-палітычнай думкі Беларусі той эпохі і значным помнікам славеснай культуры, да якой маглі ўзняцца тагачасныя беларускія пісьменнікі.

Аўтар «Дыярыуша» * быў, разам з тым, апошнім з той выдатнай плеяды літаратараў-палемістаў, творчасцю якое завяршаецца, па сутнасці, вышэйшы этап адкрытай палітычнай барацьбы супраць Брэсцкай уніі і шавіністычнай палітыкі шляхецкай Польшчы ў дачыненні да беларускага і ўкраінскага народаў. Вышэй за Афанасія Філіповіча палемічная літаратура, фактычна, ужо не ўзнялася і неўзабаве зусім спынілася. Яна не ўстаяла пад ударамі езуіцка-ўніяцкіх сафістаў і карных органаў польскага каталіцкага ўрада, які канчаткова забараніў у канцы XVII стагоддзя беларускую літаратурную мову, як дзяржаўную на літоўскіх і беларуска-ўкраінскіх землях. Вялікапольская нацыяналістычная рэакцыя перамагла. На многія дзесяцігоддзі яна затрымала гістарычны прагрэс беларускага, украінскага і літоўскага народаў, увергнуўшы іх у бездань адсталасці і духоўнай цемры.

Афанасі Філіповіч прымаў гэтую сацыяльную драму блізка да сэрца. Але ён быў бяссільны змагацца супраць яе. Адзінай зброяй яго па-ранейшаму заставалася публіцыстычнае слова, непадкупную сілу якога ён вычарпаў да дна ў адзінаборстве з ворагамі народу. Пісьменнік быў бескампрамісны ў сваім паядынку з імі, і толькі адзін, мабыць, пратапоп Авакум, паводле трапнага параўнання рускага гісторыка М. Кастамарава, можа быць пастаўлены, па сваёй непахіснай веры ў вышэйшыя маральныя ідэалы, побач з беларускім змагаром за працвітанне свайго народу.

Эпоха была ўжо далёка не тая, што ў часы Хрыстафора Філалета. Не тая палітычная атмасфера панавала навокал. Яна даўно змянілася на горшае і прымушала мяняць старую літаратурную зброю на больш дзейсныя сродкі ідэалагічнай барацьбы з сацыяльнай рэакцыяй. Тэарэтычная палеміка з ідэолагамі польска-каталіцкай агрэсіі мусіла, такім чынам, непазбежна ўступіць месца адкрытай палітычнай барацьбе супраць іх. Гэта было заканамерна, асабліва пасля таго, як Брэсцкая унія глыбока пусціла карэнні і знайшла прыхільнікаў не толькі сярод беларускай і ўкраінскай феадальнай арыстакратыі, але таксама ў мяшчанскіх колах гарадоў і мястэчак.

Адсюль, аднак, зусім не вынікае, што пара ідэалагічнага выкрыцця антынароднай сутнасці ўніяцтва і польска-

* «Дыярыуш», або дзённік А. Філіповіча, складаецца з дзесяці публіцыстычных артыкулаў, напісаных на працягу 1637—1646 гг. Быў змешчаны пад назвай «Діаріушь» у канцы «Толковой псалтири», што захоўваецца ў Маскоўскім гістарычным музеі.

шляхецкай агрэсіі даўно мінавала. Наадварот, у часы Афанасія Філіповіча яна яшчэ больш наспела і была не менш актуальнай, чым раней. Толькі цяпер барацьба за грамадзянскія правы і нацыянальную годнасць народу набывала больш востры ідэйна-палітычны і тактычны напрамак. Цяпер ужо не «славесная бітва» выступала на авансцэну змагання з дэнацыяналізацыяй беларускага і ўкраінскага народаў, а ваяўнічае супраціўленне каталіцкай экспансіі і бескампраміснае выкрыццё ганебнай шавіністычнай палітыкі польскай ваенна-феадальнай алігархіі ў заходняй і паўднёва-заходняй Русі.

Лёгка зразумець, чаму, скажам, Афанасі Філіповіч адкінуў прэч якую б там ні было палеміку з уніяцка-каталіцкімі ідэолагамі і стаў на шлях адкрытай палітычнай барацьбы за непарушнасць самабытных нацыянальных устояў беларускага і ўкраінскага народаў. Жыццёва неабходная ў свой час, тэарэтычная палеміка з уніяцкімі адшчапенцамі страціла свой практычны сэнс у эпоху Афанасія Філіповіча. Мінула ўжо было больш за паўстагоддзе. Цяпер кожны крок практычнага руху наперад, кожны палітычны ўдар па каталіцкіх паланізатарах, не выключаючы самога караля і «каронны сейм», варты былі многіх тамоў абстрактных разважанняў. Не да палемікі было, калі польская феадальна-каталіцкая рэакцыя святкавала сваю перамогу над забраным «рускім краем» і падданым, але не скораным, народам. Сама, такім чынам, палітычная сітуацыя вымушала маладых, радыкальна настроеных пісьменнікаў узняцца вышэй за тую агульнадэмакратычную плынь старой палемічнай літаратуры, пачынальнікамі якой былі Х. Філалет, З. Капысценскі, І. Вішанскі.

Выбару не было, і Афанасі Філіповіч, выхаваны на рускай культуры і свабодалюбівых ідэалах сваіх духоўных папярэднікаў, не вагаючыся, пайшоў насустрач сацыяльнай стыхіі. Бой быў няроўны, але, узброены высакароднай нянавісцю да прыгнятальнікаў беларускага народа, пісьменнік наступаў. Наступальны дух яго публіцыстыкі адкрыў новую паласу ў тагачасным беларускім літаратурным руху, але здабыць сабе жаданую масу прыхільнікаў, на жаль, не здолеў. Не здолеў таму, што эпоха была ўжо не тая і асноўная маса спаланізаванай інтэлігенцыі краю выраклася свайго народу, перайшоўшы ў стан яго ворагаў. Трагедыя Афанасія Філіповіча ў тым, між іншым, і заключалася, што ён быў змагар-адзіночка, не падтрыманы суайчыннікамі і вымушаны адзін на адзін ваяваць з рэакцыяй і яе магутным натхніцелем — каралеўскай уладай. Ён паўстае перад намі, як «апошні з магікан» той эпохі, жалезная логіка якой непазбежна вяла на пэўным гістарычным этапе да заняпаду адвечных духоўных здабыткаў беларускага народа.

Вось у гэтых грамадска-палітычных акалічнасцях, а не ў «эксцэнтрычнасці характару» пісьменніка, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, напрыклад, В. Вольскі ў «Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму», і трэба бачыць крыніцу яго роспачы і адчаю, першапрычыну той нястрымнай эмацыянальнай узбунтаванасці супраць духоўных і свецкіх феадалаў, што так бурна праявілася ў адзінаборстве аўтара «Дыярыуша» з цэлым сонмам ідэйных ворагаў і нават з самім каралём Рэчы Паспалітай. «Афанасі,— слушна заўважае М. Кастамараў,— стаяў непамерна вышэй за сотню пошлых асоб сваіх сабратоў у саслоўі духавенства, што даражылі больш за ўсё сваім матэрыяльным дабрабытам і таму баяліся раздражняць моцных. Ён быў, пры ўсім сваім фанатызме, чалавек прамы, шчыры, праўдзівы, які дзейнічаў і гаварыў пад уражаннем сапраўднага, а не тэатральнага натхнення».

Сучаснікі слушна называлі Афанасія Філіповіча чалавекам магутнай волі за тое, што ён заўсёды быў непадкупна праўдзівы і да канца верны аднойчы абраным патрыятычным ідэалам. Імена такім пісьменнік паўстае са старонак сваёй аўтабіяграфічнай аповесці «Дыярыуш», папулярнасць якой у перадавых колах старажытнай беларускай інтэлігенцыі была вельмі вялікая, хоць яна і ўбачыла ўпершыню друкарскі станок толькі ў канцы мінулага стагоддзя.

Сам аўтар гэтай своеасаблівай мастацка-публіцыстычнай па форме і глыбока палітычнай па сацыяльным змесце аповесці паўстае перад чытачом як пакутнік за свабоду братніх народаў. І гэта зразумела, таму што пісьменнік арганічна быў звязаны з імі не толькі агульнасцю духоўнай культуры і гістарычнага лёсу, але і самім сваім паходжаннем. Ён нарадзіўся, найбольш верагодна, у 1596 годзе ў сям'і рамесніка на Гродзеншчыне. Бацькі яго, хутчэй за ўсё, належалі да людзей так званых «вольных прафесій», аселых жыхароў вялікага правінцыяльнага мястэчка ці горада, дзе толькі і магчыма было ў тыя часы шырокае развіццё мануфактуры і рамеснай вытворчасці. Такім чынам, не вясковая глухмень з яе цемрай і тупой аднастайнасцю існавання, а бурнае жыццё тагачаснага рамесніцкага і гандлёвага асяроддзя было калыскай палітычных сутыкненняў братчыкаў з уніятамі, дзе добрая «руская кніга» і «заморская навіна», прынесеная шматмоў-

най «гандлёвай і рамесніцкай брацяю», з'яўляліся звычайнай бытавой з'явай,— тут лягчэй было праходзіць «свае ўніверсітэты» і паталяць духоўную прагу. У самым цэнтры Гродні да сённяшняга дня захаваўся цэлы квартал, відаць, глінабітных, аднапавярховых домікаў, у якіх жылі прывезеныя з Ліёна (Францыя) майстры—спецыялісты па ткацкай вытворчасці.

Дзеля гэтага зусім не абавязкова было мець універсітэцкі дыплом. Ды ці і валодаў ім Афанасі Філіповіч. Паводле некаторых біяграфічных вестак, ён атрымаў досыць «станоўчую адукацыю» ў юнацкія гады, найбольш праўдападобна, у адной з узорных брацкіх школ, магчыма, у той жа Астрожскай акадэміі. Ва ўсякім выпадку, мастацкая публіцыстыка аўтара «Дыярыуша» і, тым больш, яго навуковыя экскурсы ў гісторыю старажытнай Элады і Рыма, антычную філасофію, тэалогію і грамадзянскае права, раскрываюць перад намі буйнога эрудыта і ўніверсальна начытанага пісьменніка, роўнага такім, скажам, арыгінальным мысліцелям, як С. Зізані і М. Сматрыцкі. Інакш ці здабыў бы Афанасі Філіповіч высокую годнасць хатняга настаўніка ў вядомага беларускага магната і ўплывовага палітычнага дзеяча Льва Сапегі.

Гэта было ў 1620 годзе. Малады, высокаадукаваны інспектар, праруская арыентацыя якога ні для кога не была таямніцай, быў вельмі далёкі ад думкі, чаму гэта на яго долю выпала раптам міласць усемагутнага ваяводы. Ды і ці мог не спрактыкаваны ў палітычных інтрыгах юны казнадзей адразу разабрацца ў стоеных намерах свайго «вяльможнага хлебадаўцы». Пройдзе цэлых сем загадкавых гадоў пакуль, нарэшце, Афанасі Філіповіч зразумее, каго ён выхоўвае і каму аддае свае запаветныя веды і высокія душэўныя парыванні. Тайнае, нарэшце, стала яўным, і вучань маладога інспектара Ян Фаусцін Луба раскрыўся да дна. Хлопчыку, аказваецца, з маленства ўбілі ў галаву, быццам ён з'яўляецца Маскоўскім царэвічам Іванам Дзімітравічам і мае законнае права на царскі трон, які ён здабудзе пры дапамозе каралеўскага ўрада. Правакацыйная легенда польска-літоўскіх палітыканаў не была нават пазбаўлена рамантычнага каларыту. Неўзабаве Афанасі Філіповіч даведаўся, як піша Кастамараў, што «нейкі пан Бялінскі пераканаў сына падляшскага шляхціца Лубы — хлопчыка Фаусціна, які не памятаў, ці, магчыма, дрэнна памятаў, сваіх бацькоў, быццам Марына Мнішак даручыла ў Калузе яму, Бялінскаму, адвезці сваё дзіця ў Польшчу і выхаваць, а потым, калі яе схапілі і прывезлі ў Маскву, хлопчык быў падменены другім, і той другі, прызнаны сынам Марыны, быў павешаны, а сапраўдны быў адвезены ў Польшчу».



Афанасі Філіповіч.

На гэтым, аднак, прыгоды Фаусціна Лубы не канчаюцца. «Кіруючыся парадай сваіх блізкіх, Бялінскі прывёз хлопчыка на польскі сейм,— піша далей гісторык,— і прадставіў каралю Сігізмунду і сенатарам. Са згоды польскага сейма хлопчык быў аддадзены на выхаванне вялікаму канцлеру Літоўскаму Льву Сапегу, а на ўтрыманне яго вызначана было шэсць тысяч злотых у год з прыбыткаў Брэста і Брэсцкага павета».

Як толькі Афанасію Філіповічу раскрыліся вочы на ўсю гэтую брудную задуму і ён пераканаўся, нарэшце, што Фаусцін Луба — не рускі царэвіч, абурэнню яго не было канца. Ён адразу пакінуў палац вяльможнага магната, пастрыгся ў манахі Віленскага святадухаўскага манастыра. Гэта было ў канцы 30-х гадоў, а праз некаторы час вучоны манах трапіў у Куцеінскі манастыр, які славіўся сваімі выдатнымі пісьменнікамі-гісторыкамі і вялікай друкарняй. Тут можна было больш-менш спакойна заняцца літаратурнай працай. Але не спакойнага жыцця шукаў сабе Афанасі Філіповіч. Яго цягнула на арэну палітычнай бітвы супраць польска-каталіцкага засілля, згубныя вынікі якога скрозь давалі сябе адчуваць. Пасля нядоўгага прабывання ў Межыгорскім манастыры, што ля Кіева, ён зноў апынуўся ў Вільні і адсюль у 1633 годзе быў накіраваны намеснікам ігумена Дубайскага манастыра на

Піншчыне. Затрымацца доўга і тут, аднак, не давялося, бо дубайскія ўладанні хутка былі перададзены езуітам. Такая была воля канцлера Літоўскага — «не апошняга з бяздарных Радзівілаў» — Альбрахта Станіслава.

Але няма ліха без дабра. Апынуўшыся ў 1636 годзе непадалёку ад Пінска ў Купяціцкім манастыры, Афанасі Філіповіч пасля доўгага пакутлівага роздуму пераканаўся, нарэшце, што выратаванне беларускаму і ўкраінскаму народам ад нацыянальнай згубы можа прынесці толькі Масква і рускі народ. Як чалавек актыўнага дзеяння і жывой справы, пісьменнік прывык не адступаць ад задуманага. Пад выглядам афіцыйнай просьбы ў рускага цара Міхаіла Фёдаравіча міласціны на купяціцкую царкву ён накіраваўся ў канцы 1637 года ў далёкае падарожжа. Цяжка сказаць, ці ведаў хто-небудзь з суайчыннікаў пра тайную задуму пісьменніка пабываць у Маскве. А між тым, ён марыў схіліць рускага цара пайсці вайною на шляхецкую Польшчу, вызваліць беларускі і ўкраінскі народы з бяды і ўз'яднаць іх адвечныя землі пад скіпетрам Маскоўскай дзяржавы. Каб яго місія больш аб'ектыўна выглядала перад «свяшчэннай гасударавай асобай», Афанасі Філіповіч, чакаючы афіцыйнай аудыенцыі, піша цару ў сакавіку 1638 года дакументальна абгрунтаванае пасланне аб сапраўдных прычынах свайго паломніцтва ў «белакаменную сталіцу».

На гэтым гісторыя абрываецца. Час паглынуў далейшае развіццё падзей. Ва ўсякім выпадку, у «Дыярыушы» пісьменнік захоўвае «гордае маўчанне», спадзеючыся, напэўна, што недалёкая будучыня сама скажа за сябе. І тым не менш, цяжка дапусціць, каб Афанасі Філіповіч, чалавек з «таго берага» і неацэнны сведка жывых палітычных падзей у суседняй дзяржаве, прайшоў незаўважаным у Маскве. Ён меў, бясспрэчна, адкрытую гутарку з высокапастаўленымі асобамі, быў прыняты ў «пасольскай хаце» і не мог не расказаць пра тое, што ў Літве гадуецца «трэці самазванец». Гісторыя неўзабаве пацвердзіла гэтыя рэальныя здагадкі сучаснікаў, бо адразу ж па жывых слядах Афанасія Філіповіча ў Літве, як тады называлі Беларусь, з'явіўся «маскоўскі эмісар». Ён «на месцы» павінен быў пераканацца ў агрэсіўных намерах Рэчы Паспалітай і яе авантурных планах з тым жа «трэцім самазванцам». Пра тое ж, што пісьменнік прыхільна быў сустрэты ў «братняй Маскве», красамоўна сведчаць тыя багатыя падарункі, якія ён прывёз з сабою. Больш таго, яго палітычная місія ў Маскве вельмі станоўча ацэньвалася «рускім грамадствам» краю, якое вельмі прыхільна сустрэла абранне ў 1640 годзе пісьменніка ігуменам Сімеонаўскага манастыра ў Брэсце.

А тым часам атмасфера нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту пачала яшчэ больш згушчацца на заходнерускім небасхіле, і баявы палемічны запал натхнёнага «маскоўскай місіяй» пісьменніка набывае выразна наступальны характар. Трэба было, да таго ж, шукаць новыя выкрывальна-юрыдычныя дакументы, накіраваныя супраць уніі і яе «злога генія» — Рэчы Паспалітай. І такія старажытныя пергаментныя манускрыпты, у якіх былі запісаны «ўсе прывілеі для людзей рускай веры з страшным праклянцтвам для уніты», былі расшуканы Афанасіем Філіповічам у «берасцейскіх архівах». Ён тут жа паспяшаўся «зарээстраваць іх у гродскіх кнігах» і шырока абнародаваць праз публічныя казанні ў кафедральным саборы і на людных плошчах. Усё гэта, крыху счакаўшы, прыпомняць «рускаму казнадзею» езуіцка-уніяцкія правакатары. А пакуль што ён з вялікім энтузіязмам узначаліў дзейнасць патрыятычнага брацтва і ўвесь агонь свайго слова засяродзіў на нацыянальна-рэлігійным прыгнёце і агрэсіўных намерах Рэчы Паспалітай у дачыненні да беларускага і ўкраінскага народаў.

Не задавальняючыся грамадска-палітычнай дзейнасцю «на месцы» ў абарону «рускіх людзей» і іх грамадзянскіх правоў, пісьменнік двойчы накіроўваецца ў Варшаву, на «вальныя сеймы», і тут, з «высокай трыбуны», у прысутнасці караля Уладзіслава IV, бясстрашна выкрывае злачынныя вынікі ўніяцкай змовы супраць беларускага і ўкраінскага народаў. Пісьменнік быў дальнабачны палітык і свавольства каталіцкіх паланізатараў не прыпісваў «фанатычна настроеным асобам». Наадварот, ён дасканала разумеў, што лакеі робяць тое, што думаюць іх паны, і нацыянал-шавіністычны курс ёсць нішто іншае, як афіцыйная дзяржаўная палітыка польскай ваенна-феадальнай алігархіі. Пісьменнік назваў рэчы сваімі імёнамі і, не вагаючыся, смела выкрыў інспіратараў езуіцка-ўніяцкіх злачынстваў у краі — канцлера Радзівіла і падканцлера Трызну, як урадавую крэатуру Рэчы Паспалітай і здраднікаў радзімы. Ён падаў каралю загадзя падрыхтаваную «Супліку» — зварот, у якім з грамадзянскай адвагай папярэджваў: калі кароль не скасуе «праклятую унею» і не верне рускім людзям іх адвечныя правы грамадзянскага сумлення, дык няхай чакае на сваю галаву «зямныя праклёны і громы».

Пакрысе супраць Афанасія Філіповіча назбіраўся цэлы сонм палітычных абвінавачанняў, і ў 1643 годзе ён трапіў у астрог, а пасля быў сасланы ў Кіеў. Неўзабаве, апраўданы, пісьменнік

зноў апынуўся ў Брэсце, але ненадоўга. З ім здарылася якраз тое, што так лёгка можна было прадбачыць, бо лагічна вынікала з самой бескампраміснай лініі яго палітычных паводзін і смелага, няўрымслівага характару. Будучы ў 1644 годзе ў Кракаве, Афанасі Філіповіч, «не выпадкова», як схільны меркаваць некаторыя біёграфы пісьменніка, а, найбольш праўдападобна, свядома сустрэўся з «царскім амбасадарам» князем Львовым і паказаў яму нядаўна атрыманы ад Яна Лубы ліст. Ліст быў цікавы, і спрактыкаваны дыпламат адразу зразумеў, што мае справу з асабістым дакументам таго самага «трэцяга самазванца», якога польскі ўрад тайна рыхтаваў на царскі трон. Нечага і казаць, што Масква самым рашучым чынам патрабавала безагаворачнай выдачы лжэцарэвіча. А тым часам Афанасі Філіповіч, абвінавачаны ў дзяржаўным злачынстве, быў пасаджаны за краты.

Дарэмна цешылася каралеўская эліта, пераконваючы самую сябе, быццам яна падрэзала крыллі «рускаму бунтаўшчыку» і ён змоўкне, нарэшце, і не будзе больш «выносіць смецце з панскае хаты». Здарылася якраз наадварот. Год варшаўскага зняволення пісьменніка быў, можна сказаць, самым плённым у яго не так ужо працяглай літаратурнай дзейнасці. Ён і з-за крат умеў весці няспынную барацьбу з ворагамі беларускага і ўкраінскага народаў, умеў наносіць адчувальныя ўдары па нацыянал-шавіністычнай, агрэсіўнай палітыцы караля і яго шляхецка-каталіцкага ўрада. У свой «Дыярыуш» аўтар асабліва любоўна і беражліва ўключыў такія публіцыстычна вострыя, бездакорныя па літаратурнай форме і рэзка выкрывальныя па свайму палітычнаму пафасу нарысы, як «Навіны», «Супліка трэцяя», «Парада...» Яны напісаны ў «сталічным астрозе» ў часы пакутлівага роздуму над гістарычным лёсам роднага краю, стаптанага ворагамі.

І не для сямейнага архіва тварыў пісьменнік цэлымі днямі і начамі навылёт, свае выкрывальныя памфлеты ён пасылаў каралю Уладзіславу IV, каб той ведаў, што думаюць выказнікі нацыянальна-беларускай самасвядомасці пра згубную палітыку яго ваенна-феадальнага ўрада. Кароль, відаць, быў знаёмы з тымі пасланнямі Афанасія Філіповіча — інакш не саслаў бы яго, пасля вызвалення са зняволення ў 1645 годзе, у другую кіеўскую ссылку, у Пячорскі манастыр. Яна таксама не прайшла марна для пісьменніка. І хоць нагляд за ім, асабіста ўстаноўлены самім мітрапалітам Пятром Магілай, быў самы строгі, іменна тут, у Кіеве, Афанасі Філіповіч прадумаў і склаў свой «Дыярыуш», дапісаўшы новыя раздзелы і асобныя нарысы. Экземпляр гэтай непаўторнай ва ўсёй тагачаснай беларускай палітычнай прозе аўтабіяграфічнай аповесці быў перададзены мітрапаліту, каб ведалі, за што пісьменнік вядзе вайну з уніятамі і каралём. Філіповіч быў нястомны ў няроўным змаганні з афіцыйнай уладай, прызнаючы прыдатнымі ўсе сродкі барацьбы, калі яны вядуць да жаданай мэты. Ці не таму, канчаткова страціўшы веру ў мірныя магчымасці палягшэння цяжкай долі народу і не ўскладаючы больш надзей на палемічна-публіцыстычную барацьбу супраць нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту, пісьменнік непахісна стаў на бок сялянска-казацкіх паўстанняў адразу ж пасля вызвалення з высылкі і пераезду ў Брэст у 1647 годзе. Тут жа праз год Афанасі Філіповіч трэці раз быў пасаджаны ў турму за дапамогу народным паўстанцам Украіны і Беларусі. Пісьменніку-змагару суджана было загінуць, як храбраму салдату на полі бітвы, ад салдацкай кулі. У лесе на досвітку, дзесьці ля Брэста, ён быў тайна расстраляны. Кажуць, польскі жаўнер, якому загадана было страляць у пісьменніка, спачатку папрасіў у яго... прабачэння.

М. Кастамараў пісаў пра тое, што Афанасі Філіповіч «гучна, на ўвесь польскі сейм, а значыць, і ўсёй шляхетчыне, па-прароцку заявіў, што калі не скасуюць уніі і не дадуць свабоды праваслаўнай веры, дык Польшчу спасцігне вялікае бедства, якое давядзе да разбурэння яе дзяржаўны гмах. Ніхто не паверыў тады пагрозам прарока, як не верылі ізраільцяне пагрозам сваіх ветхазаветных прарокаў; ніхто з шляхетных паноў не звярнуў увагі на мізэрнага манаха-схізматыка. Працэс страшнага суда над Польшчай пачаўся скора, вельмі скора, а прарок, што прадвяшчаў яго, заплаціў жыццём пры самым пачатку гэтага працэсу, якому суджана было працягвацца больш стагоддзя. Шляхетныя паны перажывалі ўжо гэты працэс, мала разумеючы яго сэнс, а прарок быў забыты; мала хто і ў праваслаўным патомстве ведаў яго нават па імю, і толькі цяпер, дзякуючы выданню яго дзённіка, ён паўстае перад намі як бы жывым чалавекам першай паловы XVII стагоддзя».

Пісьменнік лёгка мог быць забыты ў наступныя стагоддзі, калі б не яго «Дыярыуш». Але ў свой час ён быў шырока папулярны ў рускім адукаваным грамадстве краю, дзякуючы не толькі самаахвярнай барацьбе з ворагамі беларускага і ўкраінскага народаў: усеагульную любоў і пашану прыносілі яму бліскучыя літаратурныя памфлеты, якія з рук у рукі пераходзілі ў шматлікіх спісах-копіях і давалі адказ на «праклятыя пытанні дня». Аўтар ведаў, што рабіць, калі звяртаў

свой пільны позірк на Усход, да Маскоўскай дзяржавы. Гэта што ж у нас дзеецца,— з гневам усклікаў пісьменнік,— што *«надъ турецкую неволю, туть въ панствѣ христіанскомь, православные люде болшую неволю терпятъ і маютъ!»* Дайшло да таго, нарэшце,— робіць вывад пісьменнік,— што ворагі рускіх людзей *«свою волю полнятъ, и свои своихъ гнембятъ»*, няшчадна прыгнятаюць.

І, быць можа, ні ў адным з нарысаў Афанасія Філіповіча крытычны пафас і рэзка выкрывальны, сатырычны тон не дасягаюць такой публіцыстычнай сілы, як у «Супліцы трэцяй». Аўтар абвінавачвае Рэч Паспалітую ў тым, што благаславіўшы *«праклятую унею»*, яна настолькі ўзбударажыла Заходнюю Русь, *«же не тылко въ краінахъ, въ князствахъ, повѣтахъ, въ местахь, въ мѣестечкахъ и въ селах селянъ зъ селянами, мѣщанъ зъ мѣщанами, жолнеровъ зъ жолнерами (бо и зъ козаками война внутраная непотребна о томъ была), пановъ зъ поддаными, родичовъ зъ дѣтками, а и духовныхъ зъ духовными, на остатокъ монаховъ зъ монахами — до гнѣву непогамованого приводила, приводитъ и нещасливе розжариваетъ»*.

Аўтар «Дыярыуша» вельмі часта карыстаецца фантастычнымі біблейскімі вобразамі і сімвалічнымі бачаннямі, памайстэрску ўплятаючы іх ў рэалістычныя карціны сваёй аповесці. Фантастычная вобразнасць, афарбаваная павышанай эмацыянальнасцю, праз якую ярка свецяцца сучасныя аўтару сацыяльныя з'явы і палітычныя падзеі, ёсць тыповы літаратурны прыём, які, акрамя псіхалагічнага ўплыву на пачуцці і ўяўленні чытача, нічога больш на ўвазе не мае. І сапраўды, глыбока абураны свавольствам каралеўскай крэатуры ў краі, паводле загаду якой Дубайскі манастыр быў аддадзены на здзек і ганьбаванне езуітам, аўтар кліча «на дапамогу» фантастычныя бачанні, каб толькі больш пераканаўча ўздзейнічаць на пачуцці і свядомасць чытача і выклікаць яго абурэнне супраць «яснавяльможных гвалтаўнікоў». І паглядзіце, які выразна рэалістычны, «зямны» каларыт набываюць гэтыя бачанні. Пісьменнік кажа, што *«въ тотъ часъ барзо страшніи видоки на неби и на земли,— не презъ сон, але въ день и на явъ, толко якъ въ захвиценю яком будучи,— видилемъ»*.

Што ж гэта за «видоки»? Аказваецца, *«на небе хмуры барзо гнѣвливые зъ войсками ушыковаными, на каране готовыми, и на земли — седмъ огнювъ пекельныхъ, на седмъ грѣховъ смертельныхъ зготованыхъ. Зъ тыхъ огнювъ, въ пятомъ жаристомъ гнѣвѣ, трохъ особъ выразне видилемъ: нунціуша легата»*, ватыканскага эмісара, *«въ коронѣ папежской, Жигимонта кроля и Сапегу, гетмана, за преслядоване церкви Восточной барзо смутно седячихъ. Которое видѣне, гдымъ другимъ указовалъ, видити не могли»*.

Тут што ні слова — вобраз, рэальны, праўдзівы малюнак, у якім праглядваюць палітычныя падзеі той цяжкай у гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў эпохі. Але такія ўжо былі спецыфічныя асаблівасці вобразнага мыслення аўтара «Дыярыуша», што яго творчая фантазія, схільная да сімвалічнага мыслення, не магла абысціся без біблейскай фантастыкі, як своеасаблівага вобразнага сродку адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці. І тут не было нічога выпадковага, таму што сам творчы метад аўтара і ўласцівае яго пісьменніцкай індывідуальнасці вобразнае бачанне свету якраз і адпавядалі эстэтычным густам і ідэйным перакананням тагачаснага чытача.

Нас уражвае сёння і добрая эмацыянальная мова «Дыярыуша», перасыпаная часам народнымі прыказкамі, метафарамі, параўнаннямі і эпітэтамі. І хоць пісьменнік даволі часта ўжывае царкоўнаславянскія словы і запазычаныя з польскай лексікі граматычныя формы («служилемъ», «мялемъ»), яны, аднак, не псуюць самабытнай сістэмы яго літаратурнай мовы. Пад пяром Афанасія Філіповіча наша мова ўзбагацілася новымі стылістычнымі вартасцямі дзякуючы прыроджаным асаблівасцям яго яркай эмацыянальнай натуры. Афанасі Філіповіч быў паэт. Блізкія да сілаба-танічных інтанацый вершы ён пісаў нават за кратамі, седзячы ў варшаўскім астрозе. *«А я,— кажа пісьменнік,— на остатокъ ивъ пѣсни, въ турмѣ зложоной, се оголошаю нотно въ тые словы»*. І прыкладае да сваёй песні ноты.

Палымяны змагар за ўз'яднанне Беларусі і Украіны з «адзінавернай, братняй Маскоўскай дзяржавай», Афанасі Філіповіч увайшоў у гісторыю старажытнай беларускай літаратуры, як выдатны пісьменнік-палеміст. Яго творчасць знаменавала вышэйшы этап развіцця прыгожага пісьменства і мастацкай публіцыстыкі. Пасеянае пісьменнікам разумнае семя дало багатыя ўсходы ў наступныя эпохі і ўваскрасіла з забыцця яго добрае імя.



# КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

## ПРА АДЗІН ПОШУК

Масква, Астахаўскі, Дом «палавіна», як назваў яго сам гаспадар, бо ён мае парадкавы нумар 1/2. Тут няма нічога такога, чым любяць надзяляць кабінеты вучоных карэспандэнты: ні густых воблакаў тытунёвага дыму, ні прыглушанага святла настольнай лямпы, ні водбліскаў шкла шматлікіх кніжных шафаў, ні, нарэшце, традыцыйнага «Ведаеце, бацечка мой...» Было светла ад яркай люстры, ад настольнай лямпы, ад сонечнага колеру шпалераў. Кнігі ўсюды: у шафе і на шафе, на канапе і на стэлажах. Іх строгі парадак вядомы толькі гаспадару. А ён, невысокі, каржакаваты, дужы, толькі вельмі стомлены, адпачываў у гутарках з аспірантамі, кансультаваць якіх у яго заўсёды ставала часу.

Гутарка ішла пра агульныя праблемы навукі, пра «архітэктурную матэматыку старарускіх дойлідаў», якой ён тады займаўся. Па заўсёднай звычцы, перад ім ляжаў чысты аркуш паперы, на якім ён, слухаючы, маляваў старарускія ўзоры, чорцікаў, карыкатуры на знаёмых. Я, тады аспірант Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, пачаў расказваць пра сваю работу над дысертацыяй «Полацкая зямля», пра раздзел «Культура» і пашкадаваў, што не захаваўся славуты крыж Ефрасінні Полацкай: пасля вайны ён бясследна знік...

— А што, калі пашукаць яго копію? — падняў на мяне вочы прафесар і адклаў аловак убок.— Магчыма, хто-небудзь яго фатаграфаваў? Між іншым, у Полацку ў 1928 годзе былі архітэктары-рэстаўратары...

Крыж Ефрасінні Полацкай — унікальны ўзор ювелірнага мастацтва. Ён вызначаўся не толькі сваім хараством. На ім была пастаўлена дата, імя заказчыцы, кошт матэрыялу, работы і імя майстра! Яго заказала для свайго загараднага манастыра Ефрасіння Полацкая — славутая асветніца XII стагоддзя.

Я пачынаю пошук. Даведваюся, што архітэктар П. Д. Бараноўскі, які быў у Полацку ў 1928 годзе, усе свае матэрыялы перадаў у Траццякоўскую галерэю. Знаходжу там здымкі старадаўніх цэркваў, старажытных фрэсак і надпісаў на сценах (так званых графіці). Але здымка крыжа няма! Калі ўсё гэта здымалася, то ча-

## СВІТЭРЫ З... МАКАРОНАЎ




**Світэры і кофтачкі з воўны добра «грэюць», бо воўна мае большую порыстасць. Сінтэтычныя валокны не маюць такой порыстасці, таму хімікам трэба самім дбаць пра стварэнне такіх пораў. У Кіеве стварылі спецыяльныя прылады, якія ператвараюць гладкія валокны ў пушыстыя. Праўда, атрыманне «воўны» з капрону патрабуе дадатковай работы. Затое з яе выйдзе больш цёплае верхняе адзенне.**

**Японская фірма «Ніпон Рэйон» робіць прасцей: замест маленькіх круглых дзірачак у фільерах, праз якія выціскаюцца тонкія гладкія валокны, яна выкарыстоўвае фільеры са**

спецыяльнымі падвойнымі адтулінамі і выпускае пустацелае валакно накшталт макаронаў. Світэры з такіх «макаронаў» маюць добрую порыстасць, іх не адрозніш ад світэраў з чыстай воўны. Тканіна з «макаронаў» усім спадабалася, і яе пачалі вырабляць у некаторых іншых краінах, у прыватнасці, у Італіі.

## ШКЛЯНАЯ АНТЭНА




**Добра б рабіць рэчы са шкла, але яно занадта цяжкае і лёгка б'ецца. Так думалі раней.**

**Цяпер савецкія вучоныя павысілі трываласць шкла ў дваццаць разоў, а бельгійскія вучоныя паменшылі яго вагу ў пятнаццаць разоў. У Францыі ж атрымана шкло болей трывалае за металічныя сплавы і ў чатыры разы лягчэйшае за сталь. З такога шкла ў Парыжы зрабілі радыёантэну вышынёю дзесяць метраў і ўстанавілі на аўтамабілі. Аўтамабіль з разгону пусцілі пад арку вышынёю 4,2 метра. Антэна сагнулася і выраўнялася. Вопыт паўтарылі некалькі разоў, але шкло вытрымала ўсе выпрабаванні, яно было гнуткае, як гума.**

## РАДЫУС ЗЯМЛІ

**Штучныя спадарожнікі Зямлі дазваляюць не толькі вывучаць космас, але таксама больш дакладна вымерыць нашу**

му ж не мог быць зняты крыж? Магчыма, яго тады ўжо не было ў Полацку?

Зноў пошукі. Газета «Савецкая Беларусь» у 1928 годзе паведаміла, што гэтая ўнікальная рэліквія перададзена Мінскаму музею. Значыць, у 1928 годзе крыжа ў Полацку сапраўды не было! Будынак Мінскага музея быў разбіты немцамі ў 1941 годзе. Тут сляды крыжа зусім губляюцца. Але фатаграфіі ці хаця б дакладныя малюнкі? Дзе іх шукаць?

Неяк мне давялося выпадкова мець сустрэчу з буйнейшым спецыялістам па стараруськаму і заходнееўрапейскаму мастацтву. Разгаварыліся. Ён некалі бываў у Полацку, фатаграфаваў крыж, але негатыў — у яго старых архівах і цяпер яго цяжка знайсці.

Што ж, пакідаю гэта на самы крайні выпадак. Вырашаю пайсці іншым шляхам: сабраць усе звесткі пра крыж і скласці яго падрабязную гісторыю. Перш за ўсё, хто і калі бачыў крыж і як яго апісаў? З вядомай «Бібліяграфіі рускіх надпісаў» А. С. Арлова дазнаюся, што гэтаму аўтару было вядома трынаццаць упамінанняў пра крыж у розных крыніцах, што першы літаграфаваны адбітак крыжа змешчаны ў студзеньскім нумары «Журнала Министерства народного просвещения» за 1841 год. У тым жа годзе з'явілася асобная кніжачка пра крыж, таксама з малюнкам у канцы, але, як дадае аўтар, «з некаторымі дадаткамі па сапраўднаму прадмету». Гэта вельмі важна! Значыць, нехта недзе бачыў крыж і выпраўляў яго малюнак.

Спяшаюся ў бібліятэку. Аўтар кніжачкі, выходзіць, той жа, што і артыкула ў часопісе. Яму ўдалося ўба-



Адчыніце дзверы Спаса-Ефрасінеўскай царквы, і вы апынецеся ў XII стагоддзі. Змрок, цішыня, веліч... Са сцен і калон пазіраюць фрэскі і абразы. Ім па васемсот гадоў.

Фота В. Ждановіча.

чыць крыж у Пецярбургу ў 1841 годзе: яго прывёз архіепіскап Васіль Лужынскі—вядомы дзеяч «уз'яднання» ўніятаў з праваслаўнымі. Заадно здагадваюся, хто аўтар абедзвюх публікацый — гэта, відаць, П. І. Кепен, які рэвізаваў паштовыя станцыі ў Беларусі. Яго памочнік збіраў матэрыялы для гісторыі Полацкай зямлі і разам з Кепенам змалёўваў надпісы са старажытных каменняў.

Праглядваючы літаратуру пра Васіля Лужынскага, высвятляю, што яго нататкі былі апублікаваны ў казанскім рэлігійным часопісе «Православный Собеседник». У тых сваіх нататках, ці мемуарах, сварлівы стары даволі шмат увагі аддае паездцы ў Пецярбург у 1841 годзе. Ездзіў ён у абедзве сталіцы, каб сабраць грошы на рамонт цэркваў адноўленай епархіі. Калі садзіўся ў Полацку ў экіпаж, да яго падышоў паштальён і ўручыў пісьмо з Пецярбурга. У тым пісьме Васіля Лужынскага прасілі зверыць прыкладзены малюнак крыжа Ефрасінні Полацкай і назначыць яго памеры. Аўтар пісьма, як відаць, зацікавіўся крыжам, убачыўшы яго першы, зусім недасканалы малюнак у «Журнале Министерства народного просвещения».

Нягледзячы на забарону вывозіць рэліквію з Полацка (такая была воля княгіні, і гэта было напісана на крыжы), Васіль Лужынскі загадаў прынесці крыж. У Маскве ён паказаў яго мітрапаліту Філарэту. Крыж быў устаноўлены ва Успенскім саборы Крамля, дзе з пяці раніцы да дзесяці вечара ішлі малебны, а па начах крыж вазілі па дамах «чынаначальнікаў, вяльможаў, князёў, графаў і багатых купцоў» для водасвячэння.

Васіль Лужынскі з засмучэннем апісвае, якія вялізныя грошы пацяклі да служак Успенскага і Архангельскага сабораў ад таго крыжа, а яму ўдалося сабраць толькі чатыры тысячы.

З Масквы рэліквія пеавандравала ў Пецярбург, там, відавочна, з яе і знялі копію. Сапраўды, другі малюнак — ужо больш дакладны.

Усё ж малюнка гэтага мала. Трэба шукаць яшчэ. Заадно праглядваю летапіс. Нечаканасць! Крыж, выходзіць, у Полацку праляжаў зусім не восемсот гадоў, як думалі раней вучоныя. Праз восемдзесят гадоў рэліквія была перавезена смаленскімі князямі ў Смаленск пасля чарговага захопу імі Полацка ў адной з міжусобных бітваў. Са Смаленска яна трапіла ў Маскву, куды яе прывёз Васіль Трэці пасля захопу горада (1514). «Калі ж богапачцівы цар і вялікі князь (Іван Грозны — **Л. А.**), задумваючы ісці на адступнікаў хрысціянскай веры на бязбожную Літву, бе ж тады ў яго царскай казне крыж полацкі, упрыгожан золатам і каменнем дарагім, напісана ж на крыжы: «зделанъ сий крестъ в Полоцку повелением княжны Евфросинии и поставленъ во церкви всемилостного Спаса, да не изнесеть ис тое церквиниктоже». Такім чынам, дарагі крыж і яго надпісы цікавілі людзей ужо ў XVI стагоддзі. Гэта было яшчэ першае, вельмі наіўнае апісанне старажытнай рэліквіі.

Крыж лічыўся цудадзейным, і Іван Грозны, як паведамляе летапісец, даў клятву, што, калі ён адваюе ў Рэчы Паспалітай старарускі Полацк, крыж будзе ўстаноўлен на сваё першапачатковае месца. Полацк быў узяты штурмам у 1563 годзе, і крыж быў вернуты ў Царкву Ефрасінні. У 1579 годзе Полацк быў заваяваны польскім каралём Стэфанам Быторыем, у манастыры Ефрасінні па-

**сур'ёзнае і кур'ёзнае**




**планету. У прыватнасці, з дапамогай спадарожніка ўдалося ўдакладніць даўжыню экватарыяльнага радыуса Зямлі: ён, аказваецца, роўны 6 378 169 метрам. Такім чынам адлегласць ад экватара да цэнтра Зямлі на 76 метраў меншая, чым лічылася раней. Вынікі атрыманы як сярэдняе з 46 500 вымярэнняў, зробленых пры дапамозе трынаццаці розных спадарожнікаў Зямлі. Паводле падлікаў вучоных, сярэдняя памылка гэтых вымярэнняў складае не больш 8 метраў.**

## ЭКРАНЫ-ГІГАНТЫ



**Усе зацікаўлены ў тым, каб павялічыць тэлевізійныя экраны, але зрабіць гэта не ўдавалася. Справа ў тым, што карысны памер экрана залежыць ад памеру шкляной колбы (кінескопа), з якой выпампавана паветра. Калі павялічваць колбу, будзе расці плошча яе сценак, павялічыцца ціск на іх, і колба не вытрымае, лопне. Каб павялічыць трываласць колбы, унутры спрабавалі ставіць апоры, але яны заміналі праходжанню электроннага промня.**

**Нядаўна амерыканскі інжынер Айкен знайшоў выхад з такога становішча. Кінескоп Айкена мае форму плоскай шкляной скрынкі. Апоры ў ёй не перашкаджаюць праходжанню электроннага промня. Памер скрынкі залежыць ад велічыні адлюстроўка, які мы жадаем атрымаць, але яна параўнальна малая. Так, для стварэння адлюстроўка вышынёю тры метры і шырынёю пяць метраў (прыкладна ўсю сцяну пакоя) вышыня скрынкі складае ўсяго 50 сантыметраў.**

**Вынаходца стварае пакуль што тэлевізар з памерам адлюстроўка два метры. Але, як сцвярджаюць амерыканскія спецыялісты, новая сістэма дазволіць ствараць тэлевізійныя экраны на ўсю сцяну шматпавярховага дома.**

**Калі вынаходніцтва інжынера Айкена не перабольшанне, то ў недалёкім будучым тэлевізары-волаты выйдуць на вуліцы і плошчы, увойдуць у залы. Мы будзем глядзець па такім тэлевізары кінафільмы і канцэрты, нібы ў сапраўдным кінатэатры. Павялічацца адпаведна экраны і хатніх тэлевізараў.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ, ШТО...

● **У французскіх Альпах апошні мядзведзь быў забіты ў Савойі ў 1921 годзе.**

● **Апошні вандруючы голуб (горлінка) загінуў у няволі ў заалагічным садзе Цынцінаці (Агайо, ЗША) 1 верасня 1914 года.**

● **Індыйскія насарогі, якія некалі вадзіліся ў Індакітаі, зніклі з гэтай**

сяліліся езуіты, і крыж перавандраваў у Сафійскі сабор, які стаў уніяцкім. Веруючыя берaглі крыж у гэтым храме ў спецыяльнай нішы, наглуха замураванай пры нашэсці французаў у 1812 годзе. Толькі ў саракавых гадах XIX стагоддзя яго зноў вярнулі ў Ефрасіннеўскі манастыр.

Прайшло сто гадоў. І зноў вайна. На нашу краіну напалі фашысты.

Не, патрэбны не малюнкі, а дакладныя фатаграфіі. Чарговая камандзіроўка ў Ленінград.

Дварцовая ўзбярэжная, 18, Інстытут археалогіі Акадэміі навук СССР. Вялізныя італьянскія вокны былога палаца вялікага князя. З акна відаць, як хвалюецца свінцовая Нява. З мора свішча вецер, на тым беразе паблісквае шпіль Петрапаўлаўкі. А 12 гадзіне дня адтуль даносяцца выбухі гарматы.

Перада мной на сталах цёмна-сінія папкі з надпісам: «Дѣло... год, №...». Пераглядаю архівы розных асоб — лісты, дзелавыя паперы, дазвол на раскопкі... Асабліва ўважліва гартаю архіў вядомага пецярбургскага прафесара І. А. Шляпкіна, які займаўся рускімі крыжамі. Ад незлічоных яго малюнкаў і фатаграфій крыжоў, старажытных надпісаў і г. д. пераходжу да злепкаў з натуры...— Нічога не знаходжу.

Спускаюся на паверх ніжэй. На маё шчасце, карткі тут стаяць па геаграфічным прынцыпе. Вось: «Араніенбаум» (якое мноства картак!), «Арол», зусім мне не патрэбны «Орек»... А вось: «Полацк»! Перабіраю карткі павольна, баюся прапусціць што-небудзь. «Клад 1910 г. в Полоцке. Серебряные гривны». Ну іх!.. Перакладаю карткі. Адна з іх старая, складзеная абы-як: «Негатив крестов». Можа гэта тое, што мне патрэбна? І вось дзяўчына кладзе на мой стол адзін за адным 8 вялікіх старых шкляных негатываў у празрыстых канвертах. Неверагодна! На сямі з іх — крыж Ефрасінні Полацкай, зняты ў Полацку з розных бакоў для І. А. Шляпкіна ў 1896 годзе.

Рукі фатографа, побач з якім я стаю, мерна пагойдваюць ванначку. Паволі праступаюць дэталі, якіх я ніколі не бачыў на малюнку. «Агиос Ефросн(ия)»—(святая Ефрасіння—**Л. А.**), «агиос Георги» (святы Георг—бацьку асветніцы звалі, сапраўды, Георгі), а ніжэй — «агиос София» (так, відавочна, звалі яе маці?)... На другіх фотакартках праяўляюцца другія надпісы, акуратна выбітыя нейкім спецыяльным зубілкам, праступаюць дарагія камяні, жэмчуг...

Цяпер крыж можна падрабязна вывучыць і апісаць, прымусіць, каб унікальны выраб, зроблены восем стагоддзяў назад, загаварыў.

Пакідаю Ленінград. У маім партфелі дарагія здымкі.

З апісанняў ведаю, што крыж быў зроблены з нейкага трывалага дрэва — кіпарыса, як думалі ў XIX стагоддзі, або, больш дакладна, з самшыту (з якога звычайна выраблялі крыжыкі на Русі). Пярэдняя і тыльная плоскасці абабіты залатымі пласцінкамі са шматлікімі эмалямі, дарагімі каменнямі і жэмчугам, адлюстроўкамі святых. Вакол усяго крыжа — цудоўная жамчужная абнізь. Аднак самае важнае — надпісы. Перш за ўсё, на заднім баку ёсць зусім сціплы надпіс: ««Г (спод) и помози рабу своему Лазорю, нареченному Богши, соделавшему крест сий...» Гэта вельмі рэдкі выпадак у старой Русі — май-



**А гэта — Ефрасіння Полацкая. Небывалая з'ява ў мастацтве таго часу — мастак намаляваў жывога чалавека...**

стар. «распісаўся»! Выходзіць, яго звалі Богша, г. зн.— Багуслаў (звычайнае славянскае імя!), а хрысціянскае імя — Лазар!.

У старажытнай Русі дамангольскага часу, калі яшчэ жылі язычаскія традыцыі, усе людзі насілі два імені — адно хрысціянскае, афіцыйнае, другое язычаскае, «хатняе». Мы амаль не ведаем імён рамеснікаў дамангольскай Русі — распісвацца не было завядзёнкі, аднак Богша быў такім выдатным ювелірам, што заказчыца дазволіла яму напісаць на крыжы невялікі тэкст ад сябе. Але былі на ім і іншыя надпісы, таксама вельмі цікавыя.

Апрача шматлікіх імён святых, якія знаходзіліся ля кожнага малюнка, на яго баках быў вялізны надпіс — своеасаблівая грамата, якая дае адказ на ўсе асноўныя нашы пытанні: калі зроблен крыж, навошта і нават колькі ён каштаваў! Тэкст надпісу складаўся, мусіць, не Богшам — занадта ж ён добра быў складзены, а нейкім кніжнікам, які ведаў пра многія тонкасці праваслаўя (пра сем сусветных сабораў, якія прызнавала царква, і г. д.) Такой кніжніцай была сама Ефрасіння, і, трэба думаць, што гэты тэкст быў складзены ёю самой.

Што ж там напісана? Прывядзём асноўнае: «Въ лѣто 1161, покладаеть Офросинья Чесьтный крестъ въ манастыри своёмь въ церкви Святого спаса. Чесьтное древо (з якога зроблены крыж.—**Л. А.**) бесцѣньно есть, а кованье его, злото, и серебро, и кмѣнье, и жемчугъ въ 100 гривнъ...»

Я знарок прыводжу гэтыя надпісы, каб даць адчуць гучанне старажытнарускай мовы, з усімі яе, на наш погляд, няправільнасцямі. Дык вось яна, дата! Крыж зроблены ў 1161 годзе. Заказала яго Ефрасіння для свайго

**сур'ёзнае і кур'ёзнае**

**тэрыторыі; захаваліся яны цяпер толькі ў Асаме і Непале. Там іх засталося, прыкладна, 625.**

**● Суматранскі двухрогі насарог адзіны з усіх азіяцкіх насарогаў, якія раней сустракаліся на ўсім працягу ад Асама да Суматры і Калімантана. Цяпер ён захаваўся толькі ў асобных мясцінах свайго арэала. Ва ўсім свеце іх не больш 200.**

**● Індыйскія львы захаваліся толькі на паўвостраве Катхіявар у Індыі. Іх засталося, па розных звестках, 150—250.**

**● Белая антылопа, якая некалі была распаўсюджана на значнай частцы Сярэдняга Усходу, у нашы дні засталася толькі ў Аравійскай пустыні.**

**● Гавайскія казаркі, якія даўней гнездаваліся на ўсіх адкрытых прасторах астравоў, цяпер захаваліся толькі на асобных вадаёмах. Іх у 1951 годзе налічвалася, прыкладна, 30.**

**● Беласпінны альбатрос — птушка, якая гнездавалася на астравах архіпелага Сямі астравоў (Торысіма) і на Боніне. Яго пёры некалі вельмі цаніліся — імі ўпрыгожвалі жаночыя капелюшы. Па перапісу 1962 года на Торысіме заставалася ўсяго 65 альбатросаў.**

**● Сярод паркаў свету найбольш вядомы Йелоўстанскі нацыянальны парк у Паўночнай Амерыцы, заснаваны ў 1872 годзе. На яго плошчы тры тысячы гейзераў. З жывёл ёсць шмат грызляў, амерыканскіх ласёў, канадскіх снежных бараноў і г. д.**

**● Першае месца ў спісе выміраючых жывёл належыць яванскім насарогам. Іх засталося ўсяго 24.**

## З ЖЫЦЦЯ МУРАШАК

**● У мурашак ёсць свае «жывёлаводы». Яны пасуць тлей. На маладых парастках ці на травінках яны ствараюць «стойлы» для тлёў, якія высмоктваюць сокі раслін. Кроплі неператаранай стравы выпіваюць мурашкі. Яны ж самі ахоўваюць тлёў ад шкоднікаў і беражліва заносяць іх у свае гнёзды на зімоўку.**

**● Ёсць мурашкі-лістарэзы — чырванаватыя сярэдняй велічыні насякомыя. Іх яшчэ называюць «грыбаводамі». Яны перажоўваюць лісце і з яго масы вырошчваюць грыбы, харчуючыся імі.**

манастыра і заплаціла за яго 140 грыўняў срэбра, з якога Богша атрымаў амаль трэцюю частку — 40 грыўняў. Ці высока ацэньвалася гэтая работа? Выходзіць — вельмі. Вось смаленскі князь, напрыклад, мяркуючы па адным захаваным дакуменце 1150 года, атрымліваў штогадовы даход з усёй смаленскай зямлі — чатыры тысячы грыўняў. Лазар Богша за тое, што зрабіў толькі адзін крыж, атрымаў адну сотую гадавога прыбытку смаленскага князя. Значыць, Богша быў вельмі заможным рамеснікам, яго праца вельмі высока аплачвалася, а сам майстар, як мы бачым, быў вельмі паважаны.

Што ж, уласна, цанілася так дорага? Вядома, перш за ўсё, эмалі. Каб выканаць іх, Лазар павінен быў спачатку нанесці на пласціны вельмі тонкай іголкай увесь малюнак, потым па яго контурах напаяць дзесяткі перагародачак малюсенькіх залатых палосачак-латкоў (таўшчынёю ў дзесятыя і сотыя долі міліметраў), і ў тыя латочкі пакласці патоўчаную ў парашок эмалевую масу патрэбнага колеру, улічваючы каэфіцыент яе расшырэння пры нагрэве. Для такой работы старажытнарускі ювелір павінен быў мець «напрактыкаваны» на дробныя работы зрок і, вядома, спецыяльныя прылады. Такая, сапраўды ювелірная, работа, звязаная, да таго ж, з паступовай стратай зроку (не трэба забываць, што ніякіх луп тады не існавала!), ацэньвалася па заслугах. Шкада, што мы не ведаем іншых рэчаў, зробленых Богшам!

**Леанід АЛЯКСЕЕЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Заслужаны артыст рэспублікі
Аркадзь АСТРАМЕЦКІ
неўзабаве раскажа
аб падарожжы цымбал па свеце.

● Віктар МАРТЫНАЎ
● Арнольд МІХНЕВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ
## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

### ПРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА

Перад узнікненнем славянскай пісьменнасці (каля дзевятага стагоддзя нашай эры) славяне карысталіся адной, так званай праславянскай, мовай. Яшчэ і цяпер паміж славянскімі мовамі больш агульнага, чым паміж мовамі іншых груп індаеўрапейскай моўнай сям'і (напрыклад, паміж англійскай, нямецкай і шведскай у межах германскай групы), а да дзевятага стагоддзя дыялекты, на якіх гаварылі славяне, амаль што не адрозніваліся адзін ад другога.

Калі дзевятае стагоддзе нашай эры лічаць эпохай распаду праславянскай мовы на шэраг лакальных (мясцовых) моў, то часам утварэння праславянскай мовы трэба лічыць дзевятае стагоддзе да нашай эры. Пасля распаду балта-славянскага моўнага адзінства продкі літоўцаў і латышоў накіраваліся на ўсход і паўночны ўсход і паступова засялілі землі за Нёманам і сярэдняе Падняпроўе. На захадзе балты (продкі старажытных прусаў) захавалі кантакты са сваімі непасрэднымі суседзямі — продкамі славян.

У сёмым стагоддзі да нашай эры праславянская мова ўжо існавала як самастойная. Аб гэтым сведчыць тое, што ў сёмым стагоддзі славяне і балты, як ужо гаварылася раней, мелі розныя словы для назвы медзі: славяне запазычылі назву медзі ў Закаўказзі, а балты — з Волгі. Носьбіты праславянскай мовы з дзевятага стагоддзя да нашай эры і аж да пачатку нашай эры жылі ў непасрэдным суседстве з прусамі ў басейне Одры і Віслы. Тое, што славяне «нарадзіліся» і доўгі час жылі тут, пацвярджаецца яшчэ і тым, што ў першым тысячагоддзі да нашай эры адбываліся славяна-германскія і славяна-італійскія моўныя кантакты. Гэтыя кантакты былі б немагчымы пры ўмове іншай лакалізацыі праславян. З другога боку, мы не ведаем надзейных прыкладаў пранікнення іранскай лексікі ў праславянскую мову. Іранцы, як вядома, жылі на вялікай прасторы — тэрыторыі сучаснай Украіны. Калі б праславяне былі іх суседзямі, пранікненне іранскай лексікі ў праславянскую мову было б зусім заканамерным.

Няма таксама праславянскіх цюркізмаў (слоў цюркскага паходжання). Усё гэта сведчыць на карысць думкі аб заходняй лакалізацыі праславян.

Праславянскай мове ў галіне фанетыкі былі ўласцівы адкрытыя склады і так званы складовы сінгарманізм, г. зн. максімальнае ўзаемапрыпадабненне зычных і галосных гукаў: пасля мяккіх зычных сустракаліся галосныя толькі пярэдняга раду («мяккія» *і*, *е*), пасля цвёрдых зычных — галосныя толькі задняга раду («цвёрдыя» *у*, *о*, *а*). У праславянскай мове шырока ўжываліся суфіксы для ўтварэння назоўнікаў і прыметнікаў і амаль што поўнасцю адсутнічала словаскладанне. Найбольш ужывальныя і пашыраныя суфіксы праславянскай мовы былі ў значнай ступені блізкімі да адпаведных балтыйскіх. Блізкай да балтыйскай была і лексіка праславянскай мовы. Паступова ў выніку другасных кантактаў праславянскай мовы з германскай і італійскай яна наблізілася да апошніх.

На пачатак нашай эры прыпадае першая міграцыя славян на ўсход. Магчыма, гэтая міграцыя была вынікам ціску з боку германскага племені готаў, якія ў гэты час паявіліся ў вусці Віслы. Славяне пайшлі ўздоўж Віслы і Прыпяці на Дняпро. Прыпяцкае Палессе стала для іх своеасаблівым мастом, праз які яны пачалі сваё перасяленне на ўсход, паступова займаючы землі, дзе да гэтага жылі балты, іранцы, фіны. На гэтай тэрыторыі пазней скលаліся ўсходнеславянскія народы і мовы. Так у першых стагоддзях нашай эры ўзнікла паўночнаславянская моўна-этнічная еднасць.

У шостым стагоддзі нашай эры пачалася другая міграцыя славян — на поўдзень, на Балканы. Яны дасягнулі Пелапанеса на самым поўдні Грэцыі. У гэты ж час частка славян пераходзіць Одру і прасоўваецца на захад да Эльбы і да Ютландыі. На Балка-

---

Працяг. Гл. часопіс «Маладосць» № 5.

нах пазней узніклі мовы паўднёвых славян (славенская, сербска-харвацкая, македонская і балгарская). На Эльбе склалася палабская мова (ад назвы Эльбы — Лаба — славяне, якія жылі ў басейне гэтай ракі, і іх мова атрымалі назву палабскіх). У дзевятым стагоддзі нашай эры мадзьяры (венгры) адрэзалі славян на поўдні ад паўночна-заходніх. Але некаторыя моўныя сувязі паміж чэхамі і славакамі, з аднаго боку, і славенцамі, з другога, нягледзячы на тое, што першыя адносяцца да заходняй групы славян, а другія — да паўднёвай, захаваліся. Сама ж венгерская мова мае шмат запазычанняў з мовы праславянскай.

З дзевятага стагоддзя нашай эры пачынаецца гісторыя паасобных славянскіх моў і моўных груп. Чым далей ад гэтага часу і бліжэй да нашых дзён, тым больш павялічваецца моўная адметнасць славянскіх народаў.

●

АБЯЦАЦЬ. Корань слова **vět-* — гаварыць (параўнайце рускае *ответ, привет, завет, навет*). Праславянскае **obětjati*<*ob- větjati*. Ва ўсходнеславянскіх мовах павінна было б быць **обѣчати* (як рускае *отвечать*). Наяўнасць *ц* (замест *ч*<*tj*) у беларускім *абяцаць* і ўкраінскім *абіцяти* — сведчанне запазычання з польскай мовы, дзе *tj*>*ц*. Рускае *обещать*, дарэчы, таксама запазычана са стараславянскай мовы, пра што сведчыць гук *щ*.

АЙЦЕЦ. Фанетычнае аблічча гэтага назоўніка можна вытлумачыць, калі прыгадаць, як скланялася старажытнарускае слова *отьць:* назоўны склон — *оть'ць*, родны — *отьцá*, давальны — *отьцý* і г. д. Ва ўскосных склонах гук *ь* (ер) не пад націскам выпадаў (параўнайце сучаснае рускае *отéц, отцá, отцý, отцóм*). Адбывалася дысіміляцыя *тц*>*йц: айца, айцу*. Урэшце і назоўны склон «падпарадкаваўся» ўсім астатнім і набыў яшчэ гук *й* у сярэдзіне слова: *айцец*. З семантычнага боку адбылося наступнае: пры сутыкненні двух сінонімаў — *бацька* і *айцец* — адзін захаваў агульнае значэнне, а другі, як гэта заканамерна і бывае, спецыялізаваўся ў значэнні «свяшчэннік». Корань слова *айцец* — *от-* (*-ец* — суфікс) — індаеўрапейскага паходжання, параўнайце лацінскае *атта*, албанскае *ат* — бацька. Цікава, што імя вядомага правадыра гунаў *Аціла* ў перакладзе з гоцкай мовы значыць «татачка» (*атта*+памяншальны суфікс *-іла*).

БІБІКІ. Толькі ў выразе *біць бібікі*. У некаторых беларускіх гаворках знаходзім слова *бібікі* ў значэнні «гузікі». Гэта дае падставу меркаваць, што першапачаткова *біць бібікі* значыла гуляць у якуюсьці гульню з гузікамі, а пазней — рабіць штосьці бескарыснае.

ВЯСЁЛКА. Назоўнік, утвораны ад прыметніка *вясёлы*<праславянскага **veselъ*, якое надзейнай этымалогіі не мае, хоць і можна прасачыць некаторыя індаеўрапейскія паралелі для гэтага кораня: латышскае *вэсэлс* — здаровы, цэлы, старажытнаіндыйскае *васу* — добра.

ГУТАРЫЦЬ. Старое складанае слова, якое ўзнікла, на думку некаторых даследчыкаў, з **gu-* (параўнайце *гаворка*, рускае *говор*) і **tor-* (параўнайце рускае *тараторить* і *тороторить* — сакатаць, лапатаць, дзе адбылося падваенне кораня **tor*, літоўскае *тарті* — гаварыць. Усе гэтыя словы маюць гукапераймальны характар).

ДЗЯБЁЛЫ. Агульнаславянскае слова, якое мае балтыйскія і германскія паралелі: старажытнапрускае *дебікан* — вялікі, буйны, латышскае *даблыш* — буйны, старажытнаісландскае *дабр* — цяжкі. Генетычна *дзябёлы* суадносіцца з агульнаславянскім *добры*.

ЁЎНЯ. Беларускае і ўкраінскае слова. Геаграфія (тэрыторыя распаўсюджання) наводзіць на думку пра яго балтыйскае паходжанне. У літоўскай мове існуе шэраг вытворных слоў ад слова *явай* — збожжа. Бліжэй за ўсіх да беларускага літоўскае слова *яўя*, якое мае тое ж значэнне.

ЖЭРЦІ. Слова з індаеўрапейскім коранем: літоўскае *гярті* — піць, старажытнаіндыйскае *гіраті* — (ён) глытае, армянскае *кэрі* — (я) ем, старажытнагрэчаскае *борос* — пражэрлівы, ненаедны, лацінскае *воро* — (я) глытаю.

ЗРУЧНЫ. Прыметнік, утвораны ад азначальна-акалічнаснага звароту *з рукі* параўнайце рускае: *не с руки* — няёмка). Аналагічныя ўтварэнні можна бачыць у словах: *дарэчы, недарэчны* (<*да рэчы*), польскім *гжэчны* — мілы, прыемны (<*к рэчы*), нямецкім *форфрістіх* — датэрміновы (<*фор фріст* — да тэрміну), рускім *загородный* (<за городом).

КАДУК. Сустракаецца ў выразах *кадук яго ведае, кадук яго вазьмі.* З лацінскага *кадукус,* якое, апрача іншых значэнняў, мела і значэнне — той, што падае, хісткі. Праз польскае *кадук* — падучая хвароба — слова распаўсюдзілася па Беларусі і Украіне, атрымаўшы другаснае значэнне — чорт, нячысцік.

КАРОВА. Агульнаславянскае слова, якое большасць даследчыкаў узводзіць да індаеўрапейскага кораня **k'or-w/k'or-ń* — назвы рога. Параўнайце лацінскае *корну* — рог, старажытнагрэчаскае *керас* (<**кервас*) — рог, старажытнаіранскае *срва* — рог. Такім чынам лічыцца, што праславянскае **korva* — карова <**korva* — рагатая. Але супраць гэтай этымалогіі гаворыць тое, што для назвы *каровы* няма ніводнага індаеўрапейскага слова з пачатковым *с* у сатэмных мовах. Славянскія і балтыйскія назвы *серны,* якія прыводзяць часам як быццам сатэмны варыянт да назвы *каровы,* маюць зусім іншую этымалогію — ад назвы шэрага колеру. Таму мэтазгодна прыняць іншую этымалогію: славянская назва *каровы* ставіцца ў сувязь з старажытнаіндыйскім дзеясловам *чарвате* — (ён) жуе. Параўнайце беларускае (і іншаславянскае) *чэрава* ў значэнні «страўнік».

НЯЎКЛЮДНЫ. Прыметнік ад назоўніка *няўклюда,* які паходзіць ад праславянскага **kludь* — парадак, прыгажосць, аб чым сведчаць славянскія словы: чэшскае *клід* (<*клюд*) — парадак, мір, верхнелужыцкі дзеяслоў *клюдзічь* — прыбіраць, прыводзіць у парадак, рускае дыялектнае *клюжий* — прыгожы.

РУХ. Агульнаславянскае слова з праславянскага **ruхъ.* Параўнай рускае *рухлядь* — рухомая маёмасць (першаснае значэнне), польскае *розрухы* — хваляванні, беспарадкі, чэшскае *рішны* — ажыўлены.

СКАРОДЗІЦЬ. Слова ёсць у беларускай і ўкраінскай мовах, а таксама ў некаторых сумежных з імі польскіх і рускіх гаворках. Яно мае дакладны літоўскі адпаведнік *скардіті*<*скярсті* — рэзаць, калоць. На балтыйскай глебе з гэтым коранем ёсць вялікае гняздо вытворных слоў. Усё гэта дае падставу лічыць слова *скародзіць* балтызмам. Запазычванне адбылося вельмі даўно, яшчэ перад тым, як праславянскае гукаспалучэнне **or* перайшло ва ўсходнеславянскае поўнагалоссе *-оро-*. У іншым выпадку ў беларускай мове было б *скардзіць* або *скордзіць.*

УРАД. У старажытнарускай мове слова *уряд* мела значэнне — парадак. Параўнайце рускае ўстарэлае *уряднік* — той, хто сочыць за парадкам. Корань у словах *урад, парадак* — *рад-* (<*ряд-*).

ФАНАБЭРЫЯ. Слова гэта ёсць таксама і ў польскай мове. Яно запазычана з яўрэйскай мовы, дзе *файн-* значыць пышчотны, а *берйе* — чалавек.

ХВАЛЯ. Запазычанне праз польскае пасрэдніцтва з нямецкага *вэлле* — хваля (са звычайнай заменай у беларускіх гаворках *ф*>*хв*). Для абазначэння хвалі ў праславянскай мове было слова **vъlna,* якое, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, было выцеснена германскім словам, калі ўзнікла непажаданая аманімія слова **vъlna* са словам *вoйна.* Абстрактны дзеяслоў *хваляваць* у беларускай мове паявіўся нядаўна, як калька з рускага *волновать.*

ЦВІК. Запазычанне (у шэрагу славянскіх моў) з сярэдневерхненямецкага *цвэк.*

ЧАКАЦЬ. Дзеяслоў, утвораны ад старажытнага назоўніка *чака* (у сучаснай чэшскай мове *чака* — надзея). Назоўнік *чака* ў сваю чаргу разглядаецца як суфіксальнае ўтварэнне ад дзеяслова *чаяті: ча-к-а*<*ча-яті,* як *зна-к*<*зна-ті.*

ШАНАВАЦЬ. Слова прыйшло да нас з польскай мовы, а польскае *шановаць* — з нямецкай мовы, дзе *шонэн* — берагчы, мець літасць, беражліва захоўваць.

ЮРАЧКА. Беларускі народны танец, які атрымаў сваю назву ад імя героя песні. *Юрачка* — памяншальная форма ад *Юрый,* якое з'яўляецца адным з варыянтаў запазычанага ў розныя мовы старажытнагрэчаскага імя *Георгій,*— земляроб (<*ге* — зямля, *эргон* — работа).

ЮРЛІВЫ. Прыметнік, утвораны ад дзеяслоўнага кораня *юр-,* першасным значэннем якога ў славянскіх мовах было «імклівы рух»; параўнайце балгарскае *юрвам* — імкнуцца, кідацца, сербскае *юрити* — імчацца, гнаць, рускае *юркий.* На падставе першаснага значэння развіліся іншыя, пераносныя. Адсутнасць слоў з гэтым коранем у некаторых славянскіх мовах (чэшскай, лужыцкіх, славенскай) паслужыла падставай шукаць вытокі гэтага кораня ў цюркскіх мовах (параўнайце джагатайскае *юрюк* — хутка).



# *Усе сцягі «Дынама»*

Машыны, машыны, машыны... Ці ведаеце вы, з якой пяшчотай вымаўляліся ў пачатку дваццатых гадоў незнаёмыя тэхнічныя словы? Гучныя назвы даваліся заводам і фабрыкам, рабочым клубам. Нават дзецям бацькі падбіралі незвычайныя імёны. Памятаю, як у адной сям'і сына-першынца ледзь не назвалі... Трактарам.

Зусім сціплая цяпер дынамамашына была тады абкружана арэолам таямнічасці. Яе ласкава сталі называць — «дынама». Ёсць у Маскве завод «Дынама», ёсць спартыўнае таварыства «Дынама», не здзіўлюся, калі чыя-небудзь бабуля Дзіна ў пашпарце запісана як Дынама Іванаўна.

Першае спартыўнае таварыства нашай краіны было названа «Дынама». Яно арганізавана ў 1923 годзе па ініцыятыве Феліксa Эдмундавіча Дзяржынскага. Чаму «хросны бацька» даў такую назву таварыству? Мусіць таму, што на грэчаскай мове слова гэтае азначае сілу. А дэвіз спорту і ёсць сіла.

Першынец савецкага спорту аб'яднаў чэкістаў і работнікаў міліцыі. Сорак шэсць гадоў існавання добраахвотнага спартыўнага таварыства «Дынама» паказалі вялікую сілу гэтай самай старой у краіне спартыўнай арганізацыі: «Дынама» ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Дынамаўцы Беларусі ўнеслі свой значны ўклад у скарбонку спартыўнай славы.

●

У спорце ёсць імёны звонкія, імёны — легенды. А з дынамаўцаў хочацца першым назваць імя **Барыса Бальшакова.**

Чалавек зусім сціплай прафесіі — шафёр, ён і спартсменам заставаўся вельмі сціплым, хоць шмат гадоў быў лідэрам беларускага спорту. Барыс Бальшакоў цалкам аддаўся спорту і служыў яму самаадданa. Цяжка было знайсці другога такога «рэжымшчыка». А захаваць спартыўны рэжым вельмі цяжка. Па-першае, гэта — рэжым работы, трэніровак і адпачынку, па-другое, рэжым харчавання. Гоншчык, ды яшчэ спрынтэр, якім быў Бальшакоў, павінен захоўваць рухомасць, баявую вагу — якасці, што дазваляюць развіваць самую імклівую хуткасць. Для гэтага трэба есці «з розумам», каб сіла расла, а вага не павышалася. Па-трэцяе, рэжым піцця. Крый



**Заслужаны майстар спорту Барыс Бальшакоў. 1938 год.**



Заслужаны майстар спорту Зоя Бальшакова.

божа, выпіць хаця б адну чарку нават у трэніровачны перыяд! Поспеху тады не чакай. А трэніроўкі ў класных спартсменаў займаюць без малога ўвесь год...

Не падумайце, што Барыс Бальшакоў быў аскетам. Жывы, вясёлы, ён быў гатовы падтрымаць кампанію, але мала святаў выпадала на яго долю. Узімку — на каньках, улетку — на веласіпедзе. А вясна і восень — на трэніроўках. Затое які быў спартсмен!

Барыс Бальшакоў двойчы быў чэмпіёнам СССР у скарасным бегу на каньках на дыстанцыі 500 метраў, чэмпіёнам краіны ў кальцавой шасейнай велагонцы на 200 кіламетраў. Заваёўваў прызавыя месцы ў спрынтэрскіх гонках на трэку. Быў сярод мацнейшых у першых савецкіх велатурах — мнагадзённых шасейных гонках. І загінуў на трэку ў часе гонкі. У гонар заслужанага майстра спорту СССР Б. Бальшакова штогод на пачатку мая разыгрываецца прыз яго памяці ў рэспубліканскай аднадзённай велагонцы па маршруце Мінск — Барысаў — Мінск. Па тым трэніровачным маршруце, які ён так любіў.

...**Зоя Бальшакова** была для Барыса не толькі вернай жонкай, але і неразлучным таварышам у спорце. Зоя Арлоўская і Барыс Бальшакоў пазнаёміліся на лядовай дарожцы. Стаў чэмпіёнам рэспублікі ён, стала чэмпіёнкай і яна. Калі Барыс сеў на веласіпед, Зоя таксама села за руль веламашыны. Так яны разам трэніраваліся: узімку — на катку, улетку — на шашы. Разам вясной пачыналі трэніроўкі, робячы «прагулкі» да Барысава і назад. І ў шасейных гонках Зоя Бальшакова не раз дамагалася першынства на чэмпіянатах рэспублікі. Потым Барыс захапіўся трэкавымі гонкамі. Зоя таксама паспрабавала займацца на трэку. І стала чэмпіёнкай СССР у камандных гонках.

Смерць мужа Зоя перанесла стаічна. Яна ўзяла апеку над усімі яго вучнямі. Самай значнай яе трэнерскай удачай з'яўляецца Эдуард Матусевіч, неаднаразовы абсалютны чэмпіён СССР у бегу на каньках. Веласіпедысты выбралі Зою Бальшакову старшынёй рэспубліканскай федэрацыі веласпорту. Яна — заслужаны майстар спорту СССР і заслужаны трэнер БССР.

●

Ён важыў усяго 56 кілаграмаў. І больш не трэба было маленькаму асілку **Навуму Лапідусу.** Часамі даводзілася штучна зганяць лішнюю вагу, каб быць у норме. Для яго рэжым харчавання адыгрываў першаступенную ролю. І рэжым піцця. Не, не пра моцныя напіткі тут гаворка. Самае простае—вада, малако — павялічваюць вагу атлета. Гэта азначае — не пі, цярпі! У Навума, калі трэба, была жалезная вытрымка. Вось чаму ён чвэрць веку панаваў на цяжкаатлетычным памосце, нязменна заваёўваў першынство рэспублікі ў лягчэйшай вазе, устанаўліваў усё новыя і новыя рэкорды.

Навум Лапідус чатыры разы запар (1932—1935 гг.) заваёўваў званне чэмпіёна СССР. Ён валодаў надзвычай прыгожай, класічнай тэхнікай падымання штан-



Заслужаныя майстры спорту СССР Ізраіль Механік і Навум Лапідус.



**Заслужаны трэнер СССР Герман Бокун і заслужаны майстар спорту Тацяна Самусенка.**

гі. У яго вучыліся пакаленні беларускіх цяжкаатлетаў. Сталі вядомымі трэнерамі ўжо і яго вучні, а ён усё працягвае рыхтаваць новых майстроў. У Н. Лапідуса таксама два пачэсныя званні — заслужаны майстар спорту СССР і заслужаны трэнер БССР.

●

Яшчэ пра адну сямейную пару дынамаўцаў хочацца расказаць. Абое — заслужаныя трэнеры СССР **Ларыса і Герман Бокуны.** Заўважым, што такое званне ў БССР носіць толькі адна жанчына — Ларыса Бокун.

Абодва ў мінулым выдатныя фехтавальшчыкі. Ларыса была чэмпіёнкай краіны ў камандных баях на рапірах, Герман не раз быў прызёрам у асабістых баях, і таксама на рапірах. Яшчэ большую вядомасць абодва атрымалі як трэнеры майстроў клінка экстра-класа. Чэмпіёнка свету заслужаны майстар спорту Тацяна Самусенка, алімпійская чэмпіёнка, заслужаны майстар спорту Алена Новікава — выхаванкі Ларысы Бокун. Двойчы чэмпіён свету Аляксей Нікančыкаў, чэмпіёны краіны Арнольд Чарнушэвіч і Юры Смалякоў — тры выдатныя шпанжысты, падрыхтаваныя Германам Бокунам.

●

Сярод праслаўленых беларускіх дынамаўцаў — заслужаны трэнер СССР **Уладзімір Коган,** які першы з баксёраў рэспублікі стаў чэмпіёнам краіны; алімпійская чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы, заслужаны майстар спорту Ларыса Петрык; славутая савецкая бягуння, шматразовая чэмпіёнка краіны і двух-



**Чэмпіён Беларусі па боксу Уладзімір Масесаў і яго настаўнік заслужаны трэнер СССР Уладзімір Коган.**



**Стадыён «Дынама» ў Мінску сёння.**

разовая чэмпіёнка Еўропы, заслужаны майстар спорту Марыя Іткіна.

Сярод дынамаўцаў ёсць і спрактыкаваныя баксёры, самбісты, барцы, велагоншчыкі, канькабежцы, лыжнікі, стралкі. Асабліва вызначаюцца самбісты.

Расце новая змена спартсменаў-дынамаўцаў. Яны ўдасканальваюць спартыўнае майстэрства ў асобных групах, у спартыўных школах клуба «Юны дынамавец».

●

Беларускі футбол — значыць, «Дынама». Інакш і быць не можа. Амаль уся гісторыя вялікага футбола Беларусі звязана з гэтым спартыўным таварыствам. Быў, праўда, такі перыяд, калі каманда майстроў выступала за колеры «Спартака», а аднойчы звалася — «Беларусь». Але неўзабаве футбалісты зноў апранулі бела-блакітныя майкі, вярнуліся ў лона клуба, які іх нарадзіў.

Старыя любяць бурчэць: «Былі футбалісты ў наш час!..» Вядома, былі. Але цяперашнія дамагліся большага.

Прыгадаем даваенных дынамаўцаў. Каманда рабіла толькі першыя крокі ў чэмпіянаце краіны. Трэнераў і ігракоў запрашалі адусюль, ды не заўсёды яны выручалі. Усё ж асобныя ігракі мінскага «Дынама» вызначаліся высокім майстэрствам. Многія праславіліся пазней, гуляючы ў лепшых камандах краіны.

Цудоўнай тэхнікай валодаў цэнтрафорвард беларускіх дынамаўцаў Уладзімір Гусеў. Вялікі майстар дрыблінга, ён у адзіночку быў здольны правесці мяч праз усё поле, да самых варот праціўніка. Нападаючага Міколу Зіноўева не раз параўноўвалі са славутым маскоўскім форвардам Рыгорам Фядотавым. А імклівыя форварды Васіль Панфілаў і Васіль Панамароў сталі вядучымі ігракамі маскоўскага «Тарпеда». Яшчэ больш праславіўся мінскі паўабаронца Леанід Салаўёў. Ён стаў капітанам маскоўскага «Дынама», удастоіўся звання заслужанага майстра спорту. Выдатным футбалістам быў да вайны і ўраджэнец Пінска Мікола Шавялянчык. Ён гуляў у камандзе мінскага «Дынама» і пасля вайны. Пакінуўшы футбольнае поле, стаў трэнерам.

А хто не ведае сучасных ігракоў мінскага «Дынама»? Быў час, калі абараняць вароты мінчан запрашалі толькі славутых галкіпераў. Так, варатарамі мінскай каманды былі Мікола Хітроў з Масквы, Аляксандр Дорахаў з «Дынама» (Тбілісі), Яўген Фокін, Барыс Кочатаў з маскоўскага «Дынама» і, нарэшце, славуты «тыгр» Аляксей Хоміч з той жа каманды.

Эдуард Малафееў, Міхаіл Мустыгін — папулярнейшыя футбольныя прозвішчы. Балельшчыкі дакладна ведаюць не толькі іх узрост, рост і вагу, але і траўмы, атрыманыя за апошняе пяцігоддзе. І ці толькі гэтых двух? Не. Яшчэ Зарэмбу і Роміна, Адамава і Савосцікава, Пагальнікава і Арзамасцава...

Адзінаццаць футбалістаў выходзяць разам на поле—адзінаццаць нашых фаварытаў. Нашых — таму, што яны мінчане. Нашых — таму, што яны дынамаўцы. А іх «Дзядзька-Чарнамор», заслужаны трэнер СССР Аляксандр Сявідаў — таксама наш.

Мінскія футбалісты двойчы былі бронзавымі прызёрамі чэмпіяната краіны. Аднойчы былі паўфіналістамі розыгрышу кубка СССР, а аднойчы і фіналістамі баёў за гэты запаветны прыз.

Яго ажурная арка відаць здалёк, з самага Ленінскага праспекта. Нічога не скажаш, прыгожы мінскі стадыён «Дынама» — цэнтральны стадыён рэспублікі.

Прыгадаем, як ён будаваўся. Пачалі ў 1930 годзе. Першая чарга была закончана ў 1932 годзе. На роўным пляцы былі збудаваны трыбуны. Пад імі абсталявалі невялікія залы і дапаможныя памяшканні. Ярусам ніжэй — запасное футбольнае поле, ігравыя пляцоўкі.

Стадыён быў у даваенныя гады невялікі, але зручны. Тут праходзілі буйнейшыя рэспубліканскія спаборніцтвы, выступалі французскія лёгкаатлеты, тут жа адбыўся вядомы матч са славутымі футбалістамі Басконіі.

Пасля вайны мы засталі стадыён разбураным. Дашчэнту былі зруйнаваны ўсе вуліцы вакол яго. Праекціроўшчыкі новага стадыёна пагадзіліся на адным — выводзіць трыбуны ўверх не варта, іх зруч-



ней апусціць, стварыўшы глыбокі катлаван, каб можна было размясціць трыбуны на яго адхонах.

Там, дзе некалі было запаснае футбольнае поле, збудавалі цэнтральнае спартыўнае ядро стадыёна. А на пляцы старога стадыёна разбілі парк, размясцілі корты. Будоўля пачалася ў 1948 годзе і завяршылася праз сем гадоў. Стадыён змяшчаў 35 тысяч гледачоў.

У 1951 годзе на мінскім стадыёне праводзіўся чэмпіянат СССР па лёгкай атлетыцы. Упершыню на стадыёне Мінска выступалі самыя вядомыя савецкія спартсмены: Надзежда Хныкіна і Ніна Думбадзе, Аляксандра Чудзіна, і Ніна Панамарова, Юры Літуеў і Уладзімір Казанцаў, Яўген Буланчык і Хейна Ліп. Тут упершыню праславілася Ніна Плятнёва (Аткаленка), будучая рэкардсменка свету ў бегу на 800 метраў. І сталі тады чэмпіёнамі краіны двое мінчан: Вера Набокава ды Цімафей Лунёў.

У 1965 годзе пабудавалі паўночную трыбуну, і стадыён цяпер можа прыняць 42 500 гледачоў. У перспектыве — перабудова заходняй трыбуны. Тады стадыён пашырыцца да 55 тысяч месцаў.

У краіне сталі праводзіць футбольныя матчы пры электрычным асвятленні. Вячэрняе святло з'явілася і на футбольным полі мінскага стадыёна.

На мінскім стадыёне у 1965 годзе праводзіліся міжнародныя спаборніцтвы — мемарыял братоў Знаменскіх. У сувязі з гэтым было рэканструявана цэнтральнае спартыўнае ядро. Пераабсталявалі ўсе легкаатлетычныя сектары, і пашырылі бегавую дарожку. Яна стала першай у краіне дарожкай для адначасовага старту васьмі бегуноў.

Цудоўнае збудаванне на стадыёне — табло. З'явілася яно два гады назад. Табло паведамляе гледачам вынікі, спісы каманд, прозвішчы пераможцаў, рэкорд. Абслугоўваюць табло тры спецыялісты — інжынер, тэхнік і тэлетайпіст. У разгар летняга сезона на стадыёне працуе 110 чалавек.

Мінскі стадыён «Дынама» — адно з *лепшых спартыўных збудаванняў*. Тут шмат цікавых спаборніцтваў праводзіцца штогод для школьнікаў, каманд домакіраўніцтваў. Для сталых людзей створана група здароўя.

Рознакаляровыя флагі лунаюць над стадыёнам «Дынама». На адным з цэнтральных флагштокаў паднята белае палотнішча з блакітнай аблямоўкай, з вялікай блакітнай літарай «Д» у сярэдзіне і ордэнам Леніна ў правым рагу. Гэта флаг старэйшага спартыўнага таварыства Савецкага Саюза — «Дынама», пад якім змагаюцца шмат выдатных спартсменаў Савецкай Беларусі.

**Ісак ЦЫВЕС.**
Фота **Д. Церахава.**

**Раздзел вядзе**
**міжнародны гросмайстар**
**Аляксей СУЭЦІН**

# ВУЧЫЦЕСЯ ГУЛЯЦЬ У ШАХМАТЫ

## КОНІ ЦІ СЛАНЫ?

Хто больш моцны — конь ці слон? Гэта пытанне здавён хвалюе і метадыстаў, і шахматыстаў-практыкаў. У кожным дапаможніку для пачынаючых можна прачытаць, што гэтыя лёгкія фігуры як адна, так і другая роўны тром пешкам. Але калі разгледзець гэтую фармуліроўку практычна, няцяжка выявіць цэлы шэраг вельмі тонкіх адрозненняў у адноснай сіле кожнай з іх.

Сланы вельмі моцныя ў сваім дальнабойным дзеянні.



Паказальны наступны прыклад:

**Сахараў — Чарапкоў.**

Белыя: Крg1, Фс1, Лс6 і f4, Са1 і f5; пп.: d5, e4, f2, g3, h2 (11).

Чорныя: Крg8, Фb7, Лd6, Ле8, Сс4, Сf8; пп.: а3, b5, f7, g7, h7 (11).

У пазіцыі, што ўзнікла пасля 34 хадоў, белыя сланы маюць рашаючую ролю ў завяршэнні атакі белых. Было зроблена: 35. С : h7+! Кр : h7, 36. Л : d6, С : d6, 37. Лh4+, і чорныя здаліся. На 37. ... Крg8 будзе зроблена 38. Лh8+ Кр : h8, 39. Фh6+ і Ф : g7×!

Але ёсць цэлы шэраг момантаў, дзе коні развіваюць вялізную энергію. Асабліва, калі барацьба ідзе на блізкай дыстанцыі. Хады каня вельмі небяспечныя, прычым, яны, як правіла, і зусім нечаканыя.

Павучальны прыклад з партыі **Холмаў — Керас** (XXVI першынство СССР, 1959 год, Тбілісі).

Пасля 11-га хода белых на дошцы склалася наступная сітуацыя:

Белыя: Крg1, Фd1, Ла1 і е1, Сс1, Кс3 і d4; пп.: а2, b2, с2, е5, f2, g2, h3 (14).



Чорныя: Кре8, Фd8, Ла8 і h8, Сс8 і g7, Кh6; пп.: а7, b6, с6, е7, f7, g6, h7 (14).

Не прадбачачы небяспеку, чорныя зрабілі 11. ... с5?, адказам на што быў нечаканы ход каня: 12. Кс6!

Таксама было б нядобра 12. ... Ф : d1, 13. Л : d1, Сb7 (або ... Сd7), 14. Кd5!, і нельга 14. ... С : с6 з-за 15. Кс7+Крf8, 16. К : а8 С : а8, 17. Лd8×!

12. ... Фd7, 13. К : е7!!

Конь робіць сапраўдны цуд. У гісторыі шахматнай творчасці не так шмат партый, дзе конь развіваў бы проста такі забойчую сілу.

13. ... Кр : е7 (не лепш і 13. ... Ф : е7, 14. Кd5, і нельга 14. ...Фd7 з-за 15. С : h6 і 16. К : f6+ з выйгрышам фярзя), 14. С : h6 С : h6, 15. Фf3 Сg7, 16. Кd5+! Крd8, 17. Лad1 Сb7, 18. Фb3!

Падкрэсленая бездапаможнасць чорных. Конь на «d5» дамінуе. Матэрыяльныя страты чорных непазбежныя.

18. ... Сс6, 19. К : b6 аb, 20. Ф : f7 С : е5, 21. Л : d7+ С : d7, 22. Л : е5, і чорныя неўзабаве здаліся.

І вось зноў паўстае пытанне: а ўсё ж, хто больш моцны — слон ці конь? Відаць, правільная тая грубая шкала ўзаемнай каштоўнасці фігур, дзе стаіць знак роўнасці паміж гэтымі дзвюма фігурамі.

Хоць існуе і шэраг дадатковых умоў, якія трэба памятаць, ацэньваючы ўзаемную сілу слана і каня.

1. У адкрытых пазіцыях расце дальнабойная сіла слана. Асабліва выразна гэта адчуваецца ў эндшпілі з гульнёю на розных флангах. Тут конь за сваімі кароткімі пераскокамі значна слабейшы за слана.

2. У абараняльных пазіцыях з ланцугамі пешак роля каня вырастае. Выразна відаць гэта, калі слон партнёра «дубліруе» дзеянні сваіх пешак. Слон тады абмежаваны ў руху сваімі ж пешкамі і выглядае яўна слабей за каня.

На працягу ўсёй гісторыі шахмат паміж вялікімі майстрамі шахматнай гульні былі і заўзятыя прыхільнікі гульні сланамі, і прыхільнікі гульні конямі. Так, вядомы рускі шахматыст М. Чыгорын вельмі любіў гуляць коньмі і на гэтым будаваў цэлыя дэбютныя сістэмы. Наадварот, яго сапернікі В. Стэйніц і З. Тараш былі заўзятымі прыхільнікамі гульні сланамі.

І цяпер гросмайстры М. Батвіннік і І. Баляслаўскі аддаюць перавагу сланам. Ц. Петрасян больш паважае коней. Як бачым, гэта — справа густу.

●

# 10-ты ЧЭМПІЁН!

**Два месяцы вёў Барыс Спаскі ўпартае змаганне за шахматную карону свету. Ён стаў дзесятым у гісторыі шахмат чэмпіёнам свету.**

**Фелікс ДЭРЭЦКІ**

# РЭАБІЛІТАЦЫЯ



Звычайны просьбіт не мае ў нас вялікага выбару. Ёсць такія начальнічкі, што адразу адмаўляюцца пальцам аб палец стукнуць, а ёсць і такія, што наабяцаюць залатыя горы, на самай жа справе таксама не зробяць ані нічога.

Я меў мажлівасць пераканацца, што Супелчак належаў да другой катэгорыі.

— Цяпер я магу зрабіць што хочаш,— выхваляўся ён, калі я павіншаваў яго з павышэннем.— Сам разумееш, знаёмствы, сувязі... Часам дастаткова пазваніць, каму трэба, і нават самая цяжкая справа рушыць, як лавіна.

— А ведаеш,— нагадаў я раптам,— дакучае мне кран: цячэ. Не магу дапрасіцца, каб прыслалі вадаправодчыка. Шкада вады. Пра нервы я ўжо маўчу.

— Будзе зроблена! — сказаў Супелчак, запісваючы нешта ў блакнот.— Гэта дробязь.

Я ажыў, але з кожным тыднем надзея ўсё меншала, пакуль не згасла зусім. Застаўся толькі надакучлівы кран.

Неяк пры выпадковай сустрэчы Супелчак спытаў, чаму ў мяне такая кіслая міна.

— А каб на іх ліха! — вылаяўся я.— Сапсавалі мне штаны ў пральні, а заплаціць не збіраюцца.

— Я пазваню зараз жа дырэктару. Гэта — мой знаёмы.— Супелчак спяшаўся на канферэнцыю, і неяк няёмка было пытацца пра кран.

Потым яшчэ некалькі разоў ён — па ўласнай ініцыятыве — браўся ўладзіць розныя мае справы, і, вядома, нічога з гэтага не выйшла. І не дзіўна, што я перастаў ім цікавіцца. Калі ён аднойчы папрасіў зазірнуць да яго, я падумаў, што ў ім загаварыла сумленне.

На падлозе зіхацеў навюсенькі дыван, на стале прыбавілася тэлефонаў.

— Ну, што чуваць? — спытаў ён.— У цябе няма ніякіх клопатаў?

— Няма,— цвёрда адказаў я.

Ён нервова паездзіў у крэсле.

— Ты некалі хацеў перайсці на другую работу. Калі ласка, скажы толькі, кім бы ты хацеў быць.

Я прыгадаў, як цурчыць вада з крана, сапсаваныя штаны і яшчэ штосьці-кольвечы.

— Ведаеш, кім? — вырашыў я з'едліва ўпікнуць яго.— Каралём! — і, сказаўшы гэта, выйшаў з кабінета.



Неўзабаве я забыўся пра гэты інцыдэнт, бо новых, нявырашаных спраў усё большала. Таму ўявіце маё здзіўленне, калі з далёкай Афрыкі я атрымаў адрасаванае мне пасланне.

«Як галоўны чараўнік племя бамбулакі,— прачытаў я,— маю гонар паведаміць, што на сходцы ўсіх мужчын племя Вы аднагалосна выбраны нашым найвышэйшым правадыром. У чаканні хуткага прыбыцця Вашай Каралеўскай Вялікасці шлю выражэнне павагі і ніжэйшай пакоры».







Мал. Ежы ФЛІСАКА

**Веслаў БРУДЗІНСКІ**

# ВЫДУМКІ

**«Як прыгожа разносіцца голас па вадзе!» — сказаў эстэт, пачуўшы крык «Ратуйце!»**

**На свеце і так ужо даволі цесна, а ты яшчэ хочаш разгарнуць крылы для палёту?!**

**Цяжка мець прэтэнзіі да рэха за тое, што яно паўтараецца.**

**Жыццёвы вопыт часам дае права на нежыццёвыя парады.**

**Літаратурны крытык — піша пра нябожчыка, а хавае кагосьці з жывых.**

**Прыяцель Ікс — чалавек проста крыштальнай інтрыгі.**

**Плёткі расказваюць шэптам, каб не абудзіць голас розуму.**

**Спачыў на лаўрах да таго, як іх здабыў.**

**Яго прынцып: ухваліць усё, чаго нельга мінуць.**

# *СА СВЕЦКАЙ ХРОНІКІ*

Нядаўна ў ЗАГСе быў зарэгістраваны яшчэ адзін шлюб лунатыкаў. Гэтак жа, як і ў папярэдніх выпадках, маладыя пазнаёміліся на даху, заблытаўшыся ў тэлевізійнай антэне.

Як нам паведамілі, пан Г., парваўшы адносіны са сваім ранейшым інструктарам коннай язды, які не здолеў навучыць яго чаму-небудзь, апрача таго, як садзіцца ў сядло, цяпер пільна шукае новага настаўніка, які здолеў бы паказаць яму спосаб злезці з каня. Далейшае знаходжанне ў сядле робіць для пана Г. усё большы клопат.

**Сабраў і пераклаў з польскай мовы Алесь МАЖЭЙКА.**

# НАШЫ АЎТАРЫ

**ХАДАРОНАК Славамір** нарадзіўся ў 1941 годзе ў Браслаўскім раёне. Скончыў Полацкае педвучылішча. Працаваў настаўнікам, служыў у Савецкай Арміі.

**СТАВЕР Алесь** нарадзіўся ў 1929 годзе на Бягомльшчыне. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Аўтар зборнікаў паэзіі «Золак над Бярозай», «Касцёр не гасне», «Ластаўкі перад даждэком».

**АРАБЕЙКА Іван** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Хмелева Брэсцкага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе інжынерам у Брэсце.

**ГУБЕРНАТАРАЎ Міхась** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Ангелаўка Касцюковіцкага раёна. Вучыцца на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**МЯЖЭВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Крывуша Аршанскага раёна. Вучыўся ў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў карэспандэнтам газеты «Известия». Аўтар зборнікаў нарысаў і апавяданняў «Крок у будучыню», «Шляхам герояў», «Медунічка», «Лясныя знаходкі» і «Землякі».

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе на Ушаччыне. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Аўтар зборнікаў «Сакавік», «Абутая ёлачка», «Палачанка», «Купалінка», «Калі помніць пра сонца», «Людзі добрыя», «Хараство», «Пацеркі» і іншых.

**САБАЛЕНКА Раман** нарадзіўся ў 1907 годзе ў Брагінскім раёне. Вучыўся ў Гомельскім педінстытуце. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і ў часопісе «Маладосць». Аўтар зборнікаў вершаў і апавяданняў «З родных крыніц», «Мая эстафета», «Жменя зярнят», «Юнацтва ў дарозе», «Сустрэчы», «Блакітнае ззянне» і іншых.

**ШАБАН Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе на Мядзельшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працуе на Мінскай студыі тэлебачання.

**ЖАКЕВІЧ Збігнеў** нарадзіўся ў 1933 годзе ў Вільні. У 1946 годзе пераехаў з маці ў Польшчу. Вучыўся ў Лодзі і Вроцлаве. Працуе ў Гданьскім педінстытуце выкладчыкам рускай літаратуры. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Хлопец з лісіным тварам», «Лісце» і аповесці «Род Абачаў».

**МАЙХРОВІЧ Сцяпан** нарадзіўся ў 1908 годзе на Міншчыне. Скончыў рабфак і Маскоўскі інстытут журналістыкі. У часе вайны рэдагаваў падпольную газету «Беластоцкая праўда». Працаваў дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфічных прац «Янка Лучына. Жыццё і творчасць», «В. І. Дунін-Марцінкевіч», «Максім Багдановіч» і «Нарысаў па беларускай літаратуры XIX стагоддзя».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 7**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/V-69 г. Падпісана да друку 30/VI-69 г.
АТ 11108. Тыраж 11 529. Зак. 277. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**

# КАМСАМОЛЬСКІЯ КАСТРЫ

Песня для вакальнага дуэта з ф-на

Музыка Кіма **ЦЕСАКОВА**
Словы Іосіфа **СКУРКО**

Мерна, рамантычна























**Мужнелі разам з песнямі**
**У вогненным віры.**
**Пасля баёў равеснікі**
**Запальвалі кастры.**

**ПРЫПЕЎ:** **Гарыце, гарыце, кастры,**
**Пра дружбу спявайце, сябры.**
**Няхай песня кружыць**
**Над Белаю Руссю,**
**Свяціце, камсамольскія кастры,**
**Свяціце, камсамольскія кастры!**

**Пакончылі з навалаю**
**Зямлі гаспадары.**
**Геройскай ззяюць славаю**
**Турысцкія кастры.**

**ПРЫПЕЎ.**

**Праходзіць камсамолія**
**Дарогамі бацькоў,**
**Нібы сама гісторыя —**
**Жывы агонь кастроў.**

**ПРЫПЕЎ.**

— Прохараў сын, мой пляменнік.

— Ты дала ім ключ?!

— Як жа было не даць? Ціма прыбег на паласу і вельмі спяшаўся, казаў, што татка чакае. І Янка тое ж казаў. А што здарылася, Лявон Гаўрылавіч?

Тымкевіч не адказаў. Ён павярнуўся да жонкі.

— Дзе Ціма?

— Я ж не паспела табе, Лявоне, сказаць,— ледзь не галасіла Маша.— Сямёніха вярталася з поля берагам і пад кустом бэзу на гары знайшла нашага Ціму і Прохаравага Янку. Яны былі ледзь жывыя. Накурыліся. Побач з імі ляжалі папяросы, цукеркі, пугачы...

— Дзе ён? — перапыняючы жонку, закрычаў Лявон.

— Лявоне, родненькі, не чапай яго цяпер! — кінулася да мужа Маша.— Ён жа ледзь жывы. Малю цябе, паслухайся мяне хоць раз.

— Дзе ён?! — грымнуў Тымкевіч, мыліцай расчышчаючы сабе дарогу да палка.— Ён мяне з торбамі пусціў, д'ябальскае семя!

Дарэмна жонка чаплялася за мужавы рукі. Як толькі Лявон угледзеў малога, ужо не мог стрымацца. Хапіў за нагу Ціму і сцягнуў на падлогу. У хату ўскочыла Ганька і кінулася ратаваць брата. Бацька выцяў дачку мыліцай, і Ганька, заенчыўшы, адскочыла да парога.

Ціма застагнаў, а калі бацька ўдарыў яго здаровай нагой, заплакаў.

— Дзе грошы?

Ціма расплюшчыў вочы, убачыў перакрыўлены ад злосці бацькаў твар, злякаўся і нема закрычаў:

— Ма-а-а-ма!

Маці кінулася да палка, перад якім корчыўся Ціма. Лявон нібы толькі таго і чакаў. Ён, ухапіўшыся адной рукой за палаці, другой ўскінуў мыліцу і з усяе сілы ўдарыў жонку па галаве. Яна павалілася. Ганька з крыкам выскачыла з хаты, за ёй Вікця. «Ратуйце! Лявон забіў жонку і сына!»

Гэта крычала на вуліцы Вікця.

Першым у хату да Тымкевічаў прыбег Прохар Буцько. Ён позна вяртаўся з поля і на вуліцы пачуў, як крычалі, клікалі на дапамогу жанчыны. Пазнаў па голасе Вікцю.

— Што там здарылася?

— Ой, Прахорка, Лявон забіў сына і жонку!

У хаце было цёмна.

— Хто тут ёсць? — з парога запытаў Прохар.

Ніхто не азваўся. Прохар чыркнуў запалкай па карабку. Яна асвяціла вялікую печ, палок, паміж сцяной і печчу, скрываўленае дзіця на падлозе і нерухомую гаспадыню.

— Лявон, дзе ты?

У хаце была цішыня. Чутно, як недзе за печчу спявае цвыркун. На ганку затупацелі нагамі. Вікця, а з ёй яшчэ некалькі жанчын паказаліся ў адчыненых дзвярах.

— Сястра,— звярнуўся да Вікці Прохар,— трэба ратаваць Машу і хлопца. Але тут цёмна.

— Лявон разбіў лямпу, я зараз сваю прынясу,— сказала Вікця і пабегла з хаты.

Прохар зноў чыркнуў запалку. Нехта падпаліў лучыну. Светлыя плямы заскакалі па сценах і падлозе.

Гаспадыню і Ціму адлівалі вадой, абмывалі твары. Вікця прынесла лямпу, нашатыр.

Прохар пачуў, як нешта за дзвярыма, у чыстай палавіне хаты,